# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (66) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2014 г.



**Іван Пратасеня.** ***Набат 1863. Каліноўскі і Марыся.***
***(Кіраўнік паўстання 1863-64 гг. на Літве і Беларусі Кастусь Каліноўскі і дачка дакудаўскага эканома Марыся Ямант)***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 66 )** **КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ** **2014 г.**


## *У НУМАРЫ:*




***Стар. 2. 2-я Лідскія чытанні.***



***Стар. 4. Кроніка Ліды.***

***Стар. 6. Лідскія юбіляры 2014 года.***
***Васіль Струмень.***
***Віктар Хруль.***



***Стар. 12. Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.***



***Стар. 19. Лідскі касцёл у канцы XIX - пачатку XX стагоддзя.***



***Стар. 25. Ліда ў 1936 - 1939 гг.***



***Стар. 94. Радавод сям'і Столе.***

***Стар. 110. Лёс пакалення.***




***Стар. 114. Паўвеку. Маладосць.***


*На першай старонцы вокладкі Лідскі паштамт.*

*Здымак Гражыны Бурачэўскай.*


**Пасведчанне аб рэгістрацыі**
**№ 907**
**ад 18.12.2009 г. выдадзена**
**Міністэрствам інфармацыі**
**Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**15 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2004**
**Часопіс падпісаны да друку 15.06.2014 г.**
**Часопіс надрукаваны 25.06.2014 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792












**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# 2-я Лідскія чытанні да 100-годдзя Першай Сусветнай вайны



*На пярэднім плане Віктар Кудла і Леанід Лаўрэш*

28 траўня 2014 г. ў канферэнц-зале Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Я. Купалы прайшлі "Другія Лідскія чытанні", прысвечаныя 100-годдзю Першай Сусветнай вайны. У чытаннях бралі ўдзел прадстаўнікі Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", школьныя краязнаўцы Лідскага раёна, навуковыя супрацоўнікі ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей", бібліятэкары Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы, настаўнікі гісторыі СШ г. Ліды.

Першая Сусветная вайна прайшла па Лідчыне некалькімі фазамі: спачатку Лідчына была тылавым рэгіёнам, і ў баявых дзеяннях прымаў удзел лідскі пяхотны полк і лідскія лётчыкі; потым Лідчына стала прыфрантавым горадам, пачалося бежанства; потым немцы акупавалі Лідчыну; далей нямецкае адступленне і ўсплеск нацыянальных рухаў, шматкратныя змены ўлады.

Даклады і выступленні на чытаннях ахоплівалі ўсе гэтыя перыяды:

1. Лаўрэш Л., краязнавец, г. Ліда **"Ліда перад вайной і ў гады Першай Сусветнай вайны".**

2. Валынец Н., навуковы супрацоўнік ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" **"Лідскі аэрадром у гады Першай Сусветнай вайны"**.

3. Суднік С.В., пісьменнік, журналіст **"Лідзяне ў нацыянальных вайсковых рухах у гады Першай Сусветнай вайны".**

4. Кудла В.І., краязнавец, в. Дворышча **"Бежанцы ў гады Першай Сусветна вайны"**.

5. Пісецкая І.К., настаўніца СШ № 8 г. Ліды **"Лідчына ў гады Першай Сусветнай вайны".**

6. Арлукевіч А.Б., аспірант Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы **"Лідскі пяхотны полк ва ЎсходнеПрускай аперацыі (жнівень**



*Падчас чытанняў*



*Н. Валынец*



*І. Пісецкая*



*А. Арлукевіч*

**1914 г.)".**

7. Камянецкая І.У., бібліёграф ЦБ імя Я. Купалы **"Бібліяграфія Першай Сусветнай вайны"**.

Падчас дакладаў прагучаў шэраг малавядомых фактаў, былі зроблены нетравіяльныя высновы. Былі названы пяць генералаў Першай Сусветнай вайны, цесна звязаных з Лідчынай: генерал ад інфантэрыі Кіпрыян Кандратовіч, родам з-пад Ліды, будучы міністр абароны БНР; генерал-маёр Аляксандр фон Гротэ дэ Буко, былы Лідскі спраўнік і будучы кіраўнік першай беларускай арганізацыі ў Лідзе, генералы Адам і Стэфан Макрэцкія, родам з-пад Ліды, будучыя камандзіры беларуска-літоўскіх дывізій, ну і лётчык есавул Ткачоў, які праходзіў службу ў Лідзе перад вайной, а ў Дзянікіна стаў першым генералам авіяцыі ў гісторыі Расіі.



*І. Камянецкая*



Свидѣтельство.

**Дакумент з чытанняў:** ***Пасведчанне аб заканчэнні царкоўна-прыходскай школы ў Расіі, у Серпухаве 8.07.1917 г. бежанкай з в. Дроздава Лідскага павета Кудла Вольгай Іванаўнай***

І. Пісецкая паведаміла, што ў 8-й школе адкрыты музей 1-й Сусветнай вайны.

Другія Лідскія чытанні прайшлі больш арганізавана, чым 1-я, якія былі летась, трэба спадзявацца, што 3-я будуць яшчэ больш цікавыя і карысныя.




*Буклет, выпушчаны бібліятэкай да чытанняў*

*Яраслаў Грынкевіч.*

# КРОНІКА ЛІДЫ



**8 красавіка** на сесіі Лідскага раённага савета дэпутатаў старшынёй савета абрана **Інэса Генадзеўна Белуш.**



**З 3 па 9 красавіка** ў кінатэатры "Юбілейны" праходзіла прэм'ера фільма расійскага рэжысёра Аляксандра Міты **"Шагал. Малевіч"**. Побач з імянітымі акцёрамі ў ім здымаліся ўдзельнікі Лідскага народнага ансамбля "Шалом" - Міхаіл Дзвілянскі, Станіслаў Мішкель і Уладзімір Шчэлін.

**У пачатку 2014 года** ў Гарадзенскай друкарні выйшла кніга І.І. Гарбачэўскага **"Лидская партизанская зона"**. Другое выданне. 180 ст. Наклад 500 асобнікаў.






**З 6 па 11 траўня** у Балгарыі праходзіў чэмпіянат Еўропы па грэка-рымскай барацьбе сярод кадэтаў. 3-е месца ў катэгорыі да 43 кг заняла **Іна Роік**, выхаванка СДЮШАР № 3 Лідскага р-на. *Фота Яўгена Арэхвы.*

**17 траўня** Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь падведзены вынікі рэспубліканскага агляду санітарнага стану і добраўпарадкавання населеных пунктаў Беларусі за 2013 год. **Горад Ліда - пераможац** сярод гарадоў з насельніцтвам больш за 50 000 чалавек.









**У чэрвені 2014 года** ў Лідскай друкарні выйшла кніга Аляксандра Каранюка **“Сэнс жыцця”**. 532 ст. Наклад 400 асобнікаў.




**У чэрвені 2014 года** ў Менску ў выдавецтве “Харверст” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Леаніда Лаўрэша **“Вандалін Шукевіч”**. 64 ст. Наклад 1500 асобнікаў.

# Лідскія юбіляры 2014 года

## ВАСІЛЬ СТРУМЕНЬ

## *100 гадоў з дня нараджэння*

Беларускі і ўкраінскі пісьменнік. Так гаворыцца пра Васіля Струменя ў энцыклапедычных выданнях і каляндарах, у іншых публікацыях. І гэта справядліва, бо жыццё і творчасць паэта - барацьбіта цесна звязаны з зямлёю і народамі дзвюх суседніх краін. Ён вырас у прынёманскай вёсцы Зачэпічы Дзятлаўскага раёна, тут уключыўся ў нацыянальна-вызвольную барацьбу за волю і лепшую долю працоўных Заходняй Беларусі, тут загаварыла яго сэрца паэта.

Васіль Струмень псеўданім Аляксандра Мікалаевіча Лебедзева. Лебедзеў А.М. нарадзіўся 1 красавіка 1914 года ў вёсцы Ляонцева Мантураўскага раёна Кастрамской вобласці. Бацька пайшоў на фронт, калі Аляксандру споўнілася ўсяго 4 месяцы. У канцы 1915 года ў хату прыйшла жалобная вестка: загінуў бацька. Многа гора выпала на долю маці. Праз 5 гадоў яна паўторна выйшла замуж за Паўла Івашэвіча. Айчым быў родам з Гарадзеншчыны. Таму сям'я з восені 1921 года пераехала на радзіму П. Івашэвіча ў вёску Зачэпічы, што на Дзятлаўшчыне. З дзіцячых гадоў Аляксандр прагна цягнуўся да вучобы. Але ў большасці вёсак былой Заходняй Беларусі адсутнічалі спецыяльныя школьныя будынкі, а там, дзе яны існавалі, дык размяшчаліся ў прыватных памяшканнях. Наглядаліся такія з'явы, калі пачатковая школа праз кожныя 3-4 дні вандравала з адной хаты ў другую. Да ліку такіх належала і Зачэпіцкая, у якой вучыўся Аляксандр. Беларускай мовай ён авалодаў, чытаючы творы Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў.

У Зачэпічах у 14-гадовым узросце юнак закончыў сямігодку і неўзабаве ўключыўся ў падпольную барацьбу. У 1930 арганізаваў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку ў в. Зачэпічы, у хуткім часе стаў камуністам (у КПЗБ уступіў у1932 у годзе), членам Дзятлаўскіх падпольных райкамаў КСМЗБ і КМЗБ.

Змаганне за праўду і лепшае жыццё народа гуртавала людзей. Тады, у 30-х гадах мінулага стагоддзя, і пасябраваў А. Лебедзеў са сваімі аднадумцамі Іванам Івашэвічам і Іванам Пышкам, таксама паэтамі. Першы выступаў пад псеўданімам Пятрусь Граніт, другі вядомы ў літаратуры як Герасім Прамень. Такое суквецце творцаў дало падставу Уладзіміру Калесніку назваць Зачэпічы гняздом паэтаў.

Змагар, жывучы ў Зачэпічах, а пазней працуючы на шклозаводзе "Неман", шматразова падвяргаўся за сваю дзейнасць пераследаванням з боку тагачасных польскіх уладаў, быў зняволены ў турмах Глыбокага, Ліды, Вілейкі. За спробу нелегальна перайсці савецка-польскую мяжу зняволены ў Вілейскай турме. Пасля адбыцця тэрміну пакарання прымусова здадзены ў армію, у Лідскі 77-ы полк пяхоты. Але нескароны рэкрут вёў сярод жаўнераў непажаданую для камандзіраў агітацыю. За гэта ў 1937-38 адбываў пакаранне ў Лідскай гарнізоннай турме строгага рэжыму.



У 1938 разам з бацькамі пераехаў на Ровеншчыну. Удзельнічаў у рэвалюцыйным падполлі Заходняй Украіны. Пасля 1939 працаваў у сферы адукацыі, адначасова завочна вучыўся ў Астрожскай педагагічнай школе, якую скончыў 22.6.1941. У гады вайны ў антыфашысцкай групе. У 1944-45 у Чырвонай арміі, двойчы паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў выкладчыкам украінскай мовы і літаратуры ў СШ Кастопаля Ровенскай вобласці. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі інстытут (1949), Львоўскі педагагічны інстытут (1953). Першы верш на ўкраінскай мове апублікаваў у 1956. Да выхаду на пенсію ў 1979 працаваў у сферы адукацыі ў Валынскай і Ровенскай абласцях.

Будучы ўжо ў сталым узросце, Васіль Струмень часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Менск. Сваім чалавекам ён быў у рэдакцыях Лідскай і Дзятлаўскай раённых газет, акрамя іх друкаваўся ў "Гродзенскай праўдзе", а таксама ў Навагрудскай і Шчучынскай "раёнках". Выступаў у рэспубліканскім друку.

Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты "Уперад". Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведваўся аб нашым жыцці-быцці, распытваў пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Салыгу з Феліксава, колішняга актывіста Беларускай сялянска-работнікаў грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івашэвіча (Пятруся Граніта), вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянеўскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых. І тут жа мяркуе, як і дзе з імі сустрэцца. Прысутнічаў на адкрыцці ў Дзятлаве помніка Ігнату Дварчаніну, пра якога ўзнёсла расказваў у таварыскіх гутарках і апублікаваных успамінах.

Першы верш В. Струменя "Наша доля" надрукаваны ў падпольнай газеце "Малады камуніст" у 1931 годзе. Затым яго паэтычныя творы змяшчаліся ў іншых беларускіх выданнях Вільні. У іх аўтар пісаў пра цяжкае жыццё і нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі. У пасляваенныя гады пісьменнік часта выступаў у беларускім і ўкраінскім друку.

*Паводле А. Жалкоўскага, В. Маракова.*

# Віктару Хрулю - 50

## *Мікст двух інтэрвію*

**Віктар ХРУЛЬ**, нарадзіўся 23 чэрвеня 1964 года ў Лідзе. Кандыдат філалагічных навук, вядомы навуковец і публіцыст. Першыя прафесійныя крокі зроблены ім у газеце "Ўперад" (цяпер - "Лідская газета"), з якой ён ніколі не перарываў сувязі.

Дзесяць гадоў журналіст Віктар Хруль працаваў прэс-сакратаром Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча. Сёння Віктар Хруль - рэлігійны карэспандэнт "РИА Новости", а таксама 20 год выкладчае на журфаку МДУ ў Маскве.

З Віктарам Хрулём у розны час пагутарылі рэдактар “Лідскай газеты” ***Кацярына Серафіновіч*** і карэспандэнт Catholic.by ***Ілья Лапата***.




**Кацярына Серафіновіч:**

*- Я і цяпер не магу ўцяміць, чаму пасля заканчэння школы ты падаўся ў Маскву, хаця Мінск - вось ён, рукой падаць...*

**Віктар Хруль:**

- Пачнём з таго, што журналістыка - гэта не тое, чым я марыў займацца ў жыцці. Больш за ўсё мне хацелася займацца навукай. Калі я быў малым, у нас у хаце была адна кніжка на рускай мове "Хочу стать топографом". Я яе прачытаў раз восем, тапографам не стаў, але да навукі з таго часу цягне. Бадай, больш за ўсё ў жыцці люблю чытаць кніжкі. Дарэчы, чытаць я пачаў у пяць год - сямнаццацігадовая суседка навучыла. І першае, што прачытаў, была газета "Уперад". Маці дзівілася, прыйшоўшы з работы і ўбачыўшы, што сядзіць яе Віцька і чытае газету. А бацька, калі ўбачыў, што сын чытае, павёў мяне ў бібліятэку. А там запісваць не хацелі, бо я яшчэ ў школу не хадзіў. І бацька, такі просты чалавек - сем класаў адукацыі - не збянтэжыўся, упёрся і кажа: "Праверце, ці ўмее ён чытаць. А калі ўмее - запісвайце!" І мяне запісалі.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- І ўсё ж, што папярэднічала ад'езду ў Маскву?*

**Віктар Хруль:**

- Я вучыўся ў першай школе, якая была найбліжэйшай да майго дому, у фізіка-матэматычным класе. Узровень падрыхтоўкі ў ёй быў надзвычай высокі, тут выкладаў светлай памяці вядомы фізік Якаў Бенцыянавіч Гаркавы, шэраг іншых выдатных настаўнікаў, якіх я ўспамінаю, з вялікай удзячнасцю. Я любіў матэматыку, удзельнічаў у гарадскіх і абласных алімпіядах. Але, разам з тым, пісаў нататкі ў газеты - "Уперад", "Зорьку", "Пионерскую правду". Першую нататку я напісаў у сёмым класе. З вуліцы Суворава, дзе я жыў, да рэдакцыі вельмі блізка, я прынёс допіс ў газету, і яго надрукавалі (у хатнім архіве ён недзе і цяпер захоўваецца). Маці вельмі ганарылася і дзівілася, што прыслалі ганарар (здаецца, сем рублёў). Калі яго атрымалі, маці кажа: трэба нешта купіць, каб памяць засталася. Купілі зробленую з медзі чаканку - там пастушок на дудачцы грае. Цяпер яна ў бацькоў на сцяне вісіць і напамінае мне пра добрых людзей, першых настаўнікаў у журналістыцы - Аляксандра Васільевіча Жалкоўскага, Уладзіміра Гаўрылавіча Васько, Івана Вікенцевіча Швакеля і іншых. Дай ім Бог здароўя і радасці ў жыцці. І ўсё ж такі пра журналістыку я ў школе не марыў. У дзесятым класе за месяц да выпуску аказалася, што залатога медаля ў мяне не будзе, хаця па ўсіх прадметах былі "пяцёркі" (у тыя гады "пяцёрка" была найвышэйшай адзнакай). Ужо не памятаю, як я гэта перажываў, і што там здарылася, але замест матэматычнага факультэта я надумаўся пайсці на факультэт журналістыкі.

Паступаў бы ў Мінск, у БДУ, але экзамены ў маскоўскім універсітэце здавалі раней, і я вырашыў: паспрабую ў Маскву, не здам - прыеду у Мінск. Мне пашанцавала: я паступіў на факультэт журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і скончыў яго праз пяць год, у 1986 годзе.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- У гэты момант не было жадання вярнуцца на радзіму?*

**Віктар Хруль:**

- З бацькаўшчынай адносіны наконт працы і далейшага жыцця не складваліся. На 4-м курсе патрэбна было праходзіць практыку ў цэнтральных выданнях, пажадана там, куды пазней цябе возьмуць працаваць.

Я паслаў лісты ў "Знамя юности" і "Советскую Белоруссию". Пісаў, што мясцовы, што добра вучуся, што магу пісаць на беларускай і расійскай мовах, што хачу працаваць на радзіме. Не памятаю, якое выданне даслала мне адказ. Сэнс быў такі: у нас у Беларусі ёсць свая навучальная ўстанова - БДУ, і навошта нам маскоўскія студэнты?

Тады я пачаў думаць, што рабіць далей, а тут маці і кажа: "Вільня ад Ліды яшчэ бліжэй, чым Мінск". Гэта ж быў Савецкі Саюз, я ў Лідзе сеў у цягнік і праз

дзве гадзіны быў у Вільні. Там мяне ўзялі ў газету "Савецкая Літва", у аддзел навукі і навучальных устаноў. Туды і накіравалі мяне працаваць пасля ўніверсітэта. Пра тры гады, праведзеныя ў Вільні, у мяне засталіся найлепшыя ўспаміны. Магчыма, я застаўся б там і надалей.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- А што перашкодзіла?*

**Віктар Хруль:**

- Прыйшоў 1989 год, час нацыянальнага адраджэння. Кватэры ў мяне ў сталіцы Літвы не было, дый разлічваць на яе як малады спецыяліст я ўжо не мог. Тым больш, што шанцаў на развіццё рускамоўнай журналістыкі ў незалежнай Літве ўжо не было.

Я ўзгадаў, што яшчэ тры гады назад мяне запрашалі ў аспірантуру, каб займацца навукай. Падумаў сабе добра, памеркаваў і вярнуўся ў Маскву.

Кандыдацкую дысертацыю напісаў на тэму "Анекдот як форма масавай камунікацыі". Абарона прайшла вельмі добра, і пазней мяне запрасілі працаваць на кафедры сацыялогіі журналістыкі.

Цяпер у маскоўскім універсітэце для 300 першакурснікаў я выкладаю прадмет "Введение в теорию журналистики" і яшчэ чытаю курс "Анализ текстов массового сознания". Клічуць і ў іншыя інстытуты чытаць курсы па тэорыі журналістыкі, сацыялогіі. Раней жа ў Маскве было тры факультэты журналістыкі, цяпер мо пятнаццаць, і навукоўцаў не хапае.

Я вельмі ўдзячны сваёй Лідскай сярэдняй школе №1 яшчэ і за тое, што вывучыў там англійскую мову. Без яе я не мог бы ані ўдзельнічаць у канферэнцыях, ані выкладаць за мяжой, ані друкавацца ў міжнародных навуковых часопісах,

Калегі па ўніверсітэту ўжо даўно да мяне чэпяцца: "Калі, нарэшце, ты кінеш гойсаць па свеце і сядзеш за доктарскую?" Я шмат гадоў адказваў жартам: "Я і без доктарскай разумны, а іншыя краіны бачыць дый людзей пазнаваць цікавей, чым выдумляць нейкія новыя тэорыі".

Але вясною, думаючы пра жыццё, я зразумеў, што сапраўды хіба надышоў ужо час пісаць доктарскую дысертацыю. Зрабіў належныя прыгатаванні, а цяпер ужо нават пісаць пачаў. Спадзяюся, што з гэтага выйдзе нешта добрае.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- А што з журналістыкай?*

**Віктар Хруль:**

- Хаця я ніколі і не марыў быць журналістам, гэтая прафесія мяне не адпускае і, павінен дадаць, усё жыццё корміць. Бо пракарміць сям'ю навуковай працай вельмі цяжка.

У 90-х гадах я працаваў у інфармацыйных агенцтвах, часопісах, а ў 1997 годзе па просьбе арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ўзначаліў каталіцкую газету "Свет Евангелля" і дзесяць год яе выдаваў. З арцыбіскупам было добра і лёгка працаваць, бо ён паважаў прафесіяналізм і мне давяраў. Вось, напрыклад, у нас была рубрыка, у якой друкаваліся анекдоты і смешныя гісторыі пра католікаў, святароў, біскупаў і нават Папу Рымскага. Некаторыя ж ксяндзы лічылі, што гумару, як і крытычных артыкулаў, у каталіцкам газеце не павінна быць. Але арцыбіскуп Кандрусевіч, які, дарэчы, сам разумее і любіць гумар, заўсёды падтрымліваў добрыя ініцыятывы.

**Ільля Лапата:**

*- Віктар, як Вы лічыце, ці саспела неабходнасць адкрыцця на факультэтах журналістыкі спецыяльнасці "рэлігійная журналістыка"?*

**Віктар Хруль:**

- 70 гадоў атэізацыі, на жаль, зрабілі сваю справу. На прасторах былога СССР, магчыма, толькі ў Літве з гэтым трохі інакш, але я не думаю, што гэтак жа добра, як у Германіі ці Італіі. Перш чым адкрываць спецыяльнасць "рэлігійная журналістыка", спачатку варта асэнсаваць патрэбу ў будучых спецыялістах. Я лічу, што нашы СМІ - расійскія, беларускія, украінскія - яшчэ не бачаць сэнсу ў тым, каб трымаць добра адукаваных экспертаў, якія разбіраюцца ў рэлігійных справах і могуць пра гэта адэкватна пісаць.

І калі ў саміх рэдакцыях такой патрэбы не будзе, то і на журфаку зацікаўленасці ў падрыхтоўцы адпаведных кадраў таксама не будзе.

Рэлігійная журналістыка сёння - занятак энтузіястаў. Але гэта не значыць, што тэма рэлігіі нецікавая і ў яе няма мэтавай аўдыторыі. Зацікаўленасць ёсць, толькі часта яна неасэнсаваная. Пра рэлігію добра ці кепска, але пішуць. Вось толькі часцей за ўсё, аналізуючы зваротную сувязь чытачоў, рэдактары кажуць, што тэма не знайшла зацікаўленасці і пісаць пра яе больш не трэба. Але гэта не так.

Людзям не далі адчуць нават смаку гэтай "рэлігійнай прасторы". Для іх рэлігія з'яўляецца той герметычнай сферай, на якую ніхто яшчэ не пасвяціў ліхтарыкам. Але я лічу, што журналісты павінны разарваць гэтае замкнёнае кола. Менавіта яны павінны зрабіць крок наперад і сказаць людзям: паглядзіце, вось яшчэ адна рэчаіснасць. Нашы бацькі, магчыма, і не перадалі нам гэту веру, але яна існуе. І нават калі зараз цікавасці да гэтай тэмы з боку СМІ няма, рана ці позна гэта цікавасць праявіцца.

А людзі, якія займаюцца рэлігійнай журналістыкай, гэта асветнікі.

**Ільля Лапата:**

*- З Вашага досведу: ці абавязковая журналісцкая адукацыя для прэс-сакратара касцельнага іерарха?*

**Віктар Хруль:**

- Для таго, каб працаваць журналістам і быць добрым журналістам, неабавязкова заканчваць журфак. Добра і карэктна пісаць пра рэлігійныя справы можна і без журналісцкага дыплома.

Што датычыць прэс-сакратароў, то гэта зусім іншая праца і іншы падыход. Калісьці ў нас на факультэце (факультэт журналістыкі МДУ - *І.Л.*) стваралі кафедру рэкламы і PR. Тады было шмат размоў: маўляў, нельга спалучаць гэтыя кірункі ў адным флаконе. Рэкламшчыкі і журналісты вельмі часта шчыруюць па розныя бакі ад барыкадаў.

Найлепшыя прэс-сакратары прыходзяць з

журналістаў. Вядома, каб быць добрым прэс-сакратаром, трэба дасканала ведаць, што такое журналістыка і як працуюць журналісты. Прэс-сакратар павінен ведаць усю журналісцкую кухню. У адваротным выпадку такія "спецыялісты" будуць губляцца, не ведаючы, як склікаць тую ж прэс-канферэнцыю...

Я не ганьбую работу прэс-сакратара і не праслаўляю работу журналіста - я быў і тым, і другім. І павінен сказаць, што гэта ўсё ж розныя спецыяльнасці і розныя працы. Можна быць журналістам і не мець здольнасцяў прэс-сакратара. Прэс-сакратар - гэта ў нейкім сэнсе адвакат. Ён мае "кліента". А журналіст - больш пракурор. Можна быць добрым пракурорам, не маючы адвакацкага досведу. Але адвакат не будзе добрым адвакатам, калі ён сам не працаваў як пракурор. Вось таму добрага прэс-сакратара знайсці цяжэй, чым добрага журналіста.

**Ільля Лапата:**

*- Як Вы лічыце, ці павінны хрысціянскія іерархі мець асабістых прэс-сакратароў?*

**Віктар Хруль:**

- Іерархі самі вырашаюць, што ім патрэбна. У сваіх прадпісаннях Апостальская Сталіца таксама толькі рэкамендуе наяўнасць пры біскупу чалавека, які дапамагаў бы яму арыентавацца ў кантактах са СМІ. Але гэта толькі рэкамендацыя.

Я лічу, што лепш не мець прэс-сакратара зусім, чым калі гэта будзе кепскі прэс-сакратар. Сама па сабе пасада прэс-сакратара яшчэ нічога не гарантуе. Часам іерарху дастаткова звяртацца да журналіста-каталіка - звычайнага дарадцы - і той можа стаць нядрэнным памочнікам.

А можна ўтрымліваць цэлую прэс-службу і ўсё роўна не кантраляваць усе гэтыя "баталіі" з прэсай.

**Ільля Лапата:**

*- А якія наступствы могуць чакаць касцёльнага іерарха, які спадзяецца на сябе і, не маючы прэс-сакратара, імкнецца сам вырашыць узнікшыя пытанні?*

**Віктар Хруль:**

- Калі ён мае на гэта час, сілы, досвед і дасведчанасць - то чаму б і не? Дай яму Божа. У гэтай справе няма рэцэпту. Але біскуп мае сёння столькі функцый і заданняў, што, канешне, было б добра, каб для сувязяў са СМІ, ён меў асобнага чалавека. Агульны прынцып менеджмента: тыя функцыі і паўнамоцтвы, якія ты можаш камусьці даручыць, даручы іх. Тады ў цябе будзе больш часу для тваіх галоўных функцый. Але калі разглядаць постсавецкія краіны, то пошук добрага прэс-сакратара можа і зацягнуцца.

Некаторыя біскупы лічаць, што прэс-сакратаром павінен быць ксёндз. Так, будзе сапраўды прасцей, бо духоўная асоба як правіла падкаваная ў пытаннях веры. Але я лічу, што пры роўных здольнасцях свецкі чалавек можа зрабіць больш, таму што ён свецкі. Ён лепш ведае кухню свецкіх СМІ і ў гэтым свеце ён свой.

**Ільля Лапата:**

*- У свой час Вы таксама працавалі прэс-сакратаром. Якія ў Вас засталіся ўспаміны ад працы з Мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам?*

**Віктар Хруль:**

- Гэта былі добрыя часы. Першы раз мы сустрэліся з яго Эксцэленцыяй у Маскве ў 1991-м годзе, я быў на яго інгрэсе. На той час я быў ужо аспірантам і паралельна паступіў у Каледж каталіцкай тэалогіі, які быў адкрыты з падачы новага іерарха.

У 1993-м годзе ён дэлегаваў мяне на Дзень мо-



ладзі ў Дэнвер (ЗША). Праз пэўны час адзін са святароў прапанаваў мне ўзначаліць рэлігійную газету "Свет Евангелля". На той момант я ўжо абараніў дысертацыю.

І так мінала 10 гадоў: я быў галоўным рэдактарам гэтай газеты (1997-2007 гг.) і адначасова з'яўляўся прэс-сакратаром арцыбіскупа Кандрусевіча. Падчас нашай працы пры ўзнікненні дзвюх розных думак мне ўдавалася яго часам пераконваць, і ён рабіў так, як раіў я. Але былі моманты, калі пераканаць мітрапаліта і не ўдавалася.

Я заўважыў, што ў Беларусі арцыбіскупа ўспрымаюць збольшага як "медыйнага біскупа". У сваю чаргу я лічу зусім па-іншаму. Мітрапаліт вельмі творчы і актыўны, ён публічны біскуп. І СМІ яго таксама за гэту публічнасць любяць. У яго ёсць харызма, таму тэлевізійным камерам ён таксама даспадобы. Любілі яго і ў Расіі. На вялікія святы ў касцёле можна было спакойна чакаць 15 тэлекамер... А публічнасць і медыйнасць - гэта не адно і тое.

**Ільля Лапата:**

*- Вы казалі, што ў пэўных нюансах спрабавалі пераканаць мітрапаліта. Наколькі лёгка спрачацца з духоўнай асобай? Усё ж свецкі чалавек і духоўная асоба - гэта розныя плоскасці?*

**Віктар Хруль:**

- Мне было лёгка. І цяпер лёгка. Мы можам нават пасварыцца, але ўсё адно пасля памірымся, бо ведаем, што кожны мае найлепшыя памкненні ў гэтым. Калі гаворка ідзе пра прафесійныя рэчы - журналісцкія, для мяне не істотна, духоўная гэта асоба ці не. Павага да біскупа застаецца, але калі мы абмяркоўваем пытанне "ставіць матэрыял ці не", і я хачу паставіць, бо бачу, што тэма вострая і абудзіць у касцёле нейкую дыскусію, я буду спрачацца.

"Шэф" у такіх выпадках казаў: "Вось паскардзяцца ксяндзы зноў на цябе Нунцыю, а мне пасля зноў цябе выручай..."

І праўда, ён шмат разоў мяне ратаваў. Аднойчы нас крытыкавалі за тое, што ў рэлігійнай газеце "Свет Евангелля" мы друкуем гумар...

**Ільля Лапата:**

*- Ці часта здараліся выпадкі, калі матэрыялы "зляталі" з паласы праз цэнзуру?*

**Віктар Хруль:**

- У Касцёле ёсць добры механізм - ёсць добры рэдактар, які адказвае за ўсе справы з прафесійнага боку: ён сочыць за тым, каб матэрыялы былі цікавымі, каб была інтрыга, каб газету хацелася чытаць. Паралельна ў рэлігійным СМІ павінен быць касцельны (царкоўны) асістэнт ці цэнзар - і ён пільнуе, каб тыя матэрыялы былі карыснымі найперш для людскіх душаў.

Будзе добра, калі такім цэнзарам будзе ксёндз-спаведнік, які шмат працуе з людзьмі і ў адрозненні ад рэдактара можа прадказаць, якой будзе рэакцыя на матэрыял.

Калі ў СМІ добры цэнзар, то як рэдактар я прызнаю права вета гэтага цэнзара. У маёй газеце часам здаралася, што выходзілі палосы з белымі плямамі. У



апошнюю хвіліну цэнзар здымаў забракаваныя тэксты, а замяніць іх не было чым.

У маёй газеце сітуацыя ўскладнялася тым, што большую частку з гэтых дзесяці гадоў я не меў такога цэнзара. І таму цяжар, а таксама духоўная адказнасць кладліся на мае плечы. Гэта было цяжка.

**Ільля Лапата:**

*- Як прэс-сакратару не апраставалосіцца, працуючы са свецкімі журналістамі?*

**Віктар Хруль:**

- Па-першае, ніколі не хлусіць. Гэты прынцып важны для любога журналіста. Калі не можаш сказаць праўду - памаўчы, але ніколі не пакрывай хлуснёй нейкую праблему. Па-другое, старайся быць максімальна адкрытым. Было б добра практыкаваць "Дні адкрытых дзвярэй". Мне гадоў пяць удавалася ўпрошваць арцыбіскупа Кандрусевіча, каб ён запрашаў свецкіх журналістаў на каву. Трэба працаваць адкрыта. Галоўнае ў працы прэс-сакратара - быць не рэактыўным, рэагуючы на вострую праблему, якая ўжо нечакана для нас узнікла, а быць праектыўным - старацца прадугледзець праблему, старацца зрабіць так, каб праблема не ўзнікала. Журналісты могуць цікавіцца рознымі рэчамі. Напрыклад, грашыма Касцёла, як бывае ў Польшчы. Як можна задаволіць гэтую цікавасць? Можна запрасіць журналістаў у любую парафію і разам з імі паглядзець бухгалтарскія кнігі гэтай парафіі. Тады падазронасці да Касцёла ў журналістаў не будзе.

**Ільля Лапата:**

*- Ці варта прэс-сакратару, арганізоўваючы прэс-канферэнцыю, абмяжоўваць кола журналістаў, якія часта падаюць неправераную і памылковую інфармацыю пра Касцёл?*

**Віктар Хруль:**

- Я ніколі гэтага не практыкаваў. Лічу, што прэс-сакратар мае права рабіць такое, але толькі ў выпадку, калі СМІ сістэматычна друкуе ў сябе рознае клямства. Можа скласціся перакананне: маўляў, навошта іх клікаць, калі яны ўсё роўна пішуць адно і тое ж. А я клікаў бы іх. Клікаў і стараўся б наладзіць з імі кантакт, стараўся б запрашаць іх на прэс-канферэнцыі і іншыя імпрэзы. Рана ці позна іх чытачам прыесца гэтае клямства і яны ўбачаць, што ў сэнсе сенсацыйнасці на католіках нічога не заробіш, бо яны нічога не хаваюць. Мяркую, што калі ёсць нейкі "пажар" - калі

адчуваецца нейкі напад на Касцёл - такую меру можна ўжыць. Але на кароткі час. Інакш мы парушым права на інфармацыю аўдыторыі гэтых СМІ, чаго рабіць нельга.

**Ільля Лапата:**

*- Што павінны ўлічваць касцёльныя журналісты ў працы са свецкімі журналістамі?*

**Віктар Хруль:**

- На семінары для свецкіх журналістаў у Баранавічах падчас працы ў групах журналісты казалі, што часта яны тэлефануюць прэс-сакратару, а яго тэлефон маўчыць. Калі Вы працуеце прэс-сакратаром або ў прэс-службе Касцёла, то ваш тэлефон павінен быць запісаны ў кожнага свецкага журналіста. І калі ён вам тэлефануе, вы не маеце права не адказаць. Бо вы - прэс-сакратар. Калі так будзе, то і зацікаўленасць з боку журналістаў будзе. А калі мы маўчым, рана ці позна гэта зацікаўленасць знікне. Страціць увагу і пашану свецкага журналіста вельмі лёгка. Дастаткова не адказваць на званкі і нічога не каментаваць.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- Ведаю, што ты быў старшынём журы Міжнароднага фестывалю духоўных кінафільмаў і тэлепраграм "Magnifikat", які праходзіць у Беларусі, у Глыбокім і Мосары, дзе, дарэчы, з калегамі даводзілася бываць не раз.*

**Віктар Хруль:**

- У бягучым годзе не змог паехаць на "Magnifikat", бо ў гэты час у Польшчы праводзіў круглы стол па этыцы журнапістыкі.

Магу засведчыць, што такіх фестываляў на свеце тры-чатыры, і фільмы, якія на ім дэманструюцца, па тэлевізары не ўбачыш. Гэта добрае, светлае, хрысціянскае кіно. Я часта бываю за мяжой (штогод у 5-6 краінах) і магу сказаць, што Беларусь можа ганарыцца "Magnifikat-ам". На фестываль дасылаюць сотні работ з розных краін - Канады, Ізраіля, Італіі, Польшчы і іншых, але з гэтай колькасці адбіраюць толькі трыццаць-сорак лепшых.

У Лідзе, лічу, магчыма было б правесці дзень фестывалю, дэманструючы стужкі-пераможцы розных гадоў. Культурная хрысціянская праграма такога ўзроўню ўпрыгожыць любое мерапрыемства.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- Якія ўражанні ўзнікаюць падчас наведвання Ліды?*

**Віктар Хруль:**

- Я нарадзіўся тут. Першыя сямнаццаць гадоў пражыў у Лідзе, а затым паехаў паступаць у Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт на факультэт журналістыкі. Затым была вучоба, аспірантура, сям'я, дзеці...

Горад пасля дажынак не пазнаць, іншымі сталі людзі. Асабліва радуюць маладыя мамы з дзіцячымі калясками, выглядаючы з якіх, пазнаюць свет маладыя лідзяне...

У Беларусі да гэтага часу ў мяне жывуць бацькі і родзічы. На беларускую мову не забыўся, люблю гаварыць па-беларуску, люблю чытаць кнігі па-беларуску. Я карыстаюся кожнай магчымасцю пагаварыць на матчынай мове. У Маскве такое здараецца вельмі рэдка, але і на радзіме, як мне здаецца, усё менш людзей гаворыць па-беларуску...

Памятаю, першае, што зрабіў амаль 30 год назад, як толькі прыехаў у Ліду праз два месяцы вучобы ў Маскве, - выйшаў з цягніка, аддаў клункі бацькам, якія мяне сустракалі на вакзале, а сам пайшоў на базар, каб паслухаць нашу мову. Мне гэтага і цяпер не хапае...

**Кацярына Серафіновіч:**

*- Якое месца займае сям'я ў тваім жыцці?*

**Віктар Хруль:**

- Жаніўся я позна, у 32 гады. Да гэтага адзін біскуп усё заахвочваў мяне: "Ты такі пабожны католік, ідзі ў семінарыю", а я адказваў: "Ваша Эксцэленцыя, не чую паклікання да святарства, хачу мець жонку, дый дзетак шмат". І гэты ж біскуп паслаў мяне ў Італію ў 1995 годзе на сустрэчу з Папам Рымскім Янам Паўлам II, і там я сустрэў сваю будучую жонку. У размове з дзяўчынай высветлілася, что яна з Масквы, што скончыла Гнесінскае музычнае вучылішча, што грае на аргане ў касцеле...

Я раптам убачыў у ёй маці нашых дзяцей і захацеў жаніцца. У той час я ўжо быў кандыдатам навук, выкладчыкам універсітэта, але яе бацькі сваю адзіную дачку за мяне доўга не аддавалі. Яны казалі, як у старажытнай беларускай песні: "Ён не мае грошай, ён не мае хаты".

Але праз год мы ўсё ж такі пажаніліся. Не ведаю, што дапамагло, можа, мая ўпартасць, а можа, будучыя цесць з цешчаю трохі паразумнелі...

Дзякуй Богу, праз год нарадзілася дзяўчынка, праз другі - хлопец, яшчэ праз год - зноў хлопец. Цяпер ужо ўсе ходзяць у школу, задаюць сур'ёзныя пытанні. Я іх вельмі люблю і стараюся выхоўваць так, як мяне выхоўвалі мае бацькі, дай ім Бог здароўя.

**Кацярына Серафіновіч:**

*- Апроч работы, як праходзяць маскоўскія будні?*

**Віктар Хруль:**

- Мы сям'ёю любім прымаць гасцей, ладзіць вечарыны, самі ходзім у госці. Інакш у Маскве цяжка выжываць. Як не маеш добрага кола сяброў, каб у ім схавацца, то горад высмакча з цябе ўсе сокі. Масква - не самы лепшы горад для тых, хто любіць спакойнае жыццё. Сябры, калегі, знаёмыя - гэта выратавальнае кола, дзе можна атрымаць добрую параду і падтрымку.

За сталом мы ніколі не гаворым пра палітыку. І яшчэ не кранаем этнічныя справы - хто рускі, хто беларус, хто паляк, хто яўрэй, бо гэта раней ці пазней вядзе да параўнанняў - хто лепшы і хто горшы - і да спрэчак.

У нядзелі і па святах ходзім сям ёй да касцёла і гуляем па маскоўскіх парках, ходзім з дзецьмі па музеях. Масква ў нядзелю вельмі прыгожая - менш мітусні, і няма натоўпу. Але ўсё ж такі я не магу сказаць, што гэта - мой горад. Бо мой горад - Ліда.

Ужо амаль 30 гадоў я ў Маскве. А маці кліча дамоў: "Вяртайся...". Некалі я вярнуся, мама!

*Фота Аляксандры Шчыглінскай.*

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

## *(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)*

### Парафія Жалудоцкая

**1.**

**Касцёл парафіяльны ў мястэчку Жалудок**, у павеце і дэканаце Лідскім, у тым жа мястэчку касцёл і кляштар ксяндзоў-кармелітаў, ляжыць гэтае мястэчка адным канцом на летні ўсход сонца, другім на захад. Двары, вёскі і месцы якія належаць да гэтай парафіі ў паветах Лідскім і Слонімскім, згодна з алфавітам:

**Агароднік** (Ogrodnik), вёска васпана Дабачынскага, ляжыць паміж поўднем і захадам праз малую мілю.

**Агароднікі Вялікія** і **Агароднікі Малыя** (Ogrodniki Wielkie i Ogrodniki Male), вёскі, якія блізкія паміж сабой, ляжаць паміж усходам і поўднем праз вялікую мілю.

**Андрушоўшчына** (Andruszowszczyzna), фальварак Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, ваяводы Віленскага, зараз у пацэсіі яснавяльможнага пана Мараўскага, генерала, ляжыць паміж летнім усходам і поўднем ад Жалудоцкага касцёла на адлегласці адна міля і тры чвэрці.

**Ашмянцы** (Oszmiance), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць паміж зімовым усходам і поўднем праз чвэрць мілі.

**Багданаўцы** (Bohdanowce), вёска, якая належыць Жалудку і яснавяльможным панам Губарэвічам, у ёй малая карчма, ляжыць паміж захадам і поўначчу праз палову мілі.

**Барцякі** (Borciaki), вёска яснавяльможных паноў Хадкевічаў, ляжыць паміж поўначчу і ўсходам праз чвэрць мілі.

**Баяры** (Bojary Cieple), Жалудоцкая вёска, паміж поўднем і захадам праз палову мілі.

**Беразавец** (Brzowiec), двор яснавяльможнага пана Шукевіча, капітана Літоўскіх войскаў, паміж усходам і поўначчу праз дзве мілі.

**Борці** (Borcie Turzyska), вёска, якая належыць да староства, ляжыць паміж захадам праз палову мілі.

**Бранцы** (Brance), вёска Найяснейшага Князя Радзівіла, ляжыць на летні ўсход і трохі на поўдзень, за палову мілі.

**Буцілы** (Buciuly), фальварак і вёска з карчмой яснавяльможнага пана Мараўскага, генерала, ляжыць паміж летнім усходам і поўднем праз паўтары мілі.

**Бялаўшчына** (Bielowszczyzna), фальварак і вёска, у вёсцы карчма яснавяльможных паноў Губарэвічаў, Лідскіх гродскіх суддзяў, ляжыць паміж летнім усходам і поўднем праз адну мерную мілю.

**Вайдэлаўшчына** (Wojdzwilowszczyzna), шляхецкая ваколіца, ляжыць паміж усходам і поўднем, адна міля.

**Вангі** (Wangi), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць паміж усходам і поўднем, міля.

**Варосічы** (Worociszcze), вёска Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і захадам, паўтары мілі.

**Ваўчкі** (Wolczki), фальварак васпана Чалкоўскага і шляхецкая ваколіца, ляжыць паміж поўднем і захадам праз мілю.

**Верхдзеражня** (Wierzch Deraznej), два фальваркі васпанства Гаеўскіх, ляжаць паміж поўднем і зімовым захадам праз дзве мілі.

**Відзяркоўшчына** (Widligierowszczyzna), фальварак васпанства Крулетаў, ляжыць паміж поўначчу і ўсходам праз паўтары мілі.

**Воўкавічы** (Wolkowicze), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць на летні ўсход праз чвэрць мілі.

**Вялікае Сяло** (Wielka Wies), Жалудоцкая вёска, ляжыць на зімовы захад праз малаю мілю.

**Вярцёлкі** (Wierciolki), ваколіца, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз паўтары мілі.

**Галубы** (Holuby), вёска Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам на рацэ Нёман праз дзве мілі.

**Галынка** (Holynka), карчма і млын яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць паміж поўначчу і зімовым усходам праз палову мілі.

**Галынка** (Holynka), вёска Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, паміж поўднем і зімовым захадам.

**Дубрава** (Dubrowa), фальварак і вёска яснавяльможных паноў Хадкевічаў, паміж поўднем і зімовым захадам адна малая міля.

**Дубялі** (Dubiele), Жалудоцкая вёска, ляжыць на летні захад праз тры чвэрці мілі.

**Дзікушкі** (Dzikuszki), фальварак яснавяльможнага пана Хадкевіча, паміж поўначчу і зімовым захадам палова мілі.

**Дзірванцы** (Dzirwance), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, на поўнач тры чвэрці мілі.

**Жалудоцкі** двор (Zoludzki dwor), ляжыць паміж поўднем і захадам, праз некалькіх стаяў ад касцёла на захад.

**Жушма** (Zuszma), карчма яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць паміж усходам і поўднем праз палову мілі.

**Забалаць** (Zabloc), вёска і карчма, ляжыць паміж усходам і поўначчу праз палову малой мілі.

**Залескаўшчына** (Zaleskowszczyzna)васпанства Шалевічаў, фальварак ляжыць паміж захадам і поўначчу праз палову мілі.

**Занюкі** (Zaniuki), Жалудоцкая вёска і карчма, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз палову мілі.

**Казляны** (Kozlany), двор, вёска і карчма яснавяльможнага пана Яцыніча, ляжыць на ўсход праз адну мілю.

**Карсакі** (Korsaki), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць на летні захад праз тры чвэрці мілі.

**Красулі** (Krasula), два двары і вёска яснавяльможных паноў Губарэвічаў, ляжыць на поўнач праз палову мілі.

**Круцяні** (Krucienie), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць на ўсход праз палову мілі.

**Кукіні** (Kukinie), Жалудоцкая вёска, ляжыць паміж захадам і поўначчу праз малую мілю.

**Купры** (Kupry), Жалудоцкая вёска, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз тры чвэрці мілі.

**Лагвіны** (Lohwiny), Жалудоцкая вёска, ляжыць на захад праз адну мілю.

**Лапаты** (Lopaty), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз вялікую мілю.

**Ліпічанка** (Lipiczanka), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і захадам праз палову мілі.

**Ліпічна** (Lipiczno), двор Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і захадам на адлегласці вялікай мілі.

**Лябёдка** (Lebiodka), фальварак яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць на ўсход за малую мілю ад Жалудка.

**Малое Сяло** (Mala Wies), Жалудоцкая вёска, ляжыць на захад праз малую мілю.

**Мацяўчукі** (Mociewczuki), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць на поўдні праз палову мілі.

**Моцевічы** (Mociewicze), вёска Барцянскага староства, ляжыць на поўдні праз малую мілю ад касцёла.

**Моцевічы** (Mociewicze), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць на поўдні праз палову мілі.

**Орля** (Orla), мястэчка Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і захадам, мае ўніяцкую царкву (ritus graeci), кальвінскі збор і фальварак Бамбізаў, праз мілю.

**Падлужжа** (Podluze), вёска васпанства Цыдзікаў, ляжыць паміж поўднем і захадам праз паўтары мілі.

**Папераўцы** (Pipirowce), вёска Барцянскага строства, ляжыць паміж усходам і поўднем праз мілю.

**Пашыцы** (Poszyce), шляхецкая ваколіца, ля-



жыць на зімовы захад, ад Жалудка праз паўтары мілі.

**Пескаўцы** (Piaskowce), вёска і карчма Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж усходам і поўднем за дзве мілі ад Жалудка.

**Прэціма** (Przecim), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, паміж поўднем і захадам вялікая міля.

**Раманавічы** (Romanowicze), шляхецкая ваколіца, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз дзве мілі.

**Руда** (Ruda), вёска Найяснейшага князя Радзівіла, за ракой Нёман, на поўдзень тры мілі.

**Саваўшчына** (Sawowszczyna), Жалудоцкі фальварак, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз тры чвэрці мілі.

**Скабейкі** (Skobejki), шляхецкая ваколіца, ляжыць паміж поўначчу і зімовым усходам праз адну мілю.

**Скерсі** (Skiersi), Жалудоцкая вёска, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз чвэрць мілі.

**Старынкі** (Starzynki), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, паміж поўднем і захадам міля.

**Стрэліца** (Strzelica), двор яснавяльможнага пана Сяклюцкага.

**Субачы** (Subacze), шляхецкая вёска, ляжыць паміж поўначчу і зімовым усходам праз палову мілі.

**Талочкі** (Toloczki), Барцянская вёска, ляжыць на поўдні праз паўтары мілі.

**Тумашаўцы** (Tumaszowce), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць паміж летнім захадам і поўначчу праз палову мілі.

**Фальварак жалудоцкіх ксяндзоў-кармелітаў**, на летні захад малая міля.

**Хацяёўшчына** (Chociejowszczyzna), фальварак васпана Дабашынскага, паміж поўднем і зімовым захадам міля.

**Чэхаўшчына** (Czechowszczyzna), фальварак васпана Паўлоўскага і фальваркі рознай васпанства шляхты, паміж летнім усходам і поўднем дзве мілі.

**Шаўдзіні** (Szawdzinie), вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча, ляжыць на поўдні праз вялікую мілю.

**Шымулі** (Szymule), вёска ляжыць паміж поўначчу і летнім усходам праз чвэрць мілі ад Жалудка.

**Ярчакі** (Jerczaki), вёска Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам за ракой Нёман праз паўтары мілі.

**Ясялевічы** (Jasiulewicze), вёска Барцянскага староства, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз малую мілю.

**2.**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла іншыя парафіяльныя рымскія касцёлы і ўніяцкія цэрквы маюцца наступныя:

У гэтай **Жалудоцкай парафіі** знаходзяцца дзве ўніяцкія цэрквы, адна ў **Дзікушках**, яснавяльможнага панства Хадкевічаў, стаіць у самым фальварку Дзікушкі, другая **Орля** ў мястэчку Орля і капліца ў **Красулях** васпанства Губарэвічаў, да гэтых цэркваў належаць парафіяне з вышэй пералічаных вёсак.

**Няцеча**, парафільяны касцёл у тым жа павеце і дэканаце, на зямлі яснавяльможнага панства Барымоўскіх, паміж летнім усходам і поўднем, ад Жалудоцкага касцёла тры малыя мілі.

**Беліца**, парафіяльны касцёл у тым жа павеце і дэканаце, на зямлі яснавяльможнага пана Мараўскага, генерала, ад касцёла парафіяльнага Жалудоцкага тры мілі на зімовы ўсход.

**Дзятлава**, парафіяльны касцёл, за ракой Нёман у Слонімскім павеце, на зямлі ad presens яснавяльможнага панства Солтанаў, за пяць міляў ад касцёла Жалудоцкага, ляжыць паміж зімовым усходам і поўднем.

**Ражанка**, парафіяльны касцёл, на зямлі яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, ляжыць за дзве мілі ад Жалудоцкага касцёла на зімовым усходзе.

**Шчучын**, парафільяны касцёл, на зямлі яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага у тым жа павеце Лідскім, утрымліваецца ксяндзамі-піярамі разам са школай, ляжыць паміж захадам і поўначчу праз дзве вялікія мілі.

**Ішчална**, парафіяльны касцёл, на зямлі яснавяльможнага панства Валяў, старастаў Трыдзенскіх, ляжыць поўнач ад касцёла парафіяльнага праз адну мілю.

**3.**

Значнейшыя гарады каля нашага парафільянага касцёла:

**Ліда**, судовы горад, ляжыць на рацэ Лідзейка, паміж поўначчу і ўсходам праз шэсць мерных міль.

**Наваградак**, судовы горад, ляжыць на зімовы ўход праз дзесяць міль.

**Слонім**, судовы горад, ляжыць на рацэ Шчара, на поўдзень праз дзесяць міль.

**Гародня**, судовы горад, на рацэ Нёман, на захад дзесяць міль.

**4.**

Дарогі **ад Ліды да Жалудка** прамой няма, але патрэбна з-за балот аб'язджаць ад Жалудка на карчму ў Жушме, дзе ёсць мост на рацэ Лебяда, з Жушмы праз Ходараўцы (вёска яснавяльможнага пана Валовіча, Слонімскага маршалка), каля Беразаўца (яснавяльможнага пана Шукевіча, капітана) і двор Стрэліца (яснавяльможнага пана Сяклюцкага), і тут заканчваецца Жалудоцкая парафія, адсюль трэба ехаць на Голдава (яснавяльможнага пана Важынскага), з Голдава да Радзівонішак (яснавяльможных паноў Нарбутаў), з Радзівонішак да Мыто (яснавяльможнага пана Паца). У Мыто паром цераз раку Дзітва, пераехаўшы на пароме, будзе грэбля, далей управа дарога да Ліды, а ўлева да Вільні. Дарога да Ліды ідзе часцей акрытым полем, лесам - мала дзе, месцамі роўная, месцамі пясчаная, месцамі балоцістая.

Дарога **да Наваградка з Жалудка** да карчмы ў Жушме, далей праз мост на рацэ Лябядзе да Зблян (маёмасць Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла), ад Зблян да Шаўковага перавозу на Нёмане, адтуль больш лясамі, чым адкрытым полем да Наваградка пяць міль.

**Да Слоніма з Жалудка**, каля вёскі Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла Ліпічанкі, праз ваколіцу Ваўкі, дзе мост на ручаі Дзейнараўка, далей да Орлі, мястэчка Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, у Орлі цераз Нёман паромам, на другім беразе карчма Зачэпічы, адтуль на масток цераз ручай, які мае назву Зачэпічка, дарога ідзе праз пушчу Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла да Шчары, дзе паром на гэтай рацэ, і тут паміж Нёманам і Шчарай заканчваецца Жалудоцкая парафія.

**Дарога да Гародні** зараз новазбудаваная і добра ўладкаваня праз яснавяльможнага пана Тызенгаўза, дзедзіча Жалудоцкіх уладанняў, ажно да Казорчых корчмаў, дзе і заканчваецца Жалудоцкая парафія, з Казорчаў да Шчучына (уладанне яснавяльможнага пана падстолія Літоўскага) да Каменкі (уладанне яснавяльможанага пана Тызенгаўза, падскарбія), адтуль да Гародні пэўны і добры гасцінец.

**5.**

**Азёраў, багнаў і значных балот** у Жалудоцкай парафіі няма.

**Ставаў**, два ў Жалудку, адзін каля Жалудоцкага двара, зараз спушчаны для чысткі, другі ў мястэчку, праз яго грэбля злучае з плябанскай сенажаццю.

**Малы стаў** у Красулях яснавяльможных паноў Губарэвічаў, на малой рачулцы.

**Малы стаў** у Ваўчках, васпана Цялкоўскага, на ручаі Дзейнароўка.

**Малы стаў** у Ліпічне, двара Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, на малым ручаі, які з крыніц выходзіць.

**Рака Нёман**, караблеходная, плыве ад усходу да захаду, ставарае Жалудоцкія лугі, звілістая, аддзяляе Лідскі павет ад Слонімскага, у Нёман каля барцянскай вёскі Талочкі ўпадае рака Лебяда, усе ручаі, на якіх сажалкі, так сама ўпадаюць у Нёман.

**6.**

Лясоў і дрэва здатнага на продаж і для будоўлі ў Жалудоцкай парафіі няма, акрамя ніжэйпералічаных.

Жалудоцкі лес, названы **Нядзіны**, у якім расце дрэва розных сартоў: бяроза, вольха, асіна, граб, ляшчына, лаза, дуб. Годны толькі для печы, даўжыні можа быць на палову чвэрці мілі, у шырыню меней, ляжыць на поўдзень за палову мілі ад Жалудка.

Жалудоцкія зараснікі **Лапішкі**, чвэрць мілі ад Жалудка, тут здатнага дрэва няма, толькі хмызняк і дрэва для печы, плошчай у дзесяць моргаў, ляжыць на зімовы ўсход.

Лес **Мілаўшчына** праз чвэрць мілі ад Жалудка, мае дрэва падобнага гатунку, як і ў вышэй апісаных зараслях, ляжыць на поўнач.

Бор **Шаўдзінішскі**, ляжыць каля гэтай вёскі, у ім сасна дастаткова высокая і тоўстая.

Гай **Буцюльскі**, ляжыць каля Буцілоў, мае дрэва: бярозу, асіну, вольху, клён і розны малы хмызняк.

Тры гаі **Ліпічанскія** Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, маюць дрэва: сасну, елку, бярозы найбольш, асіну, вольху і іншыя дробныя дрэвы.

**7.**

Млыноў Жалудоцкіх два, на рацэ **Жалудчанцы** малы млын яснавяльможных паноў Губарэвічаў, у **Красулях** на малым ставе млын яснавяльможнага пана Шукевіча, на раке **Лябядзе**. На той жа рацэ млын яснавяльможнага пана Валовіча, Слонімскага маршалка, млын у **Галынцы** яснавяльможных паноў Хадкевічаў, млын васпана Цялкоўскага ў **Ваўчках** на ручаі Дзейнароўка, малы млын пры двары **Ліпічна** Найяснейшага князя Радзівіла, другі млын таго ж князя ў **Галынцы**, на тым жа ручаі.

**8.**

Дарогі партыкулярныя і публічныя тракты ў гэтай парафіі апісаны ў чацвёртым пункце, упамяну толькі адну партыкулярую дарогу. Дарога да Ішчалны з Жалудка цягнецца на поўнач да Багданаўцаў, вёскі, якая ляжыць праз палову мілі, і дзе заканчваецца Жалудоцкая парафія, з Багданаўцаў да Ішчалны дарога ідзе мілю адкрытым полем.

**9.**

Жалудоцкая парафія не мае вёсак за Нёманам у Слонімскім павеце (як гэта напісана ў першым пункце), рака Нёман мяжуе Лідскі і Слонімскі паветы.

Гэта апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі падцвярджаю
Кс. Дамброўскі,
плябан Жалудоцкі.

## Парафія Забалацкая

**1.**

**Парафільяны касцёл у Забалаці**, у павеце і дэканаце Лідскім, мае вёскі і мястэчкі, ніжэй паалфавіту пералічаныя.

**Араны** (Orany), вёска яснавяльможнага пана Пацея, паміж зімовым усходам і поўднем, міля ад касцёла.

**Арліца** (Orlica), вёска васпана Бонфала, на захад лёгкая міля.

**Асіпаўцы** (Osipowce), ваколіца living of рознай шляхты, паміж зімовым усходам і поўднем, тры чвэрці мілі ад касцёла.

**Баброўнікі** (Bobrowniki), вёска яснавяльможнага пана Александровіча , маршалка Лідскага, паміж поўначчу і летнім усходам, малая міля ад парафіяльнага касцёла.

**Баяры** (Bojary), вёска яснавяльможнага пана Тышкевіча, гетмана польнага Літоўскага і **Запаснікі**, ваколіца на поўнач, чвэрць мілі ад касцёла.

**Валэйшы** (Wolejsze), тры двары васпанства Белапятровічаў, Навіцкага і Казакоўскіх, дзе і ёсць вёска, паміж зімовым усходам і поўднем палова лёгкай мілі.

**Вераб'і** (Werebie), вёска васпана Янкоўскага, дзе большасць уніятаў, паміж зімовым захадам і поўднем міля і чвэрць.

**Вугальнікі** (Uholniki), фальварак і вёска васпана Табанскага, паміж зімовым захадам і поўднем лёгкая міля.

**Габкаўчына** (Habkowczyzna), фальварак васпана Адахоўскага, паміж поўднем і зімовым захадам малая міля.

**Гайкаўшчына** (Hajkowszczyzna), вёска васпана Градзецкага, на зімовы захад сярэняяя міля.

**Ганчараўшына** (Hanczarowszczyzna), вёска васпана Бонфала, на захад малая міля.

**Ганэлькі** (Henelki), двор і вёска васпанства Янкоўскіх на зімовы захад, вялікая міля.

**Глушні** (Hlusznie), кляштар і вёска кс. базыльянаў на зімовы захад тры чвэрці мілі.

**Гэблі** (Hieble), вёска васпана Пацея , стражніка ВКЛ, паміж зімовым усходам і поўднем сярэдняя міля.

**Даліна** (Dolina), два двары з вёсачкай васпанства Браноўскага і Сапоцкі, паміж поўднем і зімовым усходам палова малой мілі.

**Даўбенкі** (Dowbienki), фальварак і вёска васпана Гурскага, дзе большая частка ўніятаў, паміж поўднем і зімовым захадам малая міля.

**Дашкі** (Daszki), вёска васпанства Янкоўскіх, Лідскіх канюшых, дзе большая частка ўніятаў, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Дварчаны** (Dworczany), вёска васпана Лапарскага, на летні захад праз чвэрць мілі.

**Дудкі** (Dudki), вёска эканоміі, уніяцкая, на захад, мерная міля ад касцёла.

**Дышлаўшычына** (Dyszlowszczyzna), двор васпана Янкоўскага, Лідскага канюшага, на зімовы захад праз вялікую мілю ад касцёла.

**Дзідкі** (Dzietki), вёска яснавяльможнага пана, гетмана Тышкевіча і васпана Глімчыца, паміж поўднем і зімовым захадам чвэрць вялікай мілі.

**Забалаць** (Zabloc), двор яснавяльможнага пана Тышкевіча, гетмана, на захад палова чвэрці мілі.

**Забалаць** (Zabloc), другі двор васпана Глімчыца, на усход, некалькі сотняў крокаў ад касцёла.

**Зеняпішы** (Zienipisze), фальварак кс. базыльянаў, паміж поўднем і зімовым захадам лёгкая міля ад касцёла.

**Казакі** (Kozaki), вёска Лепарскага, на летні захад малая міля.

**Казакоўшчына** (Kozakowszczyzna), яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, паміж поўначчу і летнім усходам вялікая міля.

**Казляны** (Kozlany), вёска таго ж яснавяльможнага пана гетмана і васпана Глімчыца, вёска адзіная з Малукамі, паміж зімовым усходам і поўднем чвэрць лёгкай мілі.

**Казлы** (Kozly), фальварак васпана Рудскога, паміж поўднем і зімовым захадам мерная міля.

**Куклі** (Kukle), уніяцкая вёска яснавяльможнага пана Тышкевіча, гетмана, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Кудзяркі** (Kuderki), уніяцкая вёска васпана Янкоўскага, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля да касцёла.

**Кулешы** (Kulesze), вёска, якая належыць да Васілішскага староства, дзе болей уніятаў, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Куніцы** (Kunicie), вёска васпані Белапятровіч і васпана Савіцкага, паміж усходам і поўднем тры чвэрці вялікай мілі.

**Курчоўцы** (Kurczowce), вёска яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, на ўсход чвэрць мілі ад касцёла.

**Курпі**



(Kurpi), вёска васпана Даўгірда, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля ад касцёла.

**Лышчыкі** (Lyszczyki) і **Падгалішкі** (Podhaliszki), вёскі васпана суддзі Нарбута, на поўдзень за палову мілі ад касцёла.

**Малюкі** (Maluki), вёска яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча і васпана Глімчыца, на зімовы ўсход палова чвэрці мілі ад касцёла.

**Мігдалы** (Migdaly), фальварак яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, на поўнач палова мілі.

**Матылі** (Motyle), уніяцкая вёска эканоміі, на зімовы ўсход праз мілю.

**Нялюбаўцы** (Nielubowce), фальварак васпана Янкоўскага, канюшага Лідскага, паміж поўднем і зімовым захадам міля.

**Паддубы** (Poddubie), вёска кс. базыльянаў, на зімовы захад міля.

**Падэйкі** (Poddejki), вёска яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, летні ўсход палова лёгкай мілі.

**Палуянаўцы** (Polujanowce), вёска васпана Даўгерда, паміж поўднем і зімовым захадам міля.

**Праважа** (Przewoza), двор яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, на ўсход за палову мілі ад касцёла.

**Праважа** (Przewoza), касцельная вёска, дзе перавоз яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, на поўнач тры чвэрці мілі.

**Пяроўцы** (Piorowszczyzna) двор і **Гапонаўцы** (Haponowce) вёска васпана Нарбута , суддзі, поўднем і зімовым захадам праз чвэрць вялікай мілі.

**Пяцюлеўцы** (Piecielowce), вёска васпана Ляпацкага, на захад, тры чвэрці лёгкай мілі ад касцёла.

**Ракі** (Raki), вёска яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, васпанаў Нарбута і Бонфала, на летні захад лёгкая міля.

**Раманава** (Romanow), фальварак таго ж васпана Бонфала, на летні захад лёгкая міля.

**Рыскі** (Ryski), вёска васпана Лепарскага, на захад міля.

**Рэмзы** (Remzy), двор і вёска васпана Бонфала, на зімовы захад чвэрць лёгкай мілі.

**Сабакінцы** (Sobakini), мястэчка з царквой, дваром і вёскай васпана Янкоўскага, канюшага, на зімовы захад міля.

**Сеўрукі** (Siewruki), вёска васпана Нарбута, паручніка, на ўсход міля ад касцёла.

**Скарбы** (Skarby), вёска Васілішскага староства, дзе большасць уніятаў, на захад тры чвэрці мілі.

**Слаўная** (Slowunie), вёска яснавяльможнага пана Тышкевіча і васпана Глімчыца, на поўдзень палова лёгкай мілі.

**Стралкі** (Strzalki), вёска васпана Ляпацкага, на захад лёгкая міля.

**Сяйбаўшчына** (Sejbowszczyzna), плябанскі фальварак, на захад чвэрць лёгкай мілі.

**Таболічы** (Tabolice), фальварак і вёска васпана Даўгірада і кс. базыльянаў, дзе большасць уніятаў, паміж поўднем і зімовым захадам тры чвэрці мілі.

**Талочкі** (Toloczki), вёска яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, паміж зімовым усходам і поўднем чвэрць мілі.

**Чаплі** (Czaple), ваколіца, дзе разам і фальварак васпані Пяровай, званы **Заляшаны**, на поўдзень ад касцёла палова мілі.

**Хадзілоні** (Chodzilony), двор і вёска васпана Нарбута, Лідскага суддзі, на поўдзень мерная міля.

**Хвёдараўшчына** (Chwiedorowszczyzna), вёска васпанства Александровічаў, на зімовы ўсход пяцьсот крокаў ад касцёла.

**Юшкаўцы** (Juszkowce), два двары васпанства Вярцінскага і Снацкага, дзе разам ваколіца і вёсачка, на летні захад палова мілі ад касцёла.

**Ядзелеўцы** (Jedelowce), ваколіца і вёска яснавяльможнага пана гетмана  Тышкевіча, паміж поўначчу і летнім усходам тры чвэрці мілі.

**Якубаўцы** (Jakubowce), вёска васпана Пацея, стражніка ВКЛ, паміж поўднем і зімовым захадам малая міля.

**2.**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла, суседскія касцёлы:

**Радунь**, парафіяльны касцёл, у тым жа павеце і Радунскім дэканаце, у старостве таго ж імя, паміж поўначчу і летнім усходам тры мілі.

**Вавёрка**, парафіяльны касцёл з мястэчкам плябанскім, на ўсход міля.

**Васілішкі**, парафіяльны касцёл Св. Пятра, на поўдні дзве мілі.

**Новы Двор**, парафіяльны касцёл, у старостве Новадворскім на зімовы захад тры мілі.

**3.**

**Значнейшыя гарады каля гэтага касцёла:**

**Вільня**, сталічны горад, паміж поўначчу і летнім усходам чатырнаццаць міль.

**Ліда**, судовы горад, паміж захадам і поўднем пяць міль.

**Гародня**, сеймавы і судовы горад, адзінаццаць міль ад касцёла парафіяльнага Забалацкага.

**4.**

Дарога **з Забалаці да Вільні** ідзе па большай частцы лясамі, няроўная, пяшчаная. Перавоз на рацэ Праважа.

Да **Ліды** пяшчаная, камяністая, ідзе палямі, перавоз каля Мыто на рацэ Дзітва.

Да **Гародні**, ідзе лясамі, камяністая, пясчаная. Перавоз Шканскі на рацэ Котра.

**5.**

**Азёры у парафіі:**

Возера **Пеляса**, даўжынёю на палову мілі, шырынёй палову чвэрці мілі, ляжыць ад касцёла паміж поўначчу і летнім захадам вялікая міля.

Возера **Кяўцёва**, завецца **Малое**, там жа тры чвэрці мілі.

Возера трэцяе завецца **Матора**, палова мілі даўжынёй і чвэрць мілі шырынёй, на летні захад лёгкая міля.

Багна, завецца па рознаму і цягнецца ад Забалаці ажно да вышэй пералічаных азёраў, займае вялікую квадратную мілю.

Ставы два ў самой **Забалаці** з млынамі, абодва яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча.

Стаў у фальварку **Вензаўшчынава** васпана Ляпацкага, з млынам, фолюшам і добрым мастом, на зімовы захад палова лёгкай мілі.

Ставаў два з млынамі, праз два каналы ўпадаюць у гэтыя ставы ручаі.

Стаў у **Праважы** яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, на ўсход за палову мілі ад Забалацкага касцёла.

Ставаў два ў **Сабакінцах** васпана Янкоўскага, з млынамі, на зімовы захад міля.

Стаў з каналам і млынам ў **Глушнях** кс. базыльянаў, на зімовы захад тры чвэрці мілі.

**6.**

Забалацкая парафія ўся занятая палямі і хмызняком.

**7.**

Млыны пералічаны разам са ставамі вышэй.

**8.**

Дарогі партыкулярныя і публічныя ў гэтай парафіі:

**Дарога да Радуні**, выехаўшы ад касцёла Забалацкага на летні ўсход Сонца, праз чвэрць мілі па левай руцэ будзе бачна вёска **Баяры** і ваколіца **Запаснікі**, дзе выязджаем на **Віленскі тракт**. Па тракту, недалёка да гасцінца па левым баку праз палову мілі ад парафіі фальварак **Мігдалы** яснавяльможнага пана гетмана, адкуль праз палову мілі па новай дарозе ехаць прама да парома. Пасля пераправы пра тры чвэрці мілі будзе масток і карчма васпана **Каржанеўскага** і ягоны ж двор **Лапунцы** па правай руцэ. Потым праз чвэрць мілі, злева дзве карчмы: адна Радунскага, другая Барцянскага староства і двор таго ж староства па правай руцэ, а па левай васпана Коркуця які завецца **Гіскі**. Тут жа вёска яснавяльможнага пана гетмана. Ад гэтых корчмаў пачынаецца новая грэбля, праехаўшы каторую трэба ўзяць управа, тут будзе карчма Барцянскага староства якая завецца **Куркі** з вёскай, адсуль праз палову мілі будзе Радунь.

**Дарога з Забалаці да Вавёркі**. Выехаўшы з Забалаці на ўсход, едзем сенажацямі і праз чвэрць мілі праязджаем вёску **Талочкі** яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча, далей пераязджаем папярок нова-перабудаваны прамы Віленскі гасцінец, пасля гасцінца праз некалькі стай вёска **Навасады** таго ж яснавяльможнага пана гетмана. Далей ідзе камяністая дарога, месцамі праз хмызняк, потым сенажацямі і праз чвэрць мілі ў вёсцы **Мышавічах** стаіць філіяльная капліца, якая належыць Ваверскай парафіі і карчма па левай руцэ. Далей будуць два двары, адзін васпана Нарбута, другі васпана Гурыновіча, адтуль крута ўлева праз некалькі стай карчма васпана Ступакоўскага і двор па левай руцэ, потым павярнуўшы ўправа праз палову чвэрці мілі ваколіца **Вінчы** і каля яе праз некалькі стай двор васпана Вільканьца. Адсюль праз чвэрць мілі будзе Вавёрка, у якой парафільны касцёл па правай руцэ, двор Вавёрка з вялікім вольхавым гаем. Ад Ваверскага касцёла ўлева ідзе камяністы гасцінец які праз паўтары мілі цераз поле і трошкі праз лес прывядзе ў Ліду.

**Дарога з Забалці да Новага Двара**. Выехаўшы на захад праз новую грэблю і мост цераз раку **Забалатку**, будзе двор васпана Бонфала **Забалаць**.Праз чвэрць мілі вёска і карчма **Дзеткі** рознага васпанства. Далей праз некалькі стай малая карчма і вёска **Даліна** ці **Шымкаўшчына** і два дваркі, каля якіх расце невялікі хмызняк. Праз чвэрць мілі далей стаіць карчма **Лышчыкі** з вёскай па левай руцэ, потым праз чвэрць мілі карчма **Хадзілоні**. Праехаўшы гэтую карчму, з левага боку будзе двор **Хадзілоні** васпана Нарбута, суддзі, дзе і заканчваецца парафія. Адсюль лесам праз палову мілі будзе двор **Куёўцы** васпані Залескай, тут карчма і вёска. Далей брод, за ім карчма Васілішскага староства і адсюль за палову мілі праз хмызняк і пяскі будзе рэчка **Нявіша** якую ўвосень і ўвесну цяжка пераехаць, за ёй, павярнуўшы крута ўлева, дарога вядзе да **Гародні**, а ўправа да **Новага Двара**, палова мілі лясамі цераз прыкрыя балоты.

**Дарога да Васілішак**. Выехаўшы у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, палову чвэрці мілі праязджаем па той жа грэблі, што і да Новага Двара. Далей праз палову вялікай мілі будзе вёска **Слаўная** з малой карчмой па праваму баку. Адсюль праз палову мілі выезд на Віленскі гасцінец новы і прамы, едучы каторым, па левай руцэ будзе двор яснавяльможнага пана Пацея, а па правым баку будзе вёска **Араны** таго ж пана, тут мяжа парафіі Забалацкай. Адсюль, пераехаўшы праз масток і рэчку, на гары стаіць карчма з вёскай яснавяльможнага пана Пацея, далей едучы палову мілі камяністай дарогай часткова праз хмызняк, будзе карчма васпана Белапяровіча. Адсюль дарога палову мілі вядзе да **Васілішак**, тут праз чвэрць лёгкай мілі, пераехаўшы грэблю і поле, будзе Васілішскі парафіяльны касцёл Св. Пятра.

**9.**

Парафія не мяжуе з іншымі ваяводствамі і паветамі.

Гэта апісанне парафіі подпісам сваёй рукі пацвярджаю.

Кс. Аляксандр Вербуш,
К.К. Катэдр. Вілен., плябан Забалацкі.

*(Пераклад Леаніда Лаўрэша.)*

***Кірыл Сыцько***

# Сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў Лідскім дэканаце ў канцы XIX - пачатку XX стст.

Усю сукупнасць з'яваў, асобаў, сацыяльна-палітычных, эканамічных, гендэрных чыннікаў можна назваць гістарычнай рэальнасцю. Калі мы вычленім з гэтай рэальнасці адзін элемент, то ён стане аб'ектам даследвання, а сама рэальнасць, як сукупнасць пабочных элементаў - кантэкстам. Гэта выклікае двухбаковасць методыкі апрацоўкі гістарычных дадзеных. З аднаго боку - мы можам апрацаваць іх як кантэкст да з'явы, з іншага - непасрэдна як аб'ект.

Менавіта з гэтай прычыны перад тым, як пачынаць апісанне ўласцівасцяў аб'екта, важна даследаваць яго сутнасна-прасторавую прыроду. Адарванасць ад кантэксту і неправільная яго інтэрпрэтацыя прыводзіць, па-сутнасці, да агістарызму і нараджэння гістарычна-сацыяльных міфаў.

Таму намі вырашана было разглядзець у якасці аб'екта даследвання не царкоўную крыніцу як рэфлексію на падзеі, але сацыяльны кантэкст крыніцы. Сацыяльны кантэкст абранага намі пытання, пасутнасці, складаецца з 3 чыннікаў:

*Адносіны Рымска-каталіцкага касцёла і ўладаў Расійскай імперыі;*

*Адносіны Рымска-каталіцкага касцёла і насельніцтва Паўночна-Заходняга краю;*

*Асоба рымска-каталіцкага святара як чыннік уплыву на нацыянальнае і рэлігійнае самавызначэнне беларусаў.*

Апошні кантэкстуальны фактар, па сутнасці, з'ява, якую немагчыма сістэматызаваць і падпарадкаваць нейкім правілам, бо калі першыя два фактары - аб'ектыўная рэальнасць, якая склалася гістарычна, то апошні - суб'ектыўны, ён складаецца з псіхалагічных чыннікаў адной асобы. Псіхалагічныя чыннікі кожнай асобы розныя, таму скласці нейкую заканамерную карціну немагчыма. Часткова ў гэтай справе дапамагае мемуарная літаратура прадстаўнікоў касцёла.

Аднак існуюць з'явы настолькі архаічныя і самабытныя, што любыя спробы падпарадкаваць іх пэўным правілам прыводзяць да парушэння адлюстравання гістарычнай рэальнасці.

Так, працуючы з культавымі дакументамі, а таксама з крыніцамі, якія адкладаліся ў дзейнасці святароў, важна памятаць аб дагматызме іх стваральнікаў, якія патрабуюць ад сваіх прыхільнікаў прыняцця шмат якіх рэчаў на веру.

Па-сутнасці, як мы ўжо казалі, даследчык павінен памятаць гэтае, падыходзячы да пытання выкарыстання мемуарнай літаратуры ў сваім даследванні па дзвюх прычынах - асаблівасці інтэрпрэтацыі навакольнай рэяльнасці аўтарам крыніцы, а таксама асаблівасці інтэрпрэтацыі гістарычнай рэальнасці гэтай крыніцы даследчыкам.

Разнастайнасць і шматлікасць крыніц па гісторыі Рымска-каталіцкага касцёла на землях цяперашняй Заходняй Беларусі нараджае неабходнасць правільнага іх выкарыстання.

Варта разумець, што адрэзак часу, які мы бярэм за межы нашага даследвання, з'яўляецца досыць вялікім. 90-я гады XIX - 20-я гады XX стст. досыць арганічна запоўнены падзеямі, і ўсю іх паўнату адлюстраваць не магчыма. Аднак варта памятаць, што царква базуецца на кансерватывізме, а таму з'яўляецца вельмі трывалым інстытутам з архаічнымі сувязямі ўнутры.

Прысутнае кожнаму чалавеку як разумнай істоце памкненне да паляпшэння свайго становішча (у першую чаргу тут мы маем на ўвазе духоўнага), да пазнання невядомага, заўжды апераджае магчымасці іх задавальнення. Гэтая няроўнасць у сістэме "імкненне - магчымасці" нараджае сацыяльныя зрушанні.

Царква, як мы ўжо казалі - кансерватыўны, дагматычны інстытут, які неахвотна прымае змены. Як вынік павінная была адбыцца нейкая сацыяльная рэвалюцыя, якая б падштурхнула яе да дзеі - калі патрэбы большыя за магчымасці, узнікае трэцяя рухальная сіла. Аднак у сітуацыі з тэрыторыямі Беларусі ў XIX-XX стст., гэта не так моцна выражана па прычыне традыцыйнасці грамадства.

Традыцыйнасць і непарушнасць становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў сістэме светапогляду тагачасных заходніх беларусаў напачатку XX стагоддзя, на нашую думку, вынікае з яго інстытуцыялізаванасці. То бок, фактычна, культ на той момант ўяўляў сабой не інстытут, але інстытуцыю, бо з'яўляўся не ўстановаю, але сістэмай з закрытай сукупнасцю правілаў і сімвалаў, якія не змяняюцца досыць працяглы прамежак часу і, фактычна, рэгулююць адносіны паміж грамадствам і Богам.

Аднак, у перыяд, які мы разглядаем, узнікла трэцяя сіла, якая актыўна ўмешвалася ў справы Рымска-каталіцкага касцёла - грамадзянскі ўрад Расійскай Імперыі.

Алесь Смалянчук адзначае, што польскае і каталіцкае насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX ст. апынулася ў досыць цяжкім становішчы. Галоўнай мэтай ўрадавай палітыкі пасля задушэння паўстання 1863-1864 г. была ліквідацыя ўсялякага ўплыву на жыццё краю з боку гэтых груп насельніцтва, поўнае абрусенне Беларусі. "Ворагам нумар адзін" лічылася каталіцкая шляхта. Супраць яе, у першую чаргу, і быў накіраваны шэраг абмежавальных законаў. Рэформы

60-70-х гадоў XIX ст., фактычна, не закранулі Беларусі.

Для таго, каб зразумець праблему, варта звярнуцца да ангельскага палітолага Энтані Сміта, які лічыць, што рэлігія была адным з чыннікаў развіцця нацыяналістычных ідэяў. Так, ён вызначае рэлігійныя рухі першым крокам да нацыяналізму. На гэтым этапе стан рэлігіі адпавядае стану грамадскай свядомасці масаў.

Такім чынам, Э. Сміт вылучае рэлігійныя рухі як адзін з элементаў сістэмы, якая стала глебай нацыянальных рухаў.

Канешне, з вышэй абазначаным сцверджаннем можна не пагадзіцца, бо, калі прачытаць Э. Сміта, то стане зразумелым, што размова ў яго працы ідзе аб вузкаспецыфічных сектах так званага "Руху за тысячагадовае Божае валадарства", якія, збольшага, былі ў апазіцыі да афіцыйнай рэлігіі ў дзяржаве. Аднак Каталіцкі касцёл на Беларусі ў перыяд Расійскай імперыі апынуўся менавіта ў такім стане. Варта адзначыць, што каталіцкае духавенства спрабавала надаць рэлігійным працэсіям рысы палітычнай антыдзяржаўнай накіраванасці. Пацверджаннем таму, напрыклад, антыімперскія шэсці ў мястэчку Масты Лідскага дэканату ў 1907 годзе.

І сапраўды, разглядаючы ўваходныя лісты па Віленскай епархіі за пачатак XX ст., а таксама цыркуляры на імя ўсіх епархіяльных святароў мы бачым, што:

1. Рымска-каталіцкі касцёл на Беларусі спрабаваў арганізоўваць таемныя прыватныя навучальныя ўстановы (якія прыраўноўваліся да патаемных), аб чым сведчыць цыркуляр № 8469 ад 21 верасня 1911 году.

У Лідскім дэканаце існавалі 2 такія патаемныя школы - ў вёсцы Руда, дзе навучалася 3 хлопчыкі, а таксама ў мястэчку Смаргонь, дзе навучалася 7 хлопчыкаў.

2. Рымска-каталіцкія святары адмаўляліся чытаць тэксты прысягаў на дзяржаўнай мове Расійскай Імперыі, якой з'яўлялася расейская. За такую грамадзянскую пазіцыю маглі быць прыменены рэпрэсіўныя меры, нават да крымінальнай адказнасці. Аб гэтым сведчыць цыркуляр на імя кіраўніка епархіі, падпісаны Сталыпіным ад 2 снежня 1909 года № 9342. Тут варта заўважыць, што і польская, і літоўскай гістарыяграфія моўнага пытання ў касцёлах гэта цалкам пацвярджаюць, у адрозненні ад сучаснай расійскай гістарыяграфіі, якая адмаўляе існаванне агрэсіўнай моўнай палітыкі.

3. Рымска-каталіцкія святары ў некаторых выпадках спрабавалі прыпісваць праваслаўных да свайго прыходу, аб чым свечыць копія рапарту ад 3 жніўня 1910 году № 6778.

4. У каталікоў адбіралі землі на карысць дзяржавы, аб чым сведчыць "Нарыс аб парафіі Ішчальнскай".

5. Некаторыя каталіцкія святары напрыканцы XIX - пачатку XX стст. асэнсоўвалі сябе часткай беларускай, альбо літоўскай нацыі, пры гэтым карыстаючыся польскай моваю.

Такім чынам, мы бачым, што калі ў XVII - першай палове XVIII стст. каталіцкая грамада з'яўлялася групай ціску, то ў перыяд, які мы разглядаем, яна стала групай, да якой прымяняюць палітычны ціск.

Натуральна, што пункт 3 можа выклікаць спрэчкі. Аднак, маюцца сведкі таго, што прыняты ў 1905 годзе указ "Аб асновах верацярпімасці" быў зразумелы як спосаб барацьбы двух цэркваў адна супроць адной з мэтай штучнага прыцягвання сялян у сваё лона.

Спробы кантролю і ўзмацнення ціску на Рымска-каталіцкі касцёл працягваліся ў XX ст., і заключаліся ў тым, што любыя акты Ватыкану, перасланыя на тэрыторыі Расійскай імперыі з мэтай іх выканання



1

Министерство Внутреннихъ Дѣлъ.
Департаментъ Духовныхъ Дѣлъ иностранныхъ исповѣданій.
2 Декабря 1909 г.
№ 9342.

Его [illegible], Господину Управляющему Виленскою р.-к. епархіею.

Въ Министерство поступаютъ свѣдѣнія [illegible] случаяхъ уклоненія р.-к. священниковъ отъ прочтенія текста присяги для лицъ, поступающихъ на военную и гражданскую службу, на государственномъ языкѣ.

Не входя въ обсужденіе порядка [illegible], [illegible] иновѣрными духовными лицами обрядовъ при приводѣ къ присягѣ своихъ единовѣрцевъ, считаю необходимымъ указать, что по точному смыслу дѣйствующихъ законовъ, подтвержденному разъясненіями Правительствующаго Сената, въ Указахъ отъ 17 Февраля 1899 г. и отъ [illegible] 1903 г., за №№ [illegible] и [illegible], въ Россійской Имперіи существуетъ только одинъ государственный языкъ - русскій, и что поэтому всѣ государственные акты, и въ томъ числѣ и присяга, принимаемая на вѣрность службы, должны неукоснительно совершаться исключительно на русскомъ языкѣ.

Увѣдомляя объ изложенномъ Ваше [illegible], для соотвѣтствующихъ распоряженій по Виленской р.-к. епархіи, имѣю честь присовокупить, что, въ случаяхъ отступленія духовенства отъ указаннаго порядка, [illegible] во всей строгости будетъ примѣнена къ виновнымъ ст. [illegible] Уст. Ин. Исп., по прод. 1906 года.

Министръ Внутреннихъ Дѣлъ,
Статсъ-Секретарь Столыпинъ.

***Цыркуляр, падпісаны Сталыпіным, ад 2 снежня 1909 года № 9342.***


По Архиву №

Виленской Римско-Католической Духовной Консисторіи.

По 1 столу

№ 20 1911 г.

ДѢЛО

Началось 19 года.

Кончено 19 года.

Сдано въ Архивъ

На листахъ.

***Справа з дакументамі па абнародаванні распараджэнняў Ватыкана***

мясцовым каталіцкім духавенствам лічыліся несапраўднымі без праверкі іх Міністэрствам унутранных справаў на факт адпаведнасці ўзаканенням Імперыі - з прыцягненнем да адказнасці святароў, якія гэтыя распараджэнні выконваюць.

Гэта пацвярджвае і той факт, што пасля задушэння паўстання К. Каліноўскага 1863 - 1864 гг. да Рымска-каталіцкага касцёла былі прымененыя такія меры, як закрыццё касцёлаў і кляштароў. Так, напрыканцы 60-ых - пачатку 70-ых гг. XX ст. у Лідскім дэканаце дзейнічала толькі 13 з 20 установаў, а, напрыклад, у Слонімскім - 5 з 33.

У 1866 годзе распачаўся суд над 776 сялянамі Дакудаўскай валасці Лідскага павета па звінавачанні ў "адступленні ад праваслаўя ў каталіцызм", справу разглядала грамадзянская ўстанова - Віленская судовая палата.

У справе 6425 мы можам пабачыць спіс за 1904 год парафіяльных філій, капліцаў у якіх з хадатайства Віленскай кансісторыі дазваляецца праводзіць служэнні, а таксама перыядычнасць гэтых служэнняў - у тым ліку і па Лідскім павеце.

Службы па ўсіх парафіях праводзіліся не па жаданні святароў, альбо прыхаджан, але з дазволу Віленскага генерал-губернатарства. Перыядычнасць службаў таксама залежала ад генерал-губернатарства. Куды больш цікавым з'яўляецца графа з заўвагамі.

Так, перад некаторымі філіямі напісана, што служэнне праводзіцца толькі з дазволу генерал-губернатара, у некаторых - што няма неабходнасці праводзіць служэнні па той жа прычыне.

Куды больш цікавым і карысным для даследчыкаў з'яўляецца заўвага па Радашковіцкім касцёле Вілейскай парафіі: *"Въ виду того, что въ Хотенчицкой волости есть много присоединенныхъ и неокрепшихъ въ православіи открытие в филіи богослуженія, будет иметь вредное влиянія для православія".*

Гэты дакумент і вытрымкі з яго яскрава паказваюць стан Рымска-каталіцкага касцёла ў Заходняй Беларусі напачатку XX стагоддзя.

Разгледзеўшы "Дело по переписке о костельном имуществе 1880-1888 гг." касцёла Святой Троіцы ў в. Ішчална Лідскага дэканату, мы прыйшлі да высновы, што спробы канфіскацыі царкоўных земляў ажыцяўляліся нават праз 15 год пасля паўстання.

Неаднаразова ксяндзоў Лідскага павета судзілі за распаўсюд антырускіх настрояў і прапольскага этнанацыяналізму. Так, у 1907-1909 былі асуджаныя ксяндзы Вавёрскай парафіі Лідскага дэканату І. Сахарко і Міёрскай парафіі Лідскага дэканату В. Бародзіч.

Аб факце прыніжэння палітычнай ролі Рымска-каталіцкага касцёла сведчыць і той факт, што ў Ішчалнскай парафіі існавала традыцыя прызначэння дыяцэзіяй прыходскага вікарыя (то бок намесніка ксяндза), аднак: *"Od roky 1860 wikarjuszy przy kosciele Iszcolnskim nie bylo".*

Знішчэнне ў парафіі пасады намесніка абазначае па сутнасці спрашчэнне яе структуры, а любое спрашчэнне пэўнай грамадскай існасці пры ўскладненні існасцяў іншых кажа аб паступовым яе заняпадзе. Пры гэтым сацыяльная роля Рымска-каталіц-


По Архиву №

Виленской Римско-Католической Духовной Консисторіи.

По 1 столу

№ 76 1910 г.

ДѢЛО

Началось 1910 года.

Кончено 19 года.

Сдано въ Архивъ

На листахъ.

***Справа з дакументамі касцёлаў аб памерлых ад заразных хвароб***

кага касцёла не знізілася, і большасць насельніцтва заходніх тэрыторыяў усё яшчэ заставалася каталікамі.

Справа 6571 паказвае ролю царквы ў статыстычных падліках - кожны касцёл абавязаны быў перадаваць звесткі аб колькасці памерлых ад заразных захворванняў непасрэдна ў медыцынскія ўстановы, што кажа аб недасяжнасці медыцынскіх паслугаў для большасці насельніцтва. У справе 6949 падкрэсліваецца неабходнасць прышчэпак ад воспы. То бок, як мы бачым, інфармацыя ўстановаў аховы здароўя распаўсюджвалася з дапамогай Касцёлу.

Апроч таго, рымска-каталіцкі касцёл на землях Віленскай губерні, як мы можам пабачыць з фондаў LVIA, з'яўляўся пасярэднікам паміж насельніцтвам і Чырвоным Крыжам, Белым Крыжам, а таксама займаўся зборам грошай на патрэбы сляпых, жабракоў і былых афіцэраў, а таксама афіцэрскіх сем'яў.

Падчас Першай сусветнай вайны Касцёл абавязаны быў абнародаваць маніфест з нагоды вайны з Германіяй.

У гэтых дзеях, прачытаўшы лісты ў адрас Віленскай кансісторыі, мы назіраем фактычную бездапаможнасць царскага самадзяржаўя - спроба правядзення ідэалагічнай працы праз інстытут, які доўгі час прыціскаўся і лічыўся, фактычна, галоўным чыннікам пратэстных настрояў.

Гэты факт яскрава гаворыць аб ролі царквы не толькі ў духоўным, але і ў сацыяльным, палітычным жыцці людзей.

Што тычыцца палітычнага жыцця, то мы маем вельмі цікавы дакумент са справы № 6273, у якім месціцца спіс духавенства Лідскага павета, якое мае права прымаць удзел у выбарах.

Паводле запыту гарадскога старасты ў выбарах маюць права прымаць асобы мужчынскага полу, старэйшыя за 25 гадоў, якія пражываюць у межах Лідскага павета цягам тэрміну, большага за год за выключэннем ніжэйшых прыслужнікаў. Такім чынам, атрымаліся 24 ксяндзы ва ўзросце ад 27 да 73 гадоў. Сярэдні ўзрост іх склаў 37,9 гадоў. Усяго ж святароў па Віленскай епархіі - 77.

Усяго па Віленскай губерні патрэбна было абраць 7 чалавек, у тым ліку - 1 ад горада Вільні, аб чым сведчыць памятка аб правядзенні выбараў у Дзяржаўную Думу Расійскай Імперыі.

Таксама з гэтай памяткі мы можам вынесці колькасць выбарнікаў па Лідскім павеце - 14, што, варта заўважыць, больш за колькасць выбарнікаў у Думу II склікання: 13, у тым ліку - ад з'езду ўпаўнаважаных ад павета - 7; ад з'езду землеўласнікаў - 5; ад з'езду гарадскіх выбаршчыкаў - 1.

Для таго, каб атрымаць права ўдзелу ў з'ездзе землеўласнікаў, у Лідскім павеце трэба было валодаць 300 дзесяцінамі зямельных надзелаў (для розных паветаў Паўночна-Заходняга краю плошча зямельных надзелаў, неабходных для ўдзелу ў з'ездзе землеўласнікаў розная).

Ксяндзы, якія мелі зямельныя надзелы, падаваліся асобным спісам з указаннем колькасці земляў.

Нажаль, спісаў па Лідскім павеце не захавалася, аднак ёсць аналагічныя спісы па Гарадзенскім павеце, дзякуючы якім мы можам уявіць прыкладную карціну. Варта адзначыць, што ні ў кога не было неабходных 300 дзесяцінаў. Колькасць земляў складала ад 1 да 94 дзесяцінаў, сярэдняя колькасць надзелаў ксяндзоў Гарадзенскага павета - 37,3 дзесяціны, што не давала ім права ўдзелу ў сходах землеўласнікаў.

Для таго, каб мець уяўленне аб колькасці зямлі і правільна інтэрпрэтаваць сітуацыю, варта вылічыць колькасць у гектарах. Вядома, што 1 дзесяціна = 1,0925 гектара. Такім чынам, у сярэднім ксяндзы Гарадзенскага павета валодалі 34,1418 гектара зямлі кожны.

Апроч таго ў той жа справе месціцца спіс ксяндзоў Віленскай епархіі па нацыянальнасці. Пасутнасці, толькі 5 ксяндзоў пазначылі сваю нацыянальнасць як "літовец" - Гіпаліт Баярунец, Аваровіч Міхаіл, Бразіс-Фрэй Тэадор, Жвілоўскі Антоні, Куята Восіп, Міронас Уладзіслаў, Малюкевіч Клементы, Янушэвіч Георгі. Астатнія - палякі. Калі вылічыць агульную долю "літоўцаў" сярод святароў на тэрыторыі Віленскай епархіі, то яна складае толькі 10,38%.

Гэтыя дадзеныя ідуць у разрэз з дадзенымі за 1904 год, калі па Лідскім дэканаце налічвалася 13 ксяндзоў, з іх 11 - палякі, 2 - беларусы, літоўцаў - 0. Нават вядомыя імёны ксяндзоў, якія называлі сябе беларусамі - Міхал Зямчэнак, Антоні Свіль.

Пры гэтым варта заўважыць, што той жа Гіпаліт Баярунец у сваіх дзённіках не ўзгадваў аб такой нацыі як "літоўцы", але нярэдка ўзгадваў "беларусаў" і дзейнічаў з прапольскіх пазіцый, а таксама лічыў сябе палякам.

Гэты прыклад дае нам падставы гаварыць аб важнасці моўнага і канфесійнага фактараў у пытаннях нацыянальнай ідэнтычнасці ў пачатку XX стагоддзя.

Разам з тым варта прывесці вытрымку з праграмы Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, якая была прынятая на II з'ездзе (30 ліпеня- 23 жніўня 1903 гг.). *"...Российская социал-демократическая рабочая партия ставит своей ближайшей политической задачей низвержение царского самодержавия и замену его демократической республикой, конституция которой обеспечивала бы: ... 13. Отделение церкви от государства и школы от церкви..."*.

Натуральна, што РСДРП бачыла пагрозу з боку, перш за ўсё, праваслаўнай царквы, якая была асноўнай апорай царызму.

Энтані Сміт заўважае, што Польшча была адным з цэнтраў моцных нацыяналістычных рухаў. Аднак ён заўважае, што і ў Расіі панавалі моцныя нацыяналістычныя настроі.

То бок, як мы бачым, тэрыторыя Беларусі аказалася пляцоўкай сутыкнення двух рэлігійных нацыяналізмаў- польскага і расійскага. Гэтае змаганне прывяло, на нашую думку, да расколу грамадства. Раскол, у тым ліку, адбываўся і з дапамогаю рэлігійных чыннікаў ціску. Гэтая барацьба, фактычна, і прывяла да фармавання ментальнасці, нават двух розных тыпаў ментальнасці.

Калі падыходзіць да дакументнага аспекту, то на прыкладзе фонда № 604 мы можам сказаць, што ў

перыяд, які разглядаецца намі, назіраецца павелічэнне колькасці ўваходнай карэспандэнцыі.

Па сутнасці, калі па стане ўключна да пачатку XVIII ст. фонд № 604 "Духовная консистория Виленского р-к епископства 1391-1915" складаецца пераважна з інвентароў, то ўжо ў канцы XVIII - пачатку XX стст. з'яўляецца вялікая колькасць цыркуляраў, рапартоў, ведамасцяў, пратаколаў, прадпісанняў. Асноўнымі дакументамі з'яўляюцца цыркуляр і рапарт, як форма адказу на цыркуляр.

Гэта напрамую звязана з ускладненнем грамадскіх адносінаў і павелічэннем стратыфікацыі грамадства, што прывяло да спробаў удакладнення метадаў кантролю і кіравання і, як канчатковы вынік (што мы і бачым) - да вялікай колькасці бюракратычных адпісак.

Адной з галоўных рысаў канфесіянальнай канцылярыі, як мы можам пабачыць практычна ў любой справе, з'яўляецца калегіяльнасць прыняцця рашэнняў і, як вынік - вялікая колькасць пратаколаў.

Аднак немалаважную ролю працягвалі адыгрываць інвентары (гэтаксама і інвентарныя вопісы) і метрыкі. Так, у пратаколе справы № 804 за 1906-1907 гг. адзначалася неабходнасць уносіць усе дадзеныя, датычныя нерухомай маёмасці і зямельных добраў, у інвентары для таго, каб пазбегнуць спрэчак. Пры гэтым заўважым, што на гэты момант ужо існавалі акты-планы зямельных надзелаў з іх рэгістрацыяй. То бок, роля інвентара была яшчэ вельмі вялікай.

Таксама мы бачым, што ўсе фундушы (дабраахвотныя пазыкі на карысць Рымска-каталіцкага касцёла) абкладаліся працэнтам.

Немалаважным пытаннем з'яўляецца і вызначэнне межаў Лідскага дэканату Гарадзенскай дыяцэзіі. Так, у XIX-пачатку XX стст. у яго ўваходзілі парафіі Беліца, Белагруда, Гаўя, Ельня, Жалудок, Жырмуны, Ішчална, Кір'янаўцы, Крупа, Ліда, Мінойты, Мыто, Няцеч, Нёман, Ракавічы, Ражанка, Скрыбаўцы, Тракелі, Шчучын.

Намі знойдзеная справаздача, у якой пазначаная колькасць прычасціўшыхся за паўгоддзе 1907 г. У табліцы маюцца 2 графы, пазначаныя "P" і "R" (К), пад табліцай маецца графа: *"Итого 5506, 37"*. Прагледзеўшы папярэдні гэтай справаздачы дакумент (прадпісанне), мы можам з упэўненасцю сказаць аб тым, што P- гэта рублі, R - капейкі (заяўленая ў прадпісанні сума складае 5506 рублёў, 37 капеек).

Так, паводле справы 6287, можна пабачыць, якія парафіі плацілі адсоткі ад фундушовых сумаў па Лідскім дэканаце:

- Ліда,
- Шчучын,
- Ражанка.

То бок, з 19 парафіяў Лідскага дэканату, фундуш мелі толькі 3, што фактычна можа казаць альбо аб зніжэнні папулярнасці Рымска-каталіцкага касцёла, альбо аб нізкім узроўні прыбытку насельніцтва Лідскага дэканату.

Сутнасць палітыкі Расійскай Імперыі ў Паўночна-Заходнім краі ў галіне рэлігіі, тут мы пагодзімся са сп. В. Яноўскай, можна апісаць у наступых пунктах:

Мэтанакіраваная антыкаталіцкая палітыка;

Спробы ўмяшацца ў парадак набажэнстваў;

Прымусовае адчужджэнне зямлі рымска-каталіцкіх парафій;

Прымусовае адчужджэнне матэрыяльных каштоўнасцяў святароў і парафій, што прывяло да пагаршэння матэрыяльнага стану.

Гэта ўсе не магло не выклікаць шырокага грамадскага незадавальнення і як вынік - лаянкі ў бок аўгусцейшай дынастыі. Аднак, варта заўважыць, што ў Лідскім павеце за 25 гадоў быў зарэгістраваны толькі адзін такі выпадак.

З першага погляду такі факт можа здавацца пацверджаннем лаяльнасці насельніцтва Лідскага павета, аднак тут варта прывесці статыстыку. У XIX ст. Лідскі павет налічваў 10% шляхты ад агульнай колькасці жыхароў. Калі браць статыстыку, напрыклад, па Ішчалнскай парафіі, то адметна тое, што каталікі складалі 97,5 адсоткаў насельніцтва парафіі. Праваслаўных было 100 чалавек, альбо прыблізна 2,4 адсоткі. Нязначную частку складалі габрэі - 2 чалавекі.

Вынікае лагічнае пытанне - ці магло такое насельніцтва быць лаяльным? Адказ хаваецца ў выйшаўшым указе "Об укреплении начал веротерпимости", падпісаным Мікалаем II 17 красавіка 1905 году.

Указ гэты знайшоў шырокі водгук у каталіцкага духавенства, таму чыноўнік Віленскага губернскага праўлення Пугаўка адзначаў, што ў паветах, дзе было шмат супраціўляўшыхся, у тым ліку і ў Лідскім, з'явіліся праяўленні шчырай любові да імператара.

Гэта была спроба ўлагодніць рыма-каталікоў у




***Справа з дакументамі аб % з фундушовых сум***

цяжкі перыяд існавання Імперыі. Дэ-факта гэты ўказ прызнаваў, што ціск на каталікаў быў.

У пацверджанне ўсяго напісанага намі мы звернемся да В. Яноўскай, якая сцвярджае, што заходнерусісты бачылі тры асноўныя праблемы Паўночна-Заходняга краю:

- маёнтак польскага ўзору з польскамоўнай шляхтай, польскай мовай і штодзённасцю;

- польская таемная школа (аб якой мы ўзгадвалі вышэй);

- польскі касцёл з польскім ксяндзом.

З прыходам да ўлады бальшавікоў сітуацыя мяняецца, але мяняецца галоўным чынам так, што ў апале аказваюцца ўсе канфесіі. Дэкрэтам Савета народных камісараў ад 23 снежня 1918 "Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы" царква аддзялялася ад дзяржавы, а яе маёмасць прызнавалася дзяржаўным здабыткам, перададзеным пэўнай канфесіі ў бескаштоўнае карыстанне.

Такім чынам, Рымска-каталіцкі касцёл на Лідчыне, апынуўшыся ў цяжкім стане, тым не менш, меў вялікі ўплыў на насельніцтва парафіяў.

**СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ І ЛІТАРАТУРЫ:**

1. Архіў касцёла Святой Троіцы, в. Ішчална. Дело по переписке о костельном имуществе 1880-1888 гг. - 51 с.

2. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6273. Дело о выборах в Государственную Думу 8 июля 1907 г., Л. 2,3,9,14,15,17-31.

3. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6425. Дело по распоряжениям епархиального начальства, коллегий и др. о порядке сбора пожерствований на постройки и ремонт, о проведении богослужений и др., Л. 6-70.

4. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6571. Дело о доставлении настоятелями, филиалистами и капеланами костелов Виленской губернии подлежащим уездным врачам регистрационных карточек об умерших от заразных болезней, Л. 1-24.

5. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6529. Дело о доставлении сведений о положении отставных офицеров для выдачи пособий на Пасху, Л. 1-4.

6. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6925. О сборах пожертвований на создание воздушного флота, Л. 1-11.

7. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6935. Об обнародовании высочайшего Манифеста войны с Германией, Австрией, Турцией, Л. 1-24.

8. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 4. - С. 6287. О % от фундушевых сборов, причитающихся Виленской епархии за 1 и 2 полугодие 1907, Л. 1-21.

9. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Фонд 604. - Воп 6. - С. 810. Об ознакомлении духовенства Виленской епархии с проектом правил передачи костельного имущества 1906-1907, Л. 1-45.

10. Opis Parafii Iszczolnskiej / Архіў касцёла Святой Троіцы, в. Ішчолна, 64 с.

11. Бендин А.Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863-1914 гг.) / А. Ю. Бендин. - Минск : БГУ, 2010. - 439 с.

12. Bojaruniec Hippolit. Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah / H. Bojarunec - Lida, рукапіс. копія, 50 с.

13. Ciechanowicz Lech Rozwoj liczby ludnosci miasta Lidy // Zemia Lidzka № 3 (46) Sierpien 2001, s. 64 - 67.

14. Ганчар, А.И. Римско-католический костел в Беларуси (1864 -1905 гг.) : монография / А.И. Ганчар. - Гродно : ГГАУ, 2008. -276 с.

15. Канфесіі на Беларусі (к. XVIII - XX ст.) / В.В. Грыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава; Навук. рэд. У.І. Навіцкі. - Мінск, 1998.

16. Moroz Malgorzata Krynica. Ideologia i przywodcy bialoruskiego katolicyzmu / M. Moroz. - Bialystok: Bialoruskie Towarzystwo Historyczne, 2001. - 284 s.

17. Носевич, В. Л. К вопросу об объективности исторического исследования / В. Л. Носевич // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны : навук. зб. Вып. 3 / рэдкал. : У. Н. Сідарцоў, С. М. Ходзін (адк. рэдактары) [і інш.]. - Мінск : БДУ, 2007. - С. 47-57.

18. Положение о выборахъ в Государственную Думу, 6 августа 1905 // Полное собрание законов Российской империи. Собр. III. Т. XXV. Отд-ние II-е : Приложения. СПб., 1908.

19. Положение о выборахъ в Государственную Думу 1907 года / Архіў касцёла Святой Троіцы, в. Ішчална.

20. Сагановіч Г. Палітычны міф у гістарычнай памяці і гісторыяапісанні / Г. Сагановіч // Беларускі Гістарычны Агляд. - 2012. - Т.19. - сш. 1-2. - С. 213 - 237.

21. Смалянчук А. Каталікі Беларусі і царская ўлада ў другой палове XIX ст. // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. - 2000. - Nr. 14. - S. 105-114.

22. Сміт Э. Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі / Э. Сміт. - Мн.: Беларускі фонд Сораса, 1995. - 272 с.

23. Указ Об Укреплении Начал Веротерпимости (1905) // Полное собрание законов Российской империи: Собр. 3-е. Т.XXV: 1905. Спб., 1908. С.237-238.

24. Яноўская, В.В. Моўнае пытанне ў Рымска-каталіцкім касцёле Беларусі (60-я гг. XIX - пачатак XX ст.): славянская і літоўская гістарыяграфія / В.В. Яноўская // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 2. / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. - Минск : БГУ, 2007. - С. 152-162.

25. Яноўская В.В. Хрысціянская царква ў Беларусі, 1863-1914 гг. / В.В.Яноўская. - Мн. : Бел. дзярж. Ун-т, 2002. - 197 с.

*Леанід Лаўрэш*

# Ліда ў 1936 - 1939 гг. у люстэрку прэсы

**1. Новыя раёны горада:**
- Слабада;
- Раслякі;
- Сойкішкі.

**2. Будаўніцтва і добраўпарадкаванне горада:**
- 1937 г.
- 1938 г.
- 1939 г.

**3. Знаходкі пад час рамонту і перабудовы вуліц.**

**4. Стыль фунцыяналізму ў Лідзе:**
- Будынак Лідскай пошты;
- Эпідэмічны корпус шпіталя;
- Школа на Слабодцы;
- Яўрэйская школа;
- Паліклініка;
- Прыватныя дамы.

**5. Гарадская электроўня.**

**6. Адукацыя:**
- Дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча;
- Купецкая гімназія;
- Гімназія асаднікаў;
- Іншыя навучальныя установы горада;
- Курсы, гурткі.

**7. Ахова здароўя.**

**8. Грамадскае і палітычнае жыццё:**
- Дзейнасць грамадскіх арганізацый;
- Выбары;
- Нацыянальныя адносіны;
- Святы;
- Рэлігійнае жыццё;
- Адпачынак у Сяльцы;
- Кінатэатры горада;
- Гарадская бібліятэка;
- Краязнаўчая праца ў горадзе;
- Культурнае жыццё;
- Клуб матацыклістаў;
- Рэстараны;
- Радыё;
-球Рознае.

**9. Злачыннасць.**

**10. Здарэнні:**
- Здарэнні на дарогах;
- Авіяаварыі;
- Пажары.

**11. Эканоміка горада:**
- Беспрацоўе;
- Цэны і заробкі.

**12. Пачатак вайны.**

**13. Заканчэнне.**

**14. Дадаткі:**
- Горад Ліда ў 1938 г.;
- Урачыстасці ў гонар 75-ці годдзя студзеньскага паўстання ў Лідзе;
- Спіс вялікіх прамысловых прадпрыемстваў г. Ліды на пачатак 1938 г.;
- Спіс аўтамабіляў і матацыклаў у Лідскім павете, на 15 снежня 1936 г.;
- Ліда, тэлефонны даведнік 1939 г.

Гэты артыкул прысвечаны нашаму гораду ў 1936-39 гг. Збіраючы інфармацыю, аўтар "тануў" у вялікай кольскасці матэрыялаў і таму адбіраў самае, з яго пункту гледжання, цікавае. Шмат у чым прыйшлося сябе абмяжоўваць, напрыклад тэма лідскага спорту ў тыя гады магла б стацца тэмай асобнага вялікага артыкула ці нават кніжкі. Тэма жыцця яўрэяў нашага горада ў тыя гады таксама абмяжоўваецца толькі матэрыяламі польскіх газет таго часу. Жыццё гэтай "затануўшай Атлантыды" яшчэ патрабуе вялікай працы даследчыкаў. Наогул, гэты матэрыял аўтар разглядае як першы крок на шляху вывучэння таго найцікавейшага часу ў жыцці нашага горада.

Усе назвы вуліц горада аўтар прыводзіць па рэаліях таго часу. Карта горада, з якой пачынаецца артыкул, дапаможа цікаўнаму чытачу зразумець, якую назву гэтыя вуліцы маюць зараз.

З прэсы бачна, што з 1935 г. пачынаецца выразнае паляпшэнне гаспадарчай сітуацыі ў Другой Рэчы Паспалітай. Пачаўся рост прамысловасці. Са збяднелага правінцыяльнага гарадка Ліда пачала ператварацца ў значны прамысловы асяродак. Горад пачаў хутка развівацца.

## 1. Новыя раёны горада

### *Слабада*

На пачатак XX ст. вёска Дварцовая Слабада - 328 жыхароў (166 і 162) з 19 дзесяцінамі зямлі, Раслякі - 61 жыхар (32 і 29) з 123 дзесяцінамі.

З выдатнага артыкула Уладзіслава Абрамовіча ў перадваеннай газеце "Лідская Зямля" мы ведаем, што раён Ферма цягнуўся ад замка і каталіцкіх могілак да чыгуначнага вакзала і сваю назву атрымаў, верагодна, ад досыць урадлівай зямлі, якая раней належала да каралеўскай маёмасці. На шляху ад вакзала да горада, недалёка ад замка, увагу прыцягвала вялікая яма - вынік нямецкай гаспадаркі падчас акупацыі. Менавіта на гэтым месцы ў старажытныя часы быў велізарны двор старасты - рэзідэнцыя каралеўскага намесніка. Сярод іншых земель гэтага двара, ці, як тады звалі, - дварца, была і вёска Слабада. Палі гэтай вёскі цягнуліся ў кірунку паўднёва-заходнім, мяжуючы з гарад-

скай тэрыторыяй каля сучаснай вуліцы Горкага. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай усе прылеглыя да горада каралеўскія землі перайшлі ў скарб Расійскай Імперыі. Недалёка ад былой рэзідэнцыі намесніка пачалі сяліцца сем'і расійскіх дваран. Паўстаў шэраг шыкоўных дамоў, аточаных садамі, і так пачаўся вялікі зараз раён горада, які завецца Ферма. А паколькі на Ферме маглі сяліцца толькі дваране, каля 1860 г. было вырашана заснаваць у Лідзе другую калонію, на землях вёскі Дварцовая Слабада. Расійская адміністрацыя не мела дакладных указанняў пра тое, якія сем'і трэба сяліць у новай калоніі, і спачатку пасялілі там чатыры яўрэйскія сям'і. З іх дзве сям'і Ліпнішскіх, адну Баруховічаў, а прозвішча трэцяй сям'і ўдакладніць ужо немагчыма. Праз некаторы час, калі справа пра пасяленне яўрэяў на Дварцовай Слабадзе дайшла да Пецярбурга, адтуль была зроблена заўвага пра памылку - пасяленне яўрэяў у новай калоніі, бо папярэдне гэтая калонія прызначалася для засялення праваслаўных сем'яў. Патрэбна было выселіць яўрэйскія сем'і, якія да таго часу там грунтоўна абжыліся. Каля 20 дзесяцін зямлі для кожнай сям'і ўяўлялі немалую каштоўнасць, таму яўрэі павінны былі пайсці на кампраміс і прынялі праваслаўе. Пасля хрышчэння Ліпнішскія прынялі прозвішча Ліпінскіх, Баруховічы сталі Барысевічамі, а чацвёрты яўрэй стаў Крыжаноўскім. У 1866 г. выдзеленыя землі былі аддадзены на выкуп.

Да часу, калі праз Ліду прайшла чыгунка, пасяленцы займаліся сельскай гаспадаркай. Аднак рост Слабодкі непарыўна звязаны з чыгункай. Першай, у 1883-84 гг., была пушчана ў дзеянне чыгунка Вільня - Ліда - Лунінец. Праз 20 гадоў, у 1902-05 гг., дзякуючы пракладзенай лініі Маладзечна - Ліда - Ваўкавыск, наш горад стаў важным камунікацыйным вузлом. Пры будаўніцтве чыгункі сем'і пасяленцаў мелі добрыя заробкі. Пры гэтым дочкі, якія былі немалой прыгажосці, знайшлі сабе мужоў сярод чыгуначных жандараў. Паступова пачалі з'яўляцца новыя сямейныя саюзы, усё новыя і новыя дамы і пабудовы. Па меры падрастання моладзі жыхары Слабодкі змянялі характар сваёй дзейнасці, пераходзячы ад сельскай гаспадаркі на чыгунку. Калі пабудавалася чыгуначная станцыя, некаторыя сем'і перанеслі свае дамы ўглыб поля. Раён пачаў пашырацца, колькасць дамоў павялічвалася з кожным годам.

У 1920-30-я гг. Слабада становіцца важным раёнам горада. У 1932 г. дзякуючы ста, раннем ксяндзавікарыя Станіслава Мажэйкі на Слабадзе паўстаў касцёл. У 1936 г. Гарадская рада даравала Слабадской парафіі 2 га гарадской зямлі для заснавання могілак. Падчас геадэзічных работ і работ па агароджванні будучых могілак адзін з работнікаў пацікавіўся меркаваннем другога пра тое, хто з іх першы ляжа на новых могілках. Так здарылася, што той, хто пытаўся, і стаў першым нябожчыкам на гэтых могілках. Весткі пра гэта імгненна разышліся па парафіі, і вернікі зрабілі яму ўрачыстае пахаванне.

Менавіта пры канцы 1930-х гг. на Слабодцы з'явіліся крамы, аптэчны склад, добраахвотная пажарная ахова, пастарунак паліцыі, чыгуначная лазня. Над усім раёнам узвысіліся гмах грамадскай 7-класнай школы (сучасная СШ № 10) і пажарная вежа, якая зараз не існуе[1].

### *Расякі*

На пачатак ХХ ст. вёска Раслякі - 61 жыхар (32 і 29) з 123 дзесяцінамі. У красавіку 1936 г. Ваяводская ўправа зрабіла ўнёсак у Міністэрства ўнутраных спраў аб пашырэнні межаў Ліды праз далучэнне вёскі Раслякі[2].

"Кур'ер Віленскі" пісаў, што *"вёску Раслякі аддзяляе ад горада рака Лідзейка. Мост на рацэ замалы, але ні гарадскія ўлады і ні самакіраванне вёскі яго не рамантуе. Жыхары Раслякоў напісалі калектыўнае пісьмо павятовым уладам пра тое, што неабходна пабудаваць новы мост"*[3].

Прэса паведамляла, што зусім недалёка ад Раслякоў, ля вёскі Малэйкаўшчына вясковец пабудаваў тэатральны будынак: *"На адлегласці 2 км. ад горада ў вёсцы Малэйкаўшчына, у маладым сасновым лесе пабудаваны летні тэатр значных памераў. Гэты будынак пабудаваў Тэафіль Галімонт на сваёй зямлі для вясковых імпрэзаў і мерапрыемстваў розных грамадскіх арганізацый з Ліды"*[4].

Пасля далучэння да Ліды вёскі Раслякі, вуліца Лідская пачала мець вялікае значэнне для горада, бо была адзінай артэрыяй, якая злучала новы раён Раслякі з горадам. *"Аднак стан вуліцы і ходнікаў вельмі дрэнны, вялікія лужыны знікаюць тут толькі пад час засух"*[5].

### *Сойкішкі*

Урочышча Сойкішкі - зараз раён вуліцы Хасанаўскай.

Да 1934 г. тут было балота і рос хмызняк, зямля ніяк не выкарыстоўвалася. У 1934 г. у Сойкішках адбылася меліярацыя, і сюды пачалі завозіць дрэва для пабудовы дамоў. Каля чыгуначных рэйкаў быў укапаны слуп на якім вісеў вялікі плакат з надпісам: *"Фонд Працы будуе тут дамы для беспрацоўных раменнікаў"*. Пасля некалькіх газетных артыкулаў і некалькіх радыёперадач сюды пачалі прагульвацца цікаўныя жыхары горада, каб паглядзець на будоўлю новага раёна горада.

Да 1937 г. тут было пабудавана шэсць двухкватэрных дамоў і два дамы на адну сям'ю. Будаваліся ладныя, двухпакаёвыя дамы, у якіх было многа паветра і святла. Кожны дом меў дзялку ў чвэрць гектара, гаспадарчы будынак і студню. Беспрацоўныя, атрымоўваючы такую сядзібу, пачыналі выплачваць яе кошт толькі праз тры гады. Пасля выплаты, сядзіба пераходзіла ва ўласнасць таго, хто жыў у доме.

Улетку 1934 г. сюды прывезены сем'і рамеснікаў з Заверця[6], горада ў заходняй частцы Польшчы. Аднак практычна адразу, у 1935-36 гг., некалькі сямей вярнулася назад, а потым з Ліды выехалі яшчэ некалькі сямей. Таму ў 1937 г. тут жыло толькі дзевяць сямей перасяленцаў - "завярцякаў". Гэта адбылося таму, што

ўзровень жыцця і заробкаў у Заходняй Беларусі на той час быў непараўнальна ніжэйшы за заходнюю Польшчу, і нават беспрацоўныя перасяленцы не жадалі заставацца жыць у практычна бясплатным жытле.

Будаўніцтва дамоў было прыпынена. Віленская прэса справядліва заўважала, што *"ў Лідзе хапае сваіх беспрацоўных. Фонд Працы ўклаў у меліярацыю і пабудову дамоў каля 100 000 злотых, а карыстаюцца гэтым некалькі сямей, нежылыя дамы знішчаюцца, зарэзерваваныя будаўнічыя матэрыялы псуюцца"* [7].

У траўні 1937 г. Ваяводскае бюро працы прапанавала свайму лідскаму аддзелу ўрэгуляваць справы з засяленнем калоніі Сойкішкі. Калонія была перададзена лідскаму "Таварыству засялення прыгарада". Гэта Таварыства запрасіла ў Фонда Працы грошы на будаўніцтва пякарні, паравой лазні, пральні і павялічэнне агульнай плошчы на 2 000 $м^2$. Фонд Працы згадзіўся на гэтыя ўмовы і вырашыў перадаць калонію Сойкішкі ва ўласнасць лідскім уладам[8]. У ліпені 1937 г. пачалі пасяляць у Сойкішках лідскія сем'і беспрацоўных: *"Эксперымент з перасяленнем беспрацоўных з заходніх тэрыторый не атрымаўся, тут будуць паселеныя мясцовыя беспрацоўныя. Зараз гарадскія ўлады будуюць два паселішчы для беспрацоўных: Боры і Сойкішкі. Ёсць спадзяванне, што праблемы з беспрацоўем у Лідзе будуць вырашаны"* [9].




*Карта Ліды*

## 2. Будаўніцтва і добраўпарадкаванне горада

У сярэдзіне 1930-х гг. Ліда хутка разбудоўвалася. Аднак цэнтр горада выглядаў амаль што як перад Першай Сусветнай вайной. Але ў другой палове 1930-х гг. вуліцы пачалі грунтоўна, па-новаму забрукоўвацца, былі зроблены ходнікі і пачалося будаўніцтва новых камяніц: *"Каля галоўнай вуліцы горада - Сувальскай - будуюцца дамы ў некалькі паверхаў. Агульна ў Лідзе будуецца 10 вялікіх камяніц"* [10]. Старыя будынкі, канца XIX і пачатку XX ст. не мелі выразнага стылю і перарабляліся нязначна. Са сцен і абрамленняў вокнаў былі прыбраныя цагляныя гзымсы (прафіляваныя паясы) наложаны гладкі тынк, у крамах зроблены сучасныя вітрыны.

У 1936 г. гарадскія ўлады вырашылі ў Лідзе пачаць будаваць каналізацыю: *"Гарадская ўправа, жадаючы падвысіць санітарны стан, пастанавіла пабудаваць каналізацыю па ўсіх вуліцах горада. Першай будзе вуліца Фалькоўскага. Пастанову ўправы вітаюць усе жыхары горада"* [11].

У Лідзе не было спартовага стадыёна, прыстасаванага для розных відаў спорту. Таму ў 1936 г. пачалося будаўніцтва вялікага гарадскога стадыёна. *"На стадыёне будзе бегавая лёгкаатлетычная дарожка, месцы для скачкоў у даўжыню і вышыню, поле для спартыўных гульняў, стрэльбішча"* [12], - пісалі віленскія газеты.

У тым жа годзе горад атрымаў крэдыт у 70 000 злотых для пабудовы экспартнай рэзні (бойні для жы-

вёлы) па вуліцы Доўгай, было прынятае рашэнне пачаць работы па кансервацыі Лідскага замка[13]. З праекта рэзні бачна, што гэта павінен быў быць будынак даўжынёй у 100 метраў, аб'ёмам 14 400 м³, пры рэзні павінен быў працаваць цэх вытворчасці кансерваў[14].

### *1937 г.*

На пачатку 1937 г. управа "Звязу стральцоў" вырашыла пабудаваць у Лідзе "Дом стральца". Улады выдзелілі для гэтых мэтаў зямельны пляц і грошы ў памеры 10 000 злотых, арганізацыя пачала збор грошай і планавалася ўвесну закладаць падмурак пад гмах, у якім *"пасля пабудова павінна праходзіць большая частка грамадскага і культурнага жыцця горада"* [15]. Гэты гмах павінен быў паўстаць каля гарадскога стадыёна, але да будоўлі так і не прыступілі, бо да траўня 1939 г. усё яшчэ не вырашылі праблем з фінансаваннем, у 1939 г. праект называўся ужо Домам фізічнага выхавання пры Звязе стральцоў[16].

Гараджане скардзіліся на тое, што вуліцы горада знаходзіліся не ў лепшым стане. У 1937 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Сахара ў Лідзе. Незабрукаваная вуліца імя генерала Шаптыцкага сваім выглядам наводзіць сум і роспач. У цяперашнія летнія пякельныя дні аблокі пылу ўздымаюцца да неба. Лідзяне называюць гэтую вуліцу Сахара"* [17]. У лютым 1937 г. гарадскія ўлады для рамонту вуліц Ліды атрымалі ад Фонду Працы[18] 20 000 злотых. Першай пачалі рамантаваць вуліцу Пілсудскага, потым планавалі дабудаваць працяг вуліцы Перацкага і злучыць яе з Выганам. Такім чынам добрая гарадская магістраль павінна была злучыць чыгуначны вакзал з хутка росшым раёнам горада які зваўся Выган ці Новая Ліда[19]. Працы па перабудове, укладцы ходнікаў і забрукоўцы вуліцы Перацкага пачаліся ў чэрвені таго ж года[20].

З 15 красавіка ў Лідзе аднавіліся сезонныя работы па ўпарадкаванні горада праз праграму арганізацыі рабочых месцаў для беспрацоўных горада. У дадатак да папярэдніх грошай Фонд Працы выдзеліў яшчэ 20 000 злотых на пабудову новага рынку за Выганам (на тэрыторыі сучаснага завода Электравырабаў) і 10 000 злотых на рэгуляцыю ракі Лідзейкі. Нагул, у 1937 г. меркавалася прыцягнуць з Фонду Працы 50 000 злотых. Гарадскія ўлады распрацавалі планы правядзення гэтых работ з прыцягненнем як мага большай колькасці беспрацоўных горада. У тым жа месяцы вуліца Пяскі была пераназваная ў вуліцу генерала Орліч-Дрэшара[21].

Пры канцы красавіка пачалося пашырэнне вуліцы Касцюшкі. *"Вуліца будзе мець цвёрдае пакрыццё. Працу атрымалі 20 беспрацоўных"* [22]. Праз некалькі тыдняў "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Пабудова новых вуліц. Гарадскія улады прыступілі да будаўніцтва шэрагу новых вуліц. Пачаліся работы па рамонту вуліцы Касцюшкі, Школьнай, пасля зімы адноўлены працы па адбудове новага рынку і меліярацыі ракі Лідзейкі. Працу атрымалі 110 беспрацоўных"* [23]. Пры канцы траўня на добраўпарадкаванні горада мелі працу ўжо 160 чалавек[24].

Акрамя Фонду Працы, на разбудову горада ў 1937 г. даў пазыку ў 50 000 злотых Банк Краёвага гаспадарніцтва: *"Грошы пойдуць тым гараджанам, якія ў папярэднія гады пачалі будову дамоў і не маглі яе закончыць з-за браку грошай. Максімальная сума аднаму чалавеку - 4 000 зл."* [25].

Так сама былі выдзелены грошы з гарадскога бюджэту: *"Гарадскія ўлады выдзялілі грошы на забрукоўку вуліц Камерцыйнай, Каляёвай, Школьнай, Крупаўскай і разбудову электроўні"* [26].

У ліпені 1937 г. поўным ходам ішло будаўніцтва каналізацыі па вуліцы 11-га Лістапада, працягвалася забрукоўка вуліц Перацкага, Касцюшкі, Каляёвай, Вызвалення і г.д., толькі на гэтых работах кожны дзень мелі працу больш за 100 беспрацоўных[27]. Пры канцы ліпеня працы па перабудове і рамонту вуліцы Перацкага былі закончаныя[28]. У тым жа месяцы ў Лідзе пачала працаваць фабрыка слодычаў: *"Яна месціцца па адрасу Сувальская, 74, дзе раней быў кінатэатр "Маленькі". Фабрыка перанесена з Беняконяў. Гарадскія ўлады рамантуюць вуліцы ў раёнах горада Вызваленне і Слабодка"* [29].




***Вуліца Сувальская***

Пры канцы ліпеня гарадскія ўлады дадаткова атрымалі 20 000 злотых ад Фонду Працы, *"з якіх 10000 пойдуць на рамонт вуліц, 10000 - на заканчэнне будаўніцтва школы № 4, 450 - на гарадскі стадыён"* [30].

Ад пачатку дзейнасці міжгародных аўтобусных камунікацый, месцам прыпынку аўтобусаў у Лідзе была плошча Славы каля Фарнага касцёла ў самым цэнтры горада, дзе знахо-



***Аўтобусы на Плошчы Славы***

дзяцца гарадскія ўлады, крамы, гатэлі. Тут пабудавалі аўтазапраўку і розныя гандлёвыя кіёскі. Лаўкі сярод кветнікаў выконвалі ролю пачакальні. Гараджане прызвычаіліся да таго, што Плошча Славы была месцам прыпынку аўтобуса. Здавалася, што і не трэба нешта мяняць, але гарадскія ўлады ў 1936 г. вырашылі перанесці месца прыпынку міжгародніх аўтобусаў з Плошчы Славы на гарадскі рынак. З-за гэтага людзі пачалі дарэмна траціць час, а аўтобус на 22 месцы (у той час самы вялікі) на малой рыначнай плошчы нават не мог развярнуцца. Адбылося некалькі здарэнняў: аўтобус сутыкнуўся з фурманкай, з іншым аўтобусам, былі вывернутыя гандлёвыя рады і г.д. З улікам таго, што за дзень прыходзіла і адпраўлялася ў рэйсы шмат машын, усё гэта стварала невыносныя ўмовы на рынку. Управы ўсіх аўтобусных суполак падпісалі петыцыю да гарадскіх уладаў з прапановай вярнуць прыпынак на старое места, але ўлады вырашылі не адмяняць сваю пастанову. Таму петыцыю пераслалі прэм'ер-міністру, пасля чаго быў прыняты вырак вярнуць аўтастанцыю на старое месца[31]. Улетку 1937 г. гарадскую аўтобусную станцыю каля Фарнага касцёла абсталявалі па-новаму: *"Гарадскія ўлады разам з аўтобуснымі суполкамі ўпарадкавалі аўтобусную станцыю. Праз Ліду праходзяць сем міжгародніх аўтобусных ліній. Для кожнай ліні, як у Вільні, усталявана адмысловая табліца. У будучым, гарадскія ўлады плануюць пабудаваць пачакальню для пасажыраў"* [32]. Праз некалькі тыдняў на міжгародняй аўтобуснай станцыі адчынілася паштова-тэлеграфнае аддзяленне[33].

У жніўні 1937 г. газета "Слова" пісала: *"Ліда разбудоўваецца. У апошні год Ліда значна разбудавалася. На галоўнай вуліцы горада Сувальскай будуюцца мураваныя дамы ў некалькі паверхаў. Па ўсім горадзе будуецца 10 вялікіх камяніц, у тым ліку 7-мі гадовая агульнаадукацыйная школа № 4 і вялікі гмах пошты. Хутка разбудоўваецца і прадмесце горада"* [34]. А "Кур'ер Віленскі" паведамляў, што *"ў Лідзе пашыраецца электроўня, па вуліцы 11-га Лістапада будуецца каналізацыя, а па вуліцы Школьнай - спартыўны стадыён. Таксама забрукоўваюцца вуліцы і рынкавы пляц. На гэтых работах заняты 60 беспрацоўных"* [35].

У жніўні, на плошчы Збаўцы (на скрыжаванні Сувальскай і 3-га Мая), у лепшым месцы горада павятовае аддзяленне Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP) пачало будаваць кіёск. Кіёск быў пабудаваны ў сучасным стылі па праекце павятовага архітэктара Вацлава Галіка. У ім гандлявалі газетамі, тытунём, паштовымі маркамі, цукеркамі і ахаладжальнымі напоямі[36]. Кошт будоўлі гэтай дастаткова вялікай гандлёвай кропкі (3 000 злотых, плошча 66 м$^2$) быў пакрыты за кошт сяброўскіх складак і ахвяраванняў[37]. Кіёск пачаў працу з 1 красавіка 1938 г.[38] Гэты аб'ект бачны на савецкай прапагандысцкай фатаграфіі верасня 1939 г.

Пры канцы лета пачаўся рамонт вуліцы Фабрычнай, вуліца атрымала цвёрдае пакрыццё і новыя ходнікі[39].

У верасні быў пабудаваны гарадскі стадыён[40]. У нядзелю, 26 верасня, ў Лідзе планавалася ганарова адчыніць новы стадыён і правесці спартовыя ўрачыстасці. Сярод ганаровых гасцей чакалі генерала Кліберга (gen. Franciszak Kleeberg) і вядомых спартоўцаўцяжкаатлетаў з Вільні: Вайткевіча, Крыма, Маліноўскага, Рымовіча[41]. Свята спорту пачыналася ў 10-15, *"галоўным арганізатарам мерапрыемства і творцам прыгожага стадыёна ёсць капітан Грывач (kpt. Grzywacz)"* [42]. На наступны дзень пасля спартыўнага

свята ў Лідзе газеты пісалі: *"Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел навагрудскі ваявода Адам Сакольскі і палкоўнік Адам Квацішэўскі з Вільні. У 10-15 перад ваяводам пачаўся выступ спартсменаў на стадыёне, потым стадыён высвяціў ксендз-дэкан Баярунец. Пасля дэфіляды, у якой між іншым браў удзел гурток планерыстаў і парашутыстаў, ваявода абвясціў фармальны акт адкрыцця стадыёна, аркестр сыграў гімн, і быў узняты сцяг"* [43].

У кастрычніку 1937 г. жыхары вуліцы Маргі прасілі гарадскія улады адрамантаваць іх вуліцу, каментуючы гэтую просьбу, прэса пісала: *"У бягучым годзе, дзякуючы пану бургамістру горада, вуліца Маргі была пашырана і знівелявана, а ходнікі падсыпаны жвірам. Далейшы рамонт вуліцы быў спынены з-за адмовы ўладальнікаў прылеглай да вуліцы зямлі Франца Стасевіча і Мойшы Рыбацкага. Аднак рамонт і падаўжэнне гэтай вуліцы да вуліцы 29-га Студзеня, неабходныя з-за павялічэння руху транспарту па ёй пасля пераносу рынка за Выган"* [44].

У кастрычніку 1937 г. закончылася будаўніцтва новай 20-ці мятровай вежы каля будынка пажарнай аховы[45]. Штат лідскай пажарнай аховы складаўся з добраахвотнікаў, але некалькі чалавек займаліся справай прафесійна. Як і належыць, пажарная ахова мела свой аркестр. На ўзбраенні пажарнай аховы было некалькі конных павозак, а пры канцы 1930-х гг. з'явіліся нават аўтамабілі[46].

Выробленыя раней на гарадской бетанярні і пакладзеныя ў многіх месцах горада на з'ездах і пры злучэнні вуліц бетонныя пліты, праз некалькі гадоў папсаваліся. У 1937 г. замест былых бетонных пліт пакладзены каменныя[47].

Пры канцы кастрычніка ў зале Лідскага староства адбылася інфармацыйная сустрэча лідскага бургамістра Задурскага з прэсай і гараджанамі, падчас якой бургамістр Задурскі выступіў з дакладам пра вынікі рамонтнай кампаніі 1937 г. у горадзе. Ён адзначыў, што калі ў 1921 г. у горадзе жыло 12 тыс. чалавек і было 1100 жылых дамоў і 45 вуліц, дык у 1937 г. Ліда мае 25 тыс. жыхароў, 2400 жылых дамоў і 105 вуліц агульнай даўжынёй 70 км. Задурскі лічыў, што гораду неабходны новая рэзня, халодня і грунтоўная перабудова электроўні. Бургамістр сказаў: *"Да гэтага часу з 5 агульнаадукацыйных школ толькі 2 месяцца ва ўласным будынку. У наступным годзе адчыніцца шостая новая школа на Слабодцы, аднак ёсць патрэба ў 7-й і 8-й школах, якія б маглі замяніць 5 існых прыватных школ. Неабходна яшчэ адна гімназія. Неабходны план разбудовы і развіцця горада. Вуліцы знаходзяцца ў дрэнным стане, і іх неабходна рамантаваць. На рамонт і будаўніцтва вуліц гарадскія ўлады далі каля 150 000 зл. у мінулым годзе і каля 70 000 у гэтым"*. Таксама бургамістр расказаў пра працу над агульным планам развіцця горада: да 1938 г. трэба выканаць працы па абмеру для стварэння карты горада, а план развіцця зрабіць да 1940 г. Карэспандэнт "Кур'ера Віленскага" заўважыў бургамістру, што *"ходнікі на галоўнай вуліцы горада Сувальскай у дрэнным стане, зрэшты, на іншых вуліцах не лепей"* [48].

***Юзаф Задурскі*** *(Jozef Zadurski 1886-1976) - бургамістр Ліды, грамадскі дзеяч, палітык, пасол Сейма.*



***Юзаф Задурскі***

*Адукацыю атрымаў у гімназіі. У час Першай Сусветнай вайны з 1914 г. служыў ў 1-й пяхотным палку легіёнаў, потым у 5-м пяхотным палку легіёнаў, належаў да Польскай вайсковай арганізацыі.*

*З 1918 служыў у польскай арміі . У 1922 годзе стаў вайсковым асаднікам. Пасля заканчэння вайны ён прымаў актыўны ўдзел у сельскагаспадарчых арганізацыях, абіраўся прэзідэнтам розных аддзелаў Асацыяцыі легіянераў польскіх войскаў і Федэрацыі польскага Саюза абаронцаў Айчыны.*

*У 1930-я гады быў бургамістрам Ліды. У Лідзе жыў па вуліцы 3-га Мая.*

*У 1935 годзе ад выбарчай акругі № 50 (Лідскі і Валожынскі паветы) ён быў абраны паслом 4-й кадэнцыі Сейма РП (1935-1938 ), атрымаў на выбарах 44 384 галасоў. У Сейме працаваў у юрыдычнай камісіі.*

*Падчас Другой Сусветнай вайны, трапіў у савецкія лагеры. Быў вызвалены для службы ў польскай арміі і служыў афіцэрам пры штабе Польскага II-га корпуса на Блізкім Усходзе. Атрымаў чын маёра. Перайшоўшы ў запас, працаваў у Лонданскай бібліятэцы. Памёр у Лондане.*

### *1938 г.*

На пачатку года ў Лідскім павеце налічвалася 2000 беспрацоўных[49].

У лютым 1938 г. былі аб'яўлены таргі на выкананне водаправода і каналізацыі ў будынку Лідскага старства[50].

Управа Таварыства сяброў горада Ліды (Towarzystwo Przyjaciol m. Lidy) разаслала паштоўкі ўладальнікам дамоў у горадзе з прапановай упрыгожваць свае зямельныя надзелы кветнікамі[51]. Улетку гэтае Таварыства аб'явіла конкурс на самы прыгожы ў горадзе сад каля дома, самы прыгожы балкон і самае прыгожае акно ў горадзе[52].

Лідская аўтобусная суполка вырашыла пачаць пабудову па-сучаснаму абсталяванага гаража на 20 боксаў з механічнымі варштатамі, складамі, памяшканнямі для абслугоўваючага персаналу і душавымі[53].

На пачатку будаўнічага сезона грамадскі Камітэт разбудовы Ліды атрымаў у Гаспадарчым Краёвым банку 40 000 злотых на дробнае будаўніцтва і рамонт горада. З пазыкі маглі карыстацца тыя, хто распачаў і не закончыў будоўлю ў папярэднія гады, максімальная

сума крэдыту на адну сям'ю - 4 000 злотых[54].

Гарадскія ўлады бралі ў Фондзе Працы пазыку ў памеры 100 000 злотых для будаўніцтва новай гарадской рэзні і 20 000 зл. на разбудову электроўні[55], а Таварыства сяброў горада Ліды атрымала пэўную суму ад Фонду Працы на меліярацыю і нівеляванне балоцістага ўчастка, які знаходзіўся амаль што ў цэнтры горада (каля замка) і заснавання тут гарадскога парку, у траўні 1938 г. на месцы будучага парку ўжо пачалася праца[56].

Як заўжды, у красавіку пачаўся будаўнічы сезон, Гарадская Ўправа прыступіла да рамонту завулкаў старога горада ў раёне рынку. Усе завулкі хутка атрымалі новае пакрыццё і ходнікі, якіх да гэтага часу тут наогул не было[57]. У чэрвені, пасля перанясення гарадскога рынку на новы ўчастак за Выганам, пачаўся рамонт старога рынкавага пляцу ў цэнтры горада. Пляц атрымаў новы каменны брук. На старым рынку засталіся толькі кіёскі і гандаль раслінным і малочным харчаваннем[58].

У траўні Лідскі маторны клуб (Lidzki Klub Motorowy) на агульным сходзе вырашыў пачаць будоўлю станцыі тэхабслугоўвання аўтамабіляў: *"Ліда да гэтага часу не мае станцыі тэхабслугоўвання. У кожным выпадку нават малой паломкі трэба ехаць у Вільню. Лідскі маторны клуб спадзяецца на фінансавую дапамогу самакіравання горада"* [59].

Да канца чэрвеня былі закончаны працы на месцы новага парку каля замка: *"Таварыства сяброў горада Ліда прыступіла да ўпрыгожвання горада. Лужкі каля замка Гедзіміна з боку поўдня да гэтага часу ляжалі без ужытку. Зараз багна часткова асушана і пачалася закладка парку. Хутка будуць закладзены дзіцячыя і гульнявыя пляцоўкі"* [60]. Выканаць работы не паспелі, і багна тут была, калі не памыляюся, да сярэдзіны 1980-х гг.

У ліпені на паседжанні Гарадской рады прынята праграма далейшых інвестыцый у горадзе. Планавалася забрукаваць шмат вуліц у цэнтры горада, перабудаваць некалькі вуліц і нарэшце скончыць будоўлю школы на Слабодцы, новай рэзні і паліклінікі на Выгане. Таксама вырашана пачаць прыстасаванне па-манапольнага гмаху (былы склад алкагольных вырабаў) па вуліцы Сыракомлі пад патрэбы Акруговага суда ў Лідзе. Улетку на гарадскіх працах мелі работу 170 беспрацоўных[61].

Магістрат горада Ліды пачаў абнаўляць платы вакол прыватных і дзяржаўных дамоў. За гарадскія грошы былі агароджаны Плошча Збаўцы, кветнік перад будынкам Гарадской управы і Плошчай Славы плотам у адзіным стылі. *"Калісьці, пры Расіі такім плотам былі агароджаны бульвары ў Вільні. Аднак пасля ўстаноўкі новага плота засталіся два слупы з старым праслам, бо на гэтым прасле была прамысловая рэклама, такім чынам страчана эстэтыка ўсяго плота"* [62].

З лета 1938 г. гарадскія ўлады пачалі патрабаваць, каб новазбудаваныя дамы мелі паштовыя скрыні для кожнай кватэры[63]. Хутка ў цэнтры горада былі ўсталяваны першыя *"жалезныя, ладна стылізаваныя"* 7 урнаў для смецця[64].

Тым жа летам пачалася праграма пабудовы жалезабетонных мастоў у павеце. Тады ж пачалася пабудова новага жалезабетоннага моста цераз рэчку Лідзейку па вуліцы Гражыны. *"Кошт будоўлі 14 000 зл. Работы працягнуцца два месяцы, кіруе імі інжынер Лянчэўскі-Саматы. Стары драўляны мост ужо разабраны. Адначасова вуліца Гражыны атрымала ходнікі. Работы праводзяцца на грошы ваяводскіх уладаў"*[65]. Гэты мост быў цалкам пабудаваны ў лістападзе, але яшчэ працяглы час быў нядзейсны, бо быў адмыслова пабудаваны вышэйшым за ўзровень дарогі ў чаканні рамонту вуліцы Гражыны, які планаваўся толькі ў наступны будаўнічы сезон. Праз гэта транспарт на Навагрудак ездзіў у аб'езд, каля старых могілак[66].

Павятовае староства знаходзілася ў старажытным будынку былога Кармеліцкага кляштара насупраць Фарнага касцёла. Лідскі павятовы стараста Станіслаў Гансоўскі ініцыяваў рэстаўрацыю пакармеліцкіх муроў. Будынку знутры быў вернуты яго старажытны прыгожы архітэктурны стыль, на калідорах першага паверха старанна адноўленыя столі на скляпеннях, як у ранейшыя часы, зроблены ўваход у староства з боку вуліцы Сувальскай, *"дзякуючы чаму Павятовы аддзел атрымаў праход на першы паверх, дзе месціцца Ўправа старасты. Былы ўваход з боку вуліцы маёра Мацкевіча зачынены"* [67].

Пры канцы будаўнічага сезону 1938 г. прэса паведамляла пра стан каналізацыйна-вадаправодных работ ў горадзе: *"Гэтыя работы ўжо цалкам выкананы ў раёне Выгана, на частцы вуліцы м-ра Мацкевіча і 3-га Мая, зараз вядуцца работы па вуліцы Замкавай. Пасля заканчэння каналізацыйна-вадаправодных работ па вуліцы Замкавай, дамы тут будуць абароненыя яшчэ і ад падтаплення рэчкай Лідзейкай. На працяг водаправодна-каналізацыйных работ ў Лідзе Фонд Працы выдзеліў яшчэ 6 000 зл."* [68]. Пасля заканчэння будаўнічага сезону пачалося праектаванне каналізацыі і водаправода ва ўсім горадзе[69]. У снежні 1938 г. для правядзення праектных работ і працягу каналізацыйна-вадаправодных работ ў 1939 г. Фонд Працы выдзеліў 75 000 злотых. Планавалася, што ў 1939 г. галоўныя вуліцы горада будуць мець водаправод і каналізацыю[70].

У сярэдзіне 1938 г. у нашым горадзе жыло 26622 чалавек (12 814 мужчын і 13 808 жанчын). У параўнанні з 1921 г. колькасць гараджан павялічылася на 16 000 чалавек. Не глядзячы на тое, што кожны год у горадзе будуюцца каля 400 кватэр і жылых дамоў, гарадскімі ўладамі канстатаваўся недахоп памяшканняў жылога фонду[71]. Прэса таксама пісала пра тое, што горад не мае добрых гатэляў: *"Ніводзін з 8-мі лідскіх гатэляў не мае тых выгод, якія павінны быць у гатэлях сучаснага 30-ці тысячнага горада. Ніводзін з гатэляў не мае лазні. Але пры кожным гатэлі абавязкова ёсць рэстаран, у якім радыё ці аркестр сваёй музыкай не дазваляюць пастаяльцам ноччу спаць"* [72].

***1939 г.***

На пачатку года Фонд Працы выдзеліў Лідзе 100 000 злотых для працягу будоўлі рэзні, 30 000 злотых для будоўлі вуліц і ходнікаў, Міністэрства Сацыяльнай апекі выдзеліла гораду 40 000 злотых для працягу будаўніцтва паліклінікі па вуліцы Нарутовіча[73].

На студзеньскім паседжанні Гарадской Рады Гарадская Ўправа была ўпаўнаважана зрабіць закупы дрэва для гарадскіх будаўнічых работ. Па льготнай цане горад закупляў 1253 кубічныя метры будаўнічага лесу і 103 000 жэрдак для будаўніцтва агульнаадукацыйнай школы № 5, гарадской рэзні і паліклінікі[74].

У лютым Гарадская Ўправа выдала загад, які абавязваў уладальнікаў дамоў утрымліваць сваю маёмасць у добрым стане: *"Уладальнікі нерухомасці, у тым ліку і недабудаванай ..., павінны стала ўтрымліваць у парадку і чыстаце: двары, выезды, лесвічныя клеткі, дахі, прыступкі, злівы, уваходы ў падвалы і сутарэнні. Штодзённа, да 7 гадзін раніцы, месці ходнікі і вуліцы да паловы шырыні перад фронтам свайго пляцу. У кожным прыватным доме, у адпаведнай адлегласці ад студні, пабудаваць сметнік. Своечасова фарбаваць будынкі і агароджы, прычым колер павінен адпавядаць колеру суседніх будынкаў. Забрукаваць даезды да падворкаў шырынёй не менш за 3 м., забрукаваць стокі вады, незабрукаваныя часткі двароў засадзіць травой. ... прыкласці стараннi для паляпшэнне агульнай эстэтыкі праз упрыгожванне балконаў і вокнаў, пасадку дрэваў, кустоў і жывых платоў"* [75].

У тым жа месяцы газета "Слова" паведаміла, што Дэпартамент сацыяльнага забеспячэння ў 1939 г. выдзяляе Лідзе 3 000 000 злотых для будаўніцтва новых дамоў. Увесну планавалі пачаць будаўніцтва вялікага дома на 100 кватэр з усімі выгодамі: вадой, ацяпленнем, каналізацыяй. Далей павінны былі пачаць будаўніцтва гмаха, для розных ўстаноў і грамадскіх арганізацый, туды ж павінен быў пераехаць і Лідскі аддзел Сацыяльнага страхавання. Да пачатку вайны паспелі набыць пляцоўкі для гэтага маштабнага для нашага горада будаўніцтва па вуліцы 17 Красавіка, каля калоніі дзяржаўных дамоў[76].

Першасна быў распрацаваны план развіцця нашага горада і з мэтай правядзення экспертызы, перададзены вядомаму урбаністу, начальніку аддзела ўрбаністыкі Варшаўскай управы, інжынеру Чарнаму-Шварцэнбергу[77]. Пасля экспертызы, у жніўні 1939 г., Гарадская Рада ў Лідзе прадоўжыла працу над агульным планам развіцця. Сярод іншага план прадугледжваў будаўніцтва водаправода, каналізацыі і цвёрдых паверхняў вуліц па ўсім горадзе[78], але прэса крытыкавала план за тое, што ў ім не прадугледжваліся добрыя відарысы на галоўны помнік Лідчыны - замак[79].

Увесну гарадскія ўлады прадалі пляц у 2 000 м$^2$ (0,5 зл. за 1 м$^2$, каля паліклінікі, якая будавалася ў той час) Лідскаму аддзелу Звязу настаўнікаў для будаўніцтва Дома настаўніка і пляц па адрасе: вуліца Гражыны для будаўніцтва станцыі тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў 6 [80].

З прыходам вясны пачалася рэалізацыя планаў Лідскіх аўтобусных суполак па будаўніцтве аўтагаражоў: *"... калі не атрымалася набыць пляц пад будаўніцтва ва ўсходняй частцы горада, было знойдзена адпаведнае месца ў новай частцы горада"* [81].

Гарадскія ўлады выдзелілі 15 000 злотых на будаўніцтва па ўсяму горадзе ўзорных студняў[82] і пачалі будаваць новыя жалезабетонныя масты цераз Лідзейку, адзін па дарозе на Раслякі[83], другі ў Наваградцах[84].

Аднавіўся рамонт вуліцы Гражыны, былі пабудаваны новыя ходнікі і нарэшце пачаў працаваць мост цераз Лідзейку, пабудаваны яшчэ ў 1938 г. [85].

У чэрвені у Лідскай Гарадской Радзе адбылася дыскусія. Справа ў тым, што клуб, які зваўся "Польскі рэсурс" (Resursa Polska, вуліца Мацкевіча, 41), падаў заяўку на пакупку зямельнага пляца па льготным кошце. У заяўцы апісвалася роля "Рэсурса" ў развіцці грамадскага жыцця горада і народнай асветы, у Радзе клуб горача прадстаўлялі дэпутат Зыгмунт Стасевіч (ад народнай дэмакратыі) і Ізідор Керзнер (ад яўрэйскай супольнасці горада). Аднак у разгарэўшыся спрэчках, высветлілася, што "Польскі рэсурс" з'яўляецца "звычайнай кнайпай", сталымі кліентамі якой з'яўляюцца 60 *"старанна адабраных інтэлігентаў, якія маюць прыемнасць у любы час дня і ночы ўжываць тут моцныя напоі"*. У якасці аргументу супраць "Рэсурса", дэпутаты таксама казалі, што нават паважанай фірме, якая дае шмат рабочых месцаў і плаціць вялікія падаткі ў скарб горада, толькі што прадалі зямельны надзел па 50 злотых за 1 м$^2$. І Гарадская Рада адхіліла просьбу "кнайпы" [86].

Улетку 1939 г. непрыгожыя бляшаныя шыльды з назвамі вуліц былі замены на эстэтычная надпісы, выкананыя з літар накладзеных на тынк будынкаў[87].

### 3. Знаходкі пад час рамонту і перабудовы вуліц

Старыя вуліцы горада стагоддзямі не мянялі свой кірунак, і таму не дзіва, што, масавыя работы па пракладцы каналізацыі, ліній сувязі і электрычных кабеляў ў 1936-1938 гг. прынеслі шмат цікавых знаходак.

У невялікай зацемцы "Ахвярны камень ці гарматнае ядро?" у жніўні 1936 г. газета "Слова" паведамляла, што падчас земляных работ на Пляцы Піяраў ў Лідзе на глыбіні 4 метры работнікі знайшлі гладкія камяні сферычнай формы і аднолькавага памеру. Яны ляжалі ў спаленым збожжы, *"што дазваляе меркаваць, што яны паходзяць з эпохі паганскай Літвы. Гэта падобна да месца пахавальнага абраду. Піяры сцвярджаюць, што камяні маюць значна больш пазнейшае паходжанне - з часоў уварвання шведаў, якія нібыта выкарыстоўвалі гэтыя камяні як гарматныя ядры"*[88].

У тым жа годзе пры будаўніцтве новага рынку за Выганам знойдзены 18 парэшткаў польскіх жаўнераў, якіх бальшавікі расстралялі падчас польска-бальшавіцкай вайны. Парэшткі перазахавалі на Лідскіх вайсковых могілках[89].

Пры канцы лета 1937 г. падчас земляных работ

на вуліцы Чырвонай і Сувальскай знайшлі два збуцьвелыя чалавечыя шкілеты, парэшткі перахаваныя на парафіяльных могілках[90].

Адначасова з будаўніцтвам пошты, замест старых ліній сувязі на слупах, будаваліся новыя, падземныя кабельныя лініі сувязі. Пры пракладцы тэлефонных кабеляў да новай пошты па вуліцы Міцкевіча, у 1937 г. тут знойдзены парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, што згарэла ў першай палове XVIII ст. ... . Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы"* [91].

На пачатку верасня 1937 г. пад час устаноўкі фундамента пад кіёск Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP) на плошчы Збаўцы былі знойдзены падмуркі былога касцёла кармелітаў[92], разабранага ў 1909 г. Пры канцы верасня "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Зноў натрапілі на сляды могілак у цэнтры горада. Нядаўна пры пракладцы каналізацыі на вуліцы 3-га Мая насупраць гмаха староства (былога будынка кляштара) знойдзены косткі людзей. Зараз зноў пры капанні равоў і ўкладцы трубаў для тэлеграфных кабеляў да новага будынка пошты, у некалькіх месцах па вуліцы Сувальскай знойдзены людскія косткі. З гэтага вынікае, што ў самым цэнтры горада, на перакрыжаванні вуліц 3-га Мая і Сувальскай былі старыя могілкі"* [93]. Як вядома, тут былі могілкі кляштара Кармелітаў[94].

### 4. Стыль фунцыяналізму ў Лідзе

У нашым горадзе з 1930 г. захаваліся некалькі цудоўных будынкаў у стылі функцыяналізму.

Функцыяналізм як архітэктурны стыль паўстаў напачатку XX ст. як адзін з асноўных элементаў больш агульнага мадэрнізму. Паварот да мадэрнізму ўзнік у літаратурных пошуках, у знаходках жывапісу, у першых аўтамабільных пробках, у авіяцыі, радыё, жалезабетоне і сталі, у кашмарах Першай Сусветнай і рэвалюцыях як новае разуменне матэрыяльнага свету і адбіўся ў архітэктуры самым зыркім і рашучым чынам.

Асновай ідэалогіі функцыяналізму ў архітэктуры стала стварэнне самымі сучаснымі спосабамі і канструкцыямі такіх формаў, якія павінны забяспечыць найлепшае функцыянаванне аб'екта, пры тым усё залішняе адкідалася. Працэсы, дзеля рэалізацыі якіх пабудаваны будынак, раён ці нават горад павінны атрымаць найболей зручную і тэхналагічную абалонку ці матэрыяльную базу. "Форма павінна адпавядаць функцыі" - вось лозунг функцыяналізму.

Асноўным ідэалагічным і практычным цэнтрам функцыяналізму стаў творчы цэнтр "Баўхаўс" (праектна-даследчы цэнтр дызайну) у Нямеччыне, пачынаючы з 1920 гг. тут вядуца тэарэтычныя даследванні і прыкладное праектаванне. Стваральнік і кіраўнік Баўхаўса, найбуйнейшая постаць функцыяналізму Вальтар Гропіюс (Gropius, Walter, 1883-1969) быў аўтарам шматлікіх помнікаў гэтага рэвалюцыйнага стылю. Класічны прыклад гэтага кірунку - будынак самаго "Баўхаўса" ў Дэсаў (Bauhaus, Dessau) архітэктара В. Гропіюса, пабудаваны ў 1925-26 гг.

Французскі архітэктар Ле Корбюззе, адзін з найбольш вядомых творцаў функцыяналізму, унёс галоўны ўнёсак у тэорыю і практыку гэтага стылю. Яго ідэі ў горадабудаўніцтве, у тэорыі масавага індустрыяльнага жытла, рэалізаваныя ў будынках і праектах, і дагэтуль актуальныя. Гэты сапраўдны вялікі архітэктар сучаснасці напоўніў тэорыю функцыяналізму ідэалагічна і практычна, яго знакамітыя прынцыпы пабудовы масавага індустрыяльнага жылога дома (дом на апорах, плоскі дах-сад, стужкавае ашкленне і г.д.) выкарыстоўваюцца і сёння.

Функцыяналізм патрабаваў строгай адпаведнасці формы будынка яго функцыям і адмове ад усяго, што не патрэбна для ўжытку. Архітэктурныя формы павінны былі адпавядаць будаўнічым канструкцыям і матэрыялам. Па-новаму выбудоўвалася мастацкая выява архітэктурнага твора. З эстэтычнага пункта гледжання новая архітэктура, пазбаўленая ўпрыгожвальніцкіх празмернасцяў, павінна была ўспрымацца чалавекам падчас руху ў ёй і вакол яе (адзінства прасторы і часу). Ідэолагі новай архітэктуры прадугледжвалі стварэнне ўмоў для зручнага і хуткага перасоўвання людзей у архітэктурна-прасторавым асяроддзі. Унутраная прастора памяшкання станавілася дынамічнай, як бы "перацякала", "вольна пераліваласяз інтэр'еру ў інтэр'ер". Значнае зашкленне стварала магчымасць яднання чалавека з вакольнай прыродай. Сэнс фунцыяналізму ў лаканічнай і яснай пабудове. Характэрныя для функцыяналізму архітэктурныя формы - плоскія дахі, буйныя плоскасці шкла, поўная адсутнасць таго, што канструктыўна не патрэбна.

З канца 1920-х гг. архітэктурны стыль функцыяналізму з'явіўся і ў Цэнтральнай Еўропе. У нашым горадзе захавалася некалькі цудоўных узораў гэтага стылю. А зараз трохі з гісторыі будаўніцтва і пачатку эксплуатацыі гэтых будынкаў ў Лідзе.

#### *Будынак Лідскай пошты*

Сапраўднай пярлінай функцыяналізму ў нашым горадзе з'яўляецца будынак пошты. У сярэдзіне 1930-х гг. паштовыя гмахі ў стылі функцыяналізму таксама былі пабудаваныя ў Гдыні, Быдгашчы, у заходнеўкраінскім Луцку і заходнебеларускай Лідзе. Паштовыя будынкі ў Быдгашчы і Луцку - родныя браты лідскага, але не гледзячы на тое, што гэтыя гарады ў той час, як і цяпер, мелі большую колькасць насельніцтва, чым Ліда, Лідская пошта ўсе ж большая па памерах і прыгажэйшая. Цікава, аднак, што згодна з гарадской легендай, будынак пошты ў Быдгашчы, як ў і Лідзе, як быццам будаваўся па праекту англійскіх архітэктараў, пра англійскага архітэктара Лідскай пошты піша і Леў Коласаў[95].

На жаль да гэтага часу мне не ўдалося знайсці апісанне архітэктурнага праекту і выявіць прозвішча архітэктара, які праектаваў нашу пошту і падарыў нам, можа, самы стылёвы будынак у горадзе. Неаднаразова чуў ад адмыслоўцаў, што гэты прыгожы будынак з сты-



***Пошта ў Лідзе, пярэдні фасад***



***Пошта ў Лідзе, выгляд з тылу***





***Шкляны дах аперацыйнай залы на пошце ў Лідзе***

лёвымі кратамі на вокнах лёгка ўявіць сабе на самай фешэнебельнай вуліцы еўрапейскага горада. Нават больш позняя мазаіка знутры перакрытай зверху светлавымі вокнамі аперацыйнай залы, арганічна ўпісалася у інтэр'ер будынка. І самае галоўнае - ніякія рамонты не сапсавалі гмах Лідскай пошты.

Першае паведамленне пра пачатак будаўніцтва новай Лідскай пошты я знайшоў у жнівеньскім нумары 1936 г. газеты "Кур'ер Віленскі", у гэтым нумары Дырэкцыя поштаў і тэлеграфаў Віленскай акругі абвясціла публічныя таргі на будаўніцтва гмаха Лідскай пошты[96], а праз некалькі месяцаў, у снежні 1936 г., тая ж Дырэкцыя абвясціла таргі на выкананне работ па мантажы сістэмы цэнтральнага ацяплення, каналізацыі і водаправода[97].

У студзеньскім нумары 1937 г. газеты "Кур'ер Віленскі" ў найцікавейшым артыкуле "Ліда - горад вялікіх мажлівасцей" пісаў: *"Выган - участак горада, зарослы хмызняком і забалочаны, зараз хутка забудоўваецца. Яшчэ ў 1920 гг. тут у багне танула жывёла, якую выводзілі сюды пасвіцца, а тых людзей, якія хацелі прайсці напрасткі, чакаў такі ж лёс.*

*Аднак пасля ўрэгулявання рэчкі і меліярацыі балота тут была пабудавана калонія дамоў для дзяржаўных чыноўнікаў, паўсталі прыгожыя гмахі школы і гімназіі, пачалося будаўніцтва найвялікшага ў Навагрудскім ваяводстве стадыёна плошчай 3,85 га з бегавой дарожкай працягласцю ў 500 м., пачалося будаўніцтва прыгожага будынка пошты агульным аб'ёмам 10 000 м³, якая будзе па-сучаснаму абсталявана. Сюды ж плануецца перанесці гарадскі рынак"*[98].

Праз некалькі месяцаў віленская прэса зноў паведаміла, што ў 1936 г. пачалося будаўніцтва гмаха новай пошты ў Лідзе. Будоўлю планавалася закончыць у 1937-38 г. Да 1937 г. ужо былі пабудаваныя два паштовыя гмахі ў Вільні, пачалося будаўніцтва новай пошты ў Баранавічах агульным аб'ёмам 13 000 м³, планаваліся новыя будынкі пошты ў Гародні, Друскеніках, Шчучыне, Гарадзеі, Клецку і Маладзечне[99].

Ажыўленне ў эканоміцы, якое назіралася ў другой палове 1930 г., спрыяла развіццю тэлефонных сетак на Лідчыне. За 1937 г. колькасць тэлефонных абанентаў на Лідчыне вырасла на 1/5 і дасягнула колькасці ў 218 абанентаў. Штомесячны грашовы абарот лідскіх тэлефаністаў дасягнуў 10 000 зл., усе пашкоджанні на лініі рамантаваліся не болей, чым за 4 гадзіны, на тэлефоннай станцыі працавала 6 высокакваліфікаваных тэлефаністак[100].

У красавіку 1937 г. заказчык будоўлі - Дырэкцыя пошты і тэлеграфу ў Вільні аб'явіла таргі на мантаж электраабсталявання ў новым будынку Лідскай пошты[101].

Будаўніцтва гмаха пошты рухаецца наперад. У траўні 1937 г. паведамлялася, што *"ў найбліжэйшыя месяцы ў новым раёне горада каля гімназіі паўстане другі гмах коштам больш за мільён злотых* (першы мільённік гэта - будынак гімназіі - *Л.Л.*). *Тут будзе ліставая пошта, тэлеграф і тэлефон. У памяшканнях вышэй ад першага паверха размесціцца персанал ліставой пошты, аддзелаў тэлеграфу і тэлефону, кіраўнікоў гэтых аддзелаў"* [102]. У тым жа артыкуле паведамлялася, што гарадскія ўлады арганізавалі покуль адзіны гарадскі парк у цэнтры горада на плошчы Славы. На плошчы сад, у якім стаіць помнік Незалежнасці, засаджаны кветкамі і выгараджаны часткова плотам, а часткова кустамі. Таксама некалькі тыдняў таму стараннямі Фонду Працы вуліцы Школьная (Кірава), 11 Лістапада (7 Лістапада) і Каляёвая (Труханава) атрымалі новыя дарожныя пакрыцці, ходнікі і газоны. Такія ж працы пачаліся па вуліцах Перацкага, Пілсудскага (Чапаева), генерала Бярнацкага. Па вуліцы Школьнай, улічваючы будынак пошты, гарадскія ўла-ды арганізавалі работы па мантажы каналізацыі. Для гэтага быў выкапаны роў даўжынёй у 25 метраў на зямлі, якая належала яўрэйскай грамадзе горада, і ў якой ніхто не прасіў дазволу. З-за пратэсту яўрэйскай грамады, работы на нейкі час былі прыпынены[103].

Ужо ў кастрычніку 1937 г. корпус гмаха пошты быў зроблены "пад дах" і пакрыты. Узімку планавалі пачаць унутраныя работы, таму частковае адкрыццё новай пошты магло адбыцца яшчэ ўвесну 1938 г.[104] Але будаўнічыя працы затрымліваліся.

Разам з будаўніцтвам новай пошты, пракладваліся падземныя камунікацыі: *"Ліда будзе мець падземныя тэлефонныя кабелі. Як і ў вялікіх гарадах, у Лідзе закладаюцца трубы для пракладкі тэлефонных сетак. Гэтыя работы выконваюцца на галоўных вуліцах горада"* [105].

Бліжэй да заканчэння будаўніцтва гмаха, у траўні 1938 г. лідскія паштавікі пачалі атрымліваць новую тэхніку: *"Матарызацыя пошты. Управа пошты і тэлеграфу ў Лідзе атрымала 5 аўтамабіляў маркі "Польскі фіят". Цяпер конны воз для дастаўкі пошты будзе служыць толькі там, дзе аўтамабіль не зможа праехаць"* [106].

У чэрвені 1938 г. пачаліся ўнутраныя работы, чакалася здача новага шматпавярховага Паштоватэлеграфнага гмаха ў эксплуатацыю ў жніўні ці верасні таго ж года[107]. Будаўнікі павінны былі закончыць працы да 1 верасня, бо ў старым, драўляным будынку пошты планавалася размясціць новую гімназію: *"Дзве новыя гімназіі ў Лідзе. Патрэба ў новай агульнаадукацыйнай гімназіі ў Лідзе вельмі вялікая. Штогод значная частка моладзі не можа знайсці месца ў адзінай гарадской гімназіі. Напрыклад, у гэтым годзе з-за недахопу месцаў толькі каля 30% ахвочых змаглі паступіць у гімназію. Таму Саюз асаднікаў вырашыў адчыніць сваю гімназію. Улады ўхвалілі праект. Ужо знойдзены грошы і выбрана памяшканне - у будынку старой гарадской пошты па вул. Сувальскай. Калі ўсё будзе добра, дык увосень у Лідзе з'явіцца новая гімназія. Тым часам сваю купецкую гімназію плануюць адчыніць і яўрэі горада"* [108].

Хутка стала зразумела што да 1 верасня здаць у эксплуатацыю новы паштовы гмах не паспеюць: *"Пошта ў гатэлі? Будаўніцтва паштовага гмаха ў Лідзе марудна пасоўваецца наперад. Паштовыя ўлады ўсімі сіламі рупяцца паскорыць тэрмін адкрыцця новай пошты, з-за хутка развіцця горада даўно пара было б вырашыць гэтую праблему. Калі ўсё ж будоўля затрымаецца, лідскія паштовыя ўлады будуць змушаны браць за ўзор вырашэнне праблемы з зацягваннем будаўніцтва пошты № 2 у Вільні - там новая пошта часова пераехала ў гатэль. Здаецца, такі самы лёс чакае і пошту ў Лідзе"* [109]. Новая гімназія размясцілася ў будынку старой школы № 4 па вуліцы Каштанавай (зараз СШ № 10 па вуліцы Паўліка Марозава) бо гэтая школа пераехала ў новы, прыгожы будынак, які існуе і зараз, пра гэты будынак - ніжэй.

Гарадскія ўлады к моманту адкрыцця новай пошты рыхтавалі вуліцу Міцкевіча: *"Вуліца Адама Міцкевіча. Запраектаваная ў свой час на Выгане вул. Адама Міцкевіча дачакалася ўладкавання і цвёрдага дарожнага пакрыцця. Забрукоўка вуліцы ідзе ў паскораным тэмпе з-за хуткага заканчэння будоўлі і адкрыцця новай гарадской пошты. З моманту перанясення пошты ў новы гмах, частка руху з вуліцы Сувальскай аўтаматычна скіруецца на Выган, таму вуліца Міцкевіча, на якой стаіць новая пошта, ажыве"*[110].

У другой палове жніўня будоўлю новага гмаха наведаў міністр пошт і тэлеграфаў Польшчы Калінскі. Было вырашана, што новая пошта пачне працаваць да 7 верасня 1938 г., а стары будынак будзе перададзены прыватнай гімназіі[111].

Адразу пасля пачатку працы, выявілася нечаканая праблема: *"Барыкада з ровараў каля новай пошты. З моманту перанясення бюро паштоватэлеграфнай управы ў новы будынак па вуліцы Міцкевіча, у часы перад поўднем рух кур'ераў з розных арганізацый значна вырас, прычым кожны з іх карыстаецца роварам. Таму на вуліцы перад новай поштай заўжды ляжыць барыкада з ровараў"* [112].

Тым не менш, у нашым горадзе з'явілася, магчыма, самая прыгожая вуліца, якая, аднак у першыя месяцы не мела нават вулічнага асвятлення: *"Самая новая вуліца Ліды без асвятлення. Да часу пераносу пошты ў новы гмах на Выгане гарадскія ўлады парупіліся аб поўнай перабудове вуліцы Міцкевіча. Вуліца ўпарадкавана на ўзор цэнтральных вуліц горада, перад гмахам пошты нават заасфальтавана, што з'яўляецца абсалютнай навінкай для Ліды. Ходнікі вельмі шырокія і з прыгожымі газонамі. Вуліца Адама Міцкевіча ў Лідзе сваім выглядам можа канкураваць з лепшымі вуліцамі Вільні. Але толькі ўдзень, бо ўвечар пануе на ёй егіпецкая цемра. Няма ані адной лямпы. Чаму кіраўніцтва гарадской электроўні не звяртае на гэта ўвагі?"* [113]. Дарэчы, з гэтага тэксту выцякае, што першай заасфальтаванай вуліцай горада была вуліца Міцкевіча.

Пасля пераносу гарадской пошты ў новы будынак, паштовая ўправа выпрацавала новы план дастаўкі

карэспандэнцыі. Горад быў падзелены на 10 раёнаў (да гэтага часу пошту разносілі 8 паштальёнаў, стала 10), прычым карэспандэнцыя жыхарам горада пачала дастаўляцца два разы ў дзень. Часы дастаўкі пошты сінхранізаваліся з прыбыццём варшаўскіх і віленскіх цягнікоў у Ліду, дзякуючы чаму, кожны жыхар атрымліваў цэнтральныя газеты і астатнюю пошту першы раз каля 9 раніцы. Гэта было вельмі значанае паляпшэнне паштовай справы горада. За добрую арганізацыю працы, начальнік Лідскай пошты Батаровіч заслужыў вялікую павагу ў гараджан[114].

Але ганаровае асвячэнне новага будынка пошты адбылося толькі на пачатку траўня 1939 г. Верагодна, толькі да гэтага часу быў цалкам закончаны мантаж абсталявання. "Кур’ер Віленскі" пісаў: *"У межах святкавання свята 3-га Траўня* (Дзень Канстытуцыі 1794 г. - *Л.Л.*) *адбылося ўрачыстае асвячэнне пабудаванага коштам 524 000 зл. гмаха Паштовай Управы. Пасля асвячэння будынка ксяндзом-дэканам Г. Баярунцам, прадстаўнік міністэрства Поштаў і Тэлеграфаў, пан дырэктар Шпачынскі сказаў прыгожую прамову. За ім выступіў дырэктар Віленскай Акругі Поштаў і Тэлеграфаў пан Навіцкі, які расказаў пра ўмовы пабудовы гмаха і адзначыў, што Ліда ляжыць на лініі, якая злучае паўночны ўсход са сталіцай. Ад імя гараджан выступіў дырэктар гімназіі асаднікаў пан Мэнжык"* [115]. Адзначым, што замест першапачатковай сумы ў мільён злотых, новы будынак з абсталяваннем абышоўся ў 524 тысячы. Цікава, на чым з'эканомілі?

Дарэчы, працаваць на пошце было прэстыжна працоўныя дабраераблялі. Мемуарыстка Я. Ярмант, дачка лідскага чыгуначніка, пісала пра знаёмую лідскую сям'ю: *"Пан Коркут займаў нядрэнна аплачваную пасаду на пошце. Ён спачатку працаваў у старым будынку на Сувальскай вуліцы, а пазней у новым прыгожым будынку пошты на вуліцы Міцкевіча. Яго ні разу не скарачалі, і сям'я Коркут была лепш, чым мы забяспечана матэрыяльна"* [116].

Будынак Лідскай пошты - гэта сапраўдны шэдэўр стылю функцыяналізму. Вельмі добра, што гэты сапраўдны помнік архітэктуры першай паловы XX ст., знаходзіцца пад дзяржаўнай аховай.

### *Эпідэмічны корпус шпіталя*

У кастрычніку 1935 г. староства Лідскага павета аб'явіла таргі на дастаўку будаўнічых матэрыялаў[117], а ў ліпені 1936 г. таргі на выканне работ па будаўніцтву эпідэмічнага корпуса Лідскага шпіталя[118].

Асвечаны новы шпітальны гмах, прызначаны для лячэння заразных захворванняў, у лютым 1938 г., калі ў Лідзе праводзіўся з'езд лекараў. Новы будынак меў кубатуру каля 3 000 м$^3$, сучасны еўрапейскі выгляд і найлепшае медыцынскае абсталяванне. Каштаваў ён каля 130 000 злотых. Новы шпітальны корпус падзяляўся на 4 аддзелы. Першы з іх, даглядны аддзел, складаўся з кабінета лекара, пачакальні і трох ізалятараў, астатнія тры аддзелы прызначаліся для лячэння інфекцыйных хворых. На другім паверсе знаходзіўся





*Эпідэмічны корпус шпіталя, зараз оталарынталогія*




*Калектыў эпідэмічнага шпіталя*

аддзел хворых на сухоты на 12 ложкаў. На плоскім даху шпіталя запраектавана і дзейнічала веранда для лёгачна-хворых. Новы шпіталь меў памяшканні для 2 медсясцёр і 3 санітарак. Уся інфекцыйная бальніца была разлічана на 22 асобы, але пры неабходнасці, без пагаршэння агульнага камфорту тут могло лекавацца 39 хворых.

Пад шпіталем збудавана жалезабетонная супрацьпаветраная схована са скляпеннямі, якія мелі 35 см. таўшчыні. Плоскі дах быў пакрыты адмысловым найноўшым на той час будаўнічым матэрыялам "Конга". Над дахам месціліся водазборнікі, з якіх ў той час давалася вада ва ўсе бальнічныя карпусы.

Новы шпіталь меў цэнтральнае ацяпленне і сучаснае электраабсталяванне з дзвюмя сістэмамі асвятленя - вячэрняй і начной. Да кожнага ложка была падведзена разетка радыёфікацыі.

Будаўніцтва новага гмаха кіраваў павятовы архітэктар Вацлаў Галік.

Пасля пачатку працы новага вызваліўся стары інфекцыйны корпус. У старым корпусе у трох памяшканнях планавалася абсталяваць рэнтгенаўскі кабінет, а ў астатніх - амбулаторыю, якой у горадзе пакуль не было. Амбулаторыя павінна была месціцца тут ажно да часу, пакуль не будзе пабудавана новая паліклініка (Osrodek zdrowia). Паліклініку павінны былі будаваць на пляцы каля шпіталя, будоўлю пачаць ужо ўвесну 1938 г. і закончыць у 1939 г.[119]

Дырэкцыя шпіталя ў Лідзе, пасля пераводу хворых у новазбудаваны корпус на 22 ложкі, прыступіла да грунтоўнага рамонту старога шпітальнага корпуса, пабудаванага ў 1922 г. на грошы Амерыканскага Чырвонага Крыжа[120].

### *Школа на Слабодцы*

Школу № 4 на Слабодцы (сучасная школа № 10 на Слабадзе) пачалі будаваць у 1936 г. Улетку 1937 г. "Кур'ер Віленскі" паведамляў, што два паверхі ўжо пабудаваны, *"у школе будзе 12 аўдыторных памяшканняў, лабараторыі, кабінеты настаўнікаў, пакой адпачынку, гардэроб, прыбіральні і памяшканне для вартаўніка. Кошт будынка 135 000"* [121]. *Тады ж на будаўніцтва школы гарадскія ўлады дадаткова атрымалі ад Фонду Працы 10 000 злотых*[122]. *У лістападзе 1937 г. "гарадскія ўлады дадаткова атрымалі 10 000 ад Фонду Працы для заканчэння будаўніцтва школы № 4"* [123].



*Школа на Слабодцы № 4, зараз школа №10 на Слабадзе*

У ліпені 1938 г. гарадскія ўлады вырашылі *"нарэшце закончыць будаўніцтва школы на Слабодцы"*[124] таму, верагодна, першых вучняў гэтая школа прыняла 1 верасня 1938 г.

Новая школа была самай прыгожай у павеце[125].

### *Яўрэйская школа*

Па вуліцы Садовай знаходзілася адкрытая Тарбутам[126] школа другой ступені, так званая "Тарбут-школа". Ад гэтай школы да нашага часу захавалася бакавая сцяна, да якой пасля вайны была зроблена дабудова (гэтая велічная фасадная сцяна знаходзіцца зараз за гарадской бібліятэкай[127], гэтая сцяна - адзінае, што засталося ад пабудоў старога цэнтра горада). Гэтую Тарбут-школу, дырэктарам якой быў Ханан Ілютовіч, наведвала 500 вучняў, пры канцы 1930-х гг. стары будынак стаў замалы і яўрэйская грамада пачала будаваць трохпавярховую новую "Тарбут-школу" [128]. *"Новая школа ў Лідзе. Па вуліцы Касцюшкі адбылася ўрачыстая закладка каменя пад гмах яўрэйскай школы, якую будуе Аб'яданне яўрэйскіх школ у Лідзе"*[129].

Былы жыхар Ліды Якаў Ілютовіч пісаў: "*Будаўнічы камітэт быў абраны, з прадстаўнікоў "Тарбуту" і бацькоў. ... Будаўнічая пляцоўка была набыта бясплатна ў магістрата недалёка ад дзяржаўнай польскай школы. Яўрэйскае насельніцтва Ліды давала грошай, колькі могло. Сегал даваў цэглу з сваёй фабрыкі, тартакі давалі дрэва, а жалеза дала фабрыка Чартка-Штэйнберга. Мецэнаты-купцы Шымон Пупко і Пінхас Рабіновіч далі цэмент. ... З вялікім напружаннем была пабудавана трохпавярховая школа з залай для гімнастыкі і цёплым туалетам. Адбылося вялікае наваселле, на якое было запрошаны шмат гасцей, асобна для бацькоў зрабілі пасядзелкі з "тортам і каньяком". ... Гэта было вялікае свята. ... Школа перажыла вайну ..., і адразу пасля вайны тут была нейкае савецкая ўстанова. Гэта разбіла мне сэрца"* [130].

Верагодна гэта школа была дабудавана яшчэ



*Сцяна былой "Тарбут-школы"*


"Тарбут-школа", цяпер Дзіцячая школа мастацтваў

да Другой сусветнай вайны, магчыма нават за Саветамі. Цяпер тут знаходзіцца Дзіцячая школа мастацтваў. Пабудова моцна зменена рамонтам да Дажынак 2010 г.

### Паліклініка

Гэты будынак на вуглу сучасных вуліц Кірава і Перамогі на карце горада 1939 г., якая надрукаваная ў канцы кнігі Я. Ярмант "В тени замка Гедемина" па-


Паліклініка

значана як "Паліклініка" [131], але ўпэўненасці ў гэтым няма, бо ў 1938-39 гг. паліклініка будавалася каля сучаснай бальніцы.

Цяпер у гэтым будынку знаходзяцца розныя медычныя ўстановы горада. Але будаваўся гэты гмах з іншымі мэтамі. У лістападзе 1937 г. віленская газета "Слова" пісала: *"Будзе паважны гатэль. Пры збегу вуліц Школьнай і Фалькоўскага, жыхар Жалудоцкай гміны Ян Урбановіч, у адпаведнасці з апошнімі архітэктурнымі патрабаваннямі, прыступіў да пабудовы вялікага мураванага чатырохпавярховага гмаха, у якім плануе размясціць кіназал, рэстаран і гатэль для прыезджых. Трэба адзначыць, што гатэльная справа ў Лідзе з'яўляецца вялікай балячкай, бо дагэтуль гатэляў не хапае"* [132].

У адным з памяшканняў гэтага будынка да нашага часу захаваўся камін.

### Прыватныя дамы

У Лідзе захаваліся чатыры жылыя дамы ў стылі функцыяналізму. На жаль, знешні выгляд усіх гэтых будынкаў незваротна зменены падчас сучасных рамонтаў.

Пры канцы 1937 г. газета "Кур'ер Віленскі" пісала: *"Разбудова горада Ліды ідзе хуткімі тэмпамі. Адначасова з будоўляй публічных (новая 7-мі класная агульнаадукацыйная школа на Слабадзе, гмах Пошты і Тэлеграфа) хутка з'яўляюцца прыватныя дамы. У апошні час з'явілася ў Лідзе некалькі ладных, эстэтычных і ў сучасным стылі пабудаваных дамоў. Два вельмі прыгожыя двухпавярховыя дамы пабудаваны па вуліцы Гарнянскай* (Інтэрнацыянальнай,*Л.Л.*) *- у месцы, дзе да гэтага часу былі толькі драўляныя дамкі і адзіны прыгожы трохпавярховы будынак пры вуліцы Сувальскай, які зойме Сацыяльнае страхаванне* (Ubezpieczalnia Spoleczna)*"* [133]. У красавіку 1937 г. у адзін з гэтых дамоў пераехаў лідскі аддзел "Кур'ера Віленскага": *"7 красавіка пераехаў у д. 8 па вуліцы Гарнянскай (вугал з вуліцай Шаптыцкага, дом пані Мейлун* (p.Mejlunowej), *тэл. 166"* [134], гэты аддзел да гэтага часу месціўся па вуліцы Міцкевіча, 53. Аднак праз год журналісты з'ехалі з Гарнянскай, і адрас лідскага аддзела стаў: Замкавая 4/7 (тут раней была рэдакцыя "Лідскай зям-


Дамы спадарыні Мейлун, сучасная вуліца Астроўскага


Дамы па Савецкай 32, 34

лі"), тэл. 73 [135]. Нездарма кіраўніком лідскага аддзела "Кур'ера Віленскага" ў тыя часы быў рэдактар "Лідскай зямлі" Ўладзіслаў Абрамовіч[136]. У двух дамах па вуліцы Інтэрнацыянальнай зараз шмат гадоў знаходзіцца скурна-венерычная бальніца.

Дарэчы, улетку 1938 г. Гарадская Рада вырашыла змяніць назву вуліцы Гарнянскай у Ягелонскую, аднак гэта рашэнне яшчэ неабходна было зацвердзіць павятовым уладам[137]. У дакументах 1939 г. гэтая вуліца фігуруе яшчэ як Гарнянская.

Падобна на тое, што будынак былога Сацыяльнага страхавання - гэта надбудаваны на адзін паверх і дабудаваны з абодвух бакоў дом № 27 па вуліцы Савецкай. Прэса паведамляла пра пераезд Сацзабеспячэння ў новы будынак па вуліцы Сувальскай, 93[138], які належаў віца-бургамістру горада Ёдку[139].

Два дамы па вуліцы Сувальскай (Савецкай, № 32, 34) каля бровара будавалі напрыканцы 1930-х гадоў. За домам Савецкая 32, у бок бровара, знаходзіцца хлявушок, перад якім засталася дарожка, выкладзеная пліткай-брэкчыяй (ад італьянскага breccia - горная парода, складзеная з вуглаватых абломкаў і сцэментаваная). Такая плітка выраблялася ў горадзе ў межах адмысловай праграмы па барацьбе з беспрацоўем. "Кур'ер Віленскі" пісаў у лютым 1938 г.: *"Дзве прамысловыя суполкі* (кааператывы), *якія будуць рабіць бетонныя і брукарскія работы, пачынаюць працаваць ў горадзе. Фонд Працы даў пазыку ў 4 000 зл. для будаўніцтва і закуп абсталявання для бетанярні і 2 000 зл. на арганізацыю брукарскай суполкі"* [140].

Захаваўся цікавы жылы дом-крама 1930-х гг. на Слабадзе, зараз тут магазін "Варшавянка".

Лідскія дамы, пабудаваныя да 1939 г. у стылі функцыяналізму - стыльныя, прыгожыя пабудовы, якія ўпрыгожваюць наш горад.

### 5. Гарадская электроўня

Горад Ліда хутка рос, яму патрабаваліся інвестыцыі ў інфраструктуру горада суразмерныя тэмпам росту. Гарадскую электроўню пабудавалі яшчэ нямецкія акупацыйныя ўлады (верагодна, як і ў Наваградку ў 1916 г., таму хутка будзе 100 гадоў Лідскай электроўні), яна мела два дызель-генератары агульнай магутнасцю ў 220 кВт. і нават у 1920-я гг. не магла забяспечыць электрычнасцю патрэбы горада і прамысловасці. Таму фірмы горада будавалі свае прыватныя электроўні, што адмоўна ўплывала на інвестыцыйную прывабнасць горада[141].

У 1929 г. у Лідзе працавалі дзве адносна вялікія электроўні: гарадская (Цыдзяровіч А., Сандлер Л.) па вуліцы Сувальскай і чыгуначная[142], а таксама некалькі невялікіх, у 1938 г. ў Лідзе было 13 электрастанцый: гарадская (220 кВт, ), чыгуначная (180 кВт), на фабрыцы "Ардаль" (300 кВт), на фабрыцы "Ўнігум" (117 кВт), на тартаку "Тарлас" (37 кВт), на тартаку пры бровары Пупко (12 кВт), на тартаку пры бровары Папірмайстра (12 кВт), на тартаку Мельніка (39 кВт), на фабрыцы па перапрацоўцы воўны братоў Г.Я. Жыжэмскіх і Я. Левіна (10 кВт) на фабрыцы сельскагаспадарчых машын братоў Шапіраў (5 кВт), на алейні "Шэмен" (3,4 кВт), на фабрыцы спружын "Звуй" (1,3 кВт)[143], на млыне "Аўтамат" (магутнасць не вядома).





***Гарадская электроўня***

Сумарная магутнасць электрарухавікоў "Ардаля" была каля 250 кВт, а выпрацоўка энергіі электроўні "Ардаля" пераўзыходзіла выпрацоўку на гарадской электроўні: 750 тыс. кілават-гадзін у год на "Ардалі" супраць 500 тыс. кілават-гадзін у год на гарадской электроўні. Нават прыватная электроўня млына "Аўтамат" выпрацоўвала 500 кілават-гадзін у год.

Агульнае спажыванне электрычнасці 15 галоўнымі прамысловымі прадпрыемствамі ў 1936 годзе склала 2 220 тыс. кілават-гадзін, а разам з войскам і чыгункай 3 620 тыс. кілават-гадзін[144].

У 1937-38 гг. электрычнасць прадавалася 2903 абанентам для асвятлення і 63 абанентам для прамысловых мэтаў, сумарная электрычная магутнасць спажыўцоў дасягнула 446 127 кВт[145].

Ужо ў 1936 г. два дызельныя рухавікі гарадской

электроўні адпрацавалі свой рэсурс, патрабавалі амаль што штодзённага рамонту і шмат вельмі дарагіх запасных частак. Энергія, якая выпрацоўвалася на Лідскай гарадской электроўні мела высокі сабекошт. Таму стала зразумела, што замест сталага рамонту, неабходна закупляць новае энергетычнае абсталяванне. Гэтую ініцыятыву высунуў бургамістр горада Задурскі. Пасля яго звароту ў Міністэрства прамысловасці і гандлю ў Ліду, каб вывучыць праблему, выехалі прадстаўнікі Міністэрства пад кіраўніцтвам дарадцы міністра Квінты. Камісія разам з інжынерам Навагрупскай ваяводскай управы Жмігроўскім вывучыла праблемы і вырашыла хадатайнічаць перад урадам аб перабудове Лідскай гарадской элетрычнай станцыі[146].

На пачатку 1937 г. з справаздачы Гарадской Рады вядома, што гарадская элетроўня ў 1936 г. дала 102 399 злотых даходу ў бюджэт горада. Тады ж Гарадская Рада вырашыла прасіць 100 000 злотых пазыкі на яе пашырэнне[147].

Ужо ў красавіку 1937 г. паведамлялася, што *"гарадская электроўня атрымае новы камплект абсталявання. Зараз гарадская электроўня мае два дызель-рухавікі агульнай магутнасцю 220 кВт. З-за зносу гэтых машын і росту ўжывання электрычнасці гарадскія ўлады вырашылі купіць новы рухавік у 550 конскіх сіл. Новае абсталяванне будзе закуплена ў Калішы на грошы з доўгатэрміновай пазыкі ад Фонду Працы"* [148]. У чэрвені Гарадская Рада дазволіла ўзяць пазыку на рэканструкцыю электроўні ў памеры нават 142 000 злотых. Сума складалася з выдаткаў на: закупку новага рухавіка, рамонт старога абсталявання, пабудову новай машыннай залы, пабудову новага падмурка пад новы рухавік, пабудову сховішча газу, пераабсталявання рухавіка на газ і на розныя неспадзяваныя выдаткі[149]. Ужо праз некалькі дзён горад атрымаў гэтую пазыку[150].

З пачаткам мадэрнізацыі, насельніцтва папярэдзілі, што могуць быць перапынкі ў падачы электрычнасці жыхарам горада, і таму ім неабходна мець у запасе рэзервовыя сродкі асвятлення[151]. Прэса даводзіла, што пасля заканчэння работ, гарадская электроўня зможа забяспечыць электрычнасцю ўсе прадпрыемствы горада, а насельніцтва зможа карыстацца электраэнергіяй не толькі для асвятлення жытла, але нават для кухонных мэтаў[152]. Таксама павінен быў зменшыцца сабекошт кілават-гадзіны[153].

У ліпені 1937 г. за 60 000 злотых горад па аказіі купіў рухавік фірмы "Дызель" у добрым стане магутнасцю 550 конскіх сіл, у памяшканні электроўні пачалі будаваць падмурак пад новы энергетычны агрэгат. Планавалася закончыць усе працы да восені, у *"выніку сабекошт электрычнасці будзе значна зменшаны"* [154]. У тым жа месяцы Фонд Працы для электроўні даў дадатковую пазыку ў 15 000 злотых[155].

Як ужо пісалася вышэй, пры канцы кастрычніка ў зале Лідскага староства адбылася інфармацыйная сустрэча лідскага бургамістра Задурскага з прэсай і гараджанамі. У сваім выступе, бургамістр зноў адзначыў, што гораду патрэбна грунтоўная перабудова электроўні, бо справа з электрычнасцю найгоршая: *"Зараз у Лідзе 13 электроўняў, з іх 11 прыватных, агульны выраб электраэнергіі 3,5 мільёна кілават-гадзін. Стан гарадской электроўні крытычны, горад часта паглынае цемра, старыя машыны выпрацавалі рэсурс. Новыя машыны знаходзяцца ў стане мантавання. Аднак уся рэканструкцыя зойме ад 4 да 5 гадоў. Гораду патрэбна вялікая электроўня, якая не толькі б асвятляла яго, але давала б ток для прамысловых мэтаў"*[156]. Як быццам у пацверджанне гэтага, увечар 21 снежня 1937 г. на электроўні адбылася чарговая аварыя, і ўвесь горад апынуўся ў цемры[157].

1 ліпеня 1938 г. адбыўся пробны пуск новага энергетычнага абсталявання, пуск закончыўся выбухам[158]. Праз некалькі дзён адпаведная камісія высветліла, што з-за дрэннай зваркі труб і зборніка газу ў паліўнай апаратуры сістэма была негерметычнай, таму ўтварылася выбуховая газавая сумесь. Дрэнна зварныя трубы не вытрымалі ціску і атрымаўся выбух. Шкоду ад выбуху ў некалькі сотняў злотых пакрыў вінаваты за выбух інжынер Трок з Вільні[159]. Такім чынам першы этап рэканструкцыі закончыўся пры канцы лета 1938 г. Інфармацыі пра другі этап няма, найверагодней з-за пачатку вайны далейшыя працы пачаць не паспелі.

Працаўнікі Лідскай электроўні займаліся не толькі рэканструкцыяй. Жыццё горада працягвалася і заўжды трэба было быць гатовым выканаць неабходныя аварыйныя работы: *"13 ліпеня* (1937 г. - *Л.Л.*) *каля староства, на вуліцы Сувальскай, армейскі аўтамабіль збіў слуп электрычнай размеркавальнай сеткі"*[160].

Не абыходзілася і без кур'ёзаў. Пры канцы 1937 г. суд прыгаварыў чыноўніка адміністрацыі горада, назіральніка за гарадскімі работамі Палтарацкага, да штрафу ў памеры 15 злотых за тое, што пад час начной змены на гарадской электроўні ён збіў работніка Уладзіслава Вільбіка: *"Гэта вынікі ўхвалы Гарадской Радай выдачы работнікам гарэлкі пад час працы"* [161].

У траўні 1938 г. пачалася пракладка новых электрычных ліній у раёне Слабодкі[162]. Пашырэнне электрычных сетак дазволіла злучыць у Лідзе чыгуначную і гарадскую электроўні: *"З новага бюджэтнага года* (1939 г. - *Л.Л.*) *гарадскія ўлады пашырылі свой уплыў у справе электраэнергетыкі аб'яднаўшы чыгуначную электроўню з гарадской электроўняй. Згодна з разлікамі, чыгуначная электроўня дасць гораду прыбытак у 20 000 злотых у год"* [163]. Можна меркаваць, што захаваўшыся да нашага часу трансфарматарны пункт па вуліцы Варшаўскай пабудаваны менавіта ў той год. Дарэчы, другі трансфарматарны пункт таго часу, які існуе і зараз (але ўжо як размеркавальны пункт), знаходзіцца каля корпуса шпіталя пабудаванага ў 1938 г. (пра гэты корпус шпіталя гл. вышэй).

У любой энергасістэме важным полем дзейнасці з'яўляецца ўлік адпушчанай спажыўцу электраэнергіі. У красавіку 1938 г. Гарадская Ўправа афіцыйна перадала паліцыі справу на Станіслава Чаплю (вул. Легіяновая, 20), які самавольна падлучыўся да электрычнай сеткі і краў энергію. Такім жа незаконным чынам карысталіся электрычнасцю ўладальнікі спартовай залы яўрэйскага спартовага таварыства "Макабі" (Сувальская, 74)[164]. Як паліцыя пакарала парушаль-

нікаў, не вядома.

Верагодна, фактаў крадзяжу энергіі было шмат, бо хутка адміністрацыя гарадской электроўні паведаміла, што ўсім абанентам неабходна праверыць дакладнасць працы усталяваных у іх электралічыльнікаў і потым іх паўторна перарэгістраваць. За гэта трэба было заплаціць ад 11 да 13, 5 злотых, у залежнасці ад стану прыбораў уліку[165].

А ўзімку 1938 г. знік без весткаў гарадскі кантралёр электроўні Лейба Леў. Па словам крэўных кантралёр стаў ахвярай кахання без узаемнасці[166].

Дарэчы, пасля рэканструкцыі электроўні, кошт электрычнасці для спажыўцоў у горадзе панізіўся з 1 да 0,8 злотага за 1 кілават-гадзіну. Аднак гэты кошт усяроўна заставаўся вышэйшым, чым у суседніх гарадах[167]. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з нашым часам электрычнасць адносна заробкаў была надзвычай дарагой. Напрыклад, сярэднія сучасныя 100 і болей кілават-гадзін на кватэру за месяц, абышліся бы працоўнаму з "Ардаля" ў яго добры па таму часу сярэдні заробак - 80-100 злотых. Таму людзі абыходзіліся запальваннем слабых электрычных лямпачак толькі ў вячэрні час, а пра выкарыстанне электранагравальнікаў не магло ісці і гаворкі. Напрыклад адна лямпачка на 25 ват, якая ўключалася на 4 гадзіны кожны дзень на працягу месяца, каштавала хатняй гаспадарцы 2,4 злотых па тарыфу, які склаўся пасля рэканструкцыі электроўні (25х4х30х0,8). Дарэчы, агульнавядома, што менавіта колькасцю энергіі, якую чалавек можа сабе дазволіць спажыць, вызначаецца ўзровень і якасць жыццёвага узроўню.

Не дзіўна, што пасля рэканструкцыі электроўні гарадскія ўлады эканомілі на асвятленні нават публічных месцаў: *"У Лідзе пабудавана адмысловая аўтастанцыя, на якой спыняюцца агромністыя аўтобусы. Кожны дзень аўтастанцыя прымае 60 аўтобусаў. Аўтобусны рух пачынаецца з рання і заканчваецца толькі ў 20-30. Зараз дзень кароткі, аўтастанцыя не мае электрычнага асвятлення і таму разам з усім горадам пагружаецца ў цемру. Тыя электрычная ліхтары, якія ўсё ж свецяць у горадзе, маюць такія слабыя лямпы, што за 10 крокаў ад слупа ўжо цёмна. Таму абяцанне, што пасля рэканструкцыі электроўні "Ліда будзе зіхацець" не выканана"* [168].

Вялікую цікавасць маюць планы развіцця энергетыкі нашага краю ў тыя часы.

Пры канцы 1930-х гг. у Лідскім павеце першыя малыя электроўні будаваліся ў мястэчках Воранава і Жалудок[169].

У 1938 г. будавалася вялікая электроўня ў Слоніме, якая пасля злучэння яе з гідрастанцыяй на рацэ Гаці павінна была абслугоўваць Слонімскі і Баранавіцкі паветы. Праектавалася перабудова электроўні ў Навагрудку. На рэалізацыю гэтых праектаў ужо было выдзелена 250 000 злотых[170].

"Кур'ер Віленскі" адзначаў, што цэнтральныя ўлады мала ўвагі звяртаюць на развіццё ўсходніх тэрыторый. Энергетычны камітэт пры Міністэрстве прамысловасці і гандлю ў планах электрыфікацыі не знаходзіў месца для Віленшчыны ажно да 1935 г. Гэта кажа пра недаацэнку Камітэтам важнасці гэтай справы для развіцця эканомікі.

Як мясцовая ініцыятыва, пад кіраўніцтвам інжынера віленскай электроўні Янчы былі распрацаваны планы развіцця энергасістэмы нашага рэгіёна. Наш край мае мала энергетычных рэсурсаў, і таму прапаноўвалася базаваць выпрацоўку электрычнасці на тарфяных электроўнях, для чаго пачаць здабычу торфу каля Глыбокага і Вільні, таксама прапаноўвалася пабудаваць гідрастанцыю на Віліі[171]. Дарэчы, у 1938 г. вялікія запасы торфу у Лідскім павеце знайшоў інжынер-доктар Аляксандр Нявесцін з Геалагічнага Інстытута[172]. Акрамя выкарыстання ў якасці паліва, навукоўцамі вывучалася магчымасць выпрацоўкі з лідскага торфу бензолу, асвятляльнага газу, змазачнай алівы, ўгнаенняў і г. д.[173].

Самы дарагі план электрыфікацыі з распрацаваных у Вільні, складаўся з трох этапаў. На першым этапе неабходна было пабудаваць рэгіянальныя электроўні ў Вільні і Маладзечне. Потым лініі высокай напругі ў 100 000 вольт павінны былі аб'яднаць асноўныя гарады Віленшчыны: Ліду, Маладзечна, Глыбокае, Дзісну, Друю. На трэцім этапе лінія электраперадач ад Маладзечна праз Стоўбцы на Баранавічы павінна была злучыць Віленскі энергетычны раён з агульнадзяржаўнымі сеткамі. Кошт праекта - 100 мільёнаў злотых.

Больш сціплы варыянт прадугледжваў толькі аб'яднне існых станцый электрычнымі лініямі ў 30 000 вольт. Кошт гэтага праекту быў каля 7 мільёнаў злотых[174].

У лістападзе 1937 г. віленская газета "Слова" пісала пра яшчэ адзін гіганцкі праект пабудовы гідраэлектрастанцыі на Нёмане, якая давала б ток для Навагрудка, Слоніма і Ліды: *"Як стала вядома, у коле адмыслоўцаў г. Гародні паўстала думка звярнуцца да ўладаў з праектам пабудовы на Нёмане вялікай гідраэлектрастанцыі. Станцыя магла б забяспечыць электраэнергіяй частку Навагрудскага ваяводства з Лідай, Слонімам і Навагрудкам, а таксама частку Беластоцкага ваяводства з горадам Беласток. Адна з прычын слабога развіцця эканомікі нашага краю - недахоп крыніц энергіі. ... Пабудова электроўні на Нёмане выправіла бы гэты недахоп. ... Падлікі паказваюць, што сабекошт 1 кілават-гадзіны з улікам амартызацыі склаў бы 0,6 гроша"* [175].

Вайна не дазволіла рэалізаваць гэтыя планы. Але вядома, што з канца 1950-х гг., ужо ў іншай дзяржаве, энергетыка развівалася прыкладна так, як было прапісана ў гэтых планах - будаваліся магутныя электроўні, якія злучаліся лініямі электраперадач. А гідраэлектрастанцыя на Нёмане была пабудаваная ўжо ў наш час каля Гародні.

**6. Адукацыя**

Падчас 1937/38 навучальнага года наш горад меў 5 дзяржаўных школ, у якіх працавала 47 настаўнікаў, і вучыліся 3094 вучні. Акрамя дзяржаўных, у

горадзе таксама было 5 прыватных школ, у якіх вучыліся 659 вучняў[176].

Пачатак 1937 г. адзначыўся моцнымі маразамі, у канцы студзеня з-за маразоў усе школы былі закрытыя на 3 дні[177].

### *Дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча*

Самы высокі ранг у горадзе мела дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Яна месцілася ў прыгожым чатырохпавярховым будынку на вуліцы Школьнай, побач знаходзілася агульнаадукацыйная школа імя Габрыеля Нарутовіча (цяпер школа №1). Раён гэты зваўся "Выган", казалі яшчэ "школа на Выгане". З 1936 па 1939 г. дырэктар гімназіі - гісторык Казімір Мятлевіч. Вучоба ў гімназіі працягвалася чатыры гады. Для паступлення ва ўніверсітэт і атрымання поўнай сярэдняй адукацыі неабходна было яшчэ два гады працягваць вучобу ў ліцэі, які знаходзіўся ў тым жа будынку гімназіі.

Каб патрапіць у гімназію, трэба было здаць уступны іспыт. У чатырохгадовай агульнаадукацыйнай дзяржаўнай гімназіі вучні насілі адмысловую форму. Напрыклад дзяўчаты мелі цёмна-сінюю плісаваную спаднічку і белую льняную блюзку, да блюзкі прымацоўвалася стужка, а на рукаве насілі блакітную павязку. На бярэце таксама быў блакітны кант. У двухгадовым ліцэі, куды паступалі пасля заканчэння гімназіі, кант, бант і павязка былі бардовага колеру. Прыналежнасць да гэтай навучальнай установы і нашэнне формы вучні лічылі гонарам для сябе[178].

Падчас летніх вакацый 1937 г. у Дзяржаўнай гімназіі адкрылася выстава графікі і жывапісу лепшых мастакоў Вільні[179].

1 кастрычніка 1937 г. у Лідскім акруговым судзе пачаўся працэс над Вітольдам Гульбіновічам - былым сакратаром Дзяржаўнай гімназіі, якога абвінавачвалі ў крадзяжы 600 зл. са складкаў якія сабралі сябры бацькоўскага камітэту гімназіі[180]. Суд прыгаварыў Гульбіновіча да паўгода турмы[181].

Бацькоўскі камітэт Дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе 1 лютага 1938 г. арганізаваў вечар танцу ў памяшканні гімназіі, увесь даход ад гэтага мерапрыемства пайшоў на дапамогу бедным вучням гімназіі[182].

Пачынаючы з 1938 г. у публікацыях прэсы адчуваецца набліжэнне вайны: *"Вучні 8-га класа Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча 80% ад даходаў (69 зл.) атрыманых ад розных мерапрыемстваў пераволі на рахункі Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP)"* [183]. Бацькоўскі камітэт гімназіі 5 чэрвеня арганізаваў фантавую латарэю, чысты прыбытак ад латарэі склаў 500,48 зл.[184].

Як заўжды, улетку галоўны зал гімназіі прымаў розныя выставы, так 19 чэрвеня 1938 г. урачыста адкрылася выстава вучнёўскіх прац[185].

У суботу 26 лістапада 1938 г. ў Дзяржаўнай гімназіі прайшла першая краязнаўчая вечарына, якую арганізавалі вучні другога класа: *"Краязнаўчы гурток знаходзіцца пад апекай спадарыні-прафесара Юзэфы Кляйндэнст, якая заахвоціла моладзь да збору інфармацыі пра мясцовыя звычаі вясковых людзей. Сабраны непасрэдна ў вёсцы матэрыял і стаўся асновай для правядзення вечарыны. Рэшту тэмаў для вечарыны моладзь узяла ў артыкулах найвыбітнейшага лідскага краязнаўцы Міхала Шымялевіча з газеты "Лідская Зямля". Прыгатаваная праграма вечара прынесла сабраным у зале шмат вясёлых і прыемных хвілін. Інфармацыя, сабраная і апрацаваная вучнямі, трапна падабраныя строі, добрая аматарская акцёрская ігра, паказалі выдатнае знаёмства з прадметам. Беларускі акцэнт песенек разам з прыгожымі мелодыямі вельмі спадабаліся гледачам. Трэба заахвоціць моладзь, каб была зроблена версія гэтага вечара для віленскага ці баранавіцкага радыё"* [186].

У траўні 1939 г. адбыўся апошні ў гісторыі Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча ў Лідзе выпуск ліцаістаў - г.зн. людзей, атрымаўшых поўную сярэднюю адукацыю. Апошні выпускны ліцэйскі клас меў 13 вучняў. *"Матуру атрымалі ўсе навучэнцы, гэта: Дабравольская Марыя, Гарноўская Лілея, Гурвіч Юдыта, Яцэвіч Ян, Карчман Навум, Кляйндэнст Ірэна, Масланка Збігнеў, Радзеўская Бэця, Ракіцкі Яраслаў, Станкевіч Яна, Стукатар Ева, Путрамант Марыя, Шавахові Соня"* [187].

### *Купецкая гімназія*

У адрозненні ад дзяржаўнай гімназіі, дзе навучанне вялося сумесна, у Купецкай хлопчыкі і дзяўчынкі займаліся ў асобных будынках з розных бакоў касцёла піяраў і не мелі права сустракацца ці нават разам паказвацца на вуліцы[188].

У Купецкай гімназіі разам з агульнай сярэдняй адукацыяй, давалася і адмысловая эканамічная адукацыя, вывучаліся рахаўніцтва, таваразнаўства, арганізацыя гандлю. Вучняў вучылі хуткаму рахунку, даваліся практычныя веды ў тым ліку і ў галіне рэкламы, якую пачыналі вывучаць ужо ў першым класе гімназіі. Дзеля практычных ведаў у гэтай галіне, дырэкцыя гімназіі знаходзілася ў сталым кантакце з Лідскім Саюзам купцоў. Старшыня гэтага саюзу Баркоўскі, прызначыў пэўную суму за лепшую вучнёўскую рэкламу для лідскіх фірм, шмат вучняў бралі ўдзел у гэтым конкурсе[189].

У лютым 1937 г. 16-ці гадовы злодзей Зыгмунт Вянскевіч выбраўшы акно ў канцылярыі Купецкай гімназіі піяраў, скраў радыёапарат[190]. Трэба адзначыць, што радыё ў тыя гады было вельмі каштоўнай, жаданай і статуснай рэччу, якую маглі мець толькі дастаткова багатыя людзі.

З ініцыятывы дырэктара Купецкай гімназіі піяраў Генрыка Жалігоўскага ў гімназіі паўстаў гурток аўтааматараў. У гурток запісалася каля 50 вучняў і некалькі настаўнікаў. У гуртку вывучалася канструкцыя аўтамабіля і атрымліваліся практычныя навыкі кіравання. Настаўніца Купецкай гімназіі Яўгенія Багуцкая першай сярод вучняў і настаўнікаў здала экзамены і атрымала аўтамабільныя правы[191].

У 1937 г. Купецкую гімназію закончылі 49 чалавек. 16 чэрвеня у гімназіі адбылася выпускное свята,



***Купецкая гімназія***

пасведчанні аб заканчэнні гімназіі вучням ўручыў дырэктар Жалігоўскі, пасля чаго адбылася дэфіляда (урачыстае шэсце, парад) вучняў па горадзе[192]. На гэтым свяце адзін з настаўнікаў гімназіі ксёндз Людвік Русак прапанаваў стварыць вучнёўскі фонд, куды павінны былі збірацца грошы для краязнаўчых вандровак. Хутка ў першую ж вандроўку паехала 45 вучняў. Яны пабывалі ў Варшаве, Кракаве, Катавіцах, Закапане, Гдыні, Львове і іншых месцах[193].

1 ліпеня 1937 г. скончыўся 3-х гадовы тэрмін рэктарства Калегіюма піяраў у Лідзе ксендза Клеменса Чабаноўскага, і ён быў прызначаны на пасаду рэктара яшчэ на 3 гады. Выкладчыка гімназіі ксендза Людвіка Рушака, якога вельмі любілі ў Лідзе, перавялі рэктарам калегіюма ў Кракаў. У іншую навучальную установу з'ехаў з Ліды і ксёндз-піяр Юлівуш[194].

Падчас новага вучэбнага года, у кастрычніку 1937 г., дзве экскурсіі з Ліды пабывалі ў Вільні, гэта былі вучні Дзяржаўнай і Купецкай гімназій. Вучні наведалі магілу сэрца маршала Пілсудскага на Росах, выставу радыётэхнікі, краму Яблыкоўскіх, Дамініканскія муры, універсітэт Стэфана Баторыя, касцёлы Св. Ганны, Св. Пятра і Паўла і Замкавую гару[195].

У лістападзе таго ж года пад патранатам маршала Эдварда Рыдз-Сміглага і пры дапамозе павятовага аддзела Краязнаўчага таварыства паўстаў Юбілейны камітэт ушанавання памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе. Камітэт вырашыў заснаваць адну стыпендыю імя Людвіка Нарбута для вучняў Купецкай гімназіі, *"бо народны герой пачынаў вучыцца ў лідскай па-піярскай павятовай школе"* [196].

Пры канцы 1937 г. віленская прэса пісала: *"Новая зала ў горадзе. Хутка будзе скончана будаўніцтва вялікай гімнастычнай залы пры Купецкай гімназіі. Гэта будзе адна з самых вялікіх залаў у горадзе. Адсутнасць залаў для арганізацыі культурных і спартовых мерапрыемстваў - вялікая праблема горада"*[197]. Ужо 6 снежня адбылося ганаровае асвячэнне новай гімнастычнай зала[198]. Газета "Кур'ер Віленскі" пісала: *"Адбылося адкрыццё самай вялікага ў горадзе (калі не лічыць кіно "Эра") гімнастычнай залы пры Купецкай гімназіі. Зала мае 22х10,5 м. У ёй зроблена сцэна для правядзення культурных мерапрыемстваў. Тут адразу адбылася традыцыйная школьная ўрачыстасць, на якой выступілі кіраўнікі гімназіі і калегіюма"* [199]. У 1970-х гадах у гэтай зале месцілася падлеткавая спартовая школа. Выгляд будынка моцна зменены рамонтамі.

Зіма 1938 г. пачалася з таго, што гімназію зноў абакралі. На гэты раз злодзей перавярнуў усе шафы, але скраў толькі некалькі злотых і некалькі дробных рэчаў настаўнікаў[200].

Пасля Новага года, 5 студзеня 1938 г., Таварыства вучнёўскай моладзі ў Лідзе ў зале Дзяржаўнай гімназіі правяло 15-ы Навагодні баль[201]. Тады ж Спартовы гурток вучняў Купецкай гімназіі на ставе, які быў выкапаны на зямельным надзеле піяраў, адкрыў слізгаўку, якая прымала аматараў канькоў з 9 да 20-00. Тут нават усталявалі радыёрупар і зрабілі электрычнае асвятленне[202]. Пры канцы лютага 1938 г. на гэтай слізгаўцы адбыўся выпадак, пра які шмат пісалі розныя газеты: *"Два сямігадовыя хлопцы каталіся на слізгаўцы гімназіі піяраў. Адзін з іх, Жаброўскі, упаў у палонку і пачаў тануць, другі сямігадовы хлопец - Пятнуць з рызыкай для собскага жыцця выцягнуў тапельца з вады"* [203].

У лютым 1938 г. кіраўніцтва Купецкай гімназіі правяло сустрэчу з кіраўнікамі прадпрыемстваў горада з мэтай наладжвання супрацоўніцтва вучняў выпускных класаў гімназіі з прадпрыемствамі горада[204].

20 і 21 траўня 1938 г. у Купецкай гімназіі адбыўся сход кіраўнікоў адукацыі Віленскай акругі, тут гасцявалі дырэктары і настаўнікі школ[205].

Паведамлялася, што ў першыя дні чэрвеня вуч-

ні 4-га класа Купецкай гімназіі ў Лідзе на два тыдні паедуць у Гдыню, дзе *"моладзь будзе праходзіць практыку ва ўправе Цэнтральнай Прамысловай акругі Гдыні"* [206].

А 23 траўня 1938 г. адбыліся выпускныя экзамены апошняга класа гімназіі. *"Скончылі гімназію 20 вучняў і вучаніц: Бедраўскі, Гербядзёўская, Ілютовіч, Іваноўскі, Яхніс, Камянецкая, Клышэйка, Малахоўская, Міцкінеўскі, Нарушэвіч, Прасмыцкі, Савонь, Шварцбрам, Урбановіч, Воранава, Урублеўская, Прус, Маняkoўская, Здановіч"* [207].

Летам 1938 г. каля станцыі Нёман з 17 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыццё вучнёўскага лагера. Яно пачалося з набажэнства, якое правёў рэктар калегіюма піяраў ксёндз Клеменс Чабаноўскі. Газеты пісалі, што *"сярод іншага ў праграме лагера - апека над дзецьмі ваколічных вёсак. Карыстаючыся побытам на пляжы вялікай колькасці лідзян, кіраўніцтва лагера зладзіла дансінг у мясцовым казіно"* [208]. Дарэчы, станцыя Нёман (вёска Сялец пад Лідай) была галоўным месцам летняга адпачынку лідзян у той час (глядзі ніжэй). Покуль вучні адпачывалі, *"у Купецкай гімназіі знаходзўся візітатар* (інспектар, *рэд.*) *Міністэрства, аўтар вялікай колькасці кніг і рэфарматар агульнаадукацыйнай школы Антоні Талонь. Ён рабіў візітацыю Купецкай гімназіі"* [209].

Ад пачатку 1920-х гг. лідскія піяры не мелі пэўнасці з юрыдычнымі правамі на фундаваную раней маёмасць - нерухомасць па вуліцы Сувальскай і фальварак Пастаўшчына каля Ліды[210]. Шмат гадоў ішоў судовы працэс, і гэта дрэнна адбівалася на працы гімназіі і калегіюма: *"60% лідскай моладзі пасля заканчэння агульнаадукацыйных школ нават здаўшы экзамены не можа трапіць у гімназію, бо не хапае месцаў. Таму піярская гімназія павялічвае прыём вучняў у першы клас. Праект пабудовы дадатковага гмаха гімназіі і вучэбнай крамы па Сувальскай не могуць дачакацца рэалізацыі ўжо 4 гады. Калі б Найвышэйшы Суд зрабіў вырак на карысць піяраў, дык піярская школа ў гэтым годзе была б моцна пашырана. Праект пабудовы гандлёвых крамаў таксама залежыць ад выраку гэтага суду"* [211].

1 верасня 1938 г. пачаўся апошні мірны вучэбны год.

Увосень Таварыства выпускнікоў Гандлёвай школы піяраў у Лідзе прыступіла да арганізацыі гандлёвай бібліятэкі. *"Жыццё паказала неабходнасць спецыяльнай бібліятэкі для развіцця гандлю і прамысловасці ў горадзе. Управа Таварыства звярнулася ў розныя выдавецтвы па патрэбныя кнігі"* [212]. Праз некалькі месяцаў, у Купецкай гімназіі па адрасу: Сувальская, 68, гэтая гандлёвая бібліятэка пачала працаваць[213].

У студзені 1939 г. лідскія піяры нарэшце выйгралі судовы працэс: *"... няпэўнасць стрымлівала развіццё калегіюма і злучаных з ім навучальных устаноў. Генеральная Пракуратура разам з Дзяржаўным Скарбам пачала працэс аб вывадзе Ордэна Піяраў з займанага імі месца. Гэты працэс прайшоў праз усе інстанцыі, і на ўсіх узроўнях выракі былі на карысць піяраў. Справа дайшла да Найвышэйшага Адміністратыўнага Трыбунала ў Варшаве, які і паставіў кропку ў гэтай справе, пацвердзіўшы правы піяраў на нерухомасць. Лідскія піяры прыступаюць да рэалізацыі даўно акрэсленага плана буданіцтва пры ўласнай гімназіі сучасных крам, у якіх вучні будуць праходзіць гандлёвую практыку"* [214].

Магчыма, у сувязі з перамогай у маёмасным працэсе ўлетку 1939 г. прыватная Купецкая гімназія ў Лідзе атрымала юрыдычныя паўнамоцтвы дзяржаўнай гімназіі, пасля чаго *"... гімназія пашырае набор вучняў, бо ў мінулым годзе гімназія не магла ўзяць усіх ахвочых. Будуць пабудаваныя крамы, дзе вучні будуць атрымліваць практычныя веды"* [215].

У тое, апошняе лета існавання Купецкай гімназіі, была пераабрана ўправа Таварыства выпускнікоў: *"У яго склад увайшлі: прэзідэнт - Юзаф Шчыгло, віца-прэзідэнт Казімір Вайцахоўскі, скарбнік - Станіслаў Чашэйка, сакратар - Казімір Мінько, сябры ўправы: Ян Зарэмба, Галіна Катоўская і Ян Клышэйка"*[216]. Выпускнікі 1939 г. Купецкай гімназіі вырашылі стварыць кааператыў, які павінен быў займацца скупкай адходаў у насельніцтва Лідскага павета: рыззя, костак, металу, макулатуры[217].

### *Гімназія асаднікаў*

Зімой 1938 г. прэса пісала пра недахоп месцаў у лідскіх гімназіях[218]. І ўжо ўлетку 1938 г. пачаўся запіс у першы клас новай гімназіі Звязу асаднікаў[219], якая адчынілася ў былым будынку школы № 4 на Слабодцы.

Кіраўніцтва Звязу вырашыла будаваць свой сталы гмах новай прыватнай гімназіі. Першапачаткова пляц для будаўніцтва новай прыватнай гімназіі атрымаў Стралецкі звяз - добраахвотная арганізацыя дапамогі войску[220]. Аднак гэты Звяз не змог знайсці неабходнае фінансаванне для будаўніцтва вучэбнай установы.

Увосень 1938 г. газета "Кур'ер Віленскі" пісала: *"Ліда будуе новую гімназію. Гімназія пабудаваная 10 гадоў таму за больш чым 1 000 000 зл., аказалася замалой для горада. У гэтым годзе некалькі сотняў вучняў, здаўшых экзамены, не трапілі ў гімназію. Каб даць магчымасць моладзі атрымаць сярэднюю адукацыю ў Лідзе, Звяз вайсковых асаднікаў адкрыў прыватную гімназію. Зараз гімназія месціцца ў памяшканні былой школы № 4. Гэта памяшканне не адпавядае патрабаванням адукацыйнага працэсу, і таму Звяз звярнуўся да ўладаў з просьбай ахвяраваць пляц пад новы будынак. Гарадская рада ахвяравала вялікі пляц каля Дзяржаўнай гімназіі. Калі справы пойдуць добра, дых хутка горад будзе мець другую агульнаадукацыйную гімназію"* [221].

У красавіку 1939 г. на ахвяраваным гарадскімі ўладамі пляцы пад пабудову гімназіі адбылося геалагічнае вывучэнне грунту. Вывучэнне паказала, што новы гмах не запатрабуе занадта моцнага фундамента. Будову планавалася пачаць у найбліжэйшы час, *"новая гімназія будзе будавацца каля існай Дзяржаўнай гім-*

*назіі"* [222].

У жніўні 1939 г. прэса паведаміла: *"Каля гмаха Дзяржаўнай гімназіі і ліцэя вядзецца будаўніцтва новай гімназіі Звязу асаднікаў. Гэта будзе другі школьны будынак вартасцю болей за мільён злотых. Работы часткова фінансуе Фонд Працы. Кіраўніцтва будоўлі знаходзіцца ў руках гарадскога архітэктара інжынера Вацлава Галіка"* [223]. Да пачатку вайны - 1 верасня 1939 г. паспелі пабудаваць трохі вышэй за першы паверх. Дом быў дабудаваны ў 1949-50 гг. для афіцэраў Савецкай Арміі[224].

Аўтар артыкула ў сваёй калекцыі мае фотакопію паштоўкі-паведамлення, якую дырэкцыя рассылала сваім вучням. Паштоўка адпраўленая ад імя "Прыватнай каадукацыйнай гімназіі Звязу асаднікаў, вуліца Белагрудская, 28", нагадвае пра тое, што заняткі ў чарговым навучальным годзе (1939-40 гг.) пачнуцца 11 верасня 1939 г., і што да пачатку заняткаў будуць дапушчаны толькі тыя вучні, за якіх на наступныя паўгода будзе выплачана 125 злотых за вучобу і 30 злотых у фонд матэрыялаў для практычных заняткаў і вандровак (разам 155 злотых). Паштоўка была адпраўлена 9 жніўня 1939 г. на адрас: вуліца Шкляная, 30-1, вучню гімназіі Піліпу Касперу.

### *Іншыя навучальныя установы горада*

У 1930-я гады ў горадзе працавала 5 агульнаадукацыйных школ (7-гадовага навучання). У 1937 г. гарадскія ўлады надалі ўсім школам уласныя імёны.

**Школа № 1** атрымала назву ***імя маршала Пілсудскага*** (дырэктар - Юзаф Міхневіч);

**Школа № 2** - ***імя Габрыеля Нарутовіча*** (дырэктар - Антоні Катынскі, зараз у будынку былых школ №1 і №2 знаходзіцца СШ №1, падчас вайны - шпіталь);

**Школа № 3** - ***імя Берка Ёселевіча*** (Berka Joselewicza), месцілася каля касцёла Піяраў;

**Школа № 4** - ***імя маршала Рыдз-Сміглага*** (дырэктар Уладзіслаў Даброўны, зараз СШ № 10).

**Школа № 5** - ***імя Людвіка Нарбута*** (дырэктар Фердынанд Оркуш. Знаходзілася каля паўночнай сцяны замка, будынак не захаваўся).

Планаваная **школа № 6** павінна была атрымаць імя Т. Касцюшкі[225]. Гэтую школу планавалася пачаць будаваць у 1938 г. па вуліцы Легіяновай (зараз - Клімко)[226]. Праз некалькі месяцаў "Кур'ер Віленскі" паведаміў: *"Гарадскія ўлады вырашылі пачаць будаўніцтва новага гмаха 7-класнай школы па вуліцы Легіяновай. Акрамя грошай з гарадскога бюджэту на школу пойдуць грошы Фонда Працы і Таварыства дапамогі будоўлі школ"* [227].

Улетку 1937 г. прафесійная школа ў Лідзе была пераназваная ў **Дзяржаўную рамесную (механічную) школу**. Сталярныя варштаты зліквідаваны, уведзены курсы навук і практычных заняткаў у кавальскіх, слясарных і тэхніка-механічных справах[228].

У верасні 1937 г. паведамлялася, што *"будынку Рамеснай (механічнай) школы па вуліцы Сувальскай патрэбны рамонт. Драўляны будынак школы пабудаваны ў 1930 г. і патрабуе сталага дарагога рамонту бо дрэва точыць грыбок, акрамя гэтага некалькі разоў перараблялiся печы. Розныя рамонты ўжо каштавалі 60 000 зл., гэтых грошай хапіла б на мураваны будынак амаль такога ж памеру. Можа, лепей, чым ратаваць драўляны будынак ад грыбка, пабудаваць на тым жа месцы новы?"* [229]. Увесну 1939 г. дырэкцыя Рамеснай школы ў Лідзе арганізавала пры школе курсы кіроўцаў аўтамабіля і матацыкла. На курсах вывучалася тэорыя і даваліся практычныя веды ў галіне аўтамабільнай справы. Дырэкцыя школы хацела, каб кожны выпускнік акрамя пасведчання аб адукацыі атрымаў веды ў аўтамабільнай справе і правы кіроўцы. Першы аўтамабільна-матацыклетны курс сабраў 60 слухачоў[230].

Пры канцы 1937 г. Звяз настаўнікаў аб'явіў запіс моладзі ў вячэрняю школу. У вячэрняй школе навучэнцы павінны былі вывучаць курс 6 і 7 класу агульнаадукацыйных школ. Запіс праводзіўся ў 5-й школе[231].

У жніўні 1938 г. паведамлялася пра адкрыццё ў Лідзе "Звязам грамадзянскай працы жанчын" (Zwiazku Pracy Obywatelskiej Kobiet) з новага вучэбнага года Жаночай прафесіянальнай кравецка-бялізнярскай школы (Szkola Zawodowa Krawiecko-bieliz-niarska) [232]. У студзені 1939 г. Гарадская рада ўхваліла пастанову аб выдзяленні для Жаночай прафесіянальнай кравецкай школе асобнага будынка, у якім акрамя школы павінен быў знаходзіцца і інтэрнат для вучаніц. *"Школе перадалі гмах па вуліцы Камерцыйнай, дзе раней быў карны аддзел Акруговага суда"* [233].

Праз некалькі дзён, каб знайсці места для будоўлі новага гмаха школы імя Л. Нарбута, Гарадская рада вылучыла адмысловую камісію. *"Пасля таго як будзе вызначана месца, камісія зоймецца выкупам пляца ва ўласнасць горада. Плануецца ў хуткім часе пачаць будаўніцтва"* [234].

22 студзеня 1939 г. у Лідзе адбылося ўрачыстае асвячэнне штандара *"агульнаадукацыйнай школы 3-й ступені № 5 імя Людвіка Нарбута. Асвячэнне пачалося з урачыстага набажэнства ў Фарным касцёле ў якім бралі ўдзел настаўнікі, бацькоўскі камітэт і прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Потым у зале кінатэатра "Эра" адбылося ўручэнне штандара і прыбіццё яго цвікамі да дрэўка"* [235].

### *Курсы, гурткі*

У лютым 1937 г. у "Доме горада Ліда", Міцкевіча, 11, пачалі працаваць курсы кіроўцаў матацыкла, вучоба працягвалася палову месяца па аўторках, чацвяргах і суботах з 18-00 да 20-00, наведвальнікі плацілі за поўны курс навучання 60 зл. У тым жа будынку таксама адчыніліся курсы для кіроўцаў аўтамабіляў, вучоба праводзілася штодзённа, акрамя суботы і нядзелі з 20-30 да 22-00, плата - 90 злотых[236]. Падобныя курсы ў горадзе стала працавалі пры розных арганізацыях.

У 1937 г. недалёка ад Ліды праходзіў летні лагер дзе сабраліся добраахвотнікі, каб атрымаць практычныя навыкі пілатажу планера[237]. У Лідзе працаваў гурток планерызму і парашутнай справы: *"15 студзеня*

*(1938 г.) у памяшканні Звязу цывільных працаўнікоў Лідскага аэрадрома адбылося ўрачыстае адкрыццё пятага тэарэтычнага курсу планерызму і парашутнай справы. Гэтыя курсы праводзіць мясцовы гурток планерызму пры Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP), які ўзначальвае знаны інструктар планерызму інжынер Міхал Багатыроў. Гурток планерызму ў Лідзе таксама займаецца выхаваннем моладзі і авіямадэлізмам"* [238]. Гурток Багатырова наведвалі 70 чалавек.

На пачатку 1939 г. у Лідзе адчыніліся 3-х месячныя курсы радыётэлеграфістаў[239].

* * *

Адным з самых сур'ёзных дасягненняў другой Рэчы Паспалітай стала адбудова сістэмы адукацыі. За няпоўныя 20 гадоў утрая скараціўся лік непісьменных, пры гэтым паменшыліся адрозненні паміж асобнымі рэгіёнамі краіны, бо ў больш адсталых усходніх рэгіёнах гэты працэс развіваўся значна хутчэй. За 20 міжваенных гадоў узрос лік людзей з вышэйшай адукацыяй, а шэрагі інтэлігенцыі, якая культывавала шляхецкія традыцыі, папаўняліся выхадцамі з сялян і меней заможных пластоў гарадскога насельніцтва. Узнавіў працу зачынены царскімі ўладамі пасля паўстання 1831 г. універсітэт імя Стэфана Баторыя ў Вільні, які працягваў традыцыі Віленскай Акадэміі ВКЛ, і дзе вучылася шмат лідзянаў.

З 1937 г. палітычная сітуацыя ў Еўропе пагаршаецца. З старонак газет пачынае патыхаць вайной, і ідзе ўзмацненне патрыятычнага і ваеннага выхавання вучняў.

*Лётчык-інжынер* ***Міхаіл Багатыроў*** *(1887-1964) нарадзіўся ў Вільні. Лётную кар'еру пачаў у 1908 г. у паветраплавальных частках. Афіцэр царскай арміі, інжынер Міхаіл Багатыроў, пабудаваў у 1910 г. у Моньках каля Беластока самалёт па схеме "качка" які атрымаў назву "Качка Надзея", тады ж прадставіў увазе публікі ў Пецярбургу планёр уласнай канструкцыі. У гэтым жа годзе прыняў удзел у рэкордным палёце паветранага шара з Гатчыны пад Пецярбургам да ўзбярэжжа Белага мора (950 км ).*

*Доўгі час прымаў актыўны ўдзел у працы аэра- і аўтамабільнага клубаў. У 1913 г. выкладаў тактыку паветранага флоту афіцэрам Генеральнага Штаба.*

*У 1915 быў лётчыкам Асавецкай цвердзі. Потым займаў пасады начальніка школ механікаў, аэрафатаграфіі і авіямайстэрняў, якія абслугоўвалі ўвесь рускі Заходні фронт і. г.д. Узнагараваны шматлікімі ўзнагародамі часоў Першай Сусветнай вайны.*



**Міхаіл Багатыроў**

*З 1918 г. працаваў у польскай прамысловасці. У 1920-ых гадах жыў у Познані, быў канструктарам самалётаў на фабрыцы "Самалёт". У 1925 г. сканструяваў планёр "Мядзведзь" ("Mis"). Ён заняў першае месца на II-м Усепольскім конкурсе планёраў. Для гэтага ж конкурсу пад кіраўніцтвам М. Багатырова быў пабудаваны і планёр "Матылёк" ("Motyl"). Адным з першых пачаў распрацоўваць турбарэактыўныя авіяцыйныя рухавікі.*

*У 1930-я гады жыў у Лідзе па вуліцы 3-га Мая, д. 50, працаваў у 5-м авіяцыйным палку. Аўтар шэрагу патэнтаў у галіне авіяцыі, напрыклад, 24 лютага 1939 г. ён, як жыхар Ліды, атрымаў патэнт на прыстасаванне для навучання парашутыстаў.*

*У часы 2-й Сусветнай вайны ваяваў у Англіі.*

### 7. Ахова здароўя

Пры канцы 1930-х гг. Лідзе працавалі дзве бальніцы, якія сумарна мелі 105 ложкаў, насельніцтва абслугоўвалі 27 лекараў (11 тэрапеўтаў, 1 хірург, 2 акулісты, 1 псіхіятр, 2 педыятры і 10 лекараў іншых спецыялізацый)[240].

У 1937 г. было вырашана на яшчэ спраўных старых падмурках яўрэйскага шпіталя дабудаваць другі паверх і такім чынам значна павялічыць колькасць шпітальных ложкаў у гэтым шпіталі[241]. Пасля дабудовы, на пачатку 1939 г. у Лідскім яўрэйскім шпіталі пачаў працаваць аддзел гінекалогіі на 20 ложкаў[242].

Да 1937 г. у горадзе была паліклініка (Osrodek zdrowia), якую ўтрымлівалі павятовыя ўлады. Тут стала працавалі адзін лекар, медсястра і вартаўнік, і меліся наступныя аддзелы: агульны, сухотаў, венерычны і акуліста. На прыёме хворых розныя дактары працавалі ў адным пакоі, але ў розныя гадзіны. Аднак паліклініка не карысталася вялікай павагай, і бывала так, што нават у працоўныя дні (па выходных паліклініка не працавала) тут нікога не было. Таксама ў горадзе вельмі не хапала сапраўднай амбулаторыі, а ў той, якая існавала, на палову стаўкі працаваў толькі адзіны лекар Меер (ён таксама працаваў і школьным лекарам), і таму амбулаторыя не магла выконваць свае функцыі.

Таму не дзіўна, што пры такім стане рэчаў адзіным месцам, дзе людзі маглі атрымаць у любы час кваліфікаваную дапамогу, быў гарадскі шпіталь. Там заўжды знаходзіўся дзяжурны лекар, і таму заўжды можна было атрымаць медычную дапамогу: *"Дзяржаўны шпіталь з галоўным лекарам Казубоўскім для Ліды і Лідчыны (і нават для больш далёкіх месцаў, напрыклад, сюды прывозяць хворых нават з ваяводскага Наваградка і іншых гарадоў) ёсць адзіным медыцынскім цэнтрам. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова толькі прыйсці сюды ў любы дзень і пабачыць тлумы хворых, якія чакаюць дапамогі ў пачакальнях і нават у калідорах. Пры тым, што ў паліклініку ніхто не ідзе"* [243].

Лідскі шпіталь, пабудаваны ў 1921 г., быў стала перапоўнены[244]. На 60 штатных месцаў фактычна заўжды ўтрымлівалі 85 і болей хворых, калідоры былі застаўлены ложкамі. Тры лекары, якія працавалі ў шпіталі (галоўны лекар і ардынатар мелі восьмую службовую ступень, трэцім доктарам быў бясплатны практыкант), перагружаны працай. Акрамя сталай працы кожны дзень праводзілася 3-6 аперацый, часта вельмі складаных: *"У дзень калі тут быў аўтар артыкула былі зроблены аперацыі: на матцы, апендыцыт, завароту кішок і выдаленне пухліны. Пры гэтым па калідорах немагчыма было прайсці ад вялікай колькасці хворых людзей, якіх таксама неабходна было прыняць. ... . Цяжка ўявіць сабе, што ў такім горадзе, як Ліда, няма хуткай дапамогі, і, калі гэта патрэбна, яе выклікаюць з Вільні"* [245].

Пры канцы 1937 г. Лідскі аддзел Чырвонага Крыжа атрымаў санітарны аўтамабіль для перавозкі хворых[246].

У Лідзе трэба было будаваць вялікую паліклініку. Ужо ў 1937 г. прэса паведаміла, што паліклініка пачне будавацца ў 1938 г. на Выгане. Новы будынак будзе каштаваць 150 000 злотых[247]. Каля карпусоў гарадскога шпіталя ўлады далі пляц коштам 19 000 зл. На пачатку 1938 г. стала вядома, што фінансаваць будову часткова будзе Фонд Працы, а часткова Міністэрства Аховы здароўя і Сацыяльнай апекі. *"Паліклініка будзе будавацца з улікам апошніх патрабаванняў гігіены і будзе разлічаны таксама для газавай атакі падчас вайны"* [248].

Улетку 1938 г. газета "Слова" пісала: *"Ініцыятыва ваяводскіх уладаў пачаць пабудову гмаха паліклінікі ў Лідзе знайшла падтрымку ў гарадскіх уладаў, якія выдзелілі на гэтыя мэты 20 000 зл. Такую ж суму даў і Фонд Працы, і гэта толькі першы ўнёсак Фонду. Кошт будынка - 140 000 злотых. Новы будынак праектуецца з улікам апошніх патрабаванняў гігіены і будзе мець самае сучаснае абсталяванне - рэнтгенаўскі апарат і кварцавыя лямпы. У новай паліклініцы будуць аддзелы: афтальмалагічны, венералогіі, сухотны. Паліклініка павінна была абслугоўваць горад і пяць вясковых гмін каля Ліды"* [249]. Тады ж "Кур'ер Віленскі" пісаў, што *"міністр Касцялкоўскі[250] акрамя іншага цікавіўся станам медыцыны ў горадзе. Ён ухваліў праект гмаха новай паліклінікі, якая пачынае будавацца і асігнаваў на гэтыя мэты 20 000 зл. з Фонду Працы"* [251].

Увосень 1938 г. прэса паведамляла, што будаўніцтва паліклінікі *"рухаецца з кожным днём"* [252].

Галоўнай падзеяй 1938 г. у сферы аховы здароўя было адкрыццё новага шпітальнага эпідэмічнага корпуса, аб чым пісалася вышэй.

У снежні прэса паведаміла, што шматгадовы дырэктар Дзяржаўнага шпіталя, *"выбітны грамадскі дзеяч"* Стэфан Казубоўскі пайшоў на пенсію[253]. У ліпені 1939 г. Казубоўскі ўзнагароджваецца Залатым Крыжам Заслугі[254].

Увесну "Кур'ер Віленскі" пісаў пра стан аптэчнай справы ў горадзе: *"Праз рост Ліды існыя ў цэнтры горада аптэкі не могуць забяспечыць лекамі ўсіх хворых. На Слабодцы існуе аптэчны склад, але праз статут гэтая ўстанова можа гандляваць толькі самымі неабходнымі лекамі. Таму пачалася падрыхтоўка да адкрыцця ў горадзе чацвёртай аптэкі"* [255].

Паліклініку па вуліцы Нарутовіча да 1939 г. пабудаваць не паспелі, але ў ліпені 1939 г. ужо былі аб'яўлены таргі на выкананне ў будынку паліклінікі работ па мантажы сістэм ацяплення, каналізацыі, водаправода[256], што кажа пра тое, што будаўніцтва гмаха падыходзіла да канца. Верагодна, пасля пера- і дабудовы тут зараз знаходзіцца гарадская санстанцыя.

І пры канцы, трошкі з артыкула 1937 г. у "Кур'еры Віленскім" пад назвай "Прадмесце Ліды пад акупацыяй вар'ятаў", у якім паведамляецца пра цікавыя варункі ўтрымання псіхічна хворых у Лідзе: *"Перад 1935 г. тут* (на поўначы Ліды, каля Малэйкаўшчыны *- Л.Л.) была ўстанова для псіхічна хворых, якую трымаў Ліўшыц. А пасля закрыцця гэтай установы з'явіліся праблемы. У 1936 г. тут паўстала таварыства, якое апекавалася над гэтымі хворымі людзьмі: установа Ліўшыца была ліквідавана, а вар'ятаў, якіх яна ўтрымлівала, падзялілі паміж чальцамі таварыства, якія і апекаваліся над імі. 30-40 вар'ятаў, якіх пасялілі на тэрыторыі ў некалькі кіламетраў і па неабходнасці дазволілі вольна гуляць, надае гэтай ваколіцы спецыфічна адмоўны характар, з гэтай пары Малэйкаўшчына і вёскі вакол яе займелі досыць непрыемны статус у меркаваннях лідзян. Вядома ж, сустрэць вар'ята на дарозе - не надта прыемная рэч. Некалькі месяцаў таму адбылося забойства Стэфановіча з Малэкаўшчыны. Стэфановіч - член таварыства, трымаў у сябе аднаго вар'ята, чалавека звычайна спакойнага ... . Аднак неяк, працуючы разам з гаспадаром у стадоле ... хворы, не перастаючы быць спакойным, ударыў Стэфановіча граблямі па галаве, ад чаго той хутка памёр, а вар'ят ужо праз некалькі дзён зноў пасвіў быдла ў ваколіцах. ... На дарогах адбываюцца выпадкі збіцця вар'ятамі выпадковых людзей, напады на жанчын і дзяцей. Некаторыя вар'яты б'юць сваіх гаспадароў ці гаспадынь. ... За ўтрыманне і апеку над адным вар'ятам Гарадская Ўправа ці сваякі плацяць 50 злотых штомесяц. Відавочна, што ўтрыманне, напрыклад, 2 хворых дае гаспадару на вёсцы, які і так мае сродкі для жыцця, надта добры дадатак к сямейнаму даходу, таму шмат ахвочых займацца гэтай справай. ... Можа, варта адсунуць калонію вар'ятаў далей ад горада, вызваліўшы такім чынам прыгожыя мясціны ад іх акупацыі?"* [257].

***Казубоўскі Стэфан Стэфанавіч*** *(Stefan Kozubowski 1874-1961), галоўны лекар Лідскай бальніцы ў 1921-39 гг.*

*Род Казубоўскіх паходзіў з Меншчыны. У 1895 г. Стэфан скончыў Менскую класічную гімназію і паступіў у Імператарскую вайсковую медыцынскую акадэмію ў Санкт-Пецярбургу, якую скончыў ў 1901 г. Як вайсковы медык служыў на мяжы з Персіяй, у 1902 г. вярнуўся ў Пецярбург, але праз некалькі месяцаў пачалася руска-японская вайна, і ён быў прызначаны ў дзейную армію на Далёкі Ўсход. У 1906 г. вяртаецца*

*ў Пецярбург, дзе спецыялізуецца ў якасці хірурга і гінеколага. У 1907 г. вяртаецца ў родны Менск, працуе ў губернскім шпіталі. У 1908 г. атрымлівае ў Пецярбургу ступень доктара медыцыны. У 1909 г. узначальвае шпіталь у Баранавічах. З 1913 г. зноў у Менску - ардынатар хірургіі і гінекалогіі губернскага шпіталя. У 1914 г. мабілізаваны ў войска вайсковым лекарам, уздымаецца да кіраўніка хірургічнай службы дывізіі. У 1917 г. звальняецца і ўзначальвае аддзел хірургіі і гінекалогіі Менскага губернскага шпіталя. З 1920 г. на службе ў польскім войску, 1 ліпеня 1921 г. у чыне маёра пайшоў у запас і пераехаў жыць у Ліду, дзе адразу ўзначаліў толькі што пабудаваны дзяржаўны павятовы шпіталь.*

*У Лідзе жыў па вуліцы капітана Мяніцкага (раней - Палеская), потым - па Сыракомлі, пазней - па вуліцы Сувальскай (паміж Школьнай і рынкам). У 1930 гг. на вуглу вуліц Фалькоўскага і Школьнай будуе свой дом з прыватным медычным кабінетам. Тут, дзіцем, у яго прыватна лячыўся мой цесць, і я асабіста чуў расказы пра "цудоўнага доктара Казубоўскага". Дом Казубоўскага існаваў да канца 1990-х гг., у ім доўгі час знаходзілася гарадская фатаграфія.*

*Быў узнагароджаны Срэбным і Залатым Крыжамі Заслугі.*

*У 1939 г. пайшоў на пенсію, але ўвосень 1939 г., каб было з чаго жыць, быў змушаны вярнуцца да працы, працаваў у шпіталі, які да 1939 г. быў яўрэйскім, і ў паліклініцы.*

*У чэрвені 1941 г. пад час налёту нямецкай авіяцыі на горад была цяжка паранена ягоная жонка Людвіка, а дом часткова парушаны. Жыў у сябра, выкладчыка гімназіі Станіслава Руткоўскага па вуліцы Касцюшкі, 22, а потым па вуліцы 11 Лістапада, 18. У 1945 г. з'ехаў у Польшчу і пачаў жыць у Быдгашчы, працаваў лекарам у доме састарэлых, другі раз пайшоў на пенсіі толькі у 1957 г. ва узросце 83 гады.*

*Памёр 31 кастрычніка 1961 г., пахаваны на Цэнтральных могілках "Srebrzysko" ў Гданьску.*

## 8. Грамадскае і палітычнае жыццё

### *Дзейнасць грамадскіх арганізацый*

Новы, апошні перыяд палітычнага жыцця Другой Рэчы Паспалітай пачаўся 12 траўня 1935 г., калі памёр Юзаф Пілсудскі. Жалобная цырымонія праходзіла ў Варшаве, затым труна з целам Маршала была дастаўлена адмысловым цягніком у Кракаў і ўсталявана там побач з магільнымі склепамі польскіх каралёў у саборы на Вавелі. Сэрца Маршала было пахавана на Віленскіх могілках Росы ў магіле яго маці. Смерць Пілсудскага выклікала шырокі водгук за мяжой. Ліга нацый на адмысловым паседжанні ўшанавала памяць Маршала, які з'яўляўся ў вачах Еўропы знакам вялікага вычыну - пад яго ўладай Польшча спыніла бальшавіцкае нашэсце ў 1920 г.

Пасля смерці Пілсудскага ў сярэдзіне кіраўнічага лагера разгарэліся спрэчкі, з прычыны чаго ўмацаваліся пазіцыі прэзідэнта Масціцкага. Прыкметна павялічылася роля генерала Эдварда Рыдз-Сміглага, які хутка быў прызначаны маршалам Польшчы і заняў пост галоўнага інспектара Ўзброеных Сілаў, які ў выпадку вайны станавіўся галоўнакамандуючым. Палкоўнік Валер Славэк, арганізатар былога палітычнага фундамента ўлады - Беспартыйнага блока працы разам з урадам (BBWR)[258] выйшаў з палітычнай гульні і BBWR быў распушчаны.

У 1937 г. прыхільнікі ўлады "моцнай рукі" ў сярэдзіне кіраўнічага лагеру згуртаваліся вакол Рыдз-Сміглага і стварылі новую палітычную групоўку - "Лагер нацыянальнага аб'яднання" (Oboz Zjednoczenia Narodowego, у прастамоўі - OZN ці OZON). Гэтая арганізацыя ў 1937-1939 гг. дзейнічала таксама і на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

**Лагер нацыянальнага аб'яднання (OZN)**. Афіцыйным прапагандысцкім лозунгам "Лагеру нацыянальнага аб'яднання" стала патрабаванне павялічыць абароназдольнасць дзяржавы. У партыйнай прапагандзе ўзвышалася роля арміі і яе галоўнакамандуючага Рыдз-Сміглага. Галоўная арганізацыйная мэта - правесці кансалідацыю польскага грамадства і скаардынаваць яго дзейнасць з урадам. Партыя была жорстка цэнтралізаваная і ствралася зверху. Першыя кадры партыі фармаваліся шляхам падбору. Членамі маглі стаць толькі этнічныя палякі з добрай рэпутацыяй. Тэрытарыяльная пабудова партыі адпавядала адміністрацыйнаму падзелу дзяржавы - "Лагер нацыянальнага аб'яднання" падзяляўся на акругі, павятовыя і мясцовыя аддзяленні. У дзейнасці арганізацыі прасочваліся ўльтракансерватыўныя тэндэнцыі[259].

Часовы камітэт "Лагеру нацыянальнага аб'яднання" быў створаны ў Лідзе на пачатку чэрвеня 1937 г. Кіраўніком прызначаны капітан запасу Кузян. У часовы камітэт увайшлі старшыня Лідска-Валожынскага Звязу землеўладальнікаў Францішак Жылінскі, нейкі Вернер Амберг і два прадстаўнікі ад дробных вясковых гаспадароў. *"Мэта камітэту - арганізацыя ў Лідзе павятовага аддзелу "Лагеру нацыянальнага аб'яднання"* [260]. Праз некалькі дзён Казімір Кузян лістом у газету "Слова" ўдакладніў, што ў Лідскі часовы камітэт насамрэч уваходзяць 9 асобаў, сярод іх 5 дробных вясковых гаспадароў, 2 асаднікі і 2 землеўладальнікі[261].

На пачатку жніўня паведамлялася, што кіраўніком "Лагеру ..." верагодна будзе купец Міхал Баркоўскі. Праз некалькі дзён прэса ўжо афіцыйна паведаміла, што кіраўніком гарадской арганізацыі стаў Міхал Баркоўскі[262], а вясковай - капітан Кузян. *"Бюро арганізацыі месціцца па адрасу: вул. Пілсудскага, 5, тэл. 86, бюро працуе па аўторках і серадах з 17 да 19 гадзін і ў суботу з 16 да 18 гадзін"* [263].

У канцы жніўня лідскае аддзяленне "Лагеру ..." пашырыла прэсавы камунікат, у якім паведамлялася:

*"1) Прыняцце сяброў ў лакальную арганізацыю "Лагеру ..." можа адбыцца толькі пасля падпісання ... дэкларацыі, якая абвяшчае пра ўступленне. Гэта датычыцца і тых, хто ўступіў раней у "Лагер ..." у Цэнтральнай ці Акруговай аддзелах арганізацыі.*

*2) ... сябры ў "Лагер ..." прымаюцца толькі*

*індывідуальна.*

*3) Гарадское бюро "Лагеру ..." ў Лідзе па адрасу: вул. Пілсудкага, 5, тэл. 86 чынна штодзённа з 17 да 19 гадзін, апрача нядзелі і святаў"* [264].

Адной з першых спраў лідскага аддзелу была арганізацыя курсаў *"дробнага хрысціянскага гандлю, сталага і вандроўнага"* [265], наогул, галоўнай мэтай дзейнасці гарадскі аддзел выбраў для сябе арганізацыю прафесійнай асветы ў горадзе[266]. Для гэтага 20 верасня 1937 г. з ініцыятывы "Лагеру ..." *"ў памяшканні Купецкай гімназіі піяраў адбыўся арганізацыйны сход лідскага аддзялення Таварыства прафесійнай асветы. На сходзе, якім кіраваў суддзя Вінцэнт Папкоўскі, з дакладам пра мэты Таварыства выступіў дырэктар Купецкай гімназіі Жалігоўскі. ... . Была выбрана ўправа Таварыства ў складзе: падпаручніка Маеўскага, Міклашэўскай Рэгіны, Сэдны Гелены, кс. Чабаноўскага, Жылінскага, Аганоўскага і Ілінскага. ... У сходзе прынялі ўдзел віца-стараста Вітольд Дзядовіч і правінцыял Ордэна Піяраў кс. Стусінскі"* [267].

Хутка пад эгідай "Лагеру ..." пачалі ствараццa розныя грамадскія арганізацыі, якія, кожная ў сваёй галіне, пачалі працаваць з рознымі групамі грамадства.

Пры канцы верасня таго ж года "Лагер ..." прыступіў да арганізацыі Таварыства сяброў горада Ліды, пра дзейнасць якога пісалася вышэй[268].

17 кастрычніка 1937 г. у 10 гадзін раніцы ў кінатэатры "Эра" пачаў працу павятовы з'езд Лагеру нацыянальнага аб'яднання[269]. *"У з'езде прыняў удзел кіраўнік ваяводскай арганізацыі Ян Трацяк. На з'езд прыбыло каля 1000 дэлегатаў з горада і павета. Выступала шмат аратараў: кіраўнікі арганізацыі і ўсе кіраўнікі гмінных аддзелаў Лідскага павета. З'езд абраў кіраўніцтва лідскага "Лагеру ..."* [270]. Хутка прэса надрукавала вялікі тэкст "Пастулатаў лідскага з'езду" - вялікую праграму дзейнасці арганізацыі ў галінах сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю, асветы і самакіравання[271].

На пачатку 1938 г. у Лідзе прайшлі з'езды гмінных аддзелаў гэтай арганізацыі[272]. Прынятая з'ездам ухвала настолькі характэрная для разумення гэтай арганізацыі, што мае сэнс прывесці яе цалкам:

*"Жадаем:*

*1) Адзяржаўлення ўсіх фабрык і заводаў звязаных з ваеннай прамысловасцю, у гаспадарчай праграме галоўным павінна стаць узмацненне абароназдольнасці*

*2) Пераходу ў польскія рукі (unarodowienie) гандлю, прамысловасці, рамёстваў, а перад усім жадаем, каб як найхутчэй быў выдадзены закон, які забараняе яўрэям гандаль сельскагаспадарчымі таварамі, а менавіта: збожжам, буйной рагатай жывёлай і свіннямі, сельскагаспадарчымі машынамі і абсталяваннем, лесам, цэментам, вапнай, а таксама манапольнымі таварамі, такімі як соль, алкаголь, тытунь, запалкі і г.д.*

*3) Жадаем рэвізіі грамадзянства яўрэяў, якія жывуць у Польшчы*

*4) Жадаем пашырэння межаў тэрытарыяльнага самакіравання ў гаспадарчых і культурных справах вёскі.*

*5) Даступнага крэдыту дробным вясковым гаспадарам для выплаты родным, каб пазбегнуць дзялення вясковых гаспадарак.*

*6) Даступнай сельскагаспадарчай адукацыі дзецям сялян ... ."* [273].

Не выклікае сумнення, што ў 1938 г. неабходна было рабіць усё магчымае для ўзмацненне абароназдольнасці дзяржавы, аднак неабходна заўважыць, што прыватны бізнес часцей лепей спраўляецца з выпускам сучаснай вайсковай тэхнікі. Але не гэта галоўнае. Здзіўляюць прапановы пра "unarodowienie" эканомікі, за 1,5 года да чарговай Сусветнай вайны, гэта вельмі падобна на тушэнне пажару бензінам.

Пры канцы 1937 г. "Лагер ..." адарваў лідскі аддзел прафсаюза "Звяз прафесійных звязаў" (ZZZ) ад яго цэнтральных кіраўнічых органаў у Варшаве[274]. Лідскі аддзел "Звязу прафесійных звязаў" у першай палове 1936 г. праводзіў знакаміты агульны Лідскі страйк, аднак пасля шэрагу судовых працэсаў быў моцна аслаблены і ў нашым горадзе перайшоў пад кантроль "Лагеру ..."[275], уступіўшы ў "Звяз аб'яднаных прафсаюзаў" (ZPZZ) - свайго роду "афіцыйны" прафсаюз таго часу. У лютым 1938 г. кіраўнік рабочай секцыі "Лагеру ..." Віленскай акругі Касачэўскі выступіў перад працоўнымі Ліды (каля 100 чалавек) і расказаў пра развіццё "афіцыйных" прафсаюзаў, крытыкуючы пры гэтым "Звяз прафесійных звязаў" (ZZZ), ён *"заклікаў да падтрымкі польскага гандлю і арганізацыі каапературываў"* [276].

Каб заахвоціць працоўных, кінатэатр "Эра" беспрацоўным - сябрам афіцыйных прафсаюзаў (ZPZZ)[277] прадаваў білеты са зніжкамі і нават раздаваў кожны тыдзень некалькі дзесяткаў білетаў бясплатна[278].

24 ліпеня 1938 г. у Лідзе адбыўся павятовы з'езд маладзёвага крыла "Лагеру ..." - "Звяз маладой Польшчы Лагеру нацыянальнага аб'яднання" (ZMP), у мерапрыемстве ўзялі ўдзел 2000 чалавек[279]. Ужо 31 жніўня адбыўся інцындэнт, калі *"каля чыгуначнага вакзала былі збітыя дзве пані, якія адмовіліся ўзяць улёткі "Звязу маладой Польшчы"*. Актывісты, якія раздавалі ўлёткі, збілі жанчын на віду ў мінакоў і ўцяклі ў штабкватэру "Лагеру ...", аднак былі распазнаны сведкамі і перададзены ў рукі паліцыі" [280].

"Лагер ..." праводзіў свае агітацыйныя мерапрыемствы пад час парафіяльных святаў у касцёлах[281], у клубе чыгуначнікаў[282], у школах і г.д.

**Ліга марская і каланіяльная (LMK).** Агульнапольская арганізацыя створаная пры канцы 1920-х гг. У статуце лігі, адзначалася, што арганізацыя імкнулася да распаўсюджвання ведаў па марской, рачной і эміграцыйна-каланіяльнай тэматыцы. Акрамя гэтага Ліга спрыяла развіццю польскага гандлёвага і вайсковага флоту[283].

Улетку 1936 г. Ліга праводзіла ў Лідзе Свята мора, пад час якога сабрала ў Фонд Нацыянальнай абароны 85 злотых. Віленская газета "Слова" высмеяла сам факт збору грошай у маламаёмасных гараджан. *"Колькі танкаў можна купіць на 85 злотых?"* -

запыталася газета. Так сама крытычна газета паставілася да збору грошай сярод вучняў Лідчыны, бо лічыла, што гэта непедагагічна[284].

На пачатку чэрвеня 1937 г. у зале канферэнцый Лідскага старостава адбыўся Вальны з'езд Лідскай рэгіянальнай "Лігі марской і каланіяльнай": *"Рэгіянальная арганізацыя складаецца з 30 аддзелаў і злучае каля 2 000 чалавек. ... з'езд ухваліў гадавы бюджэт выдаткаў у 8 700 злотых. На наступны тэрмін з'езд вырашыў пабудаваць прыстань у Сяльцы, фундаваць памятную таблліцу піянеру каланіяльнай ідэі генералу Орліч-Дрэшару, выслаць трох сяброў лігі за кошт арганізацыі на месячны лагер на Нарач. Старшынём Лігі пераабраны Сакалоўскі, быў вылучаны камітэт правядзення "Свята мора" пад кіраўніцтвам старасты Міклашэўскага"* [285]. У тым годзе Свята мора шырока святкавалі ў нашым горадзе:

*"29.06.1937 г. у 10-30 свята пачалося з набажэнства ў Фарным касцёле з удзелам прадстаўнікоў улады, войска і грамадскіх арганізацый. У 11-30 прайшла дэфіляда па вуліцы Сувальскай - 3-га Мая і ганаровая змена шыльдаў на былой вуліцы Пяскі, пераназванай у вуліцу генерала Орліч-Дрэшара. У 16-00 адбыўся канцэрт аркестра 77 палка пяхоты на плошчы Збаўцы"* [286]. 4 ліпеня святкаванне працягвалася на рацэ Нёман[287], на жаль, у той дзень у рацэ патанула вучаніца 3-га класа Купецкай гімназіі піяраў Ядвіга Шыманская, якая таксама прыехала святкаваць. Дзяўчынка разам з выпускніком Купецкай гімназіі плавала на лодцы па Нёмане, і лодка перакулілася[288]. Цела дзяўчынкі было знойдзена праз некалькі дзён за тры кіламетры ніжэй ад Сяльца[289].

На наступны год, 26 чэрвеня 1938 г. на рацэ Нёман (каля станцыі "Нёман") адбылося адкрыццё чарговых урачыстасцяў Свята мора. Надвор'е спрыяла святу, і на бераг ракі выехалі тлумы гараджан. У афіцыйнай частцы адбыліся лодачныя заезды, розныя гульні і розыгрышы латарэй[290].

Хутка на Балтыцы было зкончана будаўніцтва карабля "Ліда", гэты факт шырока асвятляўся ў перыядычным друку і абмяркоўваўся ў нашым горадзе ў сувязі з дзейнасцю лігі.

**Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны (LOPP)**. У прадчуванні будучай вайны шырока дзейнічала Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны. Улетку 1936 г. каля станцыі Нёман праходзіў двухтыднёвы лагер, у якім інструктары Таварыства абучалі ўдзельнікаў метадам сучаснай грамадзянскай абароны. Уладальнік маёнтка ў Сяльцы Альфрэд Бартэндзюк (Alfred Bartendeaux) прадставіў для размяшчэння лагеру сваю зямлю[291].

3 кастрычніка 1937 г. у межах "Тыдня супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны" адбылася вучэбная трывога[292]. На пачатку 1938 г. Таварыства арганізавала шэраг курсаў супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны для ўладальнікаў нерухомасці і камендантаў будынкаў[293].

**Фонд нацыянальнай абароны (FON)**. Пры канцы 1937 г. гарадскі камітэт Фонду пералічыў на свой галоўны рахунак 7475,57 злотых, сабраных сярод чыноўнікаў Лідскага старостава і магістрата[294]. А ўвесь павет у тым годзе пералічыў на галоўны рахунак Фонду болей за 56 000 злотых. На гэтыя грошы планавалася закупіць для войска 6 цяжкіх кулямётаў (адразу, для кулямётаў закуплялася 6 вазкоў, 6 вупражаў і 76 коней), 1 лёгкі кулямёт і 2 гранатамёты[295]. У 1938 г. Лідчына пачала збіраць грошы на самалёт для войска[296]. У 1939 г. прэса ўжо друкуе табліцы на ўсю газетную паласу са спісамі ахвярадаўцаў.

Санітарныя веды сярод лідзян пашыраў **Лідскі аддзел Чырвонага крыжа**, які месціўся ў сваім памяшканні па вуліцы Пераса, 5 [297].

**Звяз Грамадзянскай Працы Жанчын (ZPOK)** апекаваўся дзяцьмі.

**Камітэт зімовай дапамогі** займаўся дапамогай беспрацоўным падчас халадоў.

Пашырэннем культуры і падрыхтоўкай да абароны займаўся **Звяз шляхецкіх засценкаў Лідчыны**, ў 1938 г. яго узначаліў будучы герой Другой Сусветнай вайны Вітольд Пілецкі[298]. У жніўні 1937 г. Пілецкі быў узнагароджаны Срэбным Крыжам Заслугі[299].

**Стралецкі звяз**, польская дзяржаўная грамадска-выхаваўчая арганізацыя, створаная ў снежні 1919 г., займалася вайсковай падрыхтоўкай і патрыятычным выхаваннем перадусім працоўнай моладзі, рыхтуючы яе да войска.

Вялікай папулярнасцю карысталася **маладзёвая арганізацыя харцараў** якая выхоўвала моладзь у духу патрыятызму, шмат хто з былых харцараў аддаў сваё жыццё ў гады Другой Сусветнай вайны.

У горадзе дзейнічала яшчэ шмат розных грамадскіх арганізацый.

***Вітольд Пілецкі** (1901.05.01 ў г. Аланец, Расія, Карэлія - 15.05.1948 асуджаны камуністычнай уладай Польшчы да смяротнага пакарання). Нарадзіўся ў горадзе Аланец, Карэлія, куды яго сям'я была выселена царскімі ўладамі за ўдзел у паўстанні 1863 г. Паходзіў з шляхецкай сям'і, якая мела герб Ляліва. З 1910 г. жыў у Вільні, дзе вучыўся ў камерцыйнай школе. З 1914 г. быў членам забароненага царскімі ўладамі харцэрскага руху. У 1921 г. здаў экзамен на атэстат сталасці. На працягу 1918-1921 гг. служыў у польскім войску. Як кавалерыст удзельнічаў у абароне Гародні. 5 жніўня 1920 г. паступіў у 211 полк уланаў і ў яго шэрагах удзельнічаў у Варшаўскай бітве 1920 года, у баі ў Рудніцкай пушчы і ўзяцці Вільні. Двойчы ўзнагароджаны Крыжам за доблесць (Krzyz Zaslugi Сярэдняй Літвы і срэбны Krzyz Zaslugi Польшчы). Пасля вайны дэмабілізаваны. У 1934 г. прысвоена званне падпаручніка запасу. Ен заставаўся ў спісе ваеннаабавязаных у Лідскім павятовым вайсковым камісарыяце з прызначэннем у 26 полк велікапольскіх уланаў (26 Pulk Ulanow Wielkopolskich) у горадзе Баранавічы. У жніўні*


**Вітольд Пілецкі**

*1939 г. паўторна мабілізаваны. Змагаўся супраць немцаў у кампаніі 1939 года камандзірам звязу ў эскадроне дывізіённай кавалерыі 19 пяхотнай дывізіі Арміі "Прусія" (szwadron kawalerii dywizyjnej 19 Dywizji Piechoty Armii "Prusy"). Апошнія баі яго атрад правёў як партызанскі. Пілецкі распусціў свой звяз 17 кастрычніка 1939 г. і перайшоў на канспірацыю. Пасля заканчэння кампаніі 1939 г. перабраўся ў Варшаву і стаў адным з арганізатараў падпольнай арганізацыі Тпемная Польская Армія (Tajna Artia Polska). 19 верасня 1940 г. падчас вулічнай аблавы ён добраахвотна здаўся немцам з мэтай патрапіць у якасці вязня ў канцэнтрацыйны лагер Асвенцым для атрымання інфармацыі і правядзення падпольнай працы. Ён быў дастаўлены ў гэты канцлагер ў ноч з 21 на 22 верасня 1940 г. У ноч з 26 на 27 красавіка 1943 г. Пілецкі ўцёк з лагера і першым праінфармаваў саюзнікаў аб тым, што робіцца ў лагеры смерці. У 1943-1944 Пілецкі служыў у III аддзеле Кедыў (Kedyw) Галоўнага Камандавання Арміі Краёвай (у тым ліку - наместнікам камандзіра выведвальна-інфармацыйнай брыгады "Камелеон" - "Вожык"), удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1944 г. У перыяд 1944-1945 гг. знаходзіўся ў нямецкім палоне, потым ён служыў у 2-м польскім корпусе (2 Korpus Polski) у Італіі. У кастрычніку 1945 г., вярнуўся ў Польшчу з мэтай барацьбы з камуністамі. Восенню 1945 г. арганізаваў выведвальную сетку і пачаў збіраць інфармацыю аб становішчы ў Польшчы, у тым ліку аб салдатах Арміі Краёвай, зняволеных у лагерах НКУС на тэрыторыі Польшчы і высланых ў СССР. Ён атрымліваў выведвальную інфармацыю з Міністэрства грамадскай бяспекі (Ministerstwo Bezpieczenstwa Publicznego), Міністэрства нацыянальнай абароны (Ministertwo Obrony Narodowej) і Міністэрства замежных спраў (Ministerstwo Spraw Zagranicznych).*

*Пілецкі ігнараваў загад генерала Ўладыслава Андэрса пакінуць Польшчу ў сувязі з пагрозай арышту. Ён абдумваў скарыстацца амністыяй 1947 года, але вырашыў не выходзіць з падполля. 8 траўня 1947 г. быў арыштаваны, пачаліся допыты з катаванямі. 15 траўня 1948 г. Пілецкі прысуджаны да смяротнага пакарання (на гэты час нават у Савецкім Саюзе смяротная кара была адменена).*

*30 ліпеня 2006 года прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі пасмяротна ўзнагародзіў Вітольда Пілецкага ордэнам Белага арла.*

*У сваёй кнізе "Six Faces of Courage" брытанскі гісторык прафесар Майкл Фут (Michael Foot) аднёс Вітольда Пілецкага да ліку шасці самых адважных герояў Другой Сусветнай вайны.*

### *Выбары*

У верасні 1938 г. для правядзення выбараў у Сейм створана выбарчая акруга № 50 (Лідская) і прызначана выбарчая акруговая камісія[300]. У Лідскай акрузе было 13 раёнаў для галасавання ў Сенат і 81 выбарчы пункт галасавання ў Сейм. У самім горадзе стварылі 9 выбарчых акруг: 1-я і 2-я акруга месціліся ў школе № 4 (на Слабадзе), 3-я акруга ў школе № 1, 4-я акруга ў Рameснай школе (вул. Сувальская), 5-я акруга ў школе № 3 (вул. Сувальская, 74), 6-я акруга ў памяшканні Акружнога суда (вул. 3-га Мая), 7-я і 8-я акругі ў школе № 5 (каля замка), 9-я акруга ў памяшканні Гарадскога суда (вул. 17-га Красавіка)[301].

Праз некалькі дзён лідскі аддзел "Лагеру нацыянальнага аб'яднання" склікаў збор дэлегатаў усіх таварыстваў, звязаў, грамадскіх і гаспадарчых арганізацый Лідчыны. Мэтай збору было стварэнне агульнага для ўсіх арганізацый камітэту ў справе выбараў паслоў і сенатараў ад Лідскага павета. Пад эгідай "Лагеру ..." такі камітэт быў створаны і передвыбарчую адозву да лідзян падпісалі ўсе прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Лідчыны[302].

Падчас выбарчай кампаніі ў Польшчы Гітлер цалкам акупаваў Чэхаславакію, і Польшча атрымала Цешынскі край (па-польску - Zaolzie), што моцна "падагрэла" патрыятызм. 9 кастрычніка 1938 г. у лідскім Фарным касцёле прайшла імша удзячнасці за добрае залатвенне "справы Заолзя" [303]. Пачаліся акцыі збору грошай "дзецям Заолзя" [304].

Але на Лідчыне знайшліся людзі, якія не пакінулі надзею на дэмакратычныя выбары, і менавіта іх кляйміла прэса, пішучы, што яны *"голасна ...* (выступілі) *супраць кансалідацыі грамадства ў "Лагеры нацыянальнага аб'яднання" ... і распачалі сваю асобную передвыбарчую кампанію ў павеце"* [305]. Гэта былі павятовы інспектар самакіравання Вільчынскі і войт Эйшышскай гміны Вайцяховіч. Незалежныя кандыдаты асабіста ездзілі па павеце і самастойна збіралі подпісы, і нават *"за іх ахвотна падпісаліся яўрэі"* [306].

У нядзелю, 16 кастрычніка ў Лідзе пачаўся вялікі передвыбарчы з'езд "Лагеру ..." прадстаўнікоў аж чатырох паветаў. З-за гэтага лідскі стараста нават забараніў у горадзе продаж алкаголю[307]. Сход пачаўся з імшы ў Фарным касцёле, пасля чаго дэлегаты з транспарантамі прайшлі праз цэнтр горада ў памяшканне кінатэатра "Эра", дзе і пачалося паседжанне. Выступы аратараў з кінатэатра трансляваліся на вуліцу і некалькі тысяч гараджан, стоячы вакол "Эры", слухалі выступоўцаў. Даўжэй за ўсіх выступаў кандыдат у паслы Сейма Люцыян Брыльскі, яго выступ неаднаразова перарываўся авацыямі. Сход даслаў тэлеграмы прэзідэнту дзяржавы, маршалу Рыдз-Смігламу і генералу Скварчынскаму. Пасля гэтага была ўхвалена рэзалюцыя, якую зачытаў дырэктар Купецкай гімназіі Генрык Жалігоўскі. Паседжанне закончылася спевам гімну і песні Першай Брыгады[308]. Пры канцы мерапрыемства, у замку Гедзіміна адбыўся вялікі передвыбарчы мітынг з удзелам віца-міністра Юліяна Пясецкага, ваяводскіх і павятовых уладаў[309].

У лістападзе стала вядома што па Лідскай акрузе № 50 першым у спісе ад "Лагеру нацыянальнага аб'яднання" ідзе Станіслаў Ян Швед, а другім Люцыян Брыльскі. Абодва паходзілі не з Заходняй Беларусі. Швед нарадзіўся ў 1894 г. у Загур'і Саноцкага павета, былы легіянер, старшыня Лідскага Звязу асаднікаў. Брыльскі нарадзіўся ў 1898 г. на Шлёнску, пры канцы 1930-х гадоў працаваў настаўнікам польскай мовы ў Лідскай гімназіі[310]. Трэба дадаць, што асноўная рэгіянальная прэса асвятляла толькі перадвыбарчую актыўнасць праўрадавага "Лагеру ...".

Перад самымі выбарамі "за падрыўную дзейнасць" рашэннем павятовага старосты на 3 гады былі выселены жыхары павета Юдаль Гарбарэўскі, Рахіля Шулкін, Лейзер Пупко, Мардух Бакст, Мойша Якуб Шмуйловіч, Ян Буцько, Міра Ланская, Берка Аркаў[311]. Пракаментаваць практыку высялення людзей праз рашэнні выканаўчай улады і ўдакладніць, куды ж іх выселілі, я не магу.

Вынікі выбараў у Сейм па акрузе № 50: мелі права галасаваць 152 603 чалавек, галасавала 93 155 (64%), Брыльскі атрымаў 35 135 галасоў выбаршчыкаў, Швед - 33 689, Рай - 33 671, Гурскі - 32 260, Арэхва - 25 563 галасоў выбаршчыкаў - усе сябры "Лагеру ..."[312]. Напачатку наступнага, 1939 г. Надзвычайны суд у Варшаве разглядаў 5 скаргаў на выбары на 50-й Лідскай акрузе[313].

26 лютага 1939 г. адбылося святкаванне 2-х угодкаў абвяшчэння ідэалагічнай дэкларацыі "Лагеру нацыянальнага аб'яднання". Пасля набажэнства ў Фарным касцёле, пасол Брыльскі прачытаў даклад перад членамі арганізацыі ў кінатэатры "Эра"[314].

Стараста Гансоўскі зацвердзіў выбары ў Гарадскую Раду на 16 красавіка 1939 г.[315] У выніку, у Раду былі абраныя 13 радных ад "Лагеру нацыянальнага аб'яднання", 6 радных ад Яўрэйскага блока горада і 5 радных ад Блока народнай дэмакратыі[316].

### *Нацыянальныя адносіны*

Да канца 1930-х гадоў **беларускі рух** у Лідзе быў практычна зліквідаваны. У падполлі дзейнічала толькі КПЗБ, большасць сяброў якой у нашым горадзе былі яўрэямі. У 1937 г. віленскае "Слова" перадрукоўвае з газеты "Польскі Меркурый" фрагмент характэрнага ліставання двух маладых камуністаў з-пад Ліды. Нейкі Апанас піша да Восіпа, які ў гэты час служыць у войску (ліст напісаны па-беларуску): *"... арыштавалі Мішку, Голдэнберга, Віцьку, але ты, Осіпка, не бядуй, у турме іх толькі трошкі патаўклі, а ў морду ніхто не даў, дык ніхто і не прызнаўся. Дзела не такое і кепскае ..."* [317]. У лістападзе 1937 г. за захоўванне камуністычнай літаратуры і прыналежнасць да КПЗБ судзілі жыхара Дакудаўскай гміны Сцяпана Бандарука. Прыналежнасць да кампартыі ў судзе не была даказана, а кнігі ён легальна прывёз з Францыі, дзе жыў да 1936 г., і таму ў суд яго апраўдаў[318].

Але і напрыканцы 1930-х гг. Ліда заставалася беларускім горадам. Язэп Найдзюк пісаў у часопісе "Шлях Моладзі" ў жніўні 1939 г.: *"Беларускасць Ліды характарызаваў мне нядаўна адзін літоўскі інтэлігент, каторы жыў там нейкі час і гэтак казаў: - У Лідзе жыхары хрысціяне, пераважна работнікі, з заробкам да 200 зл. у месяц - усе беларусы. Язык беларускі пануе ўсюды, за выняткам дзяржаўных установаў. - Ліда, трэба ведаць, зьяўляецца вялікімі фабрычным работніцкім асяродкам і заработкі работнікаў там невялікія, як і ўсюды ў нашым краю"* [319].

**Летувісы.** Ад пачатку 1920-х гг. цяжка складваліся адносіны паміж Польшчай і Летувой, з-за спрэчкі аб прыналежнасці Вільні, паміж гэтымі дзяржавамі не было нават дыпламатычных адносін. На пачатку 1938 г. адносіны рэзка абвастрыліся. 11 сакавіка 1938 г. на летувіска-польскай дэмаркацыйнай лініі быў знойдзены труп польскага салдата. 13 сакавіка Польшча ўсклала адказнасць за гэта на Летуву. Польская бок даў зразумець Летуве, што чакае аднаўлення дыпламатычных адносін, і патрабаваў прызнання летувіскім урадам існай мяжы паміж дзяржавамі. У ноч з 16 на 17 сакавіка палякі прад'явілі Летуве ўльтыматум з патрабаваннем устанавіць дыпламатычныя адносіны. Летувіскі ўрад пайшоў на ўстанаўленне дыпламатычных адносін і прызнанне межаў. Усё гэта адбівалася на летувісах, якія жылі на поўначы Лідскага павета і на палякаў, якія жылі ў Літве.

На пачатку 1936 г. у Лідзе з ініцыятывы "Федэрацыі польскіх звязаў абаронцаў Радзімы" быў створаны камітэт абароны палякаў у Летуве. Першым мерапрыемствам камітэту быў мітынг у падтрымку палякаў Летувы, праведзены 26 студзеня на плошчы Славы ў Лідзе[320]. У красавіку таго ж года ў нашым горадзе рашэннем старасты былі скасаваныя 11 аддзелаў розных летувіскіх таварыстваў *"за пазастатутную дзейнасць ... якая можа пагражаць грамадскаму спакою"* [321]. Тым не менш на 1 верасня 1936 г. у павеце працавала 7 школ з выкладаннем на летувіскай мове[322] - бо яны мелі сваю дзяржаву, якая клапацілася пра летувіскую культуру, а беларусы не мелі такой падтрымкі.

На пачатку 1938 г. Лідскі акруговы суд разглядаў чарговую справу летувісаў. Пра гэтую справу газета "Слова" надрукавала вялікі артыкул з "белай плямай" - следам польскай цэнзуры. Аўтар пад псеўданімам J.M. (пэўна - Юзаф Мацкевіч) пісаў: *"Еду ў Ліду. ... На лаве падсудных сядзяць: Вінцэнт Дайлідка, Веранiка Чыбір, Пётр Валентыкевіч. Усе кіраўнікі чытальняў летувіскага таварыства "Рытас". Дайлідку бароніць адвакат Янкоўскі. Абвінавачваюць яго ў тым, што захоўваў нелегальную літаратуру і слухаў перадачы радыё "Звязу Вызвалення Вільні" з Каўнаса, пры гэтым расказваў людзям пра змест перадачаў і такім чынам выступаў за адрыў тэрыторыі ад Польшчы. Дайлідка віну не прызнаваў, бо ўсе кнігі ў чытальні былі легальныя, са штэмпелем "Рытас". А тыя кнігі, якія ў яго былі знойдзены пад страхой, яму не належалі:*

***Пракурор:** Адкуль узяліся кнігі?*
***Абвінавачаны:** Хіба нехта падкінуў.*
***Пракурор:** Радыё слухаеце?*

***Абвінавачаны:*** *Так, дэтэктарнае.*
***Пракурор:*** *На ім чуцён Каўнас?*
***Абвінавачаны:*** *Не"* [323].

Адвакаты абвінавачаных запатрабавалі перакласці нелегальныя кнігі на польскую мову, каб можна было зразумець іх змест. Пасля перакладу стала зразумела, што гэтыя кнігі - збор песняў, летувіскі гімн, кніга пра Вітаўта і г.д. Толькі кніга пра Вітаўта Вялікага выклікала недавер у суда, бо была надрукавана ў Каўнасе, і таму ў ёй Вітаўт прадстаўлены як вораг Польшчы.

Аўтар артыкула працягвае: *"Падсудны Валентыкевіч ... мала інтэлігентны, слаба выхаваны. Віны не прызнае, плача і не можа ясна прамаўляць. Яго адвакат упірае на тое, што калі ён загадваў чытальняй у Дубічах дык змагаўся з левымі і камуністычнымі актывістамі ... у судзе стала вядома, што ў Дубічах паліцыя мела вялікія праблемы з камуністамі, але пасля прыбыцця Валентыкевіча камуністы страцілі свой уплыў. Чытальня ў Дубічах мела 70 кніжак, а ў Мантанах (там працавала яго жонка) 23 кніжкі. Валентыкевіч атрымліваў 180 злотых, яго жонка 120* (вельмі добрыя грошы па тым часе - *Л.Л.*). *Пракурор усклікае: "Як гэта можа быць, атрымліваць 300 злотых штомесяц за бібліятэку ў 90 кніжак!" ... Абвінавачаны чырванее і не мае што сказаць. Адзін з суддзяў ківае з разуменнем галавой. Пракурор пасміхаецца ..."* [324].

Як далей стала вядома, нават і тыя 90 літоўскіх кніжак ніхто чытаць не хацеў, бо ўся вясковая моладзь была настроена варожа. Валентыкевіча таксама абвінавачвалі ў тым, што ён слухаў радыё і пераказваў людзям, каб увайсці ў давер да вяскоўцаў, для старых купляў махорку, а для моладзі - цукеркі а з камуністамі змагаўся, каб "замуціць ваду". Як аказалася, адна з "нелегальных" кніжак была выдадзена па-летувіску яшчэ ў 1905 г.[325]

У выніку ўсе, акрамя Валентыкевіча былі апраўданы, а *"былы кіраўнік раней зачыненай чытальні Літоўскага таварыства "Рытас" ў Дубічах і Мантанах Пётр Валентыкевіч атрымаў вырак суду ў 3 гады турмы і пазбаўлення праў на працягу 5 гадоў"* [326].

У сакавіку перад Акруговым судом паўсталі летувіскія актывісты Міхал Чаглі і Пяртрунела-Бірута Шычкоўская абвінавачаныя ў антыдзяржаўнай дзейнасці на тэрыторыі Лідскага павета[327]. Пры канцы лістапада той жа суд пачынае судзіць *"летувіскіх дзеячоў Агату Уткеч і Вераніку Чыбір"*[328].

8 лютага Лідскі акруговы суд разглядзеў справу летувіскай дзяячкі, нейкай Юнкелейць з вёскі Бутрыманцы, якая абвінавачвалася *"ў намаўленні вясковых людзей, праз разпаўсюд адпаведных кніжак да адарвання часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай"*. Суд апраўдаў жанчыну, а двух сведкаў пракурор нават абяцаў прыцягнуць да адказнасці за ілжывая паказанні[329].

**Яўрэі.** Пры канцы 1930-х гг. цяжка выбудоўваліся адносіны яўрэйскага насельніцтва Польшчы з уладамі краіны. Прычым колькасць яўрэйскага насельніцтва была настолькі высокай, што пад час яўрэйскіх святаў жыццё ў горадзе спынялася[330].

На яўрэйскіх могілках у Лідзе з 1936 г. стаяў помнік невядомаму жаўнеру-яўрэю, які загінуў у баях з бальшавікамі пад Лідай у 1920-м г. Потым, да 1939 г., кожны год у лістападзе Камітэт камбатантаў-яўрэяў збіраў каля помніка жалобны мітынг[331].

У лютым 1938 г. "Кур'ер Віленскі" піша: *"Заўсёды спакойную Ліду наведала дастаткова вялікая група пікетоўцаў з Вільні. Група падлеткаў, стаўшы на вуліцах горада, старалася перашкаджаць гараджанам рабіць пакупкі ў яўрэйскіх крамах. Улёткі, якія яны раздавал,і былі сканфіскаваныя паліцыяй. Праз парушэнне грамадскага спакою паліцыя склала на пікетоўцаў некалькі пратаколаў"* [332]. Праз некалькі нумароў тая ж газета пісала, што лідскі староста вырашыў спыніць пікетаванне крамаў, якое пачалося 31 студзеня, *"некалькі пікетоўцаў арыштавана паліцыяй, сярод арыштаваных пікетоўцаў былі злодзеі-рэцыдывісты"* [333].

У вышэй прыведзенай праграме, прынятай у Лідзе на пачатку лютага 1938 г. на з'ездзе гмінных арганізацый "Лагеру нацыянальнага аб'яднання" (OZN) пералічаны накіраваныя супраць яўрэяў пункты. У лістападзе таго ж года, прэса паведамляе што Гарадская ўправа дзеля адсоткавага павялічэнне неяўрэйскага гандлю (unarodowienia) вырашыла перарабіць існы на рынку мясны павільён ў крамы. *"З боку галоўнай вуліцы горада паўстануць тры новыя крамы, якія Таварыства сяброў горада Ліды плануе перадаць купцам з заходніх ваяводстваў Польшчы. Зараз у горадзе ўжо існуюць 4 вялікія крамы, адчыненыя купцамі з Познанскага ваяводства"* [334]. Ужо праз некалькі тыдняў замест мяснога павільёна адчыняцца новыя крамы па вуліцы Сувальскай, тут жа, месца, дзе стаялі дрожкі перароблена ў скверык, і так *"вырашана найвялікшая праблема цэнтра горада, бо тут раней было галоўнае месца стоку нечыстотаў. Новыя крамы будуць прыносіць гораду прыбытак, хрысціянскі гандаль у цэнтры горада хутка павялічваецца"*[335]. Хутка Народны кааператыўны банк у Лідзе выдзеліў 6 000 злотых для выкарыстання ў якасці ільготных крэдытаў для *"хрысціянскага рамесніцтва і гандлю"* [336].

На пачатку жніўня 1938 г. віленская газета "Слова" паведаміла пра змяншэнне адсоткавай колькасці яўрэяў у лідскіх мястэчках і ў самой Лідзе: *"У Лідзе ў 1921 г. было 48% яўрэяў ад агульнай колькасці гараджан, а зараз толькі 33%"* [337].

Не гледзячы ні на што, летам 1938 г. лідскія яўрэі-рамеснікі пачынаюць збіраць грошы, каб купіць для войска санітарны аўтамабіль[338]. Тады ж уладальнік "Ардаля" Саламон Мелуп вырашае купіць для гарнізона горада Грудзенж (у якім, як і ў Лідзе, "Ардаль" меў фабрыку) цяжкі кулямёт[339].

6 верасня 1938 г. віленская газета "Слова" праінфармавала, што ў нядзелю, 4 верасня, у Лідзе дайшло да антыяўрэйскіх хваляванняў. Прычынай эксцэсаў было збіццё каля 8 гадзін вечара некалькіх жаўнераў. *"Пасля гэтага ў некаторых яўрэйскіх дамах па вуліцах*

*3-га Мая, Сувальскай і суседніх з імі вуліцах былі выбіты шыбы. Таксама выбіты шыбы ў рэстаране яўрэя Савіцкага, у цукерні "Амерыканка" і ў кватэры адваката Кернера. У часе хваляванняў некалькі яўрэяў былі збітыя. Паліцыя, каб не дапусціць паўтору канфлікту, стаіць на вуліцах горада. Шэраг асоб, якія прымалі ўдзел у хваляваннях, затрыманы"* [340].

8 верасня 1938 г. "Кур'ер Віленскі" абвяргае інфармацыю пра збіццё жаўнераў лідскімі яўрэямі[341], а газета "Слова" паведамляе, што непасрэднай прычынай нядзельных антыяўрэйскіх хваляванняў у Лідзе былі *"няправільныя паводзіны ўладальніка крамы гародніны па вуліцы Сувальскай Хаіма Цвайфуса. Гандляр аблаяў жаўнера, а аднаго з хрысціян, які ўмяшаўся, - ледзь не выцяў. Калі падышоўшы паліцыянт хацеў затрымаць жаўнера, натоўп, які сабраўся на вуліцы, адбіў арыштаванага і з крыкамі рушыў наперад, выбіваючы па дарозе шыбы ў яўрэйскіх дамах і крамах. Яўрэяў, якія патрапілі ў натоўп - збівалі. Толькі вялікі аддзел паліцыі разагнаў натоўп"* [342]. Акрамя таго ў гэтым нумары газета "Слова" піша пра бойку паміж жыхарамі вёскі Сялец і яўрэямі з-за таго, што адзін з вяскоўцаў наехаў на яўрэя роварам.

Далей "Слова" інфармавала, што *"стан узрушэння, які на працягу апошніх трох дзён віраваў у Лідзе, павольна ападае. Усе яўрэйскія крамы адчынены, толькі яшчэ дзе-нідзе бачны выбітыя шыбы. ... паліцыя праводзіць расследаванне, шукае тых, хто браў удзел у хваляваннях. Тым не менш, сітуацыя ў горадзе застаецца напружанай, Раз-пораз узнікаюць бойкі і інцыдэнты. Некалькі дзён таму група яўрэяў атакавала некалькі хрысціян, якія праводзілі ў горадзе акцыю "ўсведамлення". У часе нядзельных хваляванняў быў пабіты паліцыянт і паранены яўрэй. У сувязі з хваляваннямі дэлегацыя яўрэяў пайшла да ўладаў горада, каб даказаць, што не яўрэі справакавалі хваляванні"* [343].

Гэтыя падзеі ў Лідзе патрапілі на першыя старонкі польскіх газет, а нумар газеты "Варшаўскі вечар" быў нават канфіскаваны *"за інфармацыю з Ліды"*[344].

Пры канцы 1938 г. "Слова" падрахоўвала вынікі: *"У апошні час заўважаны значны зыход яўрэйскага насельніцтва з Ліды. Сталая акцыя байкоту прывяла да таго, што шэраг яўрэйскіх прадпрыемстваў ліквідаваны, а іх уладальнікі ці пайшлі працаваць у іншыя фірмы, ці выехалі з горада. Адначасова шмат яўрэяў - уладальнікаў дамоў пазбаўляюцца нерухомасці, прычым пакупнікі гэтых дамоў - хрысціяне. Цэны на нерухомасць панізіліся. У цэнтры горада паўстаюць новыя хрысціянскія прадпрыемствы. На працягу аднаго толькі лістапада ў цэнтры горада адчыніліся 5 хрысціянскіх крамаў, і ў бліжэйшыя дні яшчэ адчыняцца некалькі вялікіх крамаў"* [345].

Лідскія яўрэі ў той час выдатна ведалі пра цяжкі лёс яўрэяў Германіі і восенню 1938 г. пад кіраўніцтвам лідскага рабіна А. Рабіновіча ў горадзе паўстаў камітэт дапамогі яўрэям, выгнаным з Германіі[346]. Менш чым за паўгода было сабрана 11 315 злотых[347].

Былая лідзянка Тэафанія Юрэка пісала пра тыя часы: *"Яўрэі ў горадзе пераважны жылі ў цэнтры, гэта вынікала з таго, што яны ўтрымлівалі крамы і рамесныя майстэрні. ... Яны ўтваралі групу, сцісла звязаную паміж сабой традыцыяй, рэлігіяй, а таксама гандлёвымі і прамысловымі інтарэсамі. Гараджане-хрысціяне трактавалі іх як народ, які адвеку жыў у горадзе. Часамі мясцовыя хуліганы, часцей пад час свята Кучак рабілі ім усялякія псоты, аднак гэты былі спарадычныя выпадкі. Лідскія яўрэі апраналіся па-еўрапейску, не насілі пейсаў - за выняткам рабінаў. Гараджане прывыклі да таго, што ў суботу ўсе яўрэйскія крамы зачынены, а яўрэйскае насельніцтва не выконвае ніякай працы. ... Яўрэйскае насельніцтва з іншымі гараджанамі ўжывала розныя мовы - усё залежала ад таго, на якой мове размаўляе кліент ... гандаль быў цалкам у іх руках. Была група заможных яўрэяў, але хапала сярод іх і сапраўдных беднякоў, частка якіх падтрымлівала камуністычныя ідэі. Яўрэйскія купцы дыктавалі цэны, завышаючы ці заніжаючы іх у залежнасці ад кан'юктуры. Найчасцей, праз нізкія цэны закупаў падманваліся вясковыя людзі, што ўзбуджала іх супраць яўрэяў. Выбухнула гэта ў 1938-39 гг. Тады ж з'явіліся лозунгі: "Не купляў у яўрэя, ён цябе падмане", "Ідзі па тавар да сваіх". Пачалі з'яўляцца крамы, якія адчынілі хрысціяне. Адначасова з'явілася узаемная падазронасць паміж яўрэямі і хрысціянамі, якая дрэнна сказалася падчас вайны. Не датычыла гэта ўсіх - было шмат прыкладаў узаемнай дапамогі, але гэта іншая тэма"* [349].

Пра тое ж пісала і Яўгенія Ярмант: *"Пра яўрэяў мая мама выказвалася з павагай. Казала, што ў іх дружныя клапатлівыя сем'і. П'яны яўрэй на вуліцы - немагчымая з'ява. Мы ніколі не чулі, каб яўрэй кінуў сваю сям'ю і дзяцей. ... Яўрэі заўсёды вельмі рэлігійныя і пабожныя. Перад вайной шматлікія лозунгі заклікалі байкатаваць яўрэяў і рабіць пакупкі толькі ў польскіх крамах і каапператывах. Натхнёныя патрыятызмам, мы вырашылі байкатаваць нашых суседзяў. Некалькі разоў я нават хадзіла ў каапператыўную краму ў канцы вуліцы Лётнай. Але з часам усё вярнулася на свае месцы. Яхка* (суседка-гаспадыня крамы - *Л.Л.*) *была пад бокам. Яна адпускала тавары ў крэдыт. Мы ліквідавалі запазычанасць адзін раз у месяц. Яўрэі не баяліся гандлёвай рызыкі. Калі грошы своечасова не паступалі, то сур'ёзных канфліктаў не ўзнікала. Яўрэй тады сам наведваў кватэру даўжніка і паважліва прасіў разлічыцца"* [350].

Новы, 1939 г., пачаўся з суда над камуністамі: *"Прыгавор камуністам. Тры дні ў Акруговым судзе ў Лідзе слухалася справа камуністаў. 17 снежня вынесены прыгавор: Перэс Левін і Лейба Кашчанскі атрымалі па 6 гадоў турмы, Даніэль Карасін - 4 гады, Шымон Ілютовіч і Генах Баран - па 3 гады турмы, акрамя турэмных тэрмінаў усе былі пазбаўлены грамадзянскіх правоў на 10 гадоў"* [351]. У сувязі з гэтым працэсам лідскі стараста забараніў павятовыя аддзелы трох яўрэйскіх таварыстваў: "Frejchejt", "Haszemer Hacair", "Hehaluc pienier" *"за тое, што ў гэтых арганізацыях працавалі элементы шкодныя для польскай дзяржаўнасці, і яны пагражалі грамадскай бяспецы"*[352]. Праз тыдзень нават забараняецца дзейнасць

знакамітага лідскага яўрэйскага спартовага клубу "Макабі", не даецца дазволу на рэгістрацыю моладзевага яўрэйскага таварыства "Histadrut Academenoim Zionim"[353].

А ў лютым на паседжанні Гарадской Рады г. Ліды, на якім разглядаліся фінансавыя выдаткі на 1939 г., была выкраслена фінансавая субсідыя, якая да гэтага заўжды выдзялялася з бюджэту для дзейнасці яўрэйскіх грамадскіх арганізацый[354].

18 сакавіка ў 1-30 ў Лідзе невядомыя выбілі вокны ў сінагозе па вуліцы Школьнай[355].

Хутка пачалася Другая Сусветная вайна.

Лідскія яўрэі добра ведалі пра становішча яўрэяў у Германіі і чакалі ад Гітлера самага дрэннага. Не мелі яны вялікіх сантыментаў і да Польскай дзяржавы. Таму, калі замест фашыстаў у горад ўвайшла Чырвоная Армія, лідскія яўрэі сустракалі яе кветкамі - для іх гэта было сапраўднае вызваленне ад фашысцкага лагеру. Ярмант пісала: *"Аднойчы раніцай горад абляцела вестка, што ў Ліду ўступілі рускія войскі, і на ўскраіне горада яўрэі сустрэлі іх хлебам-соллю. Мама сцісла пракаментавала: "Яўрэі гатовыя хоць чорта вітаць, абы не прыйшлі немцы"* [356].

* * *

Каб зразумець асаблівасці палітычнай сістэмы Другой Рэчы Паспалітай, патрэбна ўлічваць палітычны кантэкст і вельмі цяжкае становішча польскай дзяржавы, якая жорстка супрацьстаяла камуністычнаму і фашысцкаму таталітарным рэжымам і свядома выбрала шлях "закручвання шрубаў". Акрамя таго, у тыя гады ў Еўропе ўжо было не шмат па-сапраўднаму дэмакратычных дзяржаваў (па-сапраўднаму дэмакратычнай у нашай частцы Еўропы ў той час заставалася толькі Чэхаславакія), Польшча не была горшай за іншых і ў цэлым не выпадала з агульнага палітычнага кантэксту свайго часу. Трэба адзначыць, што польскія суды, судзячы па жорсткіх законах, тым не менш расследавалі справы і часта апраўдвалі абвінавачаных.

### *Святы*

Вялікімі святамі для лідзян былі **Каляды** і **Вялікдзень**, як і зараз, гэтыя галоўныя святы адзначаліся каталікамі і праваслаўнымі ў розныя дні. Каляды і Вялікдзень - сямейныя святы, і ў прэсе ў гэтыя дні друкаваліся толькі ўзаемныя віншаванні, розная інфармацыя пра ранішнікі для дзяцей і г.д. Напрыклад у 1938 г. "Кур’ер Віленскі" інфармаваў, што з ініцыятывы павятовага каменданта лідскай паліцыі Вацлава Генрыка паліцыянты сабралі 70 злотых на падарункі для дзяцей з бедных сем'яў на Вялікдзень[357].

Галоўнымі дзяржаўнымі святамі былі **Дзень Канстытуцыі 3-га Мая** і **Дзень Незалежнасці 11-га Лістапада**. Гэтыя святы ў горадзе шырока адзначаліся з удзелам уладаў і грамадскіх арганізацый.

Напрыклад Дзень Канстытуцыі 3-га Мая ў 1938 г. святкаваўся такім чынам: У 10-00 набажэнства ў гарнізонным касцёле. Пасля набажэнства - вайсковы парад лідскага гарнізона і дэфіляда сяброў патрыятычных грамадскіх арганізацый. У 15-00 свята працягвалася на гарадскім стадыёне, адбыліся святочныя спартовыя мерапрыемствы: парад спартсменаў, забег усіх ахвотных на дыстанцыі 2 і 5 км на прыз, выступ харцэраў, рытмічная гімнастыка школьнай моладзі, выступ баксёраў, розыгрыш прызоў, выступ пажарнай аховы, пачатак сезону дзейнасці "Звязу стральцоў". На стадыён маглі прыходзіць усе ахвотныя, але месца для сядзення каштавала 50 грошаў. Ахвотныя прыняць удзел у забегу, да 2 траўня павінны былі прайсці медыцынскую праверку[358]. Прэса пісала, што вуліцы горада ў першай палове дня і стадыён у другой былі запоўнены гараджанамі. Першае месца ў забегу на 2 км заняў нейкі Шымковіч, другое Даўгашэя, трэцяе, чацвёртае і пятае занялі вучні Купецкай гімназіі. У бегу на 5 км першае месца заняў Плуцінскі (з спартовага клубу “Гедзімін”, 14 хвіл і 27 сек), другое Апяцёнка (спартовы клуб “Ліда”, 14 хвіл і 29 сек), трэцяе Каламецкі (клуб “Гедзімін”, 14 хвіл і 38 сек). Узнагароды ўручыў староста Гансоўскі[359].

У тым жа 1938 г. свята 11 лістапада супала з 20-мі ўгодкамі незалежнасці і таму святкавалася асабліва ўрачыста. У 10 раніцы свята пачалося набажэнствам ў Фарным касцёле, а з 9-й гадзіны набажэнствамі ў храмах усіх іншых веравызнанняў. У 10-30 у замку пачалі збірацца сябры розных таварыстваў і грамадскіх аб'яднанняў, дзе перад імі выступіў староста Гансоўскі. Мітынг у замку скончыўся спевам гімну пасля чаго людзі дэфілядай прайшлі па вуліцы Сувальскай. У сярэдзіне дня ў зале кінатэатра "Эра" адбылося ўрачыстае паседжанне[360].

Як вялікая грамадскае свята, кожны год святкаваліся **Дажынкі**. Газета "Слова" пры канцы ліпеня 1938 г. пісала: *"Каталіцкая моладзь, аб'яднаная ў Каталіцкім маладзёвым таварыстве, у гэтыя дні распачынае падрыхтоўку свята Дажынак, якое адбудзецца ў Лідзе 14 і 15 жніўня. Ва ўрачыстасцях прыме ўдзел каталіцкая моладзь Лідскага дэканату"* [361].

11 і 12 лютага 77-мы пяхотны Ковенскі полк, які стаяў у Паўночным лідскім гарадку святкаваў **палкавое свята**. Звычайна свята пачыналася з паседжання ў "Эры", наведвання помніка загінуўшым героям у часе вайны на незалежнасць у Паўночным гарадку, параду войск і службы ў гарнізонным касцёле[362].

Кожную вясну полк выязджаў у летні лагер і вяртаўся ў верасні. **Вяртанне войска з вучэнняў** заўжды праходзіла як гарадское свята. 13 верасня 1938 г. лідзяне апошні раз сустракалі свой полк з лагераў[363], бо ў наступную восень полк ужо ваяваў. Маршыраваўшых па горадзе жаўнераў і афіцэраў гараджане засыпалі на вуліцах горада кветкамі[364].

### *Рэлігійнае жыццё*

Касцёл стала арганізоўваў пілігрымкі парафіян у Вільню. Напрыклад, улетку 1936 г. 1400 чалавек з Ліды наведвалі Вострую Браму і могілкі на Росах, магілу маці і сэрца маршала Пілсудскага, частка лідзян наведала таксама Кальварыю[365]. У наступным нумары

газета ўдакладніла, што ў пілігрымцы удзельнічала 1590 лідзян і 4 ксяндзы[366].

Пра прызначэнне пробашча новай парафіі, новазбудаванага касцёла на Слабодцы Вінцэнта Лабана паведамлялася ў чэрвені 1937 г.[367] Пры канцы таго ж года прэса пісала, што парафіяне касцёла на Слабодцы плануюць пачаць пабудову новага, мураванага касцёла. *"Слабодка, раней самы бедны раён горада, у апошнія гады пачаў хутка развівацца ў гандлёвым і гаспадарчым сэнсах. Драўляны касцёл ужо не можа змясціць усіх парафіян"* [368]. Мураваны касцёл быў тут пабудаваны толькі на пачатку XXI ст.

На пачатку сакавіка, для святкавання свята **"Казюкоў"** заўжды арганізоўваўся адмысловы цягнік з Ліды на Вільню. У 1938 г. для праезду на "Казюкі" ў абодва бакі трэба было заплаціць на квіткі 3 злотыя, цягнік адыходзіў у Вільню 3 сакавіка ў 12-00 і адпраўляўся ў бок Ліды з віленскага вакзала 4 сакавіка ў 14-27 [369]. На Казюкі ў Вільню звычайна выязджалі тысячы лідзян.

Гараджане памяталі пра ксендза Фалькоўскага, забітага царскімі ўладамі пад час паўстання 1863 г. Напрыклад, у лютым 1936 г. 86 лідскіх харцэраў наведалі магілу ксендза на Выгане[370]. У чэрвені 1938 г. у Фарным касцёле адбылася імша ў памяць 75-х угодкаў смерці героя паўстання 1863 г. ксендза Фалькоўскага[371].

А 14, 15, 16 верасня 1938 г. у Фарным касцёле адбываліся парафіяльныя ўрачыстасці, і на плошчы Славы каля касцёла праходзіў традыцыйны кірмаш[372].

З 6 жніўня 1936 г. на Лідчыне тры дні знаходзіўся Віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, за гэты час ён наведваў большасць рыма-каталіцкіх парафій павета[373].

2 і 3 кастрычніка 1938 г. у Лідзе праходзіў ІІІ-ці кангрэс Ордэна Францішканаў, у ім прынялі ўдзел дэлегацыі з 48 парафій[374].

26 сакавіка 1939 г. шырока святкавалася 40-годдзе душпастырскай працы ксендза-каноніка, лідскага дэкана Гіпаліта Баярунца. Адбылося ўрачыстае набажэнства ў Фарным касцёле, васілішскі ксёндз-дэкан Ігнат Цэраскі сказаў вялікае казанне і падарыў юбіляру 400 злотых, сабраных лідскім грамадствам[375].

Прэса амаль што не паведамляла пра жыццё іншых, акрамя каталіцкай, канфесій. У 1936 г. кансерватыўная газета "Слова" напісала, што *"секта баптыстаў не мела вынікаў у Віленска-Троцкім павеце, яны страцілі тут 3 дамы малітвы. ... Сектанты перанеслі сваю дзейнасць на тэрыторыю Лідскага і Гарадзенскага паветаў, дзе зараз знаходзяцца адмысловыя дэлегаты гэтай секты"* [376]. І ўжо ўлетку 1937 г. паведамлялася пра *"хрост бабтыстаў. Каля вёскі Навапрудцы адбылася цырымонія хросту асобаў, новапрысталых да секты баптыстаў"* [377].

**Адпачынак у Сяльцы**

Кожнае лета ў розных месцах на рацэ Нёман адчыняліся шматлікія лагеры для адпачынку дзяцей з Ліды.

Галоўным жа месцам сямейнага адпачынку лідзян у 1930-я гг. стала вёска Сялец (чыгуначная станцыя Нёман). Газета "Лідская зямля" пісала ў 1936 г.*"у летнія часы ... гараджане ўцякаюць ад паўдзённай спёкі на рэкі ці азёры. ... Для лідзяніна найбліжэйшым месцам летняга адпачынку з'яўляецца Нёман. Прыгожыя ваколіцы станцыі Нёман заўжды мелі ў нас сваіх энтузіястаў, якія карыстаючыся кожнай вольнай хвілінай ... выязджалі сюды ... роварамі ці цягнікамі. Сюды едуць паляжаць на бурштынавым пясочку, пахадзіць па лесе ... ці паставіць намёты для больш працяглага адпачынку. Можна спадзявацца, што хутка ўсё летняе жыццё горада перасунецца на бераг Нёмана. Усё было б добра, але ўвесь час узнікаюць транспартныя праблемы. Таму мясцовы аддзел Краязнаўчага таварыства робіць крокі ... каб даезд на месца адпачынку стаў бесклапотным. Наш аддзел напісаў камунікат да кіраўніцтва чыгункі пра патрэбу адмысловага папулярнага цягніка, хоць бы па выхадных днях. ... Развіццё адпачынку на Нёмане цесна звязана з развіццём і ростам Ліды. Спадзяёмся, што хутка на беразе ракі вырастуць летнія дамкі, пансіянаты і нават вілы"* [378].

Улетку 1937 г. на "Свята мора" ўжо з'явіўся адмысловы цягнік да Нёмана. Але *"арганізатары свята вырашылі вяртацца дахаты ў 22-30, практычна ўжо ноччу, пры гэтым аб'явіўшы ўсім пра адпраўлене цягніка ў 20-05. ... увечар прайшоў дождж, і масы людзей да позняга вечара былі, калі не злаславыя, дык вельмі незадаволеныя. ... тысяча чалавек чакала на вакзале і ў лесе да 22-30. Шмат хто заняў месца у вагонах цягніка ужо ў 19-й гадзіне, ператварыўшы тым самым простыя вагоны ў спальныя і рэстаранныя"* [379].

У ліпені 1937 г. прэса паведаміла пра смерць уладальніка маёнтка Сялец Юзафа Бартэн Дзюка (Jozef Barten Deaux, ягоны сын згадваўся вышэй), *"які ў 1918-19 гг. быў ... палітычным закладнікам бальшавікоў. Памёрлы, не гледзячы на паходжанне з французскага княскага роду, быў гарачым патрыётам ... . С.п. Юзаф Бартэн Дзюк пахаваны на парафіяльных могілках у Ельні"* [380].

Улетку 1938 г. адмысловы цягнік да Нёмана пачаў стала адвозіць гараджан на адпачынак і прывозіць дахаты: *"З 29 чэрвеня з Ліды да Нёмана пачаў хадзіць папулярны сярод лідзян цягнік. Выезд з Ліды ў 8-20, вяртанне ў 21-35. Кошт у два бакі 1 зл. 30 гр"*[381].

Улетку 1939 г. Сялец ужо меў развітую інфраструктуру адпачынку, але праблемы заставаліся. Менавіта пра праблемы пісаў улетку 1939 г. журналіст "Кур'ера Віленскага" ў невялікім артыкуле, які праз яго цікавасць, мае сэнс прывесці тут з невялікімі скаротамі: *"Нёман для 30-ці тысячнай Ліды ёсць адзіным найбліжэйшым месцам летняга адпачынку. Улетку жыхары Ліды едуць сюды тлумнымі цягнікамі ці аўтобусамі і праводзяць цэлы дзень. Дзякуючы гэтаму, вёска Сялец з кожным годам разрастаецца і становіцца дачным мястэчкам. У мінулым годзе тут паўстала некалькі новых пансіёнаў і танных рэстаранаў, якія робяць адпачынак аматараў сонца і вады прыемным. Аднак з нейкага моманту ўправа маёнтка*

*Сялец, якому належыць частка правага, дачнага берага Нёмана, імкнецца атрымаць сабе з адпачынку галоўную крыніцу прыбыткаў і таму стварае вялікія перашкоды як жыхарам вёскі, так і прыехаўшым лідзянам. У людзей, якія ідуць на пляж ... адмысловы чалавек збірае аплату па 10 грошаў. Пры тым ... на квітках якія ён выдае, няма адзнакі гміны ці скарбовых уладаў павета, што кажа пра самаўпраўства. Таму вялікая частка людзей не жадае плаціць. ... маёнтак не інвестуе частку ад зробленых грошай на паляпшэнне пляжу. ... па ўсім пляжы ляжыць у пяску калючы дрот, які кожны дзень калечыць кагосьці з адпачыванцаў: прыехаў, аплаціў уваход і ідзі да лекара ... . Але самай вялікай балячкай летнікаў Нёмана ёсць "казіно", адчыненае ўправай маёнтка Сялец, яго трымае Дэмбінскі. Кошты тут вышэйшыя за кошты на самых люксовых курортах каля мора. Шклянка вады каштуе 15 грошаў, бутэлька піва 1 злоты, пра закускі лепей не казаць. Адміністратар маёнтка Дмахоўскі, відочна, ёсць супольнікам Дэмбінскага, бо пад рознымі нагодамі чыніць усялякія высілкі, каб накіраваць кліентаў у "казіно". На ўскрайку лесу быў адчынены ў мінулым годзе танны рэстаран "Лесьнічанка", які прадае тыя ж напоі і сняданак па нармальных коштах. Людзі, якія адпачываюць, віталі адкрыццё гэтага рэстарана з энтузіязмам і рушылі туды, як да "залатога руна", бо і столікі стаяць пасярод лесу, і цэны даступныя ... . Аднак трымалася гэта не доўга, хутка столікі з лесу зніклі, і каля "Лесьнічанкі" з'явілася аб'ява: "Управа маёнтка Сялец просіць сталы, на якія падаюцца напоі рэстарана, не выносіць ў лес". ... Застаецца спадзявацца, што адпаведныя ўлады выправяць гэтыя хібы"* [382].

Сялец як галоўная зона адпачынку лідзян трымаўся да канца XX ст., покуль не пачалася эпоха ўсеагульнай аўтамабілізацыі, якая зрабіла даступнай любы куток прыроды.

**Кінатэатры горада**

Галоўным месцам культурнага адпачынку гараджан былі кінатэатры.

На пачатку 1930-х гг. пажар знішчыў кінатэатр "Нірвана" і суседнія дамы. Пасля адбудовы, паўстаў новы кінатэатр "Эра". Пры канцы 1930-х гг. Ліда мела кінатэатры: "Эдысон" (адчынены перад 1-й Сусветнай вайной), "Эру" і "Маленькае", усе знаходзіліся на Сувальскай вуліцы[383]. У той час кіно было для жыхароў Ліды галоўным месцам адпачынку і важнай культурным з'явай. У рэпертуары пераважалі камедыі, але былі і сур'ёзныя карціны.

Кінатэатры "Эра" і "Эдысон" былі ў цэнтры горада, "Маленькае" - каля касцёла Піяраў. На пачатку 1937 г. кінатэатр "Маленькае" (Сувальская, 74) быў зачынены, і Скарбовая ўправа налажыла секвестр на яго мэблю[384].

Кінатэатар "Эдысон" меў балкон і буфет. Паказу фільмаў звычайна папярэднічала надпраграма (часопіс) ПТА (Польскага тэлеграфнага агенцтва). А вячэрнім сеансам нярэдка папярэднічала рэвю (кінаагляд). У "Эдысоне" паказвалі "лепшыя фільмы гэтага часу з моцным гукам" і т.д. праграмы мяняліся прыблізна штотыдзень. Напрыклад, у акрэсе 12 сакавіка - 8 красавіка 1939 г. на экране гэтага кінатэатра паказваліся фільмы: "Тыран", "Вязніца без кратаў", "Каханне ў джунглях", "Таямніца Чырвонага мора" [385].

Уладзіслаў Нарушэвіч у сваіх мемуарах пераказваў сапраўдную анекдатычную гісторыю з 30-х гадоў. Нейкі селянін з жонкай, пасля ўдалага гандлёвага дня, пайшлі ў кінатэатр "Эдысон". Месцы занялі на балконе ў бочным крыле, блізка да экрана. Ішоў крымінальны фільм, у галоўны момант забівалі багатую, маладую і прыгожую жанчыну. У момант забойства, жанчына была занятая чытаннем і не бачыла бандыта, які набліжаўся да яе. Калі ён ужо быў блізка каля ахвяры, жонка ўхапіла мужа за руку і пачала голасна крычаць: "Кінь у бандыта ботам, бо заб'е!". Селянін выканаў загад, і, зняўшы бот, кінуў яго ў экран, экран парваўся, у кінатэатры пачалася паніка[386].

Прэса паведамляла, што ўлетку 1937 г. ненавязаны конь з возам, пакінуты жыхаром вёскі Мастоўшчына Станіславам Снацкім пасвіцца на вуліцы Сувальскай, выбіў шыбу ў кінатэатры "Эдысон" [387].

Школьная моладзь мела праблемы з вячэрнімі сеансамі, бо настаўнікі не дазвалялі моладзі паказвацца на вуліцы без дарослых пасля 20 гадзін, тым больш хадзіць у кіно на вячэрнія сеансы. Толькі некаторыя смельчакі ішлі на рызыку напароцца на дзяжурнага настаўніка. Таму, каб патрапіць на вячэрні сеанс, некаторыя зухі апраналіся як дарослыя[388].

Месцы ў кінатэатрах не нумараваліся, купіўшы білет, пры жаданні можна было застацца ў глядзельнай зале на некалькі сеансаў. У кінатэатрах, акрамя паказу кінафільмаў, арганізоўваліся тэатральныя пастаноўкі вандроўных труп, ладзіліся танцавальныя вечары, дабрачынныя мерапрыемствы, балі-маскарады і г.д., у якіх магло прымаць удзел да 500 чалавек.

Міжваенныя кінатэатры былі сапраўднымі цэнтрамі не толькі культурнага, але і грамадска-палітычнага жыцця. Уладальнікі кінатэатраў абавязаны былі прадстаўляць глядзельныя залы па зніжанай цане ці бясплатна для сходаў разнастайных грамадскіх палітычных арганізацый, таварыстваў, партый і г.д., напрыклад падчас знакамітай забастоўкі на фабрыцы "Ардаль" у 1936 г. кінатэатр "Эра" выкарыстоўваўся для сходаў і мітынгаў рабочага актыву[389]. А 2 траўня 1937 г. у кінатэатру "Эдысон" у межах Тыдня Асветы Працоўных была прачытана лекцыя пра шубраўцаў[390] і інтэлектуальныя рухі ў Вільні першай паловы XIX ст.[391]

У кінатэатрах стала праводзіліся гастролі тэатральных труп, напрыклад 20 жніўня 1936 г. у кінатэатры "Эра" выступіла знакамітая трупа Віленскага гарадскога тэатра, гралася лёгкая, эратычная камедыя ў 3-х актах "Каханне ўжо не ў модзе" ("Milosc juz nie w modzie")[392]. На пачатку 1937 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"... у Лідзе працуюць 3 кінатэатры: два меншых і адзін пад назвай "Эра" з вялікай залай на 750 месцаў. Калі ў Ліду завітвае выязны віленскі тэатр ці ансамбль "Рэдута" з новым рэпертуарам - зала*

*кінатэатра бывае нават перапоўнена публікай. Санітарныя нормы патрабуюць, каб у такім месцах былі публічныя туалеты, а ў гэтым кінатэатры туалеты ад пачатку ягонай эксплуатацыі заўжды "на рамонце". Такія адносіны кіраўніка кінатэатра "Эра" Тамашэвіча да санітарных нормаў не могуць не дзівіць грамадскасць. Трэба нарэшце, каб ён адказаў, калі закончыцца гэты вечны рамонт туалетаў?"* [393]. Праз некалькі нумароў дырэкцыя кінатэатра адказала рэдакцыі: *"Рамонт туалетаў даўно закончаны, але праз маразы размёрзліся водаправодныя трубы, і туалеты былі зачынены. Аднак падчас гастролей тэатральных труп туалеты былі чынныя. Зараз туалеты таксама працуюць"* [394]. У тым жа нумары друкуецца аб'ява аб гастролях з 1 сакавіка 1937 г. віленскага тэатра пад кіраўніцтвам вядомай артысткі і заснавальніцы тэатра Ніны Младзеёўскай-Шчуркевіч: *"У кінатэатры "Эра" у 16 гадзін будзе пака-зана камедыя Стэфана Кедрынскага "Замужняя панна", у 20-30 - п'еса Самерсета Маэма "Святы прамень"* [395].

Трэба адзначыць, што ў другой палове 1930-х гг. славуты тэатр "Рэдута" [396] шмат разоў на год выступаў у кінатэатры "Эра".

У красавіку 1937 г. стараста Міклашэўскі падчас прыватнага прагляду кіно ў кінатэатры "Эдысон", асабіста пераканаўся, што тут паказваўся няўзгоднены з старостам і недазволены для моладзі фільм, а моладзь якраз і складала большасць гледачоў на гэтым сеансе. Стараста прыцягнуў гаспадара кінатэатра да адміністрацыйнай адказнасці, і ў выніку, той быў аштрафаваны на 30 злотых. У тую ж вясну, у красавіку, выязны віленскі тэатр паказваў у "Эры" камедыю Якуба Дэвала "Стэфак" і камедыю Стэфана Кеджынскага "Стары кавалер" [397]. А ў траўні варшаўскія артысты ў кінатэатры "Эра" паказалі тэатральнаю камедыю "Цётка Караля", у ролі цёткі выступіў знакаміты кінаартыст таго часу Яўген Бадо[398]. Пра выступ у "Эры" ў камедыі "Цётка Караля" знанага Яўгена Бадо пісаў адзін з гледачоў, былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч: *"Запомніў яго аднак не ў гэтай, тытульнай для яго ролі, а падчас шпацыру па Сувальскай у таварыстве асыстуючых яму асобаў. Паводзіў сабе вельмі свабодна, бесклапотна і са сваім прыроджаным шармам абдорваў мінакоў артыстычнай ўсмешкай"* [400].

У жніўні 1938 г. у кінатэатры "Эра" выступала тады ўжо славутая Іда Камінская[401] са сваёй камандай, квіткі прадаваліся ў цукерні "Амерыканка" [402].

Наогул, практычна кожны тыдзень у кінатэатры "Эра" акрамя паказу кіно, адбываліся культурныя імпрэзы ці грамадскія мерапрыемствы.

Летам 1939 г. у кінатэатры "Эра" змяніўся дырэктар. Замест К. Тамашэвіча пачаў працаваць Ежы Длускі, які для гэтага адмыслова пераехаў жыць у Ліду.

Кіно ў горадзе было так папулярнае, што на пачатку 1939 г. у Гарадской управе, *"пад час штэмпелявання было скрадзена 48 білетаў у "Эру". Аднак кантралёр кінатэатра Рулько пад час праверкі білетаў, вызначыла крадзеных тры білеты. Дырэктар Длускі заявіў у паліцыю"* [403].

У цэлым кінапракат быў добра развіты, гэта адлюстроўваюць наступныя лічбы: за другі квартал 1939 г. у Наваградскім ваяводстве, часткай якога была Ліда, прайшло ў пракаце 216 фільмаў польскай вытворчасці і 251 замежны фільм (у першым квартале таго ж года 209 польскіх і 249 замежных)[404].

**Гарадская бібліятэка**

Гарадская бібліятэка была заснавана ў 1922 г. знаходзілася па адрасе Сувальская, 3. У гэтым доме размяшчаліся: тэхнічны аддзел Гарадской управы, гарадская бібліятэка і рэдакцыя "Лідскай зямлі", перанесеная ў 1938 г. з вуліцы Замкавай. Запачаткаваў кніжныя фонды бібліятэкі былы бурмістр Ліды Рудольф Бергман, ён падараваў гораду сваю асабістую бібліятэку. Не менш за 25% кніг прыпадала на яўрэйскую літаратуру. Бібліятэкай кіравала Анэля Рашкоўская. Прыблізна на месцы дзе былі дамы № 3, 5, 7 вул. Сувальскай зараз стаіць гандлёвы дом "Юбілейны" (Савецкая, 1)[405].

Былая лідзянка Ярмант ўспамінала: *"Бібліятэкаркай працавала маладая прыгожая брунетка. Памятаю, як аднойчы, адкрыўшы рот, каб вымавіць назву патрэбных кніг: "Дзікунка" Зажыцкай і "Пятнаццацігадовы капітан" Жуль Верна, не магла падаць голас. Магла гаварыць толькі шэптам ... для такога святога месца, як бібліятэка. Паспрабавала казаць нармальным голасам, і зноў не атрымалася. ... Бібліятэкарку я сустрэла пасля вайны каля касцёла ў Мосіна (каля Познані)"* [406]. Таксама былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў: *"На пачатку вуліцы Сувальскай па левым баку на поўнач быў магістрат і Муніцыпальная бібліятэка з чытальнай залай. [...] Не гледзячы на свой малады ўзрост, я даволі добра разбіраўся ў палітычных, нацыянальных і міжнародных адносінах праз мой прыроджаны запал да гісторыі і частага чытання газет і часопісаў у чытальнай зале муніцыпальнай бібліятэкі, што дапамагло значна пашырыць мае веды аб свеце і бягучай сітуацыі ў краіне"* [407].

Працавала бібліятэка ў панядзелак, аўторак, сераду і пятніцу з 11-00 да 15-00 і з 18-00 да 20-00, у чацвер толькі з 11-00 да 15-00, у суботу з 11-00 да 13-30 і з 16-00 да 18-00. Месячны абанемент для карыстання бібліятэкай каштаваў 50 грошаў, для вучняў 20 грошаў. У 1937 г. бібліятэка мела 7023 тамы і 1250 сталых наведвальнікаў[408]. Гэта была адна з лепшых установаў такога кшталту на заходнебеларускай зямлі. Сучаснікі адзначалі, што ў яе фондах былі найнавейшыя выданні сусветнай літаратуры, творы, адзначаныя высокімі ўзнагародамі: Нобелеўскімі і іншымі прэміямі. У фондзе мэтанакіравана быў выдзелены раздзел краязнаўчай літаратуры[409].

Пры канцы 1937 г. у гарадской бібліятэцы прайшоў двухдзённы семінар павятовых бібліятэк[410].

Пры канцы 1938 г. бібліятэка была грунтоўна адрамантавана і атрымала новыя пакоі. Чытальная зала засталася ў былым бібліятэчным пакоі, а кніжныя фонды былі перанесены ў два новыя пакоі таго ж бу-

дынка. Яўрэйскі аддзел таксама атрымаў два новыя пакоі, у першым зроблена чытальная зала, а ў другім кнігасховішча[411].

**Краязнаўчая праца ў горадзе**

У 1930-х гг. лідскія краязнаўцы лічыліся лепшымі ў Заходняй Беларусі.

Думаю, мне тут дапушчальна будзе зрабіць маленькі адступ.

Першым лідскім краязнаўцам можна назваць бацьку беларускіх гісторыкаў **Тодара Нарбута**. Нарбут адмыслова цікавіўся гісторыяй Лідчыны і напісаў шмат грунтоўных тэкстаў па тэме. Археолаг, этнограф, фалькларыст і лідскі краязнавец **Вандалін Шукевіч** нарадзіўся ў часы, калі яшчэ жыў Нарбут. Гэты чалавек шмат зрабіў не толькі ў галіне археалогіі Лідчыны і ўсяго краю, але таксама займаўся этнаграфіяй, быў знаным і паважаным грамадскім дзеячам. Да першай генерацыі лідскіх краязнаўцаў можна аднесці і Маламажэйкаўскага святара **Льва Савіцкага**, які хоць і адносіўся да плыні заходнерусістаў, але напісаў вельмі цікавую гісторыю сваёй царквы.

Другая генерацыя лідскіх краязнаўцаў з'явілася на пачатку XX ст. і дзейнічала да 1939 г. Сапраўднай вяршыняй іх дзейнасці было выданне гістарычна-краязнаўчай газеты "Лідская зямля" (Ziemia Lidzka), рэдактарам якой быў **Уладзіслаў Абрамовіч**. Самым знаным прадстаўніком другой генерацыі краязнаўцаў Лідчыны канешне ж быў прафесійны гісторык, этнограф, уладальнік унікальнага архіву па гісторыі Лідчыны **Міхал Шымялевіч**. Акрамя іх, буйнымі краязнаўцамі Лідчыны былі **Аляксандр Снежка**, **Антон Гржымайла-Прыбытка**.

Зараз гісторыю родных мясцін вывучае трэцяя генерацыяй лідскіх краязнаўцаў. Галоўным дасягненнем трэцяй генерацыі з'яўляецца шматгадовае выданне часопіса "Лідскі летапісец" (з 1997 г., стваральнікі **Станіслаў Суднік** і **Валеры Сліўкін**) і адноўленай "Лідскай зямлі" (з 1990 г., рэдактар **Аляксандр Колышка**), галоўным месцам захавання і назапашвання ўсей інфармацыі пра Лідчыну з'яўляецца лідскі сайт "Павет" (pawet.net, з 1999 г., адміністратар - аўтар гэтага артыкула). Мостам паміж другой і трэцяй генерацыяй лідскіх краязнаўцаў з'яўляліся выдатныя знаўцы нашай гісторыі, аўтары шэрагу грунтоўных тэкстаў, мой школьны настаўнік астраноміі **Анатоль Кулеш** і журналіст **Аляксандр Жалкоўскі**.

Усе тры генерацыі лідскіх краязнаўцаў аб'ядноўвае глыбокая павага на нашай гісторыі і агульныя, патрыятычныя погляды на яе. Не гледзячы на тое, што за два стагоддзі напісана шмат базавых тэкстаў, у мяне ёсць цвёрдая ўпэўненасць, што вывучэнне гісторыі Лідчыны толькі пачынаецца.

Такім чынам, узлёт лідскага краязнаўства ў 1930-х гг. адбыўся не на пустым месцы.

Першы нумар газеты "Лідская зямля" быў выдадзены 15 красавіка 1936 г. Выдаў газету Лідскі аддзел Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства, які: *"згуртаваў групу аматараў даследавання гісторыі нашай зямлі, вылучыў выдавецкі камітэт, які ўласнымі сіламі зрабіў першыя крокі ў кірунку пазнання былых дзеяў нашага краю"* [412]. Ад пачатку адрас рэдакцыі знаходзіўся па вуліцы Замкавай, 4/7, на паўгода рэдакцыя пераязджала на вуліцу Гарнянскую і з 1938 г. месцілася на Сувальскай, 3.

Практычна ўсе лідскія краязнаўцы ў той час - людзі левых перакананняў, сучаснік - мастак Юры Кацяшчэнка пісаў, што ў шэфа карэспандэнцкага пункта "Кур'ера Віленскага" ў Лідзе і галоўнага рэдактара газеты "Лідская зямля" Абрамовіча заўжды можна было *"атрымаць рэвалюцыйныя лістоўкі"* [413].

Галоўнай справай Краязнаўчага таварыства ў 1936 г. было заснаванне газеты. На 1937 г. прыпала падрыхтоўка да святкавання чарговага юбілею паўстання 1863 г. Лідскае краязнаўчае таварыства вырашыла вырабіць памятную дошку ў гонар кіраўніка паўстання на Лідчыне Людвіка Нарбута і ў памяць таго, што Нарбут у свой час вучыўся ў па-піярскай школе, прымацаваць яе да мuроў Касцёла піяраў. Быў створаны выканаўчы камітэт па ўшанаванні памяці Людвіка Нарбута. Патранат над справай узяў ганаровы лідзянін маршал Рыдз-Сміглы[414]. У верасні паведамлялася пра тое, што разьбяр Юры Кацяшчэнка ўжо зрабіў памятную дошку і бюст героя паўстання[415].

У 1936 г. Міністэрства ўнутраных спраў зацвярждае гістарычны герб нашага горада, якім гарадскія ўлады карысталіся пачынаючы з 1923 г. З 1936 г. для малодшых чыноўнікаў Гарадской Управы была ўведзена адмысловая ўніформа ў якой *"на каўняры густоўнага мундзіра месціцца герб горада ... тарча, падзелена вертыкальна, на адной палове залаты леў на чырвоным полі, а на другой два залатыя перакрыжаваныя ключы на блакітным фоне. Тарчу атачае пурпурны, падбіты гарнастаем плашч увенчаны каронай"*. Лепшы знаўца лідскай гісторыі Міхал Шымялевіч так інтэрпрэтаваў сімволіку лідскага герба, сімвалізуюць *"ключы - свабоду, леў - незалежнасць, каралеўскі плашч - апеку караля"* [416].

У 1937 г. гарадскія ўлады ўнеслі ў Міністэрства ўнутраных спраў прапанову зацвердзіць гербавую пячатку Лідскага павета, з малюнкам, які ўжываўся на даўняй харугве Лідскага павета - Пагоняй з калумнамі, *"бо да гэтага часу павятовыя ўлады выкарыстоўвалі пячатку з гербам горада"* [417]. На пачатку 1938 г. Павятовая Рада разгледзела пытанне пра павятовы герб, *"які згодна з гістарычнымі крыніцамі мае на тарчы знак Пагоні і ягелонскія калумны "лазурнай масці""* [418].

У траўні 1937 г., да 350-ых угодкаў касцёла ў Міры выдавецкі камітэт падрыхтаваў кнігу пра гэты касцёл[419].

Улетку 1937 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў пра абуджэнне інтэлектуальнага руху ў горадзе: *"Мясцовыя кнігарні заўважылі рост продажу кніг. Да гэтага часу кнігарні былі больш падобныя на крамы канцылярскіх тавараў. Апрача школьных падручнікаў, кніг у іх амаль што не было. Аднак зараз, дзякуючы цікаўнасці гараджан да новых выданняў, лідскія кнігарні аджылі і ў*

*вітрынах з'явіліся кніжныя навінкі. Апрача таго, выдавецкі камітэт "Лідскай зямлі" распачаў выдаваць кнігі на мясцовую тэматыку. Толькі што выйшла з друку кніга пра касцёл ў Міры*[420]*. Чакаецца кніга пра Лідскі замак, Лідскую фару, манаграфіі пра Жалудок і г.д."* [421].

Сябры таварыства мелі пэўныя ільготы: *"Кожны сябар Лідскага краязнаўчага таварыства можа выкарыстаць летнія месяцы для турызму на падставе асабістага пасведчання таварыства. Краязнавец можа выкупіць турыстычны білет на 1000 км за 30 злотых ці 2500 км за 60 злотых. Гэты білет, у форме кніжачкі, у якой знаходзіцца адпаведная колькасць купонаў на пэўныя пераезды. Мінімальны пераезд ад 30 км. Білет дзейнічае з 15 траўня па 15 лістапада. Для пакупкі такога білета, акрамя пасведчання сябра Краязнаўчага таварыства, патрэбна турысцкая марка Лігі падтрымкі турызму, якую можна набыць у нашым таварыстве. Кожны чытач "Лідскай зямлі" павінен карыстацца таннымі білетамі і запісацца ў сябры Краязнаўчага таварыства. Для гэтага патрэбны фотаздымак. Усю інфармацыю можна атрымаць у рэдакцыі выдання"* [422].

Пры канцы 1937 г. Лідскае краязнаўчае таварыства вырашыла ўтварыць адмысловы выдавецкі фонд, са сродкаў якога павінны друкавацца краязнаўчыя кнігі. Першая ж фантавая латарэя прынесла ў фонд 220 злотых[423].

Пасля першага года існавання часопіса "Лідская зямля" прэса вельмі станоўча адазвалася пра наша выданне. Знаны віленскі літаратар Ежы Вышамірскі ў № 79 "Kuriera Powszechnego" пісаў: *"Часопіс вельмі добра рэдагуецца, выдаецца на добрай паперы, аздабляецца ілюстрацыямі, якія з'яўляюцца рэпрадукцыямі рэдкіх, старажытных выяваў. Кошт нумара нізкі (50 гр.). Часопіс чытаюць тыя, хто хоча быць парыётам свайго краю не толькі на словах, але і жадае дапамагаць творчаці і ўздыму аўтарскага калектыву. Бо часопіс друкуе ў кожным нумары, відочна, вельмі цікавы матэрыял. Маю перад сабой нумары 1936 г. і першыя тры нумары 1937 г. Нумар 3-4 мінулага года прысвечаны лідскім кааператывам. Шэраг вялікіх і малых артыкулаў паказвае жывое развіццё кааператыўнага руху на Лідчыне. ... А ўспаміны Мірона Бараніслава Нарбута ў наступных нумарах, падрыхтаваныя да друку Міхалам Шымялевічам, рэдкім знаўцам гісторыі лідскай зямлі"* [424].

"Przeglad Wilenski" у № 6 пісаў пра "Лідскую зямлю": *"Пад такой простай назвай другі год выходзіць краязнаўча-рэгіянальны месячнік. Гэтае выданне, бадай адзінае з друкаваных у правінцыі выказвае вялікае замілаванне і чынна культывуе гісторыю ВКЛ"* [425].

На пачатку 1938 года Лідскаму краязнаўчаму асяродку прысвяціла артыкул віленская газета "Слова". Аўтар артыкула Мечыслаў Ліманоўскі[426] ставіў нашу газету "Лідская зямля" ў шэраг лепшых выданняў такога кшталту: *"Ліда не з'яўляецца ўніверсітэцкім горадам, не мае навуковай і артыстычнай эліты. Таму цешымся, што каля фабрычных комінаў, фурчашчых у небе самалётаў і вулічнага тлуму, ёсць асяродак які выдае "Лідскую зямлю". Мы выдатна ведаем ..., які гэта цяжкі "цукар" - выдаць 13 нумароў у правінцыі. ... Калі думаеш пра вялікіх лідзян, успамінаеш Вандаліна Шукевіча і выкапаныя праз яго курганы, Тэадора Нарбута, каторы быў адным з заснавальнікаў нашай гістарыяграфіі, Юндзіла, у каторага на нагробку было напісана, што быў "гісторыі натуральнай у краі знаўца". ... "Лідская зямля" ўзнаўляе гісторыю, геаграфію, успаміны нашых паўстанцаў ... . Госці горада бачаць эканамічную актыўнасць жыхароў ... . Ліда зараз ёсць цэнтрам малога самастойнага арганізму ... . ... Зараз маем выданне, якое інфармуе пра тое, што робіцца на берагах Дзітвы і Лебяды і не лічыць чужым Шчучын. Маем выданне якое ёсць на варце святога агню"* [427].

20 студзеня 1938 г. "Кур'ер Віленскі" друкуе фотаздымак гатовай памятнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту[428]. 23 студзеня ў памяшканні ППВ (PPW)[429], адбыліся навуковыя чытанні, прысвечаныя 75-м угодкам паўстання 1863 г. Даклад пра паўстанне прачытаў Аляксандр Снежка. Зал упрыгожваў барэльеф Людвіка Нарбута працы мастака Юрыя Кацяшчэнкі[430].

3 траўня 1938 г. выканаўчы камітэт ўшанавання памяці Людвіка Нарбута вызначыўся з праграмай урачыстасцяў. Па ініцыятыве камітэта гарадскія ўлады пераназвалі вуліцу Сядлецкую ў вуліцу імя **палкоўніка Людвіка Нарбута**[431]. Улетку 1939 г. мястэчка Сабакінцы Шчучынскага павета было пераназвана ў **Нарбутова**[432], у тым жа годзе планавалася ўстанавіць помнік Людвіку Нарбуту пры казармах Лідскага пяхотнага палка ў Гародні[433].

8 траўня ў горадзе адбыліся вялікія ўрачыстасці. Мемарыяльная дошка ў гонар Людвіка Нарбута, зробленая на сабраныя лідскай грамадскасцю грошы, была прымацавана на франтоне касцёла Піяраў[434]. Артыкул з "Лідскай зямлі" пра святкаванне ўгодкаў паўстання гл. у дадатках.

З сакавіцкага, 77-га нумара 1938 г. "Кур'ер Віленскі" пачыне даваць падрабязныя анонсы на ўсе новыя нумары "Лідскай зямлі" [435].

6 красавіка Лідскае краязнаўчае таварыства праводзіць у памяшканні клуба "Польскі рэсурс" вечарыну, даход ад якой ідзе ў выдавецкі фонд[436].

Улетку 1938 г. выходзіць чарговая кніга таварыства "Горад ваяўнічага ідэалу. Накіды ідэалагічных кірункаў Вільні ў ранейшыя часы і зараз" Я. Духноўскага[437], і газета "Кур'ер Віленскі" друкуе рэцэнзію на кнігу. У рэцэнзіі выказваецца шмат заўваг аўтару[438]. Тады ж, у чэрвені 1938 г. газета "Слова" ў сваёй сталай рубрыцы "Экслібрыс" разам з рэцэнзіямі на іншыя кнігі друкуе станоўчую рэцэнзію на кнігу Ўладзіслава Абрамовіча "Наваградскія старонкі"[439]: *"Гэта неабходная кніга, бо Наваградчына не мае добрага турыстычнага даведніка, і таму нават невялікія краязнаўчыя кнігі маюць вялікую вартасць і могуць разлічваць на ўдзячнасць. Кніга Абрамовіча старанна ілюстравана і можа выконваць ролю невялікага даведніка па Наваградскім ваяводстве. У кнізе*

*змешчана цікавая інфармацыя, часта "з першых рук" ..."*[440]. Вялікую станоўчую рэцэнзію на кнігу Абрамовіча надрукаваў і "Кур'ер Віленскі": *"Абрамовіч ... выдаў некалькі зборнікаў вершаў, між іншым "Анталогію маладых летувіскіх паэтаў". Некаторыя крытыкі варожа прынялі гэты зборнік. Магчыма гэта адбылося праз тое, што, аўтар дасканала валодаў летувіскай мовай і меў праблемы з польскай. Здаецца аўтар мае лепшы шанец ў прозе, што паказалі "Наваградскія старонкі". Кніжка складаецца з артыкулаў, якія друкаваліся ў "Кур'еры паранным" і "Лідскай зямлі" ... кніга падобна на "Бунт тваняў" Юзафа Мацкевіча"* [441].

Каб падтрымаць краязнаўчы рух ў Другой Рэчы Паспалітай, улады пачалі купляць для дзяржаўных бібліятэк рэгіянальная краязнаўчыя выданні. Пачалася каталагізацыя такіх выданняў і стала зразумела, што *"... лідскі выдавецкі асяродак краязнаўчых даследаванняў мае самыя лепшыя вынікі. Акрамя выпуску краязнаўча-рэгіянальнага штомесячніка, дзе ўжо апублікавана шэраг манаграфічных прац Міхала Шымілевіча, Аляксандра Снежкі, Антона Прыбыткі, ужо выдадзена пяць кніжак і тры працы падрыхтавана да друку: манаграфія пра двор Міцкевіча, пра гісторыю замка ў Міры і "Самаабарона Лідскай зямлі"* [442].

Пры канцы лета 1938 г. старшыня Лідскага краязнаўчага таварыства Антон Гржымайла-Прыбытка быў узнагароджаны Залатым Крыжам заслугі *"за культурную і навуковую дзейнасць. Трэба адзначыць, што Прыбытка акрамя артыкулаў, якія ён друкуе на старонках "Лідскай зямлі", некалькі гадоў працуе над вялікай манаграфіяй аб Лідскім і Шчучынскім павеце. Кніга ў хуткім часе будзе перададзена ў друк"*[443]. Вось так, па-сапраўднаму высока, ацэньвалі ўлады Польшчы даследчыцкую дзейнасць краязнаўцаў.

У другой палове 1938 г. Фонд Культуры пры Радзе Міністраў прызначыў штогадовую квоту ў 500 злотых на выданне штомесячніка "Лідская зямля".

Тады ж лідскі краязнаўчы асяродак прыступіў на арганізацыі музея Лідчыны. *"Экспанаты зараз захоўваюцца ў шафах з-за браку адпаведнага памяшкання. Зараз, дзякуючы прыхільнаму стаўленню бургамістра горада Юзафа Задурскага, краязнаўчы асяродак атрымаў у будынку гарадской бібліятэкі вялікі, добра абсталяваны пакой, у якім пачне працаваць музей. Ліда - старажытны горад з вялікімі традыцыямі да гэтага часу не мела месца, дзе было б магчыма захоўваць помнікі сівой старажытнасці нашай зямлі"* [444].

Ужо ў лістападзе 1938 г. прэса паведаміла, што музей хутка адчыніцца для наведвальнікаў[445]. Пры канцы года ўправа Лідскага краязнаўчага таварыства праз газету "Кур'ер Віленскі" падзякавала ўсім тым, хто дапамог стварыць Лідскі музейны асяродак[446].

У музей адразу пачалі паступаць цікавыя знаходкі з усёй Лідчыны. Музей атрымаў бівень мамонта, знойдзены на пачатку 1939 г. падчас копкі студні на глыбіні 1,5 метра ў маёнтку Быкаўшчына[447] і *"камень падобны на нагу чалавека. Даўжыня "ступні" 28 см, вышыня 23 см"*, дзіўны камень знайшлі пад час будаўніцтва дарогі[448].

У сакавіку 1937 г. прэса паведаміла, што да настройшчыка музычных інструментаў Антона Поляка (вул. Варшаўская, 15-2) стары сляпец прынёс для рамонту скрыпку. *"Пад час працы настройшчык знайшоў знутры скрыпкі надпіс "Antonius Stradivarius Cremonensis Faciebat Anno 1773". Уладальнік скрыпкі Юзаф Паўлоўскі, вясковец з-пад Ліды, не ведае пра антыкварную вартасць скрыпкі і не памятае, як і дзе набыў інструмент"*[449]. Праз год у Лідзе з'явілася другая скрыпка Страдзівары. Стэфан Тыркін (Замкавая, 37) купіў за некалькі злотых у селяніна са Слонімскага павета скрыпку, на якой знайшоў надпіс *"Antonius Stradivarius, Cremonensis. Faciebal Anno 1713"* [450]. Такія цікавыя знаходкі не маглі не выклікаць зацікаўленасць аматараў даўніны, але не вядома, ці набыў Лідскі музей гэтыя каштоўныя музычныя інструменты.

Урачыстае адкрыццё музея адбылося пры канцы траўня 1939 г.: *"Новы музей высвяціў ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец, на адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі ўладаў, школьнае настаўніцтва, сябры Краязнаўчага таварыства. Старшыня таварыства Дзічканец расказаў пра мэты і дзейнасць арганізацыі, пасля чаго ў памятнай кнізе быў падпісаны акт адкрыцця музея ... ."* [451].

Цікавай з'яўляецца інфармацыя лідскага гісторыка Наталлі Хацяновіч пра заснаванне ў 1934 г. Уладзіславам Абрамовічам этнаграфічнага музея ў Лідзе[452]. Інфармацыю пра гэты музей яшчэ трэба будзе шукаць, але адразу трэба заўважыць, што Абрамовіч жыў у Лідзе з 1936 па 1939 г.[453]

**Такім чынам адлік гадоў існавання музея ў нашым горадзе мы можам весці ад 1938 г. ці 1939 г.**

Пасля афіцыйнага адкрыцця музея, на пачатку лета 1939 г., Станіслава Дзічканец (з Візгірдаў) перадала ў музей карціну з выявай Лідскага касцёла піяраў мастака, прафесара Маленчыка[454].

Улетку 1938 г. гарадскія ўлады звярнуліся ў Цэнтральны літоўскі архіў у Каўнасе з просьбай зрабіць копіі вялікай калекцыі дакументаў нашага горада, якія знаходзяцца там. У 1914 г. актуальныя архівы горада былі вывезены ў Расію, а потым бальшавікі аддалі іх Літве[455]. Без гэтых дакументаў гарадскія ўлады не маглі вырашыць шэраг маёмасных праблем[456]. Хутка рэдактар "Лідскай зямлі" Абрамовіч праз былога лідзяніна атрымаў з Коўні план горада Ліды, выкананы ў 1851 г.[457]

На самым пачатку 1939 г. выйшаў з друку кішэнны інфарматар Ліды з планам горада. Інфарматар даваў расклад руху цягнікоў і аўтобусаў, інфармацыю пра часы працы органаў кіравання, грамадскіх арганізацый, змяшчаў рэкламу лідскіх фірм. Аўтарам кніжкі быў Эдвард Радзевіч, кніжка выдадзена за грошы Камунальнай ашчаднай касы ў Лідзе[458].

26 сакавіка 1939 г. на агульным паседжанні, якое праходзіла ў сваім сталым памяшканні (Сувальская, 3), было абрана новае кіраўніцтва Лідскага краязнаўчага таварыства. Былы старшыня таварыства Антон Прыбытка (Гржымайла-Прыбытка), скарбнік Зоф'я Себясцянская і старшыня рэвізійнай камісіі Баляслаў

Баярчык зрабілі справаздачу перад агульным сходам за папярэднія гады. Пасля было выбрана новае кіраўніцтва таварыства: Юзаф Дзічканец - старшыня, доктар Ліцкевіч - віца-старшыня, Зоф'я Себясцянская - скарбнік, рэдактар Уладзіслаў Абрамовіч - сакратар. У рэвізійную камісію абралі Антона Прыбытку, Баляслава Баярчыка і доктара Марыю Меер, ва ўправу таварыства абралі Касоўскую, Жылінскую і Зыгмунта Лісецкага[459].

У траўні 1939 г. "Кур'ер Віленскі" паведамляе пра выхад кнігі Юзафа Дзічканца "Самаабарона Лідскай Зямлі"[460], *"аўтар гэтай працы - старшыня Лідскага краязнаўчага таварыства ..., які шмат гадоў прысвяціў збору матэрыялаў па тэме"* [461]. Таксама пра выхад кнігі віленская газета "Слова"[462] спярша коратка інфармуе, а праз некалькі нумароў у рубрыцы "Экслібрыс", друкуе вялікую станоўчую рэцэнзію[463]. Улетку выходзіць кніга Аляксандра Снежкі "Двор Міцкевіча ў Наваградку" (Dworek Mickiewiczowski w Nowogrodku)[464].

Летам 1939 г. Краязнаўчае таварыства распачало ладзіць краязнаўчыя вандроўкі. Першая вандроўка, 18 чэрвеня, адбылася ў Наваградак, двор Міцкевіча і Свіцязь, кошт - 4 злотыя[465]. Наступная вандроўка адбылася праз месяц. На гэты раз аматары даўніны наведалі замак у Любчы, мястэчкі Ліпнішкі, Іўе, Дзялятычы, пабывалі ў Наваградку і на гуце "Нёман". Квіткі каштавалі 4,8 злотага[466].

Лідскія краязнаўцы пачалі сустракаць і ладзіць краязнаўчыя вандроўкі для замежнікаў. На пачатку чэрвеня 1939 г. была арганізавана вандроўка для 18 турыстаў з Коўні, якія прыехалі ў Ліду аўтобусам[467]. На пачатку ліпеня ў наш горад прыехалі 34 літоўскія гісторыкі з Літоўскага таварыства гісторыкаў. Галоўным сярод іх быў знаны археолаг, доктар Ёнас Пузінас (Jonas Puzinas), прафесар Ковенскага ўніверсітэта імя Вітаўта Вялікага. Гісторыкі наведалі лідскія касцёлы, замак, музей, гімназію імя Караля Хадкевіча, з Ліды аўтобусам праз Беліцу паехалі ў Наваградак, потым праз Крэва, Гальшаны і Ашмяны прыехалі ў Вільню[468].

У жніўні 1939 г. выйшаў апошні нумар даваеннай "Лідскай зямлі". На 48-мі старонках былі надрукаваны ўспаміны Міхала Шымялевіча пра пачатак Першай Сусветнай вайны, артыкул Аляксандра Снежкі пра Вандаліна Шукевіча і шэраг іншых цікавых матэрыялаў[469].

Наступны нумар аднаўленага выдання выйдзе ўжо толькі ў 1990 г., пасля краху савецкага таталітарнага рэжыму.

На пачатку жніўня "Кур'ер Віленскі" паведамляў: *"Лідскі аддзел Краязнаўчага таварыства пры працы. Краязнаўчае таварыства выкарыстоўваючы жаданне нашых гасцей з розных частак краю адпачыць летам на нашай зямлі, пачало інтэнсіўную прапаганду краязнаўчай ідэі. Сябры таварыства чытаюць лекцыі ў месцах адпачынку, знаёмяць слухачоў з нашай прыгожай гісторыяй, з яе помнікамі, культурай і сучасным станам гаспадаркі"* [470]. Тады ж краязнаўцы пачалі рыхтавацца да ўстаноўкі памятнай дошкі па Вандаліну Шукевічу ў Нацкім касцёле[471].

У жніўні надрукавана апошняя інфармацыя пра дзейнасць Лідскага краязнаўчага таварыства. Перад самым пачаткам вайны Таварыства паспела выдаць кнігу па гісторыі касцёла ў Жырмунах і пры канцы жніўня 1939 г., пад час святкаванняў 150-тых угодкаў касцёла, Уладзіслаў Абрамовіч прэзентаваў гэтую кнігу прысутным.

Неверагодна многа паспелі яны зрабіць у апошняе мірнае лета.

Лідскія краязнаўцы другой генерацыі, якія гуртаваліся вакол "Лідскай зямлі" зрабілі велізарны, неацэнны ўнёсак ў справу пазнання гісторыі нашага краю. Як і ў кожнага чалавека, які піша, у іх павінна была застацца вялікая колькасць ненадрукаваных тэкстаў, тэкстаў у працы, шматлікіх архіваў. На жаль, усё гэта загінула.

***Уладзіслаў Абрамовіч*** *- лідскі краязнавец, паэт, перакладчык, гісторык культуры, бібліёграф, архівіст. Нарадзіўся 9 траўня 1909 г. у Новым Двары каля Трокаў і лічыў сябе летувісам (у анкетах пісаў бацька - летувіс, маці - беларуска). У 1933 г. скончыў Віленскую гімназію. Жыў у Лідзе з 1936 па 1939 г., ўзначальваў карэспандэнскі пункт "Кур'ера Віленскага" і адначасова, быў галоўным рэдактарам газеты "Лідская зямля" (Ziemia Lidzka). У 1938 г. як аўтар выдаў кнігу пра Наваградчыну (Strony Nowogrodzki. Skirce krajoznawcze. Lida, 1938.). Пасля 1945 г. і да канца жыцця працаваў кіраўніком аддзела рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. У 1951 г. атрымаў гістарычную адукацыю ў Віленскім універсітэце. Шмат займаўся перакладамі літоўскіх паэтаў на польскую мову. Выкладаў на кафедры бібліятэказнаўства Віленскага ўніверсітэта, таксама выкладаў польскую мову аспірантам універсітэта. Кіраваў літаратурным гуртком, які склаўся вакол польскамоўнай газеты "Czerwony Sztandar", быў сябрам Саюза пісьменнікаў. Памёр 16 лістапада 1965 г., пахаваны на Росах.*



**Уладзіслаў Абрамовіч**

***Аляксандр Снежка*** *(1896-1975), нарадзіўся ў Кейданах (зараз - Летува). Лідскі краязнавец, аўтар шэрагу публікацый у газеце "Ziemia Lidzka", у 1937 г. як аўтар выдаў кнігу пра касцёл у Міры (Kosciol farny w Mirze. Szkic monograficzny 1587-1937. Lida, 1937). Да 1939 г. працаваў у Лідзе рэферэнтам па культуры ў Арганізацыя вайсковай падрыхтоўкі паштовых работнікаў (PPW). Пасля Другой Сусветнай вайны жыў у Польшчы, першы дырэктар і заснавальнік Музея пошты і тэлекамунікацый ва Ўроцлаве. Гісторык пошты, філатэліст, аўтар 400 публікацый.*

**Культурнае жыццё**

У прэсе тых часоў неаднаразова з'яўлялася рэклама друкарні Зяльдовіча (Сувальская, 70). Шымон Зяльдовіч меў друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў. Тут друкаваліся "Лідскія ведамасці", "Лідская зямля", "Вясковы лірнік" "Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах" А. Гржымалы-Прыбыткі, "Прыпавесці" лідскага паэта І. Альбірта і часопісы на мове ідыш[474].

У 1937 г. знаны лідскі паэт Іосіф Альбірт, *"аўтар трох томікаў паэзіі, падрыхтаваў да друку новую кнігу сваёй паэзіі "Звычайныя людзі". У кнізе сабраныя навэлы, якія часткова ўжо друкаваліся ў віленскіх часопісах"* [475]. Лістападаўскі нумар "Лідскай зямлі" ў бібліяграфічным раздзеле змяшчае водгук на *"старанна выдадзеную брашуру знанага лідскага паэта і пісьменніка Юзафа Альбірта (Jozef Albitr. Ludzie hory i pracy. Lida, 1937)"* [476]. Пры канцы гэтага ж года Альбірт пачаў выдаваць ў Лідзе яўрэйскую штотыднёвую газету "Lider Folksfrajnd" ("Лідскі сябар народа")[477].

Пры канцы 1937 г. "Кур'ер Віленскі" паведаміў пра смерць доктара медыцыны Саламона Каплана, які быў *"шматгадовым старшынём Аб'яднаня яўрэйскіх школ, лідскім радным і знаным грамадскім дзеячам. Перад вайной* (Першай Сусветнай - *Л.Л.*) *др. Каплан рэдагаваў і выдаваў першую ў Лідзе штотыднёвую газету "Лідскае слова". Нябожчык карыстаўся ў Лідзе вялікай павагай"* [478].

З чэрвеня да жніўня 1938 г. у Лідзе выйшлі з друку два нумары (другі падвойны на 32 старонкі) штомесячніка, прысвечанага паэзіі і народнай літаратуры "Вясковы лірнік" пад рэдакцыяй Фларыяна Амброса, выдавец - Уладзіслаў Піваварчык.

З 14 верасня 1938 г. ў Лідзе як дадатак да "Віленскай газеты" пачала выходзіць штодзённая 4-х старонкавая (у нядзелю, з дадаткам - 6 старонак) "Лідская газета", яе выдаваў ксёндз Рамуальдам Свікоўскі ў Вільні[479].

З 1 красавіка 1938 г. у памяшканні Сельскагаспадарчага кааператыва (вул. Замкавая, 2) праходзіла выстава вядомага лідскага мастака Юрыя Кацяшчэнкі, працы мастака можна было *"набыць па вельмі нізкіх цэнах"* [480].

***Альбірт Іосіф Мацвеевіч*** *(нарадзіўся ў 1907 г. у Лідзе) - паэт, пісьменнік, пасля 1950-х гг. быў членам Саюза пісьменнікаў, жыў у Маскве. Аўтар кніг "Зорка майго пакалення", "Іскры", "Сэрца маёй зямлі". З 1970 г. жыў у Ізраілі. Больш падрабязнай інфармацыі пра гэтага цікавага чалавека ў мяне, на жаль, няма.*

**Клуб матацыклістаў**

Матацыкл у той час быў вельмі дарагім і таму недаступным для большасці сродкам транспарту. Мець асабісты матацыкл было недасяжнай марай, валоданне ім амаль што адразу ўздымала ў вачах грамадства ўладальніка на ўзровень лётчыка - самага рамантычна і адначасова забяспечанага маладога чалавека ў Лідзе 1930-х гадоў.

Дарэчы, у тыя часы, матацыклы маркі "Нёман" вырабляліся ў Гародні.

Дакладна вядома, калі ў Лідзе быў арганізаваны клуб матацыклістаў (па сучаснаму - байкераў). "Кур'ер Віленскі" пісаў, што першае арганізацыйнае паседжанне ў Лідзе філіяла Віленскага мотаклуба Звязу стральцоў адбылося 31 студзеня 1936 г.[481]

Пры канцы 1936 г. у Лідскім павеце было 27 асабістых аўтамабіляў, 4 грузавыя аўтамабілі, 6 аўтобусаў, 28 матацыклаў - разам 67 механічных транспартных сродкаў: *"Ступень матарызацыі Лідскага павета ў Наваградскім ваяводстве знаходзіцца на другім месцы, першае месца займае Баранавіцкі павет, які мае 95 механічных транспартных сродкаў, на апошнім месцы - Стаўпецкі павет, дзе ёсць толькі 16 машын (з іх 5 матацыклаў)"* [482].

26 красавіка 1936 г. лідскія матацыклісты ўрачыста распачалі свой першы сезон. На адкрыцці сезону прысутнічалі ганаровыя госці: стараста павета Юзаф Чушкевіч, камендант Лідскага гарнізона п/плк. Віктар Маеўскі, камандзір 5-га лётнага палка плк. Вацлаў Івашкевіч, бургамістр горада Юзаф Задурскі. У свяце таксама ўзялі ўдзел госці з Вільні, прыехала 15 матацыклістаў з Віленскага мотаклуба Звязу стральцоў, ад "Агніска" (K.P.W. "Ognisko" - спартовы клуб чыгуначнікаў) - 2 матацыклісты і ад "Віленскага таварыства матацыклістаў і раварыстаў" (Wil. Tow. Cyklistow i Motoc.) - 2 матацыклісты. Свята пачалося ў 10 гадзін раніцы з імшы ў Касцёле піяраў. Пасля імшы адбылася дэфіляда - ганаровы праезд матацыклістаў па горадзе і, падобна, горад першы раз убачыў адразу такую кольскасць матацыклаў. Потым матацыклісты сабраліся ў памяшканні Звязу стральцоў у Лідзе па вуліцы Школьнай, дзе віленскіх гасцей пачаставалі сяброўскім сняданкам, у якім браў удзел і бургамістр горада. Пасля наведвання культурных здабыткаў горада, адбыўся абед у гарадской управе, і віленцы паехалі дахаты. Потым, праз газету, сябры Віленскіх мотаклубаў сардэчна дзякавалі ўсім лідзянам і асабіста *"віцакапітану лідскага клуба паручніку-пілоту Букоўскаму і паручніку-пілоту Дажэну"* [483].

У траўні таго жа года 53 матацыклісты з розных клубаў розных гарадоў, у тым ліку і лідзяне, з'ехаліся ў Вільню[484]. Злёт быў прысвечаны памяці маршала Пілсудскага. У чэрвені адбыліся гонкі з Вільні ў Ліду якія выйграў сябар "Віленскага таварыства матацыклістаў і раварыстаў" віленец Скуратовіч[485]. У ліпені, калі тэмпература паветра ўздымалася амаль што да 40 градусаў, адбыліся гонкі па трасе Вільня - Ліда - Гародня - Вільня. Усе тры прызавыя месцы ўзялі віленцы з мотаклубу Звязу стральцоў: *"1-е месца заняў М. Рабіновіч на матацыкле маркі "Rudge", 2-е месца Вайнберг на матацыкле той жа маркі, 3-е месца заняў М. Марацэвіч на матацыкле "BSA""* [486]. У прэсе адразу ж з'явілася рэклама матацыкла маркі "Rudge" як машыны, якая перамагла ў гэтых гонках.

Хутка матацыклісты сталі сталымі ўдзельнікамі вялікіх гарадскіх святаў. У 1937 г., падчас святкавання Дня Канстытуцыі (3-га Мая) ў Лідзе адбыўся "Зорны"

З'езд матацыклетных клубаў Заходняй Беларусі (Zjazd Gwiazdzisty Motocyklistow Ziem Polnocno-Wschodnich). У праграме З'езду былі гонкі і стральба[487]. Згодна з праграмай: *"2 траўня, 9 - 10-30, прыбыццё ўдзельнікаў Зоркнага з'езду на гарадскі стадыён. 10-30 - старт гонак да гуты "Нёман". 13-30 - 14-00 - старт бегу са стральбой"* [488].

6 - 9 траўня таго ж года прайшлі вялікія гонкі на дыстанцыю 1914 км. У гэтых гонках удзельнічалі 130 матацыклістаў, у тым ліку і лідзяне, на ўчастку з Бярэсця да Вільні (361 км) гонкі праходзілі праз наш горад[489].

У наступным, 1938 г., на свята Дня Канстытуцыі адбылося адкрыццё сезону лідскіх матацыклістаў: *"У 9 гадзін - збор матацыклістаў каля памяшкання клуба і ад'езд да замка, у 9-45 - рапарт і асвячэнне машын, потым - удзел у набажэнстве і дэфілядзе. Пасля дэфіляды старт да Ліпнішак, вяртанне ў 17-00 на гарадскі стадыён, дзе адбудуцца спартовыя мерапрыемствы"*[490]. У гэта ж дзень вечарам, матацыклісты выехалі для адпачынку на Нёман каля Беліцы[491].

На пачатку чэрвеня 1938 г. Лідскі мотаклуб на два дні выехаў праз Гародню ў Друскенікі (320 км)[492]. А 17 ліпеня ад Лідскага староства пачаліся гонкі на 100 км са стральбой пры канцы гонак, асабістыя маршруты кожнаму ўдзельніку ўручаліся за 10 хвілін да старту. Пратэктарат над гонкамі ўзялі сам лідскі стараста Гансоўскі і камандзір 77 пяхотнага палка, які стаяў у горадзе[493].

Сезон 1938 г. для лідскага мотаклуба закрыўся 30 кастрычніка рэйдам, у якім прыняло ўдзел 15 чалавек[494], рэйд меў назву "У пагоню за лісам". Першым знайшоў лісіную нару Вільям Дажэна на матацыкле BMWR 51, другое месца заняў Канстанцін Ёдка на BSA 350, трэцяе - Уладзіслаў Папроцкі на "Rudge". Апошнім мерапрыемствам гэтага года быў удзел у дэфілядзе ў Дзень Незалежнасці 11 лістапада[495].

4 ліпеня 1939 г. адбыліся гонкі матацыклістаў па трасе Ліда - Шчучын - Наваградак - Ліда (210 км)[496]. А ў чэрвені таго ж года Лідскі мотаклуб зладзіў выезд на 4 дні ў Літву. Маршрут праходзіў праз Араны, Коўню, Палангу. Адпачыўшы на моры, матацыклісты вярнуліся дахаты[497]. Гэта было апошняе мерапрыемства Лідскага клуба матацыклістаў.

Нягледзячы на відочную вайсковую скіраванасць большасці мерапрыемстваў Лідскага мотаклуба, браць удзел у іх маглі не толькі вайскоўцы, але і ўсе ахвотныя ўладальнікі матацыклаў.

**У 2016 г. лідскія байкеры могуць святкаваць 80-годдзе свайго руху ў нашым горадзе.**

### Рэстараны

Пэўна, нельга напісаць пра ўсё рэстараны і кафэ горада таго часу. Шмат якія ўстановы адчыняліся і хутка зачыняліся, але было некалькі папулярных устаноў, якія існавалі працяглы час і засталіся ва ўспамінах лідзян таго часу.

Немагчыма не ўспомніць знакамітую цукерню **"Амерыканка"**, якая знаходзілася на рагу вуліц Сувальскай (зараз - Савецкая), 3 Мая (зараз - Ленінская) і належала Б. Будыне. Гэта цукерня была найбольш вядомым рэстаранам, які наведвала інтэлігенцыя. Асабліва ўпадабалі яе афіцэры мясцовага гарнізона, таму ўваход у яе шарагоўцам і падафіцэрам быў забаронены. Лідзянка, прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова пісала ва ўспамінах: *"...ішлі ў цукерню "Амерыканка" на печыва або на марозіва - у залежнасці ад пары года. "Амерыканка" знаходзілася на рагу вуліц Сувальскай і 3 Мая. Мы падымаліся па некалькіх прыступках і сядалі за мармуровы столік. Памятаю асабліва выдатнае марозіва - шакаладнае, арэхавае, трускалкавае ці вішнёвае. З печыва - "напалеонкі" і трубачкі з крэмам. Падчас наведвання Ліды ў 1992 годзе я вырашыла паказаць майму мужу "Амерыканку". На жаль - засталіся толькі выкліканыя мной успаміны"*[498]. Цукерня "Амерыканка" мела музычны танцавальны-канцэртны ансабль-трыё.[499] *"У "Амерыканку", лепшы шынок, уваход для шарагоўцаў і падафіцэраў быў загадам па палку забаронены"*, - пісаў Юзаф Рыбінскі, які адбываў вайсковую службу ў 5-м лётным палку.

Былы жыхар горада Лех Цехановіч пісаў, што ў 30-х гадах над "Амерыканкай" на другім паверсе дзейнічала **Кола полек** (Гурток полек), працавала закусачная з продажам спіртных напояў на разліў. Вечарамі часаправаджэнне рабіла больш прыемным музыка. Рэстаран **"Паляўнічы"**, якім кіраваў нейкі Бароўскі, знаходзіўся ў доме 5 па вуліцы Сувальскай. Рэстаран вызначаўся ўзорнай кухняй, добра ўкамплектаваным буфетам, смачнымі і здаровымі абедамі і разам з тым даступнымі цэнамі. Каля яго, на перакрыжаванні вуліц быў шынок, калісьці яўрэйская карчма. Паміж дамамі № 5 і 7 па Сувальскай знаходзілася **цукерня Канопкі** з забаўляльнаю рэкламаю кручанага марожанага Пата і Паташона. Фірма **"Браты Вінаградавы"** (Сувальская, 21), якая існавала ад 1861 г., вяла гандаль спажывецкімі і каланіяльнымі таварамі, вінамі і лікёрамі. Пры краме працаваў рэстаран **"Брыстоль"**, адзін з лепшых у Лідзе. Цукерніку належала вялікая цукерня на Сувальскай, 30, якая прапаноўвала пышныя пірожныя "макагігі", булачкі з мёдам, макам і г.д., займала памяшканне ў цокалі (крама) і на паверсе, дзе былі пастаўлены столікі, фартэпіяна, а госці на месцы маглі карыстацца прэсай. У цукерні быў тэлефон-аўтамат[500]. Усе гэтыя ўстановы знаходзіліся практычна на працягу 100 метраў па вуліцы Сувальскай. Акрамя гэтага, цукерні меліся па вуліцы Сувальская - 9, Орліч-Дрэшара - 29, Рынак - 11.

У 1938 г., верагодна, замест рэстарана "Паляўнічы" адчыніўся **"Бар Землеўладальнікаў"**: *" ... Сувальская, 5, каля магістрату, пад кіраўніцтвам знанага адмыслоўца Бр. Бароўскага - прапануе вядомыя па сваёй якасці сняданкі, абеды і вячэры, таксама вялікі выбар він, гарэлак і лікёраў. Цэны даступныя"* [501].

Па другой галоўнай вуліцы горада 3-га Мая было два рэстараны і бар. У доме № 4 знаходзіўся адчынены з 1930 г. рэстаран **"Аазіс"** Аляксандра Тамасіка, **рэстаран Семака** быў каля гарадской турмы[502].

Добры рэстаран быў на чыгуначным вакзале. Унутры яго, злева ад цэнтральнай залы была вялікая зала чыгуначнага рэстарана 1-га класу з буфетам: *"У рэстаране можна было смачна пад'есці, а ў буфеце атрымаць розныя вытанчаныя халодныя закускі, найлепшую вяндліну, фаршыраванага шчупака, галярэту ці селядца з рознымі салатамі. Да ежы падавалася гарэлка, віно і піва Лідскага бровара ці Віленскага бровара "Шапэн". Алкаголь пілі культурна і не шмат, ніколі не бачыў я, каб хтосьці валіўся з ног ці ладзіў сваркі"* [503].

Рэстараны былі і пры кожным з гатэляў горада. У 1937 г. уладальнік гатэля **"Варшавянка"** Юзаф Малішэўскі заявіў у паліцыю пра кражу нажоў і відэльцаў на 200 злотых. У крадзяжы падазраваліся две работніцы рэстарана[504].

Вышэй я пісаў пра рэстаран-клуб **"Польскі рэсурс"**. 7 сакавіка 1938 г. лідскі памочнік пракурора Пігулеўскі ў зале гэтага клуба спрабаваў скончыць жыццё самагубствам і памёр ад раны ў шпіталі 14 сакавіка[505].

**Радыё**

Радыё ў той час было яшчэ адным з галоўных тэхнічных цудаў. Мець ў хаце лямпавы прыёмнік было недасяжнай марай для большасці.

Адносна таннае дэтэктарнае радыё прымала толькі адносна блізкія станцыі, чуць перадачы на ім можна было толькі ў слухаўкі. Танныя, дэтэктарныя прыёмнікі ўжо мелі шырокі распаўсюд, напрыклад віленская прэса ў 1937 г. пісала пра неабходнасць пабудовы новай радыёстанцыі ў Лідзе ці Баранавічах *"бо дэтэктарныя прыёмнікі, якія ў ... павятовых гарадах ёсць у кожнай другой хаце, поўныя галасоў з Менска і бальшавіцкай агітацыі"* [506].

Самае таннае дзвюхлямпавае радыё каштавала каля двух добрых месячных заробкаў на "Ардалі", але прымала галоўныя радыёстанцыі Еўропы і мела адносна моцны і добры гук праз дынамік. Напрыклад віленскія газеты рэкламавалі дастаткова простыя радыёпрымачы фірмы "Эха" коштам ад 170 да 270 злотых[507], самы танны лямпавы радыёапарат віленскага завода "Электрыт" каштаваў болей за 200 зл. Лепшыя мадэлі фірмаў "Філіпс" ці "Тэлефункен" каштавалі значна болей.

Бліжэйшым радыёзаводам, дзе выраблялася шмат мадэляў радыёпрымачоў быў завод "Электрыт" у Вільні. Успамінаючы дзяцінства ў Лідзе, прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова пісала: *"У салоне стаяла радыё - падаецца мне, што знакамітай, віленскай фірмы "Электрыт". Ці часта мы слухалі радыёперадачы? На жаль, не памятаю. Запомніла аднак у найдрабнейшых дэталях паведамленне па радыё, калі 1 верасня 1939 года было абвешчана аб пачатку II Сусветнай вайны. Тым ранкам сядзелі бацькі ў салоне перад радыёапаратам, слухаючы перадачы найсвяжэйшых паведамленняў. Праз хвіліну тата сказаў: "Пачалася вайна з немцамі. Якія будуць яе лёсы - убачым. Мусіце быць спакойнымі і стрыманымі. У старостве я даведаюся, якія будуць далейшыя інструкцыі". Мама была стрымана знешне, што адчувала ў сэрцы, не ведаю. У доме распачаўся звычайны, будні дзень. А адначасова закончыўся перыяд шчаслівага дзяцінства"* [508].

Былая лідзянка Ярмант ўспамінала, як суседка некалькі разоў запрашала яе сям'ю праслухаць перадачу "Вечарынка" з Вільні: *"Такія запрашэнне, для нас, людей якія не маюць радыё, станавіліся сапраўдным Святам"*. Калі ж у яе сям'і з'явіўся радыёпрымач, дык гэта *"значна ўзбагаціла наша штодзённае жыццё. З гэтай скрыні я пачула розныя чароўныя мелодыі, напрыклад, з аперэты "Вадзяная дзяўчына" (Русалка) і бегла да апарата, як толькі чула першыя акорды"*[509].

Вось як пісаў пра стан радыёфікацыі ў нашых краях нейкі Ян Хапко: *"Падчас сваіх вандровак заўважыў, што звычайна, стан дэтэктарных апратаў і ўсяго абсталявання знаходзіцца ў занядванні. Апараты забруджаныя ... антэны моцна правісаюць і часта на іх сушаць бялізну"*. Далей аўтар расказвае, як ён сам купіў радыё і радасць першых гадзін ад прымача: *"Выбралі дзвюхлямпавы апарат ... . Вяртаемся ўвечары, узяўшы з сабой радыётэхніка. І хоць была зіма, адразу выкапалі дужую яму і ўладкавалі антэну. Праз гадзіну ўжо грала. Вандравалі па Еўропе да ночы"* [510].

Купіць радыё ў Лідзе можна было ў краме "Электрарад" па вуліцы Сувальскай, 21[511]. Але здаралася рознае. Напрыклад у красавіку 1938 г. жыхар Ліды Стэфан Валіцкі заявіў у паліцыю пра падман. 17 сакавіка ён праз гандлёвага агента Генрыка Брэйнака купіў ў крэдыт радыёпрымач, пры гэтым як першы ўзнос заплаціў 70 злотых і дамовіўся выплачваць астатнюю суму 15-ю часткамі па 23,1 злотага кожны месяц. Але па пошце атрымаў дамову, у якой выплачваць патрэбна было 10-цю часткамі па 34,6 злотага што-месяц[512].

**Што слухалі?**

Ужо ў пачатку 1920-х гадоў польскія ўлады пачалі развіваць сетку вяшчальных радыёстанцый. У красавіку 1926 г. адбыўся першы эфір Польскага радыё з Варшавы. У 1927 г. было вырашана стварыць аддзяленне Польскага радыё ў Вільні. У тым жа годзе тут з'явіліся дзве радыёмачты. Віленская радыёстанцыя перш за ўсё прапаноўвала музычныя перадачы, найбольш папулярнай перадачай - быў канцэрт па заяўках. Кожны ахвочы за 1 злоты мог замовіць любімую песню і пачуць яе ў эфіры. Хваля перадавала канцэрты Варшаўскай філармоніі. Шмат часу выдзялялася на трансляцыю камернай музыкі, у тым ліку з тэатра "Ла Скала" ў Мілане. Для вясковай аўдыторыі радыё ў Вільні рыхтавала перадачы "Гісторыя танцу", "Вячоркі ля мікрафона", "У музычным доме". У іх удзельнічалі між іншым музычныя ансамблі "Каскада" і "Ўцеха" (якія спявалі на так званай "красовай пальшчызне" - польскай мове са значным уплывам іншых славянскіх моў). Пры гэтым для такіх перадач радыё заклікала да супрацы выканаўцаў народных песень, у тым ліку і беларускіх. Важнае месца займалі гумарыстычныя перадачы (напрыклад, "Віленская зязюля"). Не менш увагі надавалася і літаратурным творам, якія ў эфіры

агучвалі дыктары радыё. Перш за ўсё, тут гаворка ідзе пра перадачу "Несмяротныя кнігі". У сярэдзіне 1930-х гадоў Віленскае радыё пачынае трансляваць перадачы кшталту савецкага "Тэатру ля мікрафона", у якіх рабіўся ўхіл на гістарычную тэматыку. Гісторыя была ключавой тэмай для многіх перадач радыё, асабліва гэта назіраецца ў канцы 1930-х гг., калі ІІ-я Рэч Паспалітая знаходзілася на парозе вайны[513]. Дарэчы, на Віленскім радыё ў тыя часы працаваў будучы нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш.

У праграме вяшчання Віленскай радыёстанцыі кожны тыдзень была праграма з Ліды. А 16 красавіка 1939 г. адразу некалькі радыёстанцый транслявалі рэпартаж з Ліды аб святкаваннях 20-х угодкаў вызвалення горада ад бальшавікоў: *"Урачыстасць была вельмі ўзвышанай і перадавалася праз радыёстанцыі на ўвесь край. Пасля трансляцыі выступу ваеннага аркестра з залы Купецкай гімназіі піяраў, дырэктара гэтай гімназіі выступіў з лекцыяй аб гісторыі Лідскага ордэна піяраў. Потым зноў выступаў вайсконы аркестр і вясковая капэла, потым ішлі выступы і справаздачы на тэму сучаснага жыцця і будучыні Ліды"*[514]. Перадача пачалася ў 9-15 і скончылася ў 11-45[515].

У 1937 г. ў Баранавічах распачалося будаўніцтва і мантаванне абсталявання для радыёстанцыі. Хутка ў Баранавічах былі пабудаваны дзве мачты, ад 1 ліпеня 1938 г. пачалося вяшчанне. Сярод праграм Баранавіцкага радыё вылучаліся "Сельскагаспадарчыя навіны", падчас якіх вядоўцы падрабязна разглядалі падзеі ў гэтай сферы на тэрыторыі трох заходнебеларускіх ваяводстваў. Цікавымі былі перадачы з серыі "Нашы вёскі і мястэчкі", у якіх расказвалася гісторыя розных населеных пунктаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Для моладзі рабіліся прыродазнаўчыя перадачы[516].

Ад свайго бацькі ведаю, што заходнія беларусы з цікавасцю слухалі радыё з Менска на роднай мове.

У горадзе было 8 радыёаматараў. Яны мелі прыватныя аматарскія радыёстанцыі і падтрымлівалі сувязь з радыёаматарамі ўсяго свету. Гэтае хобі патрабавала добрых заробкаў, але лічылася вельмі ганаровым і рамантычным.

**Differently**

**Рознае**

На пачатку лютага 1937 г. газета "Ку'ер Віленскі" друкуе фотаздымак 65-ці гадовага старога Міхала Янкоўскага, вознага павятовай камендатуры Дзяржаўнай паліцыі, у палонцы рэчкі Лідзейкі пры марозе - 22 гр. *"Незвычайная фізічная загартоўка з'яўляецца вынікам сістэматычных, не гледзячы на надвор'е, заняткаў спортам"* [517].

У жніўні 1938 г. "Кур'ер Віленскі" друкуе вялікі артыкул пра вандроўнага сталяра з Ліды Канстанціна Лапыра зрабіўшага сабе драўляны ровар. Колы, руль і ланцуговы механізм ён купіў у краме за 40 злотых, усе астатняе змайстраваў з дрэва і кавалкаў старога жалеза. Ровар атрымаўся не цяжэйшы за фабрычны, вельмі моцны і добра прыстасаваны для дрэнных дарог. Столяр таксама зрабіў пад заказ шмат цікавай разборнай мэблі жыхарам горада. Майстар не атрымаў



***"Морж" на Лідзейцы***



***К. Лапыр з драўляным роварам***

добрай адукацыі, але цікавіўся фізікай і наогул шмат чытаў[518].

Пры канцы 1937 г., пасля моцных забастовак першай паловы 1936 г., дзеля паляпшэння гігіенічных умоваў сваім рабочым, "Ардаль" пачаў будаваць лазню. А рабочыя чыгункі, хоць і мелі сваю лазню[519], але не маглі туды патрапіць, бо кіраўніцтва чыгункі трымала яе зачыненай ці пускала ў лазню невядома каго. Скаргу на немагчымасць трапіць у лазню чыгуначнікі ўзнялі падчас агульнага прафсаюзнага сходу. Наогул, лазні ў горадзе былі далёкія ад патрабаванняў гігіены. Напрыклад лазня яўрэйскага кагалу па вуліцы Мацкевіча: *"вельмі непрыгожая, невядома колькі гадоў не рамантаваныя сцены, пакрытыя шматгадовым пластом мокрага бруду, шмат пары, якой людзі дыхаюць, і, як дзеля жарту, лазня мае назву "Гігіена""*[521].

**9. Злачыннасць**

У гэтым раздзеле будуць апісаны толькі найбольш характэрныя злачынствы тых часоў.

На пачатку 1936 г. быў арыштаваны Юзаф Кіжук - фальсіфікатар квіткоў за збожжа, здадзенае Сельскагаспадарчаму кааператыву. Фальсіфікатар паспеў рэалізаваць квіткоў на 982,1 злотага[522]. У сярэдзіне года Акруговы суд у Лідзе прыгаварыў да 5 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў Васіля

Гацюка з вёскі Цёмнае Балота (з-пад Шчучына) за фальшаванне 50-ці грашовых манет[523].

Паліцыя змагалася з нелегальнай зброяй у насельніцтва. У красавіку 1936 г. у лесе каля Дакудава быў знойдзены карабін у добрым стане, а гаспадара карабіна так і не адшукалі[524]. У лютым 1937 г. у Лідскім павеце праводзілася адмысловая паліцэйская аперацыя па вышуку зброі. Вынікам стала канфіскацыя 50 карабінаў, якія прыхоўваліся з часоў Першай Сусветнай вайны[525]. Пры канцы 1937 г. паліцыя зноў шукала зброю па вёсках[526].

Дзяржава цвёрда трымала манаполію на алкаголь і тытунь. У красавіку 1936 г. паліцэйскія і супрацоўнікі скарбовага кантролю ў багне каля вёскі Малыя Князюкоўцы знайшлі цэлую фабрыку самагонкі ў добрым стане. Гаспадарамі "фабрыкі" былі браты Ян і Міхал Небяшковы[527]. Нельга было вырошчваць тытунь і на сваіх палетках, на пачатку восені 1938 г. паліцыя праводзіла аблавы, і толькі ў Беліцкай гміне было знойдзена 75 тытунёвых пасадак[528].




***Паліцыя "накрыла" падпольны бровар***

Прэса паведамляла пра ўсе выпадкі забойстваў, прывяду толькі некалькі з іх. У сакавіку 1936 г. у сваёй хаце па адрасе: вул. Шасовая, 24 была забіта 34-х гадовая Зоф'я Юрэвіч. Як потым стала вядома, яе забіў пасынак, які помсціў за свайго бацьку, якога Зоф'я патаемна забіла некалькі месяцаў да гэтага[529]. У сярэдзіне года Акруговы суд у Лідзе прыгаварыў да 5 гадоў турмы і пазбаўлення правоў за забойства на "эратычнам тле" жыхара фабрычнага пасёлка Нёман (Бярозаўка) Яна Рыжко[530]. 9 верасня 1937 г. у шпіталі памёр Пётр Закрэўскі, які атрымаў цяжкія пашкоджанні падчас бойкі ў горадзе[531].

З-за таго, што ўлетку 1936 г. у Вільні праводзіліся актыўныя росшукі злодзеяў, частка з іх выправілася на "гастролі" ў правінцыю. 11 жніўня у Лідзе падчас крадзяжу былі захоплены віленскія злодзеі Віктар Буткевіч, Аляксандр Рынкевіч і Пётр Масюк[532]. Рынкевіч раней ужо адбыў пакаранне ў 8 гадоў турмы[533]. У сваю чаргу, праз год лідская паліцыя *"на працягу двух дзён праводзіла аблаву на крымінальных злачынцаў, якія хаваліся па "малінах". У выніку аблавы затрымана 5 чалавек без сталага месца жыхарства. Шышко, Ян Немец і Ісак Зураж перададзены сацыяльным службам, Ян Трашка і Васіль Ваўковіч якіх расшуквала паліцыя, арыштаваныя"*[534]. 14 лістапада 1937 г. у Лідзе арыштавалі вядомага віленскага злодзея Юзафа Пазняка. У яго кішэнях была знойдзена цэлая крама каштоўных крадзеных рэчаў: 5 пярсцёнкаў, залаты ланцужок, вялікі залаты бранзалет, срэбны дамскі гадзіннік, срэбная цукерніца - разам на 400 злотых[535].

Віленскія злачынцы былі неверагоднымі зухамі, бо пры канцы 1937 г., ноччу яны нават узламалі касу Акруговага суда ў Лідзе і скралі 1200 злотых[536]. Злодзеяў шукала ўся паліцы нашага краю, серыя арыштаў адбылася ў Вільні.

Рэкардсменам сярод лідскіх злодзеяў лічыўся жыхар вёскі Астроўля Казімір Гурын. У кастрычніку 1937 г. ён у 15-ты раз быў асуджаны за крадзёж. Апошнім разам ён скраў розных дробязяў на 61 злоты за што і атрымаў 5 год турмы[537]. А прафесійны злодзей Леан Вінча скраў нават пісталет сістэмы Маўзер у паліцыянта Левандоўскага. Калі яго арыштавала лідская паліцыя, за Вінчам лічылася кража службовага ровара ў паштальёна Кавальскага і рабунак у Шчучыне[538]. А раней неаднаразова асуджаны Баляслаў Чабан атрымаў год турмы за крадзёж сабакі[539].

На пачатку 1937 г. моцна не пашанцавала настаяцелю царквы вёсцы Бабры а. Васілю Мышкоўскаму. 4 сакавіка на Лідскім вакзале з яго кішэні злодзеі выцягнулі 500 злотых[540]. Грошы былі сабраны парафіянамі на закуп царкоўнага звона, і таму святар ехаў у Вільню, каб зрабіць заказ[541]. Злодзея не знайшлі. Пад час выступу тэатра "Рэдута", злодзей-кішэннік, скраў у ўладальніка гуты "Нёман" Браніслава Столе гадзіннік коштам 100 злотых, следства знайшло злодзея - 13-ці гадовага хлопца па прозвішчы Палуян[542].

Часам адбываліся нават узброеныя рабункі крамаў. У лаўку Пэсі Мейнбург 13 верасня 1937 г. удзень уламаліся 5 невядомых. Яна разбілі шкляную ёмкасць з печывам і забралі 100 злотых. З'язджаючы, адзін з нападнікаў стрэліў у паветра і сказаў, што не баіцца паліцыі[543]. А ў мясной краме Станіслава Чакана (Пілсудскага, 8) уначы была скрадзена 200 кг сала[544].

У прэсе стала прысутнічала інфармацыя пра кватэрныя кражы. Напрыклад, лідскі землямер Генрык Пашкоўскі (вул. Сувальская, 74-7) заявіў у паліцыю пра кражу з ягонай кватэры 100 злотых[545]. З кватэры адваката Ўладзіміра Сымановіча (Камерцыйная, 4) было скрадзена 750 злотых[546].

Ровар у той час быў вялікай каштоўнасцю і таму з'яўляўся добрай здабычай для злодзея. Так, улетку 1937 г. Алойзы Вісмант (вул. Гражыны, 73) скраў ровар у Яна Завалы, за што патрапіў у турму[547], тады ж лідская паліцыя шукала злодзея, які скраў ровар фірмы "Рапід" коштам 159 злотых у жыхара вёскі Мікунцы

Жырмунскай гміны[548]. Пэўна рэкордным быў дзень 5 верасня 1937 г., калі ў Лідскім павеце за адзін дзень зарэгістравалі 3 выпадкі крадзяжу ровараў[549].

Друкавалася шмат інфармацыі пра ўсялякія бойкі. Прычым бойкі адбываліся нават на працы, напрыклад, у кафлярні Пупко (вул. Сувальская, 22) паўстала спрэчка паміж Эліяшам Клімдарам і Янам Кучынскім. Спрэчка перайшла ў бойку, і Кучынскі быў моцна збіты[550]. А ўладальніка гатэля "Рыга" (вуліца 3-га Мая) Дварэцкага нейкія Альбін Іжыцкі (уладальнік пахавальнага бюро) і ягоны сябар Вітольд Астроўскі пачалі збіваць проста ў гатэлі. Дварэцкі нейк зачыніўся ў пакоі і так уратаваўся, але нападнікі перад тым, як пайсці з гатэля, узялі з ягонага партфеля 25 долараў і 50 злотых (дарэчы, у той час 1 долар каштаваў прыкладна 5 злотых). Паліцыя затрымала хуліганаў[551].

Ахвяра лідскай жанчыны "першай старажытнай прафесіі" жыхар Мейшголы Францішак Багдановіч зранку не далічыўся 62 злотых і падаў заяву ў паліцыю на Веру Курчук, з якой ён выдатна правёў папярэдні вечар[552]. Пры канцы 1937 г. Акруговы суд разглядаў справу лідскіх суцянёраў Мар'яны Скарынскай і Вінцэнта Адамоніса (жылі разам па адрасе: вул. Вызваленне, 14). У выніку Адамоніс быў прысуджаны да 3 гадоў, а Скарынская да 8 месяцаў турмы[553].

Здараліся і іншыя злачынствы на сексуальнай глебе. Улетку 1938 г. у "Кур'еры Віленскім" з'явілася зацемка "Небяспечны тарзан у ваколіцах Ліды": *"Некалькі дзён таму пад Лідай у прыдарожным хмызняку з'явіўся нейкі мужчына, высокі і з моцнай пабудовай цела. Людзям ён паказваецца ў строі Адама. На дарозе Ліда - Бельскія ён напаў на 16-ці гадовую Казіміру Пуйдак, паваліў пасярод дарогі, засыпаў вочы і рот пяском, ударыў вялікім каменем. Але з'явіліся людзі, і "тарзан", прыкрыўшы твар далонямі, збег у лес. Хутка такі ж выпадак адбыўся з жонкай сяржанта Спевака ў лесе каля вайсковай часткі"* [554]. Газета "Слова" пісала, што Казіміру Пуйдак уратаваў Ян Бянько з вёскі Бельскія, а жонку сяржанта - лідзянін Пётр Цыбульскі[555]. Пра далейшы лёс "лідскага тарзана" прэса не паведамляла.

Часам судзілі і вядомых людзей. Жыхар Ліды Міхал Баркоўскі, "купец і знаны грамадскі дзеяч" атрымаў месяц турмы за тое, што падчас размовы з нейкім Здановічам *"прамаўляў пра ксендза* (Юзафа Арэлоўскага з Палачанаў - *Л.Л.*) *такія рэчы, якія маглі яго прынізіць у вачах грамадства"* [556]. Пад суд траплялі нават вельмі ўплывовыя людзі, напрыклад Лідскі акруговы суд прыгаварыў уладальніцу маёнтка Малы Вольжаў графіню Эльжбэту Красіцкую на 8 месяцаў турмы за парушэнне межаў зямельных надзелаў[557].

Як і належыць, грамадзяне скардзіліся ў газеты на нявыхаваных уладных чыноўнікаў. Нейкі аўтар пісьма пад псеўданімам W.R. напісаў, як чыноўнік управы Лідскай гміны, размаўляючы з сябрам у рабочы час праз акно, не зважаючы на аўтара пісьма, які сядзеў каля ўправы на лавачцы, плюнуў на яго[558]. Хутка ў Лідскім магістраце нават здарылася бойка: чыноўнік тэхнічнага аддзелу Маеўскі пабіў гарадскога лаўніка Карчмара і чыноўніка Квяткоўскага. На другі дзень Маеўскі быў звольнены з працы[559].

Адбываліся злачынствы, чытаючы пра якія, разумееш, што за 70 гадоў нашы людзі не памяняліся. Напрыклад, уладальнік абутковай крамы Віняцкі (вул. Сувальская, 64) толькі ў судзе даведаўся, што выбіваць дываны на балконе сваёй кватэры нельга. Суд прыгаварыў яго да штрафу ў 10 злотых[560]. На пачатку 1938 г. на 4-м кіламетры дарогі Ліда-Крупава невядомымі асобамі былі скрадзены два слупы тэлефоннай лініі, газета пісала што, *"меў месца звыклы крадзёж слупоў на дровы"*, а ўздоўж чыгункі Ліда-Гуды, на працягу 4-х кіламетраў было пашкоджана 30 ізалятараў на слупах сувязі[561]. Як і ў савецкія часы, некаторыя кралі каштоўныя рэчы па месцы працы - Браніслаў Тамашэвіч (вуліца Лідская) заявіў у паліцыю, што яго сын скраў з месца працы электрычны рухавік коштам 250 злотых[562]. 10 сакавіка 1938 г. нейкі Мікалай Іспаятаў быў прысуджаны на 4 гады турмы за крадзёж. Пачуўшы прыгавор, ён зняў з нагі бот і кінуў у суддзю Лукашэвіча, такім чынам аддзячыўшы за вырак. Праз нейкі час, другі суд павялічыў яму тэрмін турэмнага зняволення[563].

Розныя выпадкі здараліся пад час экскартавання вязняў па горадзе. Увосень 1937 г. на вуліцах горада памёр вязень турмы Ян Запаснік, паліцэйскі вёў яго з турмы ў суд[564]. У сакавіку 1938 г. падазраваны ў крадзяжы ровара Вінцэнт Агар уцёк ад канваіра, калі той вёў яго з допыту ў турму. Паліцыянт Казлоўскі стрэліў тры разы ў аматара равароў, але не патрапіў[565]. А праз тыдзень суд засудзіў былога паліцэйскага Алозія Лаўнічка на 3 гады турмы. Лаўнічак, падчас канваявання з Лідскага суда ў турму былой афіцыянткі Ўшаковай (абвінавачвалася ў крадзяжы), зайшоў з арыштаванай у піўную на вуліцы Пілсудскага. У піўной паліцыянт з маладой жанчынай добра выпіў і пэўна не разлічыў сваё сілы, бо Ўшакова ўцякла[566].

Пры канцы 1937 г. з Лідскай турмы ўцёк нейкі Ўладзіслаў Чак, ён адбываў кару ў 8 гадоў за крадзёж[567].

У ліпені 1936 г. на станцыі Ліда ў цягніку Варшава-Вільня была знойдзена кантрабанда: 15 кг сахарыну і 2 кг каменьчыкаў для нямецкіх запальнічак, але кантрабандыста схапіць не ўдалося[568]. У снежні 1937 г. лідская лятучая брыгада скарбовай аховы затрымала 80 кг кантрабанднага тытуню з Літвы[569].

26 ліпеня 1936 г. лідскую паліцыю правяраў галоўны камендант Дзяржаўнай паліцыі, брыгадны генерал Мар'ян Кордан-Заморскі[570].

Пры канцы лета 1937 г. паліцыю Лідскага павета ўзначаліў камісар Вацлаў Гейнрых, былы камісар Здзіслаў Эльяшэвіч быў пераведзены ў Бярозу[571].

Перад пачаткам Другой Сусветная вайны, у траўні 1939 г., жыхара вольнага горада Гданьска, немца па нацыянальнасці Эміля Шляхта арыштавалі ў Лідзе за знявагу Польскай дзяржавы. Праз нейкі час немец быў выдалены з тэрыторыі Польшчы[572].

Наогул, злачыннасць у Заходняй Беларусі ў той час была невысокая. Галоўнымі былі розныя бытавыя злачынства. Гэта паказвае інфармацыя Віленскай газе-

ты "Слова": *"Сярод злачынцаў, якія адбываючць кару ў Лідскай карна-следчай турме 80% вязняў - людзі з вёскі. 60% з іх пакараныя за нелегальныя плантацыі тытуню і выраб самагонкі"* [573]. Пра найважнейшы чыннік у барацьбе з злачынствамі - стан выхавання моладзі можна меркаваць па лічбах, якія лічыліся ў той час вельмі трывожнымі. У выніку праведзенага ў 250 школах Лідскага павета анкетавання ўлады даведаліся, што каля 30% дзяцей школьнага ўзросту ўжывалі алкаголь. Каля 2% ужываюць алкаголь штомесячна[574]. Цікава было б параўнаць вынікі даследаванняў 1937 г. з сучаснымі, калі яны існуюць.

**10. Здарэнні**

1 красавіка 1936 г. у лесе ўрочышча "Гай" каля Сцеркава ляснік прыватнага лесу Ян Запаснік забіў з рэвальвера 40-га гадовага Аўгустына Анацку, жыхара Сухвальні, які краў лес[575].

У ліпені 1936 г. ў Вільні прапала 20-ці гадовая лідзянка Ганна Нікель, пра гэта паведаміў паліцыі яе бацька[576].

Прэса часта паведамляла пра самазабойствы. Вось некалькі прыкладаў: 17 жніўня 1937 г. у 19-53 на станцыі Ліда пад манеўровы паравоз кінулася 24-х гадовая Марыя Маркевіч (вул. Варшаўская, 6). Як стала потым вядома, яна мела "дрэнную" хваробу[577]. А Сабіна Шкоп (вул. Віленская, 11) атруцілася воцатавай эсэнсіяй з-за няшчаснага кахання[578].

У ліпені 1936 г. у Лідзе памерла 103-гадовая старая Марыя Палецкая, за тыдзень да смерці яна яшчэ сама хадзіла па горадзе[579].

А на пачатку 1939 г. у Лідзе памерла 100-гадовая *"...жабрачка, аматарка алкаголю Юлія Невядомская. Невядомская цешылася добрым здароўем і была вядома ў горадзе тым, што яшчэ да нядаўняга часу магла выпіць 0,5 літра гарэлкі. У мінулым годзе хуліган на вуліцы паспрабаваў забраць у яе грошы. Яна так збіла нападніка кіем, што той уцёк. Некалькі дзён таму, ідучы па вуліцы Камерцыйнай у касцёл, старая страціла прытомнасць і хутка памерла. Невядомская не мела блізкіх сваякоў, і яе пахавалі за кошт горада"* [580].

Пры канцы 1936 г. перад судом паўстаў уласнік малой пякарні. Ён быў абскарджаны пакупніком, які знайшоў у купленай булцы прусака. Булка была прад'яўлена суду. Абскарджаны віны не прызнаваў і цвердзіў, што насамрэч ў булцы разынка, але быў прысуджаны да 50 злотых штрафу[581].

30 верасня 1937 г. у 22-40 жыхары нашага горада назіралі рэдкую ў нас з'яву - палярнае ззянне. Ззянне было настолькі моцным, што на чыгунцы вырашылі, што гэта пажар, і таму папераджальна загулі паравозы. У выніку ўвесь горад узняўся ад сну[582].

***Здарэнні на дарогах***

Нават пры малой колькасці транспартных сродкаў на вуліцах горада і дарогах павета адбываліся аварыі.

Улетку 1936 г. расійскай грамада ў Вільні была занепакоена аўтамабільнай аварыяй, у якую трапіў уладальнік дамоў у Вільні і знаны расійскі царкоўны актывіст Аляксандр Бажаранаў. Ён разам з двума сынамі, праваслаўным святаром а. Міхалам і царкоўным старастам выехаў на аўтамабілі з Вільні ў свой маёнтак у Лідскім павеце. Недалёка ад Ліды аўтамабіль ударыўся ў дрэва. Бажаранаў і адзін з яго сыноў атрымалі цяжкія пашкоджанні і лекаваліся ў Лідскай бальніцы[583]. Тым жа летам экскурсійны аўтобус з вучнямі Лідскай яўрэйскай школы, з-за памылкі кіроўцы трапіў у роў каля Навагрудка. Аскепкамі шкла былі паранены 3 вучні[584].

Транспарту было не шмат, і ўдзельнікі дарожнага руху не мелі добрай падрыхтоўкі, да таго ж амаль што не было кантролю паліцыі за дарожным рухам. Верагодна таму паводзіны ўдзельнікаў дарожнага руху вызначаліся дрэнным выкананнем правіл: *"Калі вы ездзілі аўтамабілем на нашых дарогах, дык ведаеце, ... як ігнаруюць усе правілы дарожнага руху вясковыя вазы. Таму з поўным разуменнем мы аднесліся да акцыі Лідскага староства, якое звярнула пільную ўвагу на ўпарадкаванне руху на публічных дарогах. 12 ліпеня на галоўных дарогах каля Ліды была арганізавана аблава на "карсараў дарог", кіраваў аблавай сам стараста Міклашэўскі. Рэферэнт бяспекі ў старостве, маёр Арлоўскі, павятовы інжынер Дамроўскі, кіраўнік камісарыяту паліцыі Акаловіч на працягу некалькіх гадзін кантралявалі рух фурманак і аўтатранспарту на публічных дарогах. У выніку, за парушэнні яны пакаралі 145 чалавек (за парушэнні правіл руху, адсутнасць нумароў, няправільную вупраж каня і г.д.). Таксама былі пакараны 40 шафёраў перапоўненых аўтобусаў"*[585].

18 траўня 1937 г. у "Алеях Абароны" Ліды аўтобус нумар NW 14091, якім кіраваў Гірш Лістоўскі сутыкнуўся з вайсковым возам, які панёс конь. Жаўнер Віктар Дубіцкі выпаў з воза на брук і атрымаў пашкоджанні. Кіроўца спрабаваў з'ехаць з месца здарэння, аднак відавочцы прымусілі яго забраць ахвяру здарэння і адвезці яго ў гарнізонны шпіталь[586].

Пры канцы 1937 г. грузавая аўтамашына нумар 50177 на дарозе Ліда - Гародня сутыкнулася з возам Адольфа Місюкевіча з Радівонішак[587]. Верагодна праз тое, што сяляне не прытрымліваліся нават элементарных правіл кіравання вазамі на дарогах, прэса часта друкавала інфармацыю пра сутыкненні сялянскіх вазоў з аўтамабілямі.

На пачатку вясны 1938 г. праз галалёд, каля нашага горада аўтобус Вільня - Ліда вылецеў з дарогі[588].

У сакавіку 1938 г. увечар фурман Якімовіч вёз на дрожках № 55 павятовага віца-старасту Завадскага. Каля тартака Палячака па вуліцы Фалькоўскага, дрожкі патрапілі ў яму і былі моцна пашкоджаныя[589]. Праз некалькі нумароў газета ўдакладніла, што віца-стараста на гэтых дрожках не ехаў[590].

Патраплялі ў аварыі і матацыклісты. 29 ліпеня 1937 г. на перакрыжаванні вуліц Сувальскай і 3-га Мая ветэрынарны лекар Макавер сутыкнуўся з раварыстам і, падаючы, выехаў на ходнікі, дзе збіў жанчыну сталага ўзросту[591]. У жніўні тэхнік-будаўнік з Павятовага

аддзелу Лідскага староства Яўген Кетурайкіс каля Беліцы збіў 60-ці гадовую Паўліну Несцяровіч, ахвяра атрымала цяжкія пашкоджанні, матацыкліст ездзіў не маючы правоў[592].

Таксама ў жніўні 1937 г., камісар лідскай паліцыі Е. Акаловіч, апрануты ў цывільнае аддзенне, ехаў на матацыкле па шашы Ліда - Гародня. На восьмым кіламетры ад Ліды ён пачаў абганяць аўтобус "Ліда - Сабакінцы". Аўтобус узяў ўправа, прапускаючы на вузкай дарозе матацыкліста, але калі матацыкл параўняўся з аўтобусам, шафёр аўтобуса прыняў улева і выпхнуў матацыкл у роў. У апошні момант камісар паліцыі саскочыў з матацыкла, і, магчыма, гэта ўратавала яму жыццё, ён толькі зламаў нагу. Шафёр аўтобуса, імя якога не паведамляецца, прыйшоў на камісара паліцыі ў бальніцу і прасіў яго не караць, бо ён *"не пазнаў у матацыклісце камісара паліцыі"*. З размовы камісар даведаўся, што шафёр адмыслова сапхнуў яго з дарогі і лічыць сябе вінаватым толькі ў тым, што не пазнаў начальства ... [593].

6 жніўня 1938 г. ветэрынарны лекар Макавер каля Ліды зноў патрапіў у аварыю - упаў разам з матацыклам. Матацыкл не пашкодзіўся, але лекар моцна пакалечыўся[594]. Праз некалькі тыдняў на перакрыжаванні вуліц Фалькоўскага і Новай Юзаф Комінч з Браніславай Акуневіч упалі з матацыкла на брук. У цяжкім стане іх адвезлі ў бальніцу[595].

У ліпені 1939 г. на дарозе Ліда - Вільня каля Малых Салечнікаў матацыкл з каляскай, на якім ехала сям'я Бартовічаў, урэзаўся ў сялянскі воз. Усе члены сям'і (бацька, жонка і дачка) былі цяжка паранены[596].

### *Авіяаварыі*

У Лідзе стаяў 5-ты лётны полк, і таму ў нас адбываліся і авіяздарэнні.

На пачатку 1936 г. з-за браку паліва на поле каля маёнтка Масты прызямліліся два самалёты RWD-8, пілатаваныя Рудкоўскім і Корчакам. Пасля дазапраўкі самалёты паляцелі ў Ліду[597].

У ліпені 1936 г. пад час палёту самалёта над вёскай Зарачаны (каля Беліцы), з другой кабіны выпаў шараговец-назіральнік Станіслаў Рыбакоўскі. Пры падзенні ён на палову метра ўбіўся ў глебу. Лётчык толькі пасля пасадкі на Лідскім аэрадроме даведаўся, што другая кабіна пустая[598].

У верасні таго ж года прэса паведаміла пра катастрофу лідскага самалёта каля Маладзечна. Самалёт, які пілатаваўся пілотам паручнікам Рудовічам і назіральнікам Вісмантам, упаў з вялікай вышыні, аднак лётчыкі ўцалелі, Вісмант патрапіў ў маладзечанскі шпіталь, Рудовіч адразу паехаў у Ліду[599]. А ў канцы верасня з-за праблем з рухавіком, самалёт, пілатаваны капітанам Гацам і падпаручнікам Ржэшчынскім, прызямліўся на поле каля Аранаў. Праз нейкі час самалёт выляцеў у Ліду[600].

Газета "Слова" у верасні паведаміла што, *"аэраплан з Ліды пілатаваны паручнікам Тадэвушам Жалігоўскім разбіўся на полі каля Валеўкі. Паручнік Жалігоўскі ў шпіталі"* [601]. Але ўжо на наступны дзень тая ж газета напісала, што ніякай катастрофы з удзелам паручніка Жалігоўскага не было, і ўся гэтая гісторыя - памылка рэдакцыі[602].

На раніцы 14 траўня 1937 г. на Лідскім аэрадроме адбылася авіяцыйная катастрофа, у якой пілот Іванюк загінуў[603].

### *Пажары*

Улетку 1936 г. у слясарным цэху фірмы "Тартак", якая належала Ісаку Гурвічу, праз замыканне электрычнай праводкі выбухнуў пажар, агонь перакінуўся на іншыя пабудовы. Страты склалі 12 200 злотых. Пажар быў патушаны гарадской пажарнай аховай[604].

7 кастрычніка 1937 г. у 12 гадзін ночы адбыўся моцны пажар у маёнтку Перапечыца каля казармаў 5-га лётнага палка. Згарэла стадола маёнтка, шкоду налічылі ў 6500 злотых[605].

8 чэрвеня 1938 г. у 9-30 выбухнуў пажар у цэнтры горада па вуліцы Мацкевіча 41. Пажарная ахова імгненна прыехала на месца і пачала тушыць. Агонь пагражаў лазні, тром жылым дамам, "Польскаму Рэсурсу", гатэлю "Дагмара" і бюро меліярацыі. Падчас тушэння шэраг пажарных атрымаў апёкі. Агонь знішчыў тры склады, якія належалі Будзіну, "Польскаму Рэсурсу" і Арэхву і пашкодзіў дахі некалькіх жылых дамоў. Пажар пачаўся ад кухні клуба-рэстарана "Польскі Рэсурс" [606].

На пачатку верасня 1938 г., пад час буры маланка ўдарыла ў дом Галіны Роўбы (Райская, 83), ад чаго дом загарэўся[607]. Праз некалькі месяцаў па гэтай жа вуліцы (Райская, 57) у Караля Багдзюна згарэла абора: *"Страты 2000 злотых. Выяўлена, што 14-ці гадовая Зоф'я Масей хадзіла ў абору са свечкай"* [608].

25 траўня 1939 г. з-за невядомай прычыны цалкам згарэў тартак, якім валодала Соня Пас і паравы млын каля тартака[609].

## 11. Эканоміка горада

1935-1939 гг. прынеслі выразнае паляпшэнне гаспадарчай сітуацыі. Пачаўся рост прамысловасці. Са збяднелага правінцыяльнага гарадка Ліда пачала ператварацца ў значны прамысловы асяродак. Адначасова з развіццём прамысловасці расла колькасць насельніцтва горада. Рэдактар перадваеннай "Ziemi Lidzkiej" Уладзіслаў Абрамовіч у сваіх краязнаўчых занатоўках, выдадзеных у 1938 г. пісаў: *"На сённяшні момант горад мае 15 вялікіх прамысловых устаноў, у якіх працуюць каля 3000 працаўнікоў"* [610].

Найстарэйшымі вытворчасцямі ў Лідзе былі бровары. Адзін з іх належаў да спадкаемцаў Якуба Папірмайстра, які залажыў гэты бровар у 1874 г. Бровар знаходзіўся на вуліцы Сувальскай, 72 (сёння - Савецкая). Вытворчасць піва, вытворчасць газаванай вады і тартак займалі плошчу 2,5 га. Была паравая машына ў 48 к.с. У 1936 г. на гэтым бровары працавала каля 40 рабочых і 10 чалавек інжынерна-тэхнічнага персаналу. Прадпрыемства ў міжваеннае дваццацігод-

дзе развівалася не так хутка, як перад 1-й Сусветнай вайной. У першай палове 1935 г. бровар пачаў вытворчасць газаваных напояў. Рабіліся спробы вырабляць піва з ячменю мясцовага паходжання, замест прывазнога з цэнтральнай Польшчы (хмель завозіўся з Любельшчыны). Пастаўшчыком бутэлек была гута шкла "Нёман" у Бярозаўцы.

Другі бровар пад назвай "Бровар, саладоўня і вытворчасць газаванай вады" ("Browar, Slodownia i Wytwornia Wod Gazowanych") належаў братам Марку і Сымону Пупко. Гэты бровар заснаваў Носаль Пупко ў 1876 г. Бровар знаходзіўся пры вуліцы Сувальскай, 88. Статутны капітал складаў 10 000 злотых. Бровар меў некалькі электрычных рухавікоў і электрычны генератар, а таксама паравы млын і тартак. У 1936 г. ў бровары працавала 28 рабочых і 8 чалавек інжынерна-тэхнічнага персаналу. У 1936 г. было перапрацавана 157,3 т ячменю, 950 кг хмелю і 87,7 т соладу і было выраблена 4797 гекталітраў піва. Фірма "Браты Пупко" мела свае прадстаўніцтвы ў гарадах Наваградскага ваяводства (Баранавічы, Наваградак, Гарадзея), Віленскага (Вільня, Маладзечна), Палескага (Бяроза Картузкая, Лунінец, Пінск) і Беластоцкага (Ваўкавыск). У 1938 г. бровар выпрабляў чатыры гатункі піва ў аб'ёме 6135 гекталітраў: светлае (5780), "Дубельтавае" (191), "Хмельнае" (29), "Цёмнае" (135), а таксама 1104 гекталітраў розных напояў: ліманад (801), квас у бутэльках (116) і газаваную ваду (187). Акрамя гэтага перапрацоўваў 2093 м$^3$ лесу.

У 1937 г. у Польшчы было 165 бровараў і лідскія бровары былі сярод іх невялікімі. Гадавая вытворчасць піва на абодвух Лідскіх броварах у 1932/33, 1933/34, 1934/35 гадах была адносна невялікая: каля 10 728 гэкталітраў піва. У адносінах да агульнай вытворчасці, гэта складала 0,9%.

Пасля спынення вытворчасці піва броварамі братоў Любецкіх у Нясвіжы лідскія бровары засталіся адзінымі ў 30-х гадах у Наваградскім ваяводстве. Толькі ў 1938 г. распачаў выпуск піва наноў збудаваны бровар А. Брахоцкага ў Малым Мажэйкаве (таксама ў Лідскім павеце). Дзякуючы адпаведнай вадзе, лідскае піва па якасці не было горшым за піва з віленскіх бровараў (віленскае піва "Шапэн" разлівалася ў Лідзе па вуліцы 3-га Мая) і гродзенскіх (бровары Марголіса, Слуцкага) ці беластоцкіх ("Дойліды")[611].

Перадваенная "Ziemia Lidzka пісала пра лідскае піва *"За якасць выпрабленага піва бровары атрымліваюць медалі і дыпломы прызнаныя на розных выставах краю і за мяжой"* [612]. Станіслаў Адляніцкі-Пачобут у сваім апісанні Наваградскага ваяводства пісаў: "Мясцовае піва з лідскіх бровараў у параўнанню з півам бровараў цэнтральных і іншых ваяводстваў з пункту гледжання нізкай цаны, знаходзіць вялікі попыт сярод гараджан і гарадскога пралетарыяту не толькі ў гэтым ваяводстве, але і ў суседніх ваяводствах, перад усім - у Віленскім. Аднак, разам з тым, для гурманаў завозіцца шмат піва лепшай якасці і значна даражэйшага" [613].

Найвялікшым прамысловым прадпрыемствам у Лідзе было "Акцыянернае таварыства гумовай вытворчасці "Ардаль" па вуліцы Фабрычная, 8. Прадпрыемства, як вытворца гумовага абутку, мела значэнне для ўсёй Польшчы. Слова "Ардаль" на яўрэйскай мове азначае "бот, галёш". "Ардаль" выпрабляў галёшы, снягоўцы (зімовы абутак), абутак гумовы летні. Вытворчасць была распачата ў 1929 г. Акцыянерны капітал у гэтым годзе складаў 750 000 злотых, да 1939 г. капітал павялічыўся да 1 830 000 злотых.



***Фабрыка дроту***

Вясной 1938 г. на фабрыцы "Ардаль" працавала ўжо 800 чалавек. Старшынём акцыянернага таварыства ад пачатку працы фабрыкі заставаўся Саламон Мелуп. Значэнне "Ардаля" значна вырасла пасля 1936 г., калі яму падпарадкаваліся збанкрутаваныя фабрыкі "Pe Pe Ge" (Polski Przemysl Gumowy) ў Грудзёндзы (Grudziedz). У 1930-я гг. Фабрыкі "Pe Pe Ge" былі самымі вялікімі ў Польшчы вытворцамі гумовага абутку і гумовых вырабаў. Пасля набыцця гэтых фабрык, Мелуп мог прэтэндаваць на лідарства сярод польскіх вытворцаў гумовага абутку. У 1937/38 гг. каля 25% польскай вытворчасці гумовага абутку прыходзілася на "Ардаль" і "Pe Pe Ge", астатнія 75% прыпадалі на 5 канкурэнтаў: "Джэнтэльмэн" (Лодзь), "Швайкерт" (Лодзь), "Рыгавар" (Варшава), "Вудэта" (Кросьна), "Бата" (Хэлмэк). Частка абутку выпрабленага "Ардалем" экспартавалася[614].

Значна пашырылася наменклатара прадукцыі фірмы Мелупа, якая складалася з фабрык у Лідзе і ў Грудзёндзы. Калі ў 1933-34 гг. фірма выпускала 48 артыкулаў прадукцыі, дык у 1937 г. - ужо 405, а пры канцы 1938 г. - 786 артыкулаў прадукцыі. Рост адбыўся у асноўным у частцы тэхнічных вырабаў і абутку. Адбыўся хуткі колькасны рост выпуску, напрыклад, у 1930 г. фірма выпрабіла 195 000 пар абутку, а ў 1937 г. - ужо 2200 000 пар. Адбыўся і рост колькасці працоўных, ад 272 чалавек у 1930 г. да 2 500 у 1938 г. (з іх каля 800 ў Лідзе). Сумы выплачаных падаткаў дзяржаве выраслі з 46 800 зл. у 1930 г. да 197 000 зл. у 1938 г. За тыя ж гады фонд заробкаў вырас з 283 300 зл. да 1671100 зл., агульны фінансавы абарот фірмы ў 1937-

38 гг. склаў 8 300 000 зл.[615]

Гэтыя лічбы сведчаць пра неверагодна высокую дынаміку развіцця фірмы, і, як бачым, штрайк 1936 г. не падарваў магчымасці для росквіту бізнэсу Мелупа, але прымусіў уладальнікаў бізнэсу сур'ёзна паставіцца да ўмоў працы і заробкаў працоўных. У газеце "Codzienna Gazeta Handlowa" ў лістападаўскім артыкуле 1938 г. "Добрае развіццё фабрык "Przemysl Gumowy Ardal-PePeGe" можна прачытаць: *"... стала паляпшаецца ахова здароўя і ўмовы бяспекі. Маецца спецыяльныя станцыя для дапамогі мацяркам і дзецям, дзіцячы сад, дзе працуюць спецыялісты, хуткі медычны кантроль за жанчынамі - гэта сведчыць аб сацыяльным, адукацыйным і гігіенічным доглядзе фабрыкі за сваімі працаўнікамі"* [616].

1934 г. вырабляць гумовыя вырабы пачала фабрыка "Ўнігум" па вуліцы Замкавай. Будынак гэтай фабрыкі меў 3 650 м³. "Унігум" прадукаваў розныя гумовыя вырабы: гумовыя сандалі, падэшвы, абцасы, штучную гумовую скуру, гуму для ровараў, вазоў і брычак, асартымент тэхнічнай гумы.

Хімічную вытворчасць у Лідзе з 1929 г. прэзентавала фірма "Карона" - Ш. Савіцкі & K°. Фірма месцілася па вуліцы Крупаўская, 22 (сёння: 8-га Сакавіка). Пазней на шыльдзе фірмы з'явілася прозвішча У. Сакалоўскі & K°. Кампаньёнамі былі: М. Пупко, З. Камянецкі і С. Каток (дырэктар). "Карона" выраблялa фарбы (водныя, мастацкія і алейныя), чарніла, туш, лакі, пластылін, клей, забяспечвала гэтымі вырабамі рынак і канкуравала з вырабамі знакамітых польскіх фірмаў. У 1936 г. тут працавала 50 чалавек, з іх 30 рабочых[617].

У 1937 г. у Польшчы было 104 фабрыкі, якія выраблялі сельскагаспадарчыя машыны і прылады.

Выраб машын і сельскагаспадарчых прылад у Лідзе меў шматгадовую традыцыю. Фабрыка сельскагаспадарчых машын і жалезнага ліцця братоў Шапіраў была заснавана ў 1900 г. і з'яўлялася найстарэйшым і самым вялікім прадпрыемствам на паўночна-ўсходніх землях Польшчы таго часу. У міжваенныя часы фабрыка месцілася на вуліцы Сувальскай, 170. Тут выраблялі манежы, штыфтавыя і цэпавыя малатарні, конныя і ручныя сячкарні, рознае ліццё, фрэзы, веялкі, дзверы да печаў, краты і т.д.

У 1926 г. пачала працаваць другая фабрыка сельскагаспадарчых машын і прылад пад назвай "Бэнланд". Яе заснавальнікамі былі: З. Штэйнберг, А. Арончык і Лянд. Фабрыка знаходзілася пры вуліцы Сувальскай, 142. Тут прадукаваліся вырабы, падобныя да вырабаў фірмы братоў Шапіра: манежы, штыфтавыя і цэпавыя сепаратары для малака, конныя і ручныя сячкарні, веялкі, плугі і льномялкі.

Кошт прадукцыі абедзвюх фабрык быў каля 360000 злотых (1934 г.).

У 1937 г. ў Польшчы працавала 58 фабрык цвікоў і дроту[618].

У Лідзе хутка развівалася заснаваная ў 1926 г. фабрыка "Дротіндустрыя", якая месцілася каля "Ардалю" (Фабрычная, 6). "Дротіндустрыя" належала таварыству, у якое уваходзілі: Гірш Чарток, Гдалія Чарток, Сымон Савіцкі і Мардух Езіміцкі[619]. Статутны капітал складаў 280 000 зл. (1936 г.). Фабрыка мела свой электрычны рухавік у 150 к.с. і давала працу 90 рабочым, 4 чалавекам інжынерна-тэхнічнага персаналу і 3 кіраўнікам. Тут прадукавалі светлы жалезны дрот (каля 36 т), жалезныя цвікі (каля 280 т), жалезныя накутнікі, арматуру і скобы для будоўлі, падкоўкі для абутку і г.д. "Дротіндустрыя" згарэла восенню 1936 г. Пажар прынёс шкоды на 200 000 зл., шмат працаўнікоў страціла працу. Зноў адбудаваная "Дротіндустрыя" мела будынак 6 350 м³ [620]. Пра канцы жніўня 1937 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Фабрыка дроту і цвікоў "Дротіндустрыя" ў Лідзе адбудавана пасля пажару. На тэрыторыі спаленай фабрыкі пабудаваны мураваны гмах, які шматкроць большы за папярэдні. Зараз тут будзе працаваць значна больш рабочых, чым да пажару. Наогул, развіццё прамысловасці ў Лідзе набірае тэмп. Некалькі месяцаў таму паўсталі фабрыка цукраў і фабрыка мыла, зараз у горадзе 15 вялікіх прадпрыемстваў"* [621].

Пра фабрыку спружын "Звуй" інфармацыі не шмат.

У 1928 г. былі адчынены дзве вытворчасці кафлі, а ў 1936 г. была пабудавана трэцяя. Кафлярню "Танур" (танур - печ, *яўр.*) заснавалі Ёсель Руды і Бэрка Рыбацкі. Яна знаходзілася на вуліцы Вызвалення, 66 (сёння: вуліца Калініна), займала плошчу ў 0,4 га, мела 2 печы для абпальвання кафлі. Фабрыка забяспечвала працай 10 спецыялістаў і 20 рабочых. Дзённы выпуск кафлі - 400 штук. На мясцовы рынак выраблялася кафля, так званая "квадратэльная" (21x13 см). Для пакупнікоў з Памор'я і Велікапольшчы выраблялася плоская, вялікая кафля, так званая "берлінская". Абарот фірмы "Танур" у 1936 г. складаў каля 48 000 злотых[622].

Кафлярня "Рааф" (рааф - кафля, *яўр.*) знаходзілася на вуліцы Легіёнавай. Заснавальнікамі яе былі Хаім Куле, Ісак Цапялевіч і Абэ Куле[623]. Яны кіравалі прадпрыемствам да 1931 г., але камерцыйнага поспеху не мелі. Нядзейсную кафлярню купілі ў 1932 г. новыя гаспадары - Ашэр Чапялінскі і Рубіновіч. Яны перадолелі часовыя перашкоды і кафлярня "Рааф", як і "Танур", выйшла на паморскі і велікапольскі рынак.

Гаспадаром трэцяй кафлярні, якая мела назву "Нэшэр", быў Сымон Пупко з сынамі (ён папярэдне быў сябрам таварыства кафлярні "Танур"). "Нэшэр" адрознівалася тым, што кафля тут выраблялася пры дапамозе механічных прылад, а не рукамі, як на кафлярнях "Танур" і "Рааф". "Нэшэр" месцілася на вуліцы Сувальскай, 20.

У дваццатых гадах у горадзе меліся дзве вытворчасці цэглы (цагельні), дзе ў 1927 г. працавала 29 чалавек і адна вытворчасць цэменту. Але гэтыя фірмы пазней абанкруціліся[624]. У 1930-х гадах каля Ліды працавалі 3 цагельні.

Адна з дзвюх фабрык па перапрацоўцы лямцу, называлася "Перапрацоўка воўны братоў Г. Я. Жыжэмскіх і Я. Левіна" знаходзілася на вуліцы Вызвалення[625]. Пра другую вядома, што яе гаспадаром быў Рабіновіч.

Лідскія алейні (вытворчасць алею), сярод 22-х дзейных у 1934 г. у Наваградскім ваяводстве, былі

параўнальна вялікімі. Праўдападобна, багатае алеем насенне прывозілі з-за мяжы.

Таварыства "Шэмен" належала Я. Шапетыньскаму і сябрам. У дваццатых гадах яно месцілася на вуліцы Сувальскай, пазней на вуліцы Домб-Бярнацкага (сёння - Шубіна).

Другая алейня "Олід" была на вуліцы Пяскі, 6 (сучасная Камуністычная). Яна працавала з 1934 г. Выраблялa льняны алей, аліфу і жмых.

Фабрыка вырабу шкіпідару "Дэстылят" знаходзілася на вуліцы Фабрычнай, каля "Ардалю".

Перапрацоўкай дрэва былі занятыя 6 тартакоў[626].

Найстарэйшы лідскі паравы тартак Бэрка Мельніка быў заснаваны ў 1892 г. на вуліцы Пастаўскай, 39 (сёння: Фрунзе).

Тартак Кроніка на вуліцы Тартакі (сёння: Труханава) быў пабудаваны ў 1920 г.[627] Яго афіцыйная назва ў 1936 г. гучала так: "Прамысловае прадпрыемства "Тарлас" Э. Гурвіч & К°". Супольнікамі па бізнесу Эліяша Гурвіча (дырэктара) былі Лейба Кронік, Ісаак Гурвіч і Ной Гімельштэйн. Тартак меў лакамабіль у 215 к.с., дзве пілáрамы і дзве стругаркі. Фірма займалася і эксплуатацыяй лясоў.

На вуліцы Фалькоўскага, 33 (сёння - Перамогі) працаваў паравы тартак Я. Палячэка і таварышаў, ён зарэгістраваны ў 1929 г.

Фірма "С. Элкін & К°" пачала існаванне ў 1935 г. на вуліцы Шаптыцкага, 72 (сёння - Астроўскага). Належала М. Ківаловічу і М. Рафаловічу. Гэты тартак даваў працу 30 працаўнікам і 4-м кіраўнікам. Кошт прадукцыі складаў 123 400 злотых (1936 г.).

Апрача вышэйназваных працавалі тартакі пры абодвух браварах. Фабрыка "Ардаль" таксама мела ўласны тартак[628].

У горадзе было 8 млыноў.

Троцкі і Палячэк былі гаспадарамі млына "Аўтамат" на вуліцы Пастаўскай. У 1927 г. на млыне працавала 49 чалавек. На гэтай жа вуліцы знаходзіўся паравы млын Б. Мельніка.

Таварыства "Хіцім" мела гандлёвы млын на вуліцы Сувальскай, 140.

На вуліцы Сувальскай знаходзіўся паравы млын Зяльдовіча і млын братоў Пупко і А. Зарэцкага.

На Пясках ад 1920-х гадоў працаваў млын з электрычным рухавіком Карпейчыка, Паўлоўскага і Робчыка. Другім такім самым млыном валодалі Сапожнікаў, Шавахович і Ляйбовіч. Яшчэ адзін млын на Пясках быў уласнасцю Б. Шаваховіча.

Тры мясцовыя фірмы выраблялі цукеркі. Гэта былі, заснаваная ў 1908 г. фабрыка цукерак і шакаладу "Рэкорд" па вуліцы Сувальскай, 74, вытворчасць Казіміра Інгілевіча (заснавана ў 1934 г., Рынак, 22), і яшчэ адна фабрыка.

Сярод 8-мі Лідскіх пякарань, найбольш знаным быў спажывецкі кааператыў "Адзінства" ("Jednosc")[629]. Да 1938 г. кааператыў пашырыў сваю дзейнасць, ён меў 9 крамаў па ўсім горадзе і сучасную механізаваную пякарню. Гэтая ўстанова дасягнула мільённага абароту і па якасці вырабаў магла канкураваць з найлепшымі фірмамі ў рэгіёне[630].

Таксама карысталіся папулярнасцю пякарня "Прагрэс", пякарня Я. Цукерніка і Шмуйловіча і інш[631]. Адчыненая ў 1931 г. пякарня Д. Гіршэвіча, па загаду мясцовых уладаў была зачынена, як немеханізаваная.

Па вуліцы Садовай працавала фабрыка па вырабе мыла (Ілютовіч)[632].

Паліграфічныя паслугі аказвалі 4 друкарні. У міжваенны час на вуліцы Сувальскай працавалі друкарні Я. Каплінскага і Сымона Зяльдовіча[633]. На вуліцы Фалькоўскага (на вуглу з Школьнай, сёння: Перамогі - Кірава) знаходзілася друкарня Лявона Трабінскага. На вуліцы 3-га Мая працавала друкарня "Магата".

У горадзе дзейнічала наступныя банкаўскія ўстановы: Камунальная ашчадная каса Лідскага павета, аддзяленне Віленскага прыватнага камерцыйнага банка, Народны кааператыўны банк, Кааператыўны купецкі банк у Лідзе, Яўрэйскі народны банк, прадстаўніцтва банка "Сполэм". У Лідзе з вялікім поспехам працуюць яўрэйскі безпрацэнтны банк невялікіх крэдытаў "Gmilus Chesed" і Хрысціянская безпрацэнтная каса пры Таварыстве польскіх купцоў у Лідзе[634].

Віленская газета "Слова" пісала ў 1936 г.: *"Як для нашага краю, Ліда ёсць высокаіндустрыяльным горадам. Ёсць тут некалькі млыноў, чатыры тартакі, алейня, лямцавая фабрыка, фабрыка цвікоў, дзве ліцейні і шмат невялікіх прамысловых прадпрыемстваў. Самая вялікая - фабрыка абутку "Ардаль". У Лідзе каля 3 000 прамысловых працоўных, толькі на фабрыцы "Ардаль" працуе 800 чалавек"* [635].

Найбольш паспяховым для эканомікі быў 1938 г. 3 лістапада 1938 г. Гарадская Ўправа Ліды (Zarzad Miejski) зрабіў "Даклад аб стане рахункаў бюджэту на 1937-1938 год". Даклад утрымлівае шмат інфармацыі для разумення, якім быў горад у апошні мірны год (гл. дадаткі).

З-за напружанай агульнаеўрапейскай сітуацыі ўвесну 1939 г. лідская прамысловасць мела вялікія праблемы: *"Вялікая фабрыка "Дротіндустрыя" ... панізіла выпуск прадукцыі да мінімуму. Хімічная фабрыка "Карона" на мяжы ліквідацыі. Фабрыка гумовых вырабаў "Унігум", якая два гады таму пабудавала новы гмах па вуліцы Замкавай перажывае крызіс і звольніла 60 рабочых. У апошнія дні, праз брак збыту прадукцыі, спынілася ліцейня "Поланд""* [636].

### *Беспрацоўе*

Пры канцы 1930-х гг. актуальнай заставалася праблема беспрацоўя ў горадзе і павеце.

На пачатку 1938 г. на Лідчыне было блізка 2000 беспрацоўных, узімку іх колькасць павялічылася на 900 чалавек. Кожную зіму адбыўся сезонны рост беспрацоўя, бо ў горадзе шмат фабрык станавіліся для рамонту ці з-за памяншэння збыту сваіх вырабаў, а на вёсцы зіма ва ўсе часы з'яўлялася "мёртвым сезонам" для сельскагаспадарчых рабочых. У тую зіму "Ардаль" звольніў 600 чалавек, "Дротіндустрыя" 130 чалавек, фабрыка "Карона" 30 рабочых. З-за часовай адсутнасці сыравіны ліцейня братоў Шапіраў звольніла 25 работ-

нікаў, праз скарачэнне збыту ліцейня "Бэнланд" звольніла 5 рабочых. "Унігум" праз перабудову звольніў 35 рабочых, фабрыка лямцу Жыжэмскіх звольніла 50 рабочых. Апроч гэтых звольненых рабочых, на 7 студзеня ў павеце было зарэгістравана 1 130 сезонных рабочых (у горадзе 800 сезонных). Такім чынам набіралася 1700 улічаных, цалкам ці сезонна беспрацоўных. Таму ўлады лічылі, што разам з няўлічанымі, на Лідчыне ў тую зіму было не меней за 2000 беспрацоўных. З гэтых 2 000, у снежні 1937 г. атрымлівалі дапамогу ад Фонда зімовай дапамогі болей за 1 000 чалавек. У студзені гэтая лічба значна вырасла[637].

Ужо пры канцы лютага аднавілі працу "Дротідустрыя" [638] і фабрыка "Ўнігум", якую мадэрнізавалі ўзімку і яна адразу наняла 200 рабочых[639]. Хутка і ўся прамысловасць горада запрацавала ў штатных умовах. Але 17 снежня 1938 г. фабрыка дроту і цвікоў праз заканчэнне сезону спыніла працу і звольніла ўсіх рабочых[640].

Пра рашэнне гэтай праблемы праз прыцягнення беспрацоўных да добра аплочваных праз Фонд Працы работ на будаўніцтве і па добраўпарадкаванні горада, а таксама выдзяленне сем'ям беспрацоўных катэджаў з зямельнымі надзеламі ў Борах і Сойкішках каля Ліды, пісалася вышэй.

Адной з формаў дапамогі беспрацоўным была надзяленне іх невялікімі зямельнымі надзеламі каля горада - прыкладна такімі, якія зараз мы называем "дачамі". "Таварыства агародаў" (Towarzystwo ogrodkow dzialkowych) у Лідзе пры дапамозе гарадскога аддзела Фонду Працы заснавала тры калоніі агародаў для 148 найбяднейшых сямей горада. У 1937 г. стала зразумелым *"эфектыўнасць гэтай формы дапамогі для самастойнага вырошчвання харчовых запасаў на зіму ... . Кожная дзялка мае памер 600 м$^2$* (6 сотак - *Л.Л.*) *і на гэтым надзеле сям'я, пры дапамозе адмыслоўцаў, вырошчвае сабе ўсю неабходную зяляніну. Узровень выкарыстання дзялак і іх эфектыўнасць вельмі высокія"* [641].

У 1938 г. пры фінансавай падтрымцы Фонду Працы каля Ліды арганізавалася яшчэ адна калонія дзялак, агульная іх колькасць узрасла да 220. Дзялкі займалі ўжо 12 га рольнай зямлі. Уладальнік дзялкі плаціў 5 злотых на два гады, 50 гр. штомесячных складак у Таварыства агародаў і 20 гр. штомесячна на ўтрыманне вартаўніка. У 1938 г. Таварыства агародаў пачало будаваць на дзялках два сталыя дамкі для вартаўнікоў коштам 3 200 злотых, прычым Фонд Працы адразу даў на гэта 1 600 злотых[642]. На пачатку красавіка 1938 г. управа Таварыства агародаў паведаміла, што ёсць вольныя дзялкі ў *"калоніі №1 па вуліцы Віленскай, калоніі № 2 па вуліцы Школьнай, калоніі № 3 па вуліцы Сміглага, калоніі № 4 па вуліцы Райскай"* [643]. У дрэнных гаспадароў, Таварыства адбірала дзялкі і перадавала чакаўшым у чарзе, каб атрымаць свой агарод. Таму дзялкі Таварыства заўжды былі добра дагледжаныя. Прафесійны нагляд і агранамічную дапамогу аказваў адмысловец у галіне сельскай гаспадарцы Юры Кацяшэнка[644] (верагодна той самы лідскі скульптар і мастак, гл. вышэй).

Другой формай дапамогі беспрацоўным, была арганізацыя іх выезду на сезонныя працы за мяжу. У 1938 г. запіс ахвотных выехаць на сезонныя сельскагаспадарчыя працы ў Латвію пачаўся ў Лідскім старостве на пачатку красавіка[645]. Ужо 12 красавіка выехала на працу першая група ў 160 чалавек, а да 27 красавіка яшчэ 240 (з Наваградскага ваяводства ў 1938 г. выехала на сельскагаспадарчыя працы ў Латвію 3 250 работнікаў: з Лідскага павета - 400, Нясвіжскага - 400, Слонімскага - 300, Стаўпецкага - 600, Наваградскага - 600, Шчучынскага - 300, Валожынскага - 500, Баранавіцкага - 150)[646]. Вярталіся нашы людзі з Латвіі толькі на пачатку лістапада[647].

### *Цэны і заробкі*

У красавіку 1938 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Заробкі рабочых у Лідзе наогул вельмі нізкія. Таму ўтрымліваць сям'ю ў якой працуе толькі адзін чалавек, які часта зарабляе меней меней за 2 злотыя ў дзень, надта цяжка"* [648]. Сярэдні заробак у Заходняй Беларусі заставаўся ніжэйшым за заробкі ў заходняй частцы Польшчы. Гэты перакос у значнай ступені быў выкліканы меншай прадукцыйнасцю працы нашага рабочага і меншым узроўнем адукацыі - спадчынай царскай Расіі, але адначасовы гэта давала канкурэнтныя перавагі нашай прамысловасці. Трэба заўважыць, што гэты перакос павольна нівеляваўся.

13 лютага 1939 г. лідскі пасол Брыльскі выступіў у Сейме з прамовай пра лідскую прамысловасць[649]. Пасол адзначыў, што зараз на ўсходзе Польшчы паўстаюць шматлікія прамысловыя прадпрыемствы, гаспадары якіх часта не надта зважаюць на грамадскія інтарэсы. У якасці прыкладу ён прывёў лідскі "Ардаль", які даваў працу вялікай колькасці рабочых і прывёў цікавую табліцу размеркавання заробкаў на гэтай фабрыцы, выступ пасла разам з табліцай быў надрукаваны ў прэсе.

**Зарабляюць брута:**

| | |
|---|---|
| 300 работніц | 1,3 зл. да 1,8 зл. |
| 137 работніц | 1,8 зл. да 2,0 зл. |
| 75 работніц | 2,0 зл. да 2,4 зл. |
| 14 работніц | 2,0 зл. да 2,8 зл. |
| Разам 526 работніц. | |

**Зарабляюць брута:**

| | |
|---|---|
| 32 работнікі | 2,2 зл. да 2,4 зл. |
| 44 работнікі | 2,4 зл. да 2,8 зл. |
| 35 работнікаў | 2,8 зл. да 3,6 зл. |
| 40 работнікаў | 3,6 зл. да 4,0 зл. |
| 4 работнікі | 4,8 зл. |
| Разам 155 работнікаў. | |

Пасол казаў: *"Такім чынам, 437 жанчын зарабляюць ад 1,3 да 2 зл. у дзень, 111 мужчын - ад 2,2 да 3,6 зл. пры тым што мінімальныя кошты ўтрымання сям'і ў 4 чалавекі ў Лідзе патрабуе каля 90 злотых у месяц. Трэба яшчэ ўлічваць, што фабрыка працуе ад 210 да 220 дзён у год і каля 12 тыдняў у год*

*знаходзіцца ў рамонце. На некаторых фабрыках работнікі адпачываюць на яўрэйскія святы"* [650].

При канцы 1930-х гг. у горадзе ўсталяваліся прыкладна такія цэны і заробкі: буханка хлеба - каля 30 грошаў, 1 кг цукру - каля 1 злотага, 1 кг алею - 80 грошаў, 10 яйкаў - 10 грошаў, пачак запалак - 10 грошаў, 1 кг бульбы - каля 10 грошаў, мяса, ялавічына ці свініна - каля 1,5 злотых, малако - каля 20 грошаў за 1 л., вугаль каля 48 злотых за 1 т., мужчынская кашуля - каля 10 злотых, мужчынскі капялюш - каля 20 злотых, мужчынскія чаравікі - каля 15 злотых, цэгла - каля 40 злотых за 1000 шт., цэмент - каля 30 злотых за 1 т., друкарская машынка - 1200 злотых, гектар зямлі каштаваў 500 злотых, карова - 100 злотых, пуд збожжа - 2 злотыя. Сярэдні дзённы заробак быў каля 2-3-х злотых, мінімальны - 1 злоты, высокі заробак - да 10 злотых. Кваліфікаваны рабочы на "Ардалі" атрымліваў 5 злотых, майстар - 10 злотых. На жніве ў дзень плацілі 2 злотыя, на копцы бульбы - 1 злоты. Зарплата настаўнікаў дасягала 200 злотых у месяц[651].

Цэны на асноўныя харчовыя тавары жорстка кантраляваліся ўладамі, у чэрвені 1937 г. у Лідзе былі ўстаноўлены наступныя цэны на хлеб: *"Новыя цэны на хлеб. Адміністратыўныя ўлады ўсталявалі наступныя цэны хлеба: "Хлеб з непрасеянай мукі, 95-ці адсоткавы - 25 гр. за 1 кг, 82-х адсоткавы - 28 гр. за 1 кг, прасеяны 70-ці адсоткавы 32 гр. за кг, усе гатункі падаражалі на 2 гр."* [652]. Падобная інфармацыя стала друкуецца ў прэсе.

Праз месяц гарадскія ўлады на працягу некалькіх дзён праводзілі праверку санітарнай чысціні крамаў горада і кантралявалі дакладнасць цэнаў у іх[653], сярод іншых гандляроў пакараных за гандаль па завышаных цэнах, быў аштрафаваны на 30 злотых Ізідор Сікора, уладальнік мясной лаўкі па вуліцы 3-га Мая, 5[654]. У праверцы ўдзельнічалі гарадскі лекар Савіцкі, паліцыя і рэферэнты Гарадской Управы[655].

Менскі гісторык Андрэй Гардзіенка, які зараз жыве ў Маскве ў сваім інтэрнэт-блогу[656] даў такую інфармацыю аб цэнах на асноўныя прадукты харчавання ў СССР, Цэнтральнай Польшчы і Германіі ў сярэдзіне 30-х гадоў:

*"Цэны **ў СССР** на 1935 год, пасля адмены картак, (максімальная зарплата працоўнага 170 рублёў, разам з цэнамі даю колькасць, якую можна было купіць на ўсю зарплату):*

*1 кг белага хлеба - 1,10 р (154,5 кг)*
*1 кг варанай каўбасы - 12 р (14,2 кг)*
*1 кг цукру - 4,50 р (37,7 кг)*
*1 кг сметанковага масла - 15 р (11,3 кг)*

***У Польшчы**, сярэдняя зарплата працоўнага 120 злотых:*

*1 кг белага хлеба - 0,35 злотых (342,8 кг)*
*1 кг варанай каўбасы - 2 злотыя (60 кг)*
*1 кг цукру - 1 злоты (120 кг)*
*1 кг сметанковага масла - 2 злотыя (60 кг)*

***У Германіі**. сярэдняя зарплата нямецкага працоўнага 130 рейхсмарак:*

*1 кг белага хлеба - 0,36 м (361 кг)*
*1 кг варанай каўбасы - 2,70 м (48 кг)*
*1 кг цукру - 0,80 м (162 кг)*
*1 кг сметанковага масла - 3 м - максімальная цана - (43 кг)."*

Як бачым, узровень жыцця нашага кваліфікаванага рабочага не надта адрозніваўся ад узроўню жыцця рабочага Германіі ў той час. Параўнанне ж з савецкімі рэаліямі - гэта вельмі ўмоўная і недарэчная справа. З успамінаў тых часоў вядома, што напрыклад, нават сям'я вядучага лекара Менска, які лячыў савецкіх бонзаў і жыў з імі па-суседску, суткамі стаяла ў чарзе па пуд бульбы[657]. Таму параўноўваць дзяржаўныя цэны тавараў у Менску, якіх ніколі не было ў вольным продажы (на рынку гэтыя ж тавары каштавалі непараўнальна даражэй) з цэнамі тавараў, якімі былі завалены прылаўкі кожнай лідскай крамы не мае сэнсу.

**12. Пачатак вайны**

Каб зразумець, што рабілася ў свеце вакол Польшчы ў 1939 г., зробім маленькі адступ.

Пасля акупацыі Германіяй Чэхаславацкіх Судэтаў у кастрычніку 1938 г., на першы план германскай вонкавай палітыкі выйшла польскае пытанне.

24 кастрычніка міністар замежных спраў Нямеччыны Яўхім фон Рыбентроп правёў у Берліне размову з амбасадарам Рэчы Паспалітай Юзафам Ліпскім падчас якой патрабаваў ад Польшчы наступнае (да канца сакавіка 1939 г. патрабаванні заставаліся ў таямніцы): далучэнне да Германіі Вольнага Горада Гданьска[658], пракладка аўтастрады і чыгункі праз польскае Памор'е і далучэнне Польшчы да антыкамінтэрнаўскага пакту. Наўзамен Польшчы былі прапанаваны: узаемнае прызнанне існых польска-германскіх межаў, падоўжанне дамовы пра ненапад яшчэ на 25 гадоў, ухвала Германіяй польскіх тэрытарыяльных прэтэнзій на Ўсходзе і дапамога ў рашэнні памежных пытанняў з Вугоршчынай, супрацоўніцтва ў пытанні эміграцыі яўрэяў з Польшчы і ў каланіяльных праблемах, узаемныя кансультацыі па ўсіх замежнапалітычных пытаннях.

6 студзеня 1939 г., падчас візіту міністра замежных спраў Польшчы Юзафа Бека ў Германію, Рыбентроп у рашучай форме запатрабаваў згоды Польшчы на далучэнне Гданьска да Германіі і правядзенне транспартных ліній праз Памор'е. Гэтыя ж патрабаванні Гітлер яшчэ раз паўтарыў на асабістай сустрэчы з Бекам. Пасля вяртання з Германіі міністра замежных спраў Польшчы, ў варшаўскім Каралеўскім замку адбылася нарада з удзелам прэзідэнта Польскай Рэспублікі Ігнацыя Масціцкага і інспектара польскай арміі (пад час вайны галоўнакамандуючага) Эдварда Рыдз-Сміглага. На гэтай нарадзе германскія прапановы былі прызнаны абсалютна непрымальнымі, была выяўлена ўпэўненасць, што гэты крок быў бы толькі першым у агрэсіўных дзеяннях Гітлера, і прыняцце германскіх прапаноў немінуча прывяло б да страты незалежнасці, зрабіла б Польшчу васалам Германіі. Адразу пасля гэтай нарады Генеральны штаб Войска Польскага прыступіў да распрацоўкі аператыўнага плану "Захад" на

выпадак германскай агрэсіі.

21 сакавіка Гітлер зноў патрабаваў перадаць Гданьск. Заклікі Польшчы выконваць узаемныя гарантыі аб статусе Вольнага Горада ў адпаведнасці з рашэннямі Лігі Нацый нямецкім бокам былі адкінутыя.

22 сакавіка маршал Рыдз-Сміглы зацвердзіў аператыўны план "Захад".

На наступны дзень, 23 сакавіка начальнік Галоўнага штаба Войска Польскага, брыгадны генерал Вацлаў Стахевіч правёў хуткую таемную мабілізацыю чатырох дывізій, дыслакаваных ва Ўсходнім Памор'і. Мабілізацыя не прыпынялая да самай вайны, колькасць польскага войска паспелі давесці да 800 000 чалавек і разгарнуць кадравыя часткі па штатах ваеннага часу. Былі прызваныя чатыры гады рэзервістаў, датэрмінова навабранцы 1918 г. і шэсць узростаў спецыялістаў вайсковых спецыяльнасцяў. Пачалося разгортванне дывізій другой чаргі, фармаванне новых авіяцыйных і танкавых частак.

26 сакавіка ўрад Польшчы афіцыйна адмовіў Гітлеру.

31 сакавіка Вялікабрытанія прапанавала Польшчы ваенную дапамогу ў выпадку нападу і выступіла гарантам яе незалежнасці. У адказ Гітлер у ноч на 4 красавіка загадаў да канца верасня завяршыць падрыхтоўку арміі па плану "Вайс". План прадугледжваў ўварванне на тэрыторыю Польшчы і поўны захоп краіны.

6 красавіка Юзаф Бек падпісаў у Лондане дамову пра ўзаемныя гарантыі паміж Вялікабрытаніяй і Польшчай.

19 траўня ў Парыжы быў падпісаны сумесны польска-французскі пратакол, які прадугледжвае ваенную дапамогу і ўдзел у баявых дзеяннях Францыі ў выпадку германскага нападу на Польшчу. Адразу пасля гэтага Германія пачала серыю правакацый на ўсіх участках польска-нямецкай мяжы. Ужо 20 траўня немцы здзейснілі напад на польскі мытны пост у Калдове.

Адначасова працягвалася збліжэнне Нямеччыны і СССР.

19 жніўня 1939 г. Гітлер даў згоду на тэрытарыяльныя прэтэнзіі Саветаў: на усю ўсходнюю палову Польшчы да лініі рэк Нараў, Вісла і Сан, а таксама тэрыторыі Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і румынскай Бесарабі. У гэты ж дзень Сталін прыняў рашэнне пра падпісанне германска-савецкай дамовы пра ненапад. У Маскву на адмысловым самалёце праз Кенігсберг прыбыў Яўхім фон Рыбентроп.

Трэба дадаць, што паміж Польшчай і СССР да 1945 г. дзейнічала дамова аб узаемным ненападзе. Аднак у ноч на 24 жніўня Пакт Молатава-Рыбентропа быў падпісаны ў Крамлі. У сакрэтных пратаколах гэтай дамовы апісваўся падзел Усходняй Еўропы.

Такім чынам шлях да Сусветнайй вайны быў адкрытыы.

Непасрэднай нагодай для пачатку вайны стала Гляйвіцкая правакацыя - аперацыя пад кодавай назвай "Кансервы", праведзеная СС у горадзе Гляйвіц (у той час нямецкі горад на польска-германскай мяжы, зараз горад Глівіцэ ў Польшчы). Некалькі крымінальных злачынцаў пераапранутыя ў польскую ваенную форму (ім абяцалі вызваленне за ўдзел у "патрыятычнай" акцыі) разам з дыверсіённай групай 31 жніўня 1939 г. інсцэніравалі захоп радыёстанцыі. У эфіры прагучаў зварот на польскай мове: *"Грамадзяне Польшчы! Прыйшоў час вайны паміж Польшчай і Германіяй. Аб'ядноўвайцеся і забівайце ўсіх немцаў"*. Пасля гэтага дыверсанты застрэлілі "польскіх захопнікаў". На наступны дзень да нямецкага народа звярнуўся Гітлер, заявіўшы, што Польшча ажыццявіла напад на германскую тэрыторыю і што з гэтага моманту Германія знаходзіцца ў стане вайны з Польшчай.

Прэса 1939 г. поўніцца інфармацый пра збор грошай і рэчаў на абарону. Напрыклад лідскі гарадскі лекар Бернард Савіцкі здаў у Фонд Абароны (FON) 81 злот 75 грошаў, Лідскі аддзел Прафсаюза работнікаў гарадскіх службаў - 1 500 злотых, павятовы Звяз працаўнікоў самакіравання - 1500 злотых[659], вучні Школы піяраў сабралі 103 злотыя, лідскія лекары (25 чалавек) сабралі 9 360 злотых[660], ажно 97 000 злотых даў “Ардаль”[661]. Падобнай інфармацыі вельмі многа. У горадзе праводзіліся вучэбныя паветраныя трывогі, напрыклад, адна з вучэбных трывог была праведзена 24 сакавіка: *"... горад з 16 да 20-00 быў у цемры. Рух транспарту па вуліцах горада таксама адсутнічаў. Трэніроўка ўдалася"* [662]. Лідскія пажарныя ў замку Гедзіміна вучылі насельніцтва тушыць запальныя бомбы[663]. Улетку харцэры Лідскай дзяржаўнай гімназіі здалі дзяржаве 2 вагоны металалому[664].

Лідзянка Яўгенія Ярмант, дарэчы праваслаўнага веравызнання, пісала: *"Прыметы блізкай вайны з'явіліся ў Лідзе яшчэ да яе пачатку. Нас вучылі правільна наляпляць палоскі паперы на вокны, каб шыбы не лопаліся падчас бамбёжак. Усюды віселі лозунгі, закліканыя падымаць дух народа: "Моцныя, згуртаваныя, гатовыя". Па радыё час ад часу перадавалі заклікі ўносіць грошы ў Фонд народнай абароны. ... У дні перад вайной па радыё перадавалі бадзёрыя перадачы. Не спыняліся запэўніванні ў гатоўнасці да адпору ворагу і цярпенні. Сапраўды многія жанчыны, натхнёныя патрыятызмам, аддавалі на абарону свае ўпрыгожванні і нават заручальныя пярсцёнкі. Адна харцэрка аддала свой берэт з лілеяй, сказаўшы пры гэтым, што зараз яна зможа хадзіць з высока паднятай галавой. ... Мы вырашылі, што самай карыснай рэччу для жаўнераў будзе наш мужчынскі ровар. За некалькі гадоў да вайны мой бацька, як дасягненне ўсяго свайго працоўнага жыцця купіў два ровары - мужчынскі і жаночы. Доўгімі восеньскімі вечарамі бацька абслугоўваў тэхніку. У кухні ён разбіраў ровары на часткі і перамываў іх у газе. ... Пасля зборкі ровары падвешваліся да столі ў каморы, каб не псаваліся шыны. І вось у цяжкі для краіны момант мае бацькі без ваганняў аддалі мужчынскі ровар для польскага войска"* [665].

У тое, апошняе, лета з'явілася шмат аб'яваў пра продаж нерухомасці, напрыклад, у самым цэнтры горада прадаваўся *"трохпавярховы дом па вуліцы 3-га Мая, № 4 з падворкам"* [666] (у гэтым доме знаходзіўся

рэстаран "Аазіс").

1 верасня 1939 г. пачалася Другая Сусветная вайна, у якой мы, беларусы, прымалі ўдзел з першага да апошняга дня. Аднак гэта ўжо іншая гісторыя.

**13. Заканчэнне**

Гэта артыкул быў напісаны пасля таго, шматразовага прачытання аналізу рэгіянальнай прэсы, якая выходзіла пры канцы 1930-х гг. Мае бацькі нарадзіліся, раслі і вучыліся ў Заходняй Беларусі, і рэаліі жыцця ў 1930-я гг. збольшага мне вядомы з іх расказаў з дзяцінства. Тым цікавейшым было паглыбленне амаль што на год жыцця ў тыя цікавейшыя гады жыцця нашага горада. Я спрабаваў паказаць жыццё нашага горада такім, якім яно адлюстроўвалася на старонках газет, імкнуўся быць нейтральным і менш даваць асабістых каментароў.

Другая палова 1930-х гг. была эпохай джазу, класічных мужчынскіх строяў, захаплення радыё і авіяцыяй, хуткага росту ўзроўню жыцця і адукацыі, часам будаўніцтва самых прыгожых і стыльных гмахаў нашага горада. Адначасова гэта былі вельмі цяжкія, перадваенныя часы. Менавіта канец гэтых 1930-х гадоў яшчэ ў 1980-х гадах добра памяталі сталыя лідзяне, калі параўноўвалі ўзровень жыцця ў СССР з яго вечным дэфіцытам на ўсе і таварамі невысокай якасці за "польскім часам" калі ўсё было, а *"калі нечага адразу і не было, дык можна было заказаць у яўрэя ў лаўцы абсалютна любы тавар і хутка яго атрымаць"*, - як казалі старыя.

Пра некаторых людзей, з гэтага артыкула, я чуў у расказах старых людзей, чытаў ва ўспамінах. Пра некаторых, як, напрыклад, пра лепшага гісторыка Ліды XX ст. Міхала Шымялевіча ці рэдактара легендарнай "Лідскай зямлі" Уладзіслава Абрамовіча я пісаў раней і буду яшчэ пісаць, бо гэта знакавыя фігуры для культура нашага горада. Напрыклад я маю цвёрдую ўпэўненасць, што імем беларуса Міхала Шымялевіча ў нашым горадзе будуць названы вуліца, гімназія ці бібліятэка. Маштабы інтэлекту гэтага чалавека, ягоная шматгадовая праца па адраджэнні гістарычнай памяці нашага горада не могуць не ўражваць, натхняць і даваць надзею на будычыню.

Зараз Ліда 1920-30-х гг. практычна адсутнічае ў памяці горада, як бы яе і не было, і аўтар спадзяецца, што гэты артыкул дасць першасныя веды з жыцця горада ў тыя часы.

**14. Дадаткі**

**1. Горад Ліда ў 1938 г.**[667]

*Міхал Шымялевіч*

Гарадская ўправа ў Лідзе 3 лістапада 1938 г. зрабіла Гарадской Радзе "Рахунковую справаздачу аб выкананні бюджэту на 1937/38 гг.". Гэта справаздача, мае кароткі і пекны гістарычны ўступ, у якім выкладзены багаты і цікавы статыстычны матэрыял, які датычыць Ліды. Не можам не падзяліцца з чытачамі некаторымі цікавымі фрагментамі з гэтай справаздачы і некаторымі актуальнымі статыстычнымі звесткамі.

Плошча горада Ліда (ці гарадской гміны) да 1938 г. - 2 813 га, а пасля далучэння да горада вёскі Расlinks ў гэтым годзе адміністратыўная плошча горада павялічылася на 151 га і склала 2964 га. Гарадская Лідская гміна мае 90 км вуліц, з якіх 32,67 з цвёрдым пакрыццём і 57,33 грунтовых. Ліда дарасла да маштабаў, калі замест звычайнага каменнага бруку - "кацінь лоб" (koci leb) - неабходна пераходзіць на гранітную брусчатку. У справаздачным годзе звычайныя і надзвычайныя выдаткі на будаўніцтва дарог і мастоў і іх рамонт склалі 86 378 злотых. [...]

У выніку ў 1937/38 гг. забрукавана 1,433 км вуліц, адрамантавана 4 км і выкладзена 2,246 км новых бетонных ходнікаў.

Не гледзячы на новую будоўлю кватэрнае пытанне ў Лідзе яшчэ не вырашана. Пры росце насельніцтва і прамысловасці, будаўніцтва расце меншымі тэмпамі, хоць і ў параўнанні з іншымі гарадамі такога ж памеру таксама хутка расце. Праз таннасць дрэва, а таксама праз брак сыравіны і індустрыі вытворчасці будаўнічых незгараных матэрыялаў у будаўніцтве значную долю займае будаўніцтва з дрэва. Гэта адна з галоўных прычын, праз якую горад расце ў шырыню а не ў вышыню. Гэта падставы вялікіх клопатаў для гарадскіх уладаў, бо для ўпарадкавання доўгіх вуліц патрэбны вялікія грошы. Па сучаснаму будуецца частка горада "Выган", якая вырасла ў апошнія гады і з'яўляецца сімвалам адраджэння творчай думкі лідскага грамадства.

Насельніцтва горада ў 1921 г. складала 13 401 чалавек. Зараз, згодна з статыстычнымі звесткамі на 17 верасня 1938 г. - 26 257 чалавек, гэта значыць, за апошнія 17 гадоў насельніцтва вырасла на 12 856 чалавек - амаль што ў два разы. У агульнай лічбе гараджан 12 607 мужчын і 13 650 жанчын.

**Этнічны склад насельніцтва наступны:**
палякаў - 17 820;
беларусаў - 450;
рускіх - 400;
летувісаў - ;
яўрэяў - 7 227;
іншых - 360 .
Разам - 26257.

**Па веравызнанні ў Лідзе:**
рыма-каталікаў - 17 008;
праваслаўных - 1 847;
іншых хрысціян - 160;
юдэяў - 7 227;
мусульман - 15.
Разам - 26 257

**Працоўныя гараджане заняты ў:**
сельскай гаспадарцы - 598;
прамысловасці і рамястве - 3 408;
гандлі - 1249;

транспарце - 321;
дзяржаўнай службе - 1 198;
іншых месцах - 5 942;
хатняй гаспадарцы і прыслузе - 5 711.
Разам - 18 427.

Відочна, рэшта ў 7 830 прыпадае на дзяцей.

Эканамічнае жыццё у горадзе вельмі ажыўленае. Ліда, стараннем прамыслоўцаў, ёсць адным з найважнейшых эканамічных цэнтраў на ўсходзе Рэчы Паспалітай. Тут развіваецца гумовая прамысловасць - 2 фабрыкі "Ардаль" і "Унігум", хімічная прамысловасць - фабрыка "Карона", 2 ліцейні жалеза - фабрыкі "Бэнланд" і "Поланд", фабрыка дроту і цвікоў - "Дротіндустрыя", 3 фабрыкі цукраў - "Рэкорд" і дзве без назвы, 3 кафлярні - "Рааф", "Танур" і "Нэшэр", фабрыка спрунжын - "Звой", 8 млыноў, 6 тартакоў, 8 пякарняў, 2 фабрыкі лямцаў, 1 рафінарыя шкіпідару, 2 алейні, 3 фабрыкі газаваных водаў, 2 бровары.

Таксама ў горадзе развіта рамесніцтва, сярод рамеснікаў:

бляхароў - 9;
брукароў - 30;
шаўцоў верху абутку - 13;
шапнікаў - 9;
гарбароў - 2;
ганчароў - 2;
пераплётчыкаў - 3;
ювеліраў - 9;
кавалёў - 24;
кацельшчыкаў - 3;
калёснікаў - 1;
краўцоў - 113;
капялюшнікаў - 1;
камнярэзаў - 3;
кушняроў-футроўшчыкаў - 3;
маляроў - 2;
муляраў - 15;
шорнікаў - 3;
сталяроў - 45;
шаўцоў - 80;
слесараў - 75;
шкляроў - 7;
шчаткароў - 2;
токараў - 3;
абівальшчыкаў - 13;
мяснікоў - 10;
цырульнікаў - 22;
мадыстак - 4;
меднікаў - 4;
электраманцёраў - 15;
ліцейшчыкаў - 30;
пекараў - 35;
камінараў - 5;
фатографаў - 7.

Кааперацыя ў горадзе разраслася і можа служыць прыкладам для іншых гарадоў.

Тут дзейнічае Спажывецкі кааператыў "Адзінства", які мае 9 крамаў у розных частках горада і ўзорную механічную пякарню. Гэты кааператыў мае мільённыя абароты і якасцю прадаваных тавараў здольны канкураваць з лепшымі фірмамі. У Лідзе ёсць сядзібы: Аддзел звязу спажывецкага кааператыва "Сполем", Аддзел звязу малочна-яечнага кааператыва. Павятовы сельскагаспадарчы кааператыў займаецца ўсімі артыкуламі сельгаспрадукцыі.

Гэтыя кааператывы аказваюць станоўчы уплыў на гаспадарчае жыццё горада, мястэчак і вёсак павета.

Незалежна ад прыведзеных дадзеных пра значны размах гаспадарчай дзейнасці ў Лідзе, трэба прывесці спіс банкаўскіх устаноў горада: Камунальная ашчадная каса Лідскага павета, Віленскі прыватны гандлёвы банк, Лідскі аддзел, Купецкі кааператыўны банк у Лідзе, Яўрэйскі народны банк і прадстаўніцтва банка "Сполем". Не для справаздачы, мусім адзначыць, што ў Лідзе з добрымі вынікамі функцыянуюць дабрачынныя інстытуцыі: яўрэйская "Gmilus Chesed" - банк безадсоткавых дробных пазык і таксама Хрысціянская безадсоткавая каса пры таварыстве Польскіх купцоў у Лідзе.

У Лідзе маюць свае сядзібы наступныя аддзелы і ўправы інстытуцый дзяржавы ці самакіравання: Староства павета, Аддзел Віленскага акруговага суду, Аддзел пракуратуры Віленскага акруговага суду, Вайсковы рэгіянальны суд, Рэгіянальная камендатура рэзерваў (ваенкамат -*Л.Л.*), Гродскі суд, Скарбовая ўправа, Управа акцызаў і манаполіі, Школьны інспектар, Абласны інспектар працы, Павятовы інспектар установы ўзаемнага страхавання, Брыгада скарбовага кантролю, Павятовая класіфікацыйная камісія, Следча-карная турма, Рэгіянальная паштовая ўправа, тры паштовыя аддзяленні, Павятовая камендатура дзяржаўнай паліцыі, Камісарыят дзяржаўнай паліцыі па горадзе Лідзе, Пастарунак дзяржаўнай паліцыі на Лідскай гміне, Сацыяльнае страхаванне, аддзел Фонду працы, Павятовы аддзел, Гарадская Ўправа, Павятовая дарожная ўправа, Управа сельскай Лідскай гміны.

З духоўных установаў: вызнання рыма-каталіцкага - 2 парафіяльныя касцёлы, праваслаўнага вызнання - адна парафія, юдзейскага вызнання - яўрэйскі кагал з рабінам.

Акрамя вышэйуказаных, у горадзе ёсць камендатура гарнізона, які складаецца з трох вайсковых адзінак.

У горадзе ёсць 753 копаныя студні, 177 помпавых студняў, 17 артэзіянскіх, разам - 947.

Вываз нечыстотаў робіцца асенізацыйным транспартам.

У галіне публічнай бяспекі Гарадская ўправа працуе разам з Добраахвотнымі пажарнымі дружынамі, якіх у горадзе дзве. Пажарныя маюць цалкам матарызаваны транспарт, а іх баявая здольнасць стаіць на высокім узроўні. Гарадская ўправа фінансуе добраахвотныя пажарныя дружыны ў памеры 15 000 злотых у год, прычым утрыманне пажарных у цэнтры горада абходзіцца ў 11 500 злотых, на Слабадзе - 4 000 злотых.

У апошні час пабудаваны 3 сучасныя школы, у якіх школьная дзетвара мае здаровыя і сонечныя памя-

шканні. Стан адукацыі у горадзе адлюстроўвае *табліца 1*:

Дашкольнай адукацыяй займаюцца дзве жаночыя арганізацыі: Таварыства міласэрнасці Св. Вінцэнта і Паўла, Звяз грамадзянскай працы жанчын, імі ахоплены 71 дашкольнік.

На тэрыторыі горада ёсць дзве гімназіі: агульнаадукацыйная і прафесійна-купецкая, агульнаадукацыйны ліцэй і дзяржаўная прафесійная механічная школа. У ліцэі і агульнаадукацыйнай гімназіі вучацца 484 чалавекі, у купецкай гімназіі - 261, у дзяржаўнай механічнай школе - 113 вучняў.

Гарадская гміна мае будынкі і камунальныя ўстановы: элетроўню, рэзню і рынак быдла. У 1937/38 гг. электрычнасцю карысталіся 2 903 абанентаў на асвятленне і 63 абаненты на прамысловае ўжыванне электрычнасці, разам 446 127 кілават-гадзін. На рэзні ў тым жа годзе забіта 3 692 галоў буйнога рагатага быдла, цёлак - 1 629, цялят - 10 766, авечак - 2 327, свіней - 4906. На рынку прададзена 21 779 галоў буйнога рагатага быдла, цёлак - 3 471, цялят, авечак і коз - 7 319, свіней - 5 915, коней - 2 612.

У справаздаўчым годзе ў звычайны даход гарадской гміны паступіла:

1. Ад камунальнай маёмасці - 20 680,20 зл.;
2. Ад камунальных прадпрыемстваў - 179333,19 зл.;
3. Субвенцыі і датацыі - 2 507,30 зл.;
4. Падаткі з абароту - 22 920,71 зл.;
5. Адміністрацыйныя выплаты - 12 949,23 зл.;
6. Аплата за карыстанне публічнымі ўстановамі - 6 039,20 зл.;
7. Падаткі - 131 323,79 зл.;
8. Дадаткі да дзяржаўных падаткаў - 64 107,32 зл.;
9. Незалежныя падаткі - 20 755,17 зл.;
10. Markdownae - 13 798,96 зл.

Разам - 474 415,07 злотых.

У даход надзвычайны:

1. Ад камунальнай маёмасці - 12 554,90 зл.;
2. Субвенцыі і датацыі - 62 574 зл.;
3. Пазыкі - 416 176,30 зл.;
4. Рознае - 26 910,0 зл.;
5. Бюджэтная падвышка з мінулага фінансавага года - 35,52 зл.

Разам - 517 950,72 зл.

Агульныя даходы - 992 365,50 злотых.

Звычайныя расходы выглядаюць наступным чынам, з камунальнай касы гарадской гміны выплачана:

1. Агульнае кіраванне - 89 502,64 зл.;
2. На камунальную маёмасць - 4 130,34 зл.;
3. Выплата даўгоў - 93 873,18 зл.;
4. Утрыманне публічных дарог і плошчаў - 21852,07 зл.;
5. Асвета - 56 885,14 зл.;
6. Культура і мастацтва - 8 035,94 зл.;
7. Ахова здароўя - 32 762,11 зл.;
8. Сацыяльнае страхаванне - 43 017,44 зл.;
9. Падтрымка сельскай гаспадаркі - 1 270,37 зл.;
10. Падтрымка рамяства і гандлю - 7 141,25 зл.;
11. Грамадская бяспека - 33 005,63 зл.;
12. Выплаты ў ваяводскі камунальны звяз - 35507,77 зл.;
13. Рознае - 35 507,77 зл.

Разам - 426 983,88 злотых.

Надзвычайныя выдаткі:

1. Камунальная маёмасць - 1 000,0 зл.;
2. Камунальныя прадпрыемствы - 82 859,95 зл.;
3. Утрыманне публічных дарог і плошчаў - 64526,08 зл.;
4. Стварэнне плана разбудовы горада - 11 350,0 зл.;
5. Асвета - 54 808,94 зл.;
6. Ахова здароўя - 5 580,50 зл.;
7. Падтрымка сельскай гаспадаркі - 10 001,0 зл.;
8. Падтрымка рамяства і гандлю - 22 560,52 зл.;
9. Пакрыццё дэфіцыту былых гадоў - 305 525,52 зл.

Разам - 558 222,51 злотых.

Усе выдаткі - 985 206,39 злотых.

Бюджэт выкананы з перавышэннем - 7 159,11 злотых.

Сучасная Гарадская Ўправа выбрана ў 1935 г. і складаецца:

бургамістр горада - Юзаф Задурскі, былы пасол у Сейм;

віца-бургамістр - Вітольд Ёдка, магістр права;

лаўнікі - Мікалай Грабліс, Марак Карчмар, Вацлаў Сток-Стоцкі;

радныя:

Балінскі Казімір - чыгуначнік;

Цукернік Зорах - бухгалтар;

Дварэцкі Мойша - лекар-дантыст;

Караль-Тамашэвіч Баляслаў - шавец;

Кернер Ізідор - адвакат;

Канопка Мойзас - шавец;

Карнет Теадозія - настаўніца;

Міхнеўскі Мечыслаў - настаўнік;

Міцкевіч Людвіг - правізар;

*Табліца 1*

| Колькасць дзяцей у школьным узросце | Колькасць дзяцей у школьным узросце ахопленых адукацыяй | | Колькасць дзяцей у школьным веку не ахопленых школай | Колькасць лекцыйных класаў | Колькасць штатных настаўнікаў |
|---|---|---|---|---|---|
| | У дзяржаўных школах | У прыватных школах | | | |
| 3788 | 3094 | 659 | 35 | 40 | 78 |

Межва Ян - інвалід;
Маркевіч Ежы - садоўнік;
Оркуш Фердынанд - настаўнік;
Падворскі Юзаф - купец;
Пупко Якуб - цырульнік;
Сянкевіч Ганна - настаўніца;
Стасевіч Адольф - фермер;
Стасевіч Зыгмунт - падпаручнік рэзерву;
Штэйнберг Зэлман - прамысловец;
Шымілевіч Міхал - клерк;
Вах Юзаф - кравец;
Васілоўскі Міхал - садоўнік;
Вітажэнец Баляслаў - пенсіянер;
Войцешак Антон - прамысловец.

Аднак развіццё горада, які можна параўнаць з такім горадам, як Гдыня, мае дыспрапорцыі з матэрыяльнымі сродкамі. Патрэбна кожны дзень нарошчваць інтэнсіўнасць эканомікі, але малыя фінансавыя магчымасці пакуль не дазваляюць гэта зрабіць. Акрамя таго, Гарадская ўправа ўтрымлівае ў належным стане вуліцы, якія забрукаваны палявым каменем, пастаўляе электрычную энергію для бытавых і прамысловых патрэбаў, прыступіла да стварэння перспектыўнага плана забудовы горада (план амаль што гатовы), пабудавала прыгожы спартовы стадыён, праводзіць меліярацыю багністага месца, на якім вырас раён горада, так званы "Выган", пачала будову паліклінікі і сучаснай рэзні з халадзільнікам і мясной перапрацоўкай, пачала вывучаць магчымасць будаўніцтва па ўсім горадзе водаправода і каналізацыі, пабудавала 3 школы. У выніку мноства праблемаў, якія ўстаюць пры дастаткова хуткім развіцці Ліды, устае неабходнасць выдзялення горада з Павятовага звязу самакіравання, што дасць гораду новыя даходы і дазволіць адрамантаваць вуліцы ў цэнтры горада і пабудаваць новыя ходнікі, а на ўскрайках забрукаваць грунтовыя зараз вуліцы.

Гэтая кароткая справаздача па выніках развіцця горада не можа адлюстраваць і малой долі таго, што патрэбна было б напісаць пра развіццё горада, пра яго разбудову, пажарную ахову, прамысловасць, гандаль, кааперацыю, культурнае жыццё, асвету, ахову здароўя і так далей. Па меры магчымасці, будзем друкаваць матэрыялы і асвятляць жыццё сучаснага горада.

### 2. Урачыстасці ў гонар 75-ці годдзя студзеньскага паўстання ў Лідзе[668]

*Жмігродскі Юзаф*

У траўні гэтага года споўнілася 75 гадоў з моманту гераічнай смерці лідара студзеньскага паўстання на Лідчыне Людвіка Нарбута. Хутка пасля страты свайго камандзіра атрад паўстанцаў перастаў існаваць. Параненыя патрапілі ў няволю і былі сасланыя ў Сібір. Рэшта групамі сышла з поля бітвы і рассеялася сярод лясоў.

Акрамя Нарбута ў лясной бітве пад Дубічамі паляглі: Леан Краінскі - адзін з самых лепшых афіцэраў Нарбута, два браты Бразоўскія, Тарасевіч - фельчар з Ліды, Губарэвіч, Ёдка, Паплаўскі, Гемза і Жукоўскі. Усе яны жыхары Лідскага павета. Яшчэ загінулі Скірмунт з Піншчыны, студэнт Пакемпіновіч і невядомы Адам - сябар Нарбута.

Па просьбе сямей загінуўшых, капітан Цімафееў дазволіў сабраць забітых паўстанцаў на прыкасцельных могілках ў Дубічах. Пахаванне адбылося 6 траўня ў прысутнасці тлуму розных людзей, якія прыехалі, каб аддаць апошнюю павагу народнаму герою.

Пасля набажэнства, целы палеглых ў простых, нефарбаваных трунах былі паложаныя ў супольную брацкую магілу. Высокую магілу Нарбута і дванаццаці ягоных паплечнікаў мясцовы люд атачыў вялікай павагай. Аднак праз малы час Мураўёў загадаў касцёл у Дубічах разбурыць, а магілу паўстанцаў зраўняць з зямлёй. На месцы магілы выраслі вялікія бярозы. Краж ставіць не дазвалялася. Аднак праз нейкі час, хтосьці паставіў у бярэзніку камень з надпісам: *"С.П. Леан Краінскі - просім аб анёльскай дапамозе"*.

Падобна гэта зрабіў сын Краінскага, які такім чынам аддаў доўг памяці свайму бацьку. Зараз на гэтым месцу знаходзіцца ладны помнік, ufундаваны супольнымі высілкам жыхароў Лідчыны і 76-м палком пяхоты імя Людвіка Нарбута. Помнік выкананы паводле праекту знакамітага мастака Фердынанда Рушчыца і прафесара Баляслава Балзукевіча. Урачыстае адкрыццё адбылося 6 жніўня 1933 г. на 70-ю гадавіну паўстання.

На месцы смерці Нарбута, на Дубіцкіх балотах, быў пастаўлены агромністы драўляны крыж, які праз невядомых, быў спілаваны на дровы.

Каб зноў не адбыўся акт вандалізму, у лістападзе 1936 г. Лідскі полк пяхоты з Гародні паставіў новы, жалезны крыж на падмурку.

Зараз, пасля 75-ці гадоў, мы маем усе ўмовы, каб уганараваць памяць народнага героя належным чынам. У мінулым годзе, з ініцыятывы сяброў рэдакцыі нашага штомесячніка паўстаў праект уфундавання ў Лідзе якой-небудзь памяткі Нарбуту. Пад пратэктаратам маршала Эдварда Рыдз-Сміглага паўстаў юбілейны камітэт памяці Людвіка Нарбута, які заняўся гэтым пытаннем.

У склад ганаровага камітэту былі запрошаны: Адам Сакалоўскі - ваявода Наваградскі; яго свяцейшаства арцыбіскуп Рамуальд Яблжыкоўскі - Мітрапаліт Віленскі; генерал Альшына-Вільчынскі; Гадзецкі - віленскі школьны куратар; Людвік Бацянскі - ваявода Віленскі; Мар'ян Янкоўскі - віца-ваявода Беластоцкі; прафесар, доктар Вітольд Станевіч, прарэктар універсітэта імя Стэфана Баторыя, кс. Гіеранім Стусінскі - правінцыял Ордэна Піяраў; Юзаф Прылуцкі, прэзідэнт Апеляцыйнага суду ў Вільні, Юзаф Ігнат Парчэўскі, пракурор Апеляцыйнага суду ў Вільні.

Выканаўчы камітэт у складзе: галоўны суддзя Юльян Гржымайла-Прыбытка; намеснік камандзіра палка палкоўнік Віктар Маеўскі; кс.-рэктар Клеменс Чабаноўскі, сакратар-рэдактар Уладзіслаў Абрамовіч, староста Станіслаў Гансоўскі, бургамістр Юзаф Задурскі, Антон Гржымайла-Прыбытка; Францішак

Мардас-Жылінскі, дырэктар Эдвард Вайцюшкевіч, дырэктар школы Фердынанд Оркуш і сябар рэдакцыі Аляксандр Снежка. Рэвізійныя камісія: Станіслаў Сэленс, Браніслаў Каліноўскі і Збігнеў Міхалоўскі.

Барэльеф на памятнай табліцы спраектаваў і выканаў мясцовы мастак-разьбяр Юры Кацяшчэнка за 480 зл. Адліў у бронзе Савул Пупко ў Вільні за 300 зл. Гранітную табліцу з палявога наваградскага каменю выканаў майстар з Міра Антон Грыневіч за 350 зл. Дошка ўмуравана ў франтон Касцёла піяраў. Агульны кошт 1500 зл.

У дні святкавання юбілею, 8 траўня, горад быў упрыгожаны сцягамі, а Піярскі касцёл ілюмінаваны. Ва ўрачыстасцях узялі ўдзел арцыбіскуп Рамуальд Яблжыкоўскі, ваявода Адам Сакалоўскі, генерал Альшына-Вільчынскі, куратар Гадзецкі, кс.-правінцыял Геранім Стусінскі, князь Людвік Чацвярцінскі з Жалудка, цесць маршала Рыдз-Сміглага Эміль Томас з жонкай, дэлегацыя палка імя Людвіка Нарбута з камандзірам палка палкоўнікам Станіславам Чырылам, прадстаўнікі мясцовых уладаў і самакіравання, школьніцтва, арганізацый і тлумы гараджан.

Каля памятнай дошкі, упрыгожанай вянкамі, прафесар Люцыян Брыльскі сказаў узнёслую прамову. Прамоўца ў палымяных словах намаляваў вобраз героя, стварыў адмысловы і ўрачысты настрой сярод прысутных. Адкрыў памятную дошку генерал Альшына-Вільчынскі, потым ад імя Лідскага пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута выступіў палкоўнік Чырыла:

*"Паважаныя айцы Піяры, шаноўныя жыхары горада, любая моладзь.*

*З вамі перажываю гэтыя ўзвышаныя хвіліны, бо знаходжуся ў мурах, дзе 90 год таму маладым хлопцам пачаў вучобу Людвік Нарбут.*

*Мы ведаем, які моцны ўплыў маюць уражанні дзяцінства, як уплывае добрая навука і школа на лёсы чалавека.*

*Тут, ва ўстанове а. Піяраў, вядомых сваім патрыятызмам, хоць і пад ціскам цемрашалаў-маскалёў - тут ён, народны герой, атрымаў першыя веды, добрую навуку, патрыятычны дух, тут рыхтаваўся служыць Бацькаўшчыне.*

*І служыў добра - аддаў ёй сваё жаўнерскае жыццё.*

*Зараз мы знаходзімся тут, каб ушанаваць памяць і выказаць сваю павагу.*

*Жадаю вам, каб дух Нарбута запанаваў над вамі, як ён панаваў над яго гераічным атрадам, над добраахвотнікамі Лідчыны 1919 г., як пануе зараз над палком яго імя".*

Прамоўца уручыў палкавыя дыпломы і знакі ўрадоўцам горада Ліда, Радунскай гміне, дзе нарадзіўся Нарбут, Павятоваму аддзелу ў Лідзе, калегіюму Піяраў і правінцыялу ордэна кс. Стусінскаму.

Потым прамаўляў кс.-правінцыял Стусінскі. Ён падзякаваў за прызнанне заслуг ордэна і сказаў, што ордэнн працуе для сваіх вучняў. Заўважыў, што акрамя Людвіка Нарбута, у свой час іншая піярская школа таксама выгадавала Тадэвуша Касцюшку.

Падчас набажэнства казанне сказаў піяр з Кракава а. Банаветура Кадэя. Пры канцы адбылася вялікая дэфіляда Лідскага гарнізона, вайсковых арганізацый і моладзі.

**Спіс ахвярадаўцаў у фонд ушавання памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе:**

Адам Сакалоўскі, ваявода Наваградскі - 100 зл.
Управа г. Ліда - 200 зл.
Звяз землеўладальнікаў ў Шчучыне - 230 зл.
Дзяржаўная паліцыя Лідскага павета - 51,68 зл.
Хелена Бразоўская-Тамялевіч з дачкой Шчэнснай-Бразоўскай - 100 зл.
Князь Людвік Чацвярцінскі з Жалудка - 100 зл.
Суддзя Юліян Прыбытка - 125 зл.
Звяз абывацельскай працы жанчын у Лідзе - 10 зл.
Дырэкцыя шкляных гут "Нёман" - 25 зл.
Павятовы аддзел ў Лідзе (чыноўнікі) - 9,02 зл.
Паштовае аддзяленне Ліда-1 (чыноўнікі) - 8,5 зл.
Паштовае аддзяленне Ліда-1 (паштальёны) - 9,5 зл.
Працаўнікі Тэлефонна-тэлеграфнай управы ў Лідзе - 4 зл.
Працаўнікі Павятовага староства ў Лідзе - 22,50 зл.
Гродскі суд у Лідзе - 2,7зл.
Агульнаадукацыйная школа № 4 у Лідзе - 5,5 зл.
Агульнаадукацыйная школа № 1 у Лідзе - 11,65 зл.
Пракуратура Акруговага суду ў Лідзе - 3 зл.
Юзаф Ліскевіч з Іўя - 7 зл.
Юзаф Жагун з Суботнікаў - 3,9 зл.
Зыгмунт Віткоўскі з Радуні - 9,7 зл.
Юзаф Ігнашэўскі з Забалаці 7,5 зл.
Уладзімір Наўроцкі з Беліцы - 9 зл.
Антон Карвоўскі з Беняконяў - 7,1 зл.
Францішак Фодэр з Дакудава - 3,9 зл.
Юзаф Матушэўскі з Воранава - 7,4 зл.
Падатковы інспектар раёна № 15 у Жырмунах - 6,8 зл.
Падатковы інспектар раёна № 8 у Ліпнішках - 11 зл.
Лётны полк ў Лідзе - 10 зл.
Звяз землеўладальнікаў, аддзел Лідска-Валожынскі ў Лідзе - 135,5 зл.
Адвакат Францішак Вісмант з Ліды - 30 зл.
Ковенскі полк ў Лідзе - 50 зл.
Віленскі Прыватны Гандлёвы банк ў Лідзе - 14,75 зл.
Ю. Енца (ліст ахвяраванняў № 47) - 4,9 зл.
Аляксандар Пацула (ліст ахвяраванняў № 47) - 5 зл.
Доктар Аляксандр Мікульскі, маёнтак Глыбокае - 15 зл.
Баляслаў Мікульскі - 10 зл.
Яўгенія Жылінская - 5 зл.
Роберт Шурпіцкі з Вавёркі - 5,41 зл.
Агульнаадукацыйная школа № 2 у Лідзе - 7,29 зл.
Народны Супольны банк у Лідзе - 5,5 зл.
Камунальная каса ў Лідзе - 6 зл.
Інжынер чыгункі Ян Барткевіч - 5 зл.
Натан Левін дырэктар кінатэатра "Эдысон" у Лідзе - 100 квіткоў на балкон - 50 зл.
Андрэй Радзевіч з Ліды - 3 зл.
Міхал Слюсарчык з Ліды - 1 зл.
Аляксандр Вярсоцкі - 5 зл.
Разам = 1 479,70 зл.

Наступны спіс ахвярадаўцаў будзе надрукаваны па меры атрымання ахвяраванняў.

**3. Спіс вялікіх прамысловых прадпрыемстваў г. Ліды на пачатак 1938 г.**[669]

| Назва | Энергетычнае абсталяванне | Віды і колькасць абсталявання | Колькасць працоўных у 1937 г. | | Колькасць працоўных дзён у 1937 г. | Галоўныя вырабы ў натуральным выражэнні, 1937 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На 30 чэрвеня | На 31 снежня | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| "Дротіндустрыя" | няма звестак | няма звестак | 81 | 58 | 222 | цвікоў - 997,5 т дроту - 246 т. |
| "Бэнланд" | 2 электрарухавікі | 4 такарныя станкі, 3 працяжныя станкі, 10 інш. станкоў | 63 | 73 | 302 | саламарэзак - 3603, малатарняў - 482, конных прывадаў - 902, плугоў - 58, веялак - 24. |
| Сельска-гаспадарчых машын Шапіраў | матор ўнутр. згарання 50 к.с. | 12 такарных станкоў, 10 барабанаў, 10 іншых станкоў | 76 | 72 | 301 | ліцця - 834 т., конных прывадаў - 978, саламарэзак - 5043, малатарняў - 427, веялак - 7, ільномялак - 55 |
| Фабрыка спружын "Звуй" | электрарухавік 10 к.с., дынама 1 к.с. | 1 такарны станок, 1 прэс, 1 свідравальны, 1 гальванізацыйны | 15 | 16 | 196 | 212 000 спружын |
| Завод Ландо, чыгуналіцейны, вытворчасць сельгасмашын | рухавік 35 к.с. | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак |
| Завод батарэек для кішэнных ліхтароў "Зайчык" | - | - | - | 3 | 93 | прададзена 48.000 штук батарэек |
| Тартак "Тарлас" | лакамабіль 190 к.с., электрарухавік 10 к.с., дынама 37 кВт | няма звестак | 117 | 85 | 150 | распілавана 14000 м$^3$ |
| Тартак "С. Элкін & К°" | паравая машына 40 к.с. | 1 пiларама, 1 цыркулярка, 1 габлярны станок | 20 | 23 | 188 | распілавана 5073 м$^3$ |
| Тартак Мельніка | лакамабіль 35 к.с., дынама 39 кВт | 1 піларама, 1 габлярны станок, 1 гонтарэзка | 26 | 17 | 245 | распілавана 3500 м$^3$ |
| Тартак Палячака | лакамабіль 30 к.с. 1 габлярны станок | 1 цыркулярка, | 21 | 19 | 289 | распілавана 2441 м$^3$ |
| Тартак Шапіраў | паравая машына 65 к.с., дынама | 2 пiларамы, 2 цыркуляркі, 1 габлярны станок | 14 | 30 | 156 | распілавана 5240 м3 |
| Тартак "Тарліт" | паравая машына 75 к.с. | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак |
| Цагельня Семянікі (Шайбакі) | дызель 4 к.с. | 1 печ абпалу | 6 | - | 116 | 800 000 шт. цэглы |
| Цагельня Алькеніцкай (Прыдыбайлы) | - | 1 печ абпалу | 24 | - | 105 | 701 000 шт. цэглы |
| Цагельня Кучынскага (Шайбакі) | - | 1 печ абпалу | 6 | - | 116 | 350 000 шт. цэглы |
| Кафлярня, "Нэшэр" | рухавік 7.5 к.с. | 4 печы абпалу | 30 | 4 | 268 | кафля, 288 000 шт. |
| Кафлярня "Танур" | - | 2 печы абпалу | 17 | 18 | 294 | кафля, 147 000 шт. |
| Кафлярня Шпількоўскага | - | 2 печы абпалу | 25 | 26 | - | кафля, 142 000 шт. |
| Вытворчасць віна і мёду | - | 1 прэс, 1 кацёл, фільтры | 1 | 2 | - | пладовае віно - 2940 л., мёд - 2000 л. |
| Бровар Папірмайстра | паравая машына 48 к.с., дынама 12 к.с. | няма звестак | 18 | 19 | 291 | 7060 гкт. л. піва |

376. Slowo № 221(4427) 13 sierpnia 1936.
377. Kurjer Wilenski № 171(4133) 24 czerwca 1937.
378. Ziemia Lidzka №5-1936.
379. Kurjer Wilenski № 185(4148) 8 lipca 1937.
380. Kurjer Wilenski № 186(4149) 9 lipca 1937.
381. Kurjer Wilenski № 175(4493) 28 czerwca 1938.
382. Kurjer Wilenski № 199(4875) 21 lipca 1939.
383. Уладальнікам кінатэатра "Эдысон" быў Самуэль Левін, "Эры" - Тамашэвіч, "Маленькае" - Яблонскі.
384. Kurjer Wilenski № 86(4048) 30 marca 1937.
385. Цехановіч Лех, Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі летапісец № 4(32)-2005. С. 31.
386. Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 58.
387. Kurjer Wilenski № 213(4176) 5 sierpnia 1937.
388. Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида. 1995. С. 81.
389. Загідулін А.М. Ліда і Лідчына ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай (1921-1939 гг.) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 135.
390. Шубраўцы, сябры літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, якое існавала ў Вільні ў 1817-1822.
391. Kurjer Wilenski № 119(4081) 2 maja 1937.
392. Slowo № 223(4429) 15 sierpnia 1936.
393. Kurjer Wilenski № 54(4016) 24 lutego 1938.
394. Kurjer Wilenski № 58(4020) 28 lutego 1937.
395. Там жа.
396. Рэдута (Reduta) - эксперыментальны тэатр-лабараторыя, існаваў з 1919 па 1939 гг. У 1925 г. тэатр з Варшавы пераехаў у Вільню, размяшчаўся ў тэатры на Пагулянцы, у 1931 г. вярнуўся ў Варшаву.
397. Kurjer Wilenski № 104(4066) 17 kwietnia 1937.
398. Kurjer Wilenski № 132(4450) 15 maja 1938.
399. Сапраўднае імя і прозвішча Богдан Эжэн Жюно (па-польску Eugeniusz Bodo; род. 28 снежні 1899 г. ў Жэневе - памёр 7 лістапада 1943 года ў Котласе Архангельскай вобласці) - польскі кінаакцёр, эстрадны артыст, рэжысёр, сцэнарыст, танцор, спявак, канферансэ і прадзюсар.
З 1917 пачаў выступаць у якасці спевака і танцора на сцэне Познанскага, а з 1919 - Варшаўскага рэвю ў вядомых сталічных кабарэ. У 1925 дэбютаваў у кіно, зняўшыся ў фільме "Rywale", і з гэтага моманту ён пачаў заваёўваць у гледачоў сваю велізарную папулярнасць. Усяго Бадо выканаў ролі ў больш, чым 30 фільмах. Выступаў на экране ў ролі героя - палюбоўнікаў, здымаўся ў трагічных, камедыйных і музычных фільмах. Стаў "зоркай" польскага кіно міжваеннага перыяду. Валодаючы добрым голасам, часта спяваў у фільмах і яго песні адразу ж станавіліся шлягерамі. У 1932 г. ён атрымаў тытул неафіцыйнага караля польскіх акцёраў, а ў 1936 г. - караля стылю.
Незадоўга да пачатку Другой Сусветнай вайны пачаў пісаць кінасцэнарыі і рэжысаваць фільмы, у якіх ён граў галоўныя ролі.
Увесну 1939 г. адкрыў у Варшаве прэстыжнае "Кафэ Бадо". Падчас нямецкага ўварвання ў Польшчу і абароны Варшавы арганізоўваў канцэрты для салдат і грамадзянскага насельніцтва сталіцы.
Падчас нямецкай акупацыі ў той час, калі тэатры і кінакампаніі Варшавы былі зачыненыя, ён працягваў працу свайго кафэ, у асноўным, з мэтай матэрыяльнай падтрымкі іншых вядомых польскіх артыстаў.
Неўзабаве ён пераехаў у Львоў. Свабодна валодаючы рускай мовай, уладкаваўся канферансэ і пачаў выступаць у тэатральным калектыве "Тэа-джаз" Генрыка Варса, рабіў грамзапісы сваіх песень на рускай мове (запісы захаваліся). Гастраляваў па СССР. Пасля вяртання з адной з паездак па Саюзе, вырашыў эміграваць у ЗША і падрыхтаваў неабходныя для гэтага дакументы. У чэрвені 1941 г. Яўген Бадо быў арыштаваны НКУС. Утрымліваўся некаторы час у перасыльных турмах Уфы і Масквы. Пра яго вызваленне безвынікова завіхаліся польскія эміграцыйныя ўлады. Пасля Масквы быў адпраўлены ў лагер у Котласе, дзе паводле архіўных звестак памёр ад знясілення і голаду 7 лістапада 1943. У 1938 г. Я. Бадо быў узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі з мячамі.
2 кастрычніка 2011 года ў Котласе на мемарыяльных могілках Макарыха быў адкрыты помнік Я. Бадо.
400. Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 59.
401. Іда Камінская (Ida Kaminska, 1899-1980) - польская акторка. Нарадзілася ў Адэсе 18 верасня 1899 г. у сям'і акцёраў яўрэйскага тэатра на мове ідыш. Яе маці, Эстэр-Рухл Камінская была знакамітай актрысай, бацька - Аврум-Іцхак Камінскі - тэатральным акцёрам, рэжысёрам і прадзюсерам. Іда была сястрой музыканта Юзафа Камінскага і стрыечнай сястрой акцёра Дэні Кея. Тэатральную кар'еру Іда пачала ў 1904 годзе ва ўзросце пяці гадоў. На кінаэкранах яна дэбютавала ў 1912 г. ў польскім фільме, дзе таксама здымаліся яе маці і сястра. За ўсю сваю кар'еру ў кіно яна з'явілася толькі ў 11 фільмах, і толькі адзін з іх прынёс ёй вядомасць. У 1965 г. Камінская знялася ў чэхаславацкім фільме "Крама на плошчы", роля ў якім прынесла ёй ў 1966 г. намінацыю на прэмію "Оскар" у якасці лепшай актрысы.
Іда Камінская ўгаравана шэрагам нацыянальных польскіх узнагарод, у ліку якіх ордэн Адраджэння Польшчы 4 ступені, ордэн "Сцяг Працы" 1 ступені, ордэн "Сцяг Працы" 2 ступені, медаль "10-годдзе Народнай Польшчы" і медаль "1000-годдзя Польшчы".
Апошні раз у кіно яна з'явілася ў 1970 г., пасля чаго працягвала тэатральную кар'еру, шмат гастралюючы па свеце. Іда Камінская памерла ў Нью-Ёрку 21 траўня 1980 г. ад сардэчна-сасудзістай хваробы.
402. Kurjer Wilenski № 217(4534) 9 sierpnia 1939.
403. Kurjer Wilenski № 28(4704) 28 stycznia 1939.
404. Ziemia Lidzka №8-1939.
405. Цехановіч Лех, Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі летапісец № 4(32)-2005. С. 29.
406. Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида. 1995. С. 80.
407. Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 91, 123.
408. Kurjer Wilenski № 195(4158) 18 lipca 1937.
409. Саітава В.І. Краязнаўчая работа ў Лідзе 20-30-я гг. // Бібліятэчны свет. № 3-1999. С. 22-23.
410. Kurjer Wilenski № 316(4276) 17 listopada 1937.
411. Ziemia Lidzka № 11-1938.
412. Ziemia Lidzka №1-1936.
413. Ziemia Lidzka №3-2008.
414. Kurjer Wilenski № 172(4134) 25 czerwca 1937.
415. Kurjer Wilenski № 255(4218) 16 wrze?nia 1937.
416. Ziemia Lidzka №3-1937.
417. Kurjer Wilenski № 345(4305) 16 grudnia 1937.
418. Kurjer Wilenski № 59(4377) 1 marca 1938.
419. Slowo № 142(4706) 25 maja 1937.
420. Kosciol farny w Mirze. Szkic monograficzny 1587-1937. Lida, Nakladem "Ziemi Lidzkiej". 1937.
421. Kurjer Wilenski № 239(4202) 31 sierpnia 1937.
422. Ziemia Lidzka №6-7-1937.
423. Kurjer Wilenski № 338(4298) 9 grudnia 1937.
424. Ziemia Lidzka № 12-1937.
425. Там сама.
426. Мечыслаў Ліманоўскі (Mieczyslaw Limanowski, 1876-1948). Прафесар Віленскага ўніверсітэта, геолаг, заснавальнік, рэжысёр і літаратурны кіраўнік тэатра "Рэдута".
427. Slowo № 42(4966) 12 maja 1938.
428. Kurjer Wilenski № 19(4337) 20 stycznia 1938.
429. ППВ (PPW, Pocztowe Przysposobienie Wojskowe) - арганізацыя вайсковай падрыхтоўкі паштовых работнікаў.
430. Kurjer Wilenski № 26(4344) 27 stycznia 1938.
431. Kurjer Wilenski № 123(4441) 6 maja 1938.
432. Slowo № 182(5464) 5 lipca 1939.
433. Slowo № 28(5310) 29 stycznia 1939.
434. Kurjer Wilenski № 126(4444) 9 maja 1938.
435. Kurjer Wilenski № 77(4395) 19 marca 1938.

436. Ziemia Lidzka № 5-6-1938.
437. Jan Duchnowski. Miasto walczacego idealu. Szkic kierunkow ideologicznych Wilna w czasach dawniejszych i terazniejszosci. Lida, Nakladem "Ziemi Lidzkiej". 1938.
438. Kurjer Wilenski № 217(4534) 9 sierpnia 1938.
439. Wladyslaw Abramowicz. Strony Nowogrodzkie. Szkice Krajonawcze z 25 ilustracjami. Lida, Nakl. wyd. "Ziemi Lidzkiej". 1938.
440. Slowo № 170(5094) 23 czerwca 1938.
441. Kurjer Wilenski № 178(4496) 1 lipca 1938.
442. Kurjer Wilenski № 261(4579) 23 wrze?nia 1938.
443. Ziemia Lidzka № 9-1938.
444. Kurjer Wilenski № 289(4607) 21 pazdziernika 1938.
445. Ziemia Lidzka № 11-1938.
446. Kurjer Wilenski № 352(4670) 23 grudnia 1938.
447. Kurjer Wilenski № 31(4707) 31 stycznia 1939.
448. Kurjer Wilenski № 75(4751) 16 marca 1939.
449. Kurjer Wilenski № 78(4040) 29 marca 1937.
450. Kurjer Wilenski № 105(4423) 16 kwietnia 1938.
451. Kurjer Wilenski № 148(4824) 31 maja 1939.
452. Хацяновіч Наталя. Лідскі гістарычна-мастацкі музей // Лідскі летапісец №3-4(47-48) - 2009. С. 16.
453. Wiktoria Alipenkowa. Wladyslaw Abramowicz. Proba zarysu monograficznego. Wilno, 2009. S. 10.
454. Kurjer Wilenski № 152(4828) 4 czerwca 1939.
455. Slowo № 208(5132) 1 sierpnia 1938.
456. Slowo № 212(5136) 4 sierpnia 1938.
457. Kurjer Wilenski № 13(4689) 13 stycznia 1939.
458. Kurjer Wilenski № 4(4680) 4 stycznia 1939.
459. Kurjer Wilenski № 86(4764) 29 marca 1939.
460. Jozef Dziczkaniec. Samoobrona ziemi Lidzkiej. Lida, Nakl. Wyd. "Ziemi Lidzkiej". 1939.
461. Kurjer Wilenski № 121(4797) 3 maja 1939.
462. Slowo № 123(5405) 6 maja 1939.
463. Slowo № 131(5413) 14 maja 1939.
464. Kurjer Wilenski № 193(4869) 15 lipca 1939.
465. Kurjer Wilenski № 155(4831) 7 czerwca 1939.
466. Kurjer Wilenski № 191(4867) 13 czerwca 1939.
467. Kurjer Wilenski № 162(4838) 14 czerwca 1939.
468. Kurjer Wilenski № 189(4865) 11 lipca 1939.
469. Kurjer Wilenski № 216(4892) 7 sierpnia 1939.
470. Kurjer Wilenski № 217(4893) 8 sierpnia 1939.
471. Slowo № 220(5502) 12 sierpnia 1939.
472. Niewiero Florian. Historia kosciola parafilnego w Zyrmunach (1522-1624-1788-1938). Lida, Nakl. Wyd. "Ziemi Lidzkiej". 1939.
473. Slowo № 231(5513) 23 sierpnia 1939.
474. Цехановіч Лех, Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі Летапісец № 4(32)-2005. С. 33.
475. Ziemia Lidzka № 6-7-1937.
476. Ziemia Lidzka № 11-1937.
477. Ziemia Lidzka № 12-1937.
478. Slowo № 317(4277) 18 listopada 1937.
479. Ziemia Lidzka № 10-1938.
480. Kurjer Wilenski № 78(4396) 20 marca 1938.
481. Kurjer Wilenski № 40(1383) 10 lutego 1939.
482. Slowo № 6(4570) 7 stycznia 1936.
483. Kurjer Wilenski № 122(3723) 4 maja 1936.
484. Slowo № 131(4337) 13 maja 1936.
485. Kurjer Wilenski № 156(3757) 8 czerwca 1936.
486. Kurjer Wilenski № 199 (3800) 22 lipca 1936.
487. Slowo № 113(4677) 26 kwietnia 1937.
488. Kurjer Wilenski № 119(4081) 2 maja 1937.
489. Slowo № 119(4683) 2 maja 1937.
490. Kurjer Wilenski № 120(4438) 3 maja 1938.
491. Kurjer Wilenski № 122(4440) 5 maja 1938.
492. Kurjer Wilenski № 149(4467) 1 czerwca 1938.
493. Kurjer Wilenski № 186(4504) 9 lipca 1938.
494. Kurjer Wilenski № 300(4618) 1 listopada 1938.
495. Kurjer Wilenski № 309(4627) 10 listopada 1938.
496. Slowo № 131(5413) 14 maja 1939.
497. Kurjer Wilenski № 152(4828) 4 czerwca 1939.
498. Стасевіч-Ясюкова Ірэна. Пра Марыю Стасевіч - маю маці - успаміны // Лідскі летапісец №4(60)-2012. С. 55.
499. Kurjer Wilenski № 96(3597) 6 kwietnia 1936.
500. Цехановіч Лех, Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі летапісец № 4(32)-2005. С. 29-34.
501. Kurjer Wilenski № 15(4333) 16 stycznia 1938.
502. Ciechanowicz Lech, Ryszard Mierzwa. Dawnej Kamionce i ulicy Trzeciego Maja // Ziemia Lidzka №67-2005.
503. Naruszewicz Wl. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 97.
504. Kurjer Wilenski № 275(4236) 6 pazdziernika 1937.
505. Kurjer Wilenski № 74(4392) 16 marca 1938.
506. Kurjer Wilenski № 151(4113) 2 czerwca 1937.
507. Kurjer Wilenski № 270(4588) 2 pazdziernika 1938.
508. Стасевіч-Ясюкова Ірэна. Пра Марыю Стасевіч - маю маці - успаміны // Лідскі летапісец №4(60)-2012. С. 55.
509. Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида. 1995. С. 31, 93.
510. Kurjer Wilenski № 151(4113) 4 czerwca 1937.
511. Slowo № 266(4830) 26 wrzesnia 1937.
512. Kurjer Wilenski № 111(4429) 24 kwietnia 1938.
513. Мельнікаў Ігар. Польскае радыё ў Заходняй Беларусі // Новы Час http://novychas.info/hramadstva/poljskaje_ radyjo_u_ zachodniaj
514. Slowo № 106(5388) 19 kwietnia 1939.
515. Slowo № 103(5385) 15 kwietnia 1939.
516. Мельнікаў Ігар. Польскае радыё ў Заходняй Беларусі // Новы Час http://novychas.info/hramadstva/poljskaje_ radyjo_u_ zachodniaj
517. Kurjer Wilenski № 32(3994) 2 lutego 1937.
518. Kurjer Wilenski № 225(4542) 18 sierpnia 1938.
519. Kurjer Wilenski № 302(4262) 3 listopada 1937.
520. Kurjer Wilenski № 303(4621) 4 listopada 1938.
521. Kurjer Wilenski № 136(4812) 18 maja 1939.
522. Slowo № 33(4240) 3 lutego 1936.
523. Slowo № 194(4400) 17 lipca 1936.
524. Slowo № 108(4314) 20 kwietnia 1936.
525. Slowo № 53(4617) 23 lutego 1937.
526. Slowo № 358(4922) 29 grudnia 1937.
527. Slowo № 121(4327) 3 maja 1936.
528. Kurjer Wilenski № 222(4539) 14 sierpnia 1938.
529. Slowo № 85(4292) 26 marca 1936.
530. Slowo № 194(4400) 17 lipca 1936.
531. Kurjer Wilenski № 256(4218) 17 wrzesnia 1937.
532. Slowo № 220(4426) 12 sierpnia 1936.
533. Slowo № 221(4427) 13 sierpnia 1936.
534. Kurjer Wilenski № 254(4217) 15 wrzesnia 1937.
535. Kurjer Wilenski № 316(4276) 17 listopada 1937.
536. Kurjer Wilenski № 331(4291) 2 grudnia 1937.
537. Kurjer Wilenski № 285(4245) 16 pazdziernika 1937.
538. Kurjer Wilenski № 289(4249) 20 pazdziernika 1937.
539. Kurjer Wilenski № 318(4278) 19 listopada 1937.
540. Kurjer Wilenski № 67(4029) 9 marca 1937.
541. Kurjer Wilenski № 68(4030) 10 marca 1937.
542. Kurjer Wilenski № 67(4029) 9 marca 1937.
543. Kurjer Wilenski № 258(4220) 19 wrzesnia 1937.
544. Kurjer Wilenski № 330(4290) 1 grudnia 1937.
545. Kurjer Wilenski № 219(4182) 11 sierpnia 1937.
546. Kurjer Wilenski № 312(4272) 13 listopada 1937.
547. Kurjer Wilenski № 214(4177) 6 sierpnia 1937.
548. Kurjer Wilenski № 219(4182) 11 sierpnia 1937.
549. Kurjer Wilenski № 248(4211) 9 wrzesnia 1937.
550. Kurjer Wilenski № 203(4166) 26 lipca 1937.
551. Kurjer Wilenski № 251(4570) 14 wrze?nia 1938.
552. Kurjer Wilenski № 214(4177) 6 sierpnia 1937.
553. Kurjer Wilenski № 325(4285) 26 listopada 1937.
554. Kurjer Wilenski № 163(4482) 17 czerwca 1938.
555. Slowo № 164(5088) 18 czerwca 1938.
556. Kurjer Wilenski № 234(4197) 26 sierpnia 1937.
557. Kurjer Wilenski № 278(4239) 9 pazdziernika 1937.
558. Kurjer Wilenski № 232(4195) 24 sierpnia 1937.
559. Kurjer Wilenski № 240(4203) 1 wrzesnia 1937.
560. Kurjer Wilenski № 299(4259) 30 pazdziernika 1937.

561. Kurjer Wilenski № 64(4382) 6 marca 1938.
562. Kurjer Wilenski № 204(4167) 27 lipca 1937.
563. Kurjer Wilenski № 71(4389) 13 marca 1938.
564. Kurjer Wilenski № 254(4217) 15 wrzesnia 1937.
565. Kurjer Wilenski № 82(4400) 24 marca 1938.
566. Kurjer Wilenski № 88(4406) 30 marca 1938.
567. Kurjer Wilenski № 261(4223) 22 wrzesnia 1937.
568. Slowo № 196(4402) 19 lipca 1936.
569. Kurjer Wilenski № 339(4299) 10 grudnia 1937.
570. Slowo № 205(4411) 28 lipca 1936.
571. Kurjer Wilenski № 226(4189) 18 sierpnia 1937.
572. Slowo № 136(5418) 19 maja 1939.
573. Slowo № 247(4453) 9 wrzesnia 1936.
574. Kurjer Wilenski № 28(3990) 29 stycznia 1937.
575. Kurjer Wilenski № 95(3696) 5 kwietnia 1936.
576. Slowo № 166(4372) 18 czerwca 1936.
577. Kurjer Wilenski № 228(4191) 20 sierpnia 1937.
578. Kurjer Wilenski № 304(4264) 5 listopada 1937.
579. Kurjer Wilenski № 186(3787) 9 lipca 1936.
580. Slowo № 101(5383) 14 kwietnia 1939.
581. Slowo № 230(4436) 22 sierpnia 1936.
582. Slowo № 273(4837) 3 pazdziernika 1937.
583. Kurjer Wilenski № 222(3823) 14 sierpnia 1936.
584. Slowo № 162(4368) 14 czerwca 1936.
585. Kurjer Wilenski № 192(4155) 15 lipca 1937.
586. Kurjer Wilenski № 136(4098) 20 maja 1937.
587. Kurjer Wilenski № 299(4259) 30 pazdziernika 1937.
588. Slowo № 64(4988) 7 marca 1938.
589. Kurjer Wilenski № 92(4410) 3 kwietnia 1938.
590. Kurjer Wilenski № 95(4413) 6 kwietnia 1938.
591. Kurjer Wilenski № 179(4142) 2 lipca 1937.
592. Kurjer Wilenski № 227(4190) 19 sierpnia 1937.
593. Kurjer Wilenski № 231(4194) 23 sierpnia 1937.
594. Kurjer Wilenski № 217(4534) 9 sierpnia 1938.
595. Kurjer Wilenski № 237(4555) 30 sierpnia 1938.
596. Slowo № 203(5485) 26 lipca 1939.
597. Slowo № 22(4229) 23 stycznia 1936.
598. Kurjer Wilenski № 192(3793) 15 lipca 1936.
599. Kurjer Wilenski № 256(3857) 18 wrzesnia 1936.
600. Kurjer Wilenski № 264(3865) 26 wrzesnia 1936.
601. Slowo № 240(4446) 1 wrzesnia 1936.
602. Slowo № 241(4447) 2 wrzesnia 1936.
603. Kurjer Wilenski № 133(4096) 16 i 17 maja 1937.
604. Kurjer Wilenski № 192(3793) 15 lipca 1936.
605. Kurjer Wilenski № 279(4240) 10 pazdziernika 1937.
606. Kurjer Wilenski № 157(4475) 10 czerwca 1938.
607. Kurjer Wilenski № 246(4564) 8 wrzesnia 1938.
608. Kurjer Wilenski № 347(4665) 18 grudnia 1938.
609. Slowo № 144(5426) 27 maja 1939.
610. Лаўрэш Л. Круцікаў У. Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках. Ліда. 2001. С. 7.
611. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
612. Ziemia Lidzka. № 9-1936.
613. Odlanicki-Poczobutt S. Wojewodztwo Nowogrodzkie. Wilno. 1936. S. 57.
614. Ciehanowicz Lech. Przemysl gumowy "Ardal" S.A. // Zemia Lidzka. № 36. 1999.
615. Codzienna Gazeta Handlowa №270, 26 listopada 1938.
616. Там жа.
617. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
618. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
619. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1032.
620. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
621. Kurjer Wilenski № 239(4202) 31 sierpnia 1937.
622. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
623. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1032.
624. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
625. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1033.
626. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu mitdzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
627. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1033.
628. Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.
629. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S.1032.
630. Ciehanowicz. Miasto Lida w 1938 roku // Zemia Lidzka. № 48. 2003.
631. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S.1033.
632. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S.1033.
633. Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S.1032.
634. Ciehanowicz. Miasto Lida w 1938 roku // Zemia Lidzka. № 48. 2003.
635. Slowo № 60(4267), 1 marca 1936.
636. Kurjer Wilenski № 128(4804) 10 maja 1939.
637. Kurjer Wilenski № 20(4338) 21 stycznia 1938.
638. Kurjer Wilenski № 50(4368) 20 lutego 1938.
639. Kurjer Wilenski № 54(4372) 24 lutego 1938.
640. Kurjer Wilenski № 340(4658) 11 grudnia 1938.
641. Kurjer Wilenski № 184(4147) 7 lipca 1937.
642. Kurjer Wilenski № 84(4402) 26 marca 1938.
643. Kurjer Wilenski № 92(4410) 3 kwietnia 1938.
644. Kurjer Wilenski № 196(4514) 19 lipca 1938.
645. Kurjer Wilenski № 91(4409) 2 kwietnia 1938.
646. Kurjer Wilenski № 105(4423) 16 kwietnia 1938.
647. Slowo № 308(4872), 7 listopada 1937.
648. Kurjer Wilenski № 84(4402) 26 marca 1938.
649. Kurjer Wilenski № 50(4723) 19 lutego 1939.
650. Там жа.
651. Лаўрэш Л. Прамысловасць горада Ліда ў 1920-30-я гг. // Працэсы ўрбанізацыі ў Беларусі ў XIX - пачатку XXI ст.: зб. навук. арт. Гродна, 2010. С. 187-188.
652. Kurjer Wilenski № 171(4133) 24 czerwca 1937.
653. Kurjer Wilenski № 207(4170) 30 lipca 1937.
654. Kurjer Wilenski № 205(4168) 28 lipca 1937.
655. Kurjer Wilenski № 209(4172) 1 sierpnia 1937.
656. http://pulman.livejournal.com/495608.html
657. Гл:
658. Па Версальскай мірнай дамове горад Гданьск са сваёй акругай быў абвешчаны вольным горадам і перадазены Польшчы разам з выхадам да Балтыйскага мора. У Гданьску было асобнае самакіраванне, асобная паліцыя і т.д. Гданьскі (Данцыгскі) калідор адразаў Усходнюю Прусію ад астатняй часткі Германіі паласой, працягласцю да 230 км і шырынёй 30-200 км.
659. Kurjer Wilenski № 89(4765) 30 marca 1939.
660. Kurjer Wilenski № 109(4785) 21 kwietnia 1939.
661. Slowo № 130(5412) 13 maja 1939.
662. Slowo № 86(5368) 28 marca 1939.
663. Slowo № 181(5479) 12 lipca 1939.
664. Slowo № 157(5439) 10 czerwca 1939.
665. Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида. 1995. С. 93-94.
666. Slowo № 186(5468) 9 lipca 1939.
667. Szymielewicz Michal. Miasto Lida w 1938 roku // Ziemia Lidzka №11-1938.
668. Zmigrodzki Jozef. Uroczystosci w 75-lecie powstania styczniowego w Lidzie // Ziemia Lidzka №5-6-1938.
669. Западная Белоруссия. Статистический справочник. Минск, 1939. С. 67-70 .100.
670. Nowogrodzki Dziennik Wojewodzki. №23, 15 grudnia 1936. S. 190-192.

# РАДАВОД СЯМ'І СТОЛЕ

### *УВОДЗІНЫ*

Гісторыю ствараюць людзі: вядомыя і малавядомыя. Яны - нашы гонар і слава. Трэба толькі зразумець і ўсвядоміць, што кожны чалавек - гэта кніга, асобная планета. Гонар і слава Бярозаўкі - імёны заснавальнікаў гутнай вытворчасці ў нашым краі Зянона Ленскага, Вільгельма Краеўскага, Юліюса Столе, Браніслава і Фелікса Столе… Гісторыя сям'і апошніх - легендарная старонка гісторыі Лідчыны. Іх уклад у развіццё шклозавода "Нёман" і горада значны.

У аснову дадзенага даследавання пакладзена гісторыя роду сям'і Столе. Вывучэнне лёсу гэтай сям'і закладвае трывалы фундамент, на аснове якога будуецца суцэльная карціна грамадскага жыцця цэлага рэгіёна.

Я вырашыла прыўзняць завесу невядомасці і расказаць пра лёс мужчын і жанчын, якія ў складаны гістарычны перыяд змаглі не толькі выжыць, унесці важкі ўклад у развіццё горада і завода, але і пакінуць пасля сябе след. Прынёманскі край стаў радзімай для прадстаўнікоў славутага роду Столе, толькі гістарычныя абставіны прымусілі іх пакінуць наш край. Яны і сёння не парываюць сувязі, цікавяцца жыццём горада і завода, наведваюць родныя для іх мясціны.

Асаблівую цікавасць пры напісанні работы выклікалі матэрыялы сямейнага сайта Столе, успаміны Яніны Столе (Краеўскай), таксама Галіны Вініцкай, адной са старэйшых жыхарак нашага горада, лісты Дануты Столе-Гросфельд і Ўладзіслава Столе, архіўныя дакументы, а таксама вынікі працы краязнаўчага клуба "Пошук".

Гэта першая спроба сістэматызаваць матэрыял і скласці радавод заснавальнікаў сучаснага прадпрыемства "Нёман". Пры напісанні работы былі выкарыстаны наступныя метады даследавання: збор і апрацоўка інфармацыі, метад аналізу і сінтэзу, метад параўнання гістарычных фактаў.

Навізна даследавання ў тым, каб паказаць уклад у развіццё горада і завода не толькі Юліюса Столе, але і астатніх прадстаўнікоў гэтага славутага роду [Дадатак 8], якія з'яўляліся акцыянерамі фірмы "Столе і сыны" [Дадатак 7].

### *РАЗДЗЕЛ 1*

### ГЕНЕАЛАГІЧНЫЯ ТЭРМІНЫ

Генеалогія стагоддзямі выпрацоўвала нормы афармлення звестак аб родных у выглядзе разнастайных табліц, роспісаў, дасье, картак, устанаўлівала выразныя правілы запаўнення гэтых дакументаў: графіку, сімволіку, нумарацыю і г. д. Перш за ўсё падам азначэнне радаводу.

***Радавод*** - гэта пералік пакаленняў аднаго роду, які ўстанаўлівае паходжанне і ступень роднасці [7, с. 204].

Радавод можна аформіць у выглядзе дрэва, табліцы або роспісу.

#### 1.1. Радаводнае дрэва

Ва ўзыходным радаводзе пачынаюць з пэўнага чалавека, потым ідуць па ўзыходных прыступках або каленах да бацькі, дзеда, прадзеда і г. д., ад вядомага да невядомага [Дадатак 1, табліца 1].

У сыходным радаводзе пачынаюць з самага аддаленага з продкаў і паступова пераходзяць да нашчадкаў [Дадатак 1, табліца 2].

Мужчынскі сыходны радавод указвае ўсіх нашчадкаў родапачынальніка па мужчынскай лініі з указаннем імёнаў іх жонак.

Мужчынскі ўзыходны радавод выглядае як адна лінія, паколькі ў кожным пакаленні паказаны толькі адзін продак мужчынскага полу. Прозвішча ў мужчынскіх радаслоўях толькі адно.

Змешаны сыходны радавод паказвае ўсіх нашчадкаў родапачынальніка незалежна ад полу.

Змешаны ўзыходны радавод паказвае ўсіх продкаў па мужчынскай і жаночай лініі. У першым калене адзін чалавек, у другім - два, у трэцім - чатыры і г. д. у геаметрычнай прагрэсіі, прычым кожны чалавек належыць да іншага роду, так што ў чацвёртым калене прысутнічаюць прадстаўнікі васьмі родаў.

#### 1.2. Радаводная табліца

Радаводная табліца - гэта тое ж самае, што і радавод, толькі без усялякіх упрыгожванняў. Кожнае пакаленне размешчана строга па гарызанталі. Старшынство асоб у кожным пакаленні ідзе злева направа.

У гарызантальнай табліцы інфармацыя размяшчаецца злева направа: спачатку родапачынальнік або чалавек, чый радавод складаецца, затым слупкамі па пакаленнях усе яго продкі ці нашчадкі. Старэйшыя нашчадкі змешчаны зверху, і табліца чытаецца зверху ўніз.

Кругавыя табліцы выкарыстоўваліся ў англійскай і французскай генеалогіі. У цэнтры - чалавек, для якога складаўся радавод. Далей круг дзеляць напалам, у адной палове продкі па бацькоўскай лініі, у другой - па мацярынскай. Кругавыя табліцы бываюць толькі ўзыходнымі [Дадатак 1, табліца 3].

Кожнаму чалавеку ў табліцы прысвойваюць свой нумар.

#### 1.3. Радаводны роспіс

Радаводны роспіс - гэта пераказ табліцы, куды дабаўлены звесткі пра кожнае імя, пры гэтым указва-

ецца крыніца інфармацыі. Пры кожным імені з левага боку ставіцца нумар па парадку.

Такім чынам, важна не толькі сабраць звесткі пра пэўны род, але і належным чынам іх сістэматызаваць, каб арыентавацца ў іх здолеў не толькі той, хто займаўся гэтай працай, але і ўсе астатнія. Генеалагічная навука распрацавала пэўныя прыёмы, якія карысна ведаць. Спачатку трэба сабраць інфармацыю. Далей неабходна выбраць форму складання радаводу. Гэта можа быць дрэва, табліца ці роспіс. Дзеля эканоміі месца змяшчаць толькі асноўныя звесткі на схеме: імя, прозвішча, гады жыцця. Усю астатнюю інфармацыю можна прыкласці да схемы. Неабходна рабіць дакладныя спасылкі на ўсе архіўныя і друкаваныя крыніцы, з якіх узяты звесткі.

*РАЗДЗЕЛ 2*

## ГІСТОРЫЯ СЯМ'І СТОЛЕ

### 2.1. Аўгустын Столе і Ян Столе

Бярэ свой пачатак гісторыя сям'і Столле яшчэ з канца XVIII стагоддзя ў Паўночнай Чэхіі. Нараджаліся прадстаўнікі гэтай сям'і на тэрыторыі Польшчы (38%), Аргенціны (19%), Аўстраліі (15%), Украіны (8%), Беларусі (4%), ЗША (4%), Егіпта (4%), Італіі (4%), Казахстана (4%) [12].

Дзед Юліюса Столе, **Аўгустын Столе**, нарадзіўся ў 1793 годзе, пражыў кароткае жыццё - усяго 26 год. У 1819 годзе ажаніўся з Тарэсай Гедман (1798 - 1850). Памёр Аўгустын Столе, не дачакаўшыся нараджэння сына, Яна Аўгустына Столе.

**Ян Аўгустын** (1820 - 1890) - бацька Юліюса Столе. У 1844 годзе ажаніўся з Юліяй Гедман (1817 - 1906). Ян Аўгустын працаваў майстрам па роспісу шкла, пабудаваў прыгожы вялікі дом з агародам і садам на схіле гары ў Паўночнай Чэхіі. У сям'і нарадзілася шасцёра дзяцей, якія навучаліся мастацкаму майстэрству ў бацькоў. Пасля смерці мужа Юлія Столе (Гедман) пераехала жыць да старэйшага сына, Юліюса Столе, які ў гэты час ўжо актыўна развіваў гутную вытворчасць у нашым краі. Памерла Юлія Гедман у 1906 годзе, пахавана на могілках у Бярозаўцы (месцазнаходжанне магілы не вядома) [12].

### 2.2. Юліюс Аўгустынавіч Столе

**Юліюс Аўгустынавіч Столе** нарадзіўся ў 1855 годзе ў Паўночнай Чэхіі. У дваццацігадовым узросце Юліюс Столе эміграваў у Польшчу, дзе ажаніўся з **Юзэфай Лібіх** (немка па паходжанні). У 1879 годзе разам з малагадовым сынам Аўгустам пераехаў у Дзяцькава Бранскай губерні на крыштальны завод, які быў заснаваны сям'ёй Мальцавых, дзе пачаў працаваць мастаком па шкле, пазней стаў кіраўніком мастацкай майстэрні. Разам з ім працавалі яго сёстры: Іаанна, Юлія, Аўгустына, а таксама брат Генрых [4, с. 10 ].

У 1891 годзе Юліюс Столе разам з галоўным інжынерам Дзяцькаўскага завода, Вільгельмам Краеўскім, пераехалі ў Лідскі павет і арандавалі завод З.А. Ленскага, а ў 1894 годзе вырашылі заснаваць сваю вытворчасць па выпуску шкла. Спачатку - арандатары гуты "Нёман - А" З. А. Ленскага, а затым і сапраўдныя гаспадары. Пазней на беларускія землі перабраліся і іншыя члены сям'і Столе. Ім належалі не толькі шкляныя гуты "Нёман", а таксама гуты ў Барысаве і Ганцавічах. Гутнай вытворчасцю ў Ганцавічах (в. Ганцавічы ў Лідскім раёне) кіраваў Генрых Столе. Са шкляной вытворчасцю звязалі сваё жыццё і сёстры Юліюса Столе: Іаанна Шаль (Столе), Юлія Кадлец (Столе) і Аўгустына Рокас (Столе). Трэба адзначыць, на колькі цёплымі і добразычлівымі былі адносіны паміж членамі сям'і Столе [4, с. 12 ]. У 1905 годзе патануў у Нёмане Вільгельм Краеўскі. Праз чатыры гады фірма "KS" была канчаткова выкуплена Юліюсам Столе. Юліюс Столе выплаціў сям'і Краеўскага яго долю, якая пазней вярнулася да Столе ў выглядзе пасагу. Яніна Краеўская выйшла замуж за Браніслава Столе, а Станіслава Краеўская стала жонкай Фелікса Столе. Мая Краеўская была заручана з Эдвардам Столе (загінуў пад час польска-савецкай вайны пад Радзымінам, пахаваны на могілках у Бярозаўцы) [4, с. 12 ].

З 1923 года разам з Юліюсам Столе пачалі кіраваць і яго сыны: Браніслаў і Фелікс, фірма атрымала назву "Столе і сыны". Узнікла акцыянернае таварыства Ю. Столе "Нёман", членамі якога з'яўляліся прадстаўнікі сям'і Столе [11, ф. 9368].

У 1939 годзе капітал шкляной гуты Ю. Столе - "Нёман" - акцыянернага таварыства размяркоўваўся наступным чынам: Юзэфе Столе належала 401 акцыя, Браніславу Столе - 207 акцый, Яніне Столе - 192, Феліксу Столле - 271, Станіславе Столе - 195, Прыме Швыкоўскай - 24, Здзіславу Звяжынскаму - 36, Эміліі Звяжынскай - 237, Зоф'і Гажэланскай - 132, Юліі Лейтнекер - 45, Ядвізе Лейтнекер - 12 - усяго разам 1800 акцый. Аб'ём выраблены заводам прадукцыі склаў 1 600 000 злотых [11, ф. 9368].

Юліюс Столе быў добра знаёмы з сусветна вядомай чэшскай школай гутніцтва і паспяхова пераносіў яе тэхнічныя правілы і прыёмы, арганізацыйныя прынцыпы і элементы дызайну ў практыку працы свайго прадпрыемства. У прынёманскіх месцах ён правёў палову свайго жыцця, стараючыся стварыць прадпрыемства, вядомае сваімі вырабамі далёка за межамі гэтай мясцовасці. І гэта яму ўдалося.

У сям'і Юліюса і Юзэфы Столе было сямёра дзяцей [Дадатак 2]. Дочкі: Юлія, Эмілія і Зоф'я, сыны: Аўгуст (памёр у маленстве), Фелікс, Браніслаў і Эдвард. Пражывала сям'я Столе ў "Старым дворыку" (сёння дзіцячы сад-яслі). Трэба адзначыць, што дзеці ў сям'і Столле атрымалі добрую адукацыю за мяжой, таксама звязалі сваё жыццё з гутнай вытворчасцю нашага краю, працягвалі справы бацькі. Працавітасць і добрыя манеры паводзін прывіваліся ў сям'і з маленства. У сям'і Столе ўмелі не толькі працаваць, але і цікава адпачываць. Летам на канікулы прыязджалі ўнукі Юліюса і Юзэфы Столе. Цікава бавілі час:

адпачывалі на беразе Нёмана, каталіся на байдарках і каноэ, наладжвалі вандроўкі на Svіцязь, каталіся на спартыўных конях, гулялі ў тэніс, ставілі тэатральныя пастаноўкі і г. д. Сярод моладзі горада дзейнічала скаўцкая арганізацыя.

У 1927 годзе Юліюс Столе памёр, пахаваны на могілках г. Бярозаўкі. Юзэфа Столе пасля смерці мужа перасялілася да сына Фелікса ў "Новы дворык", працавала ў бібліятэцы. Пасля таго, як Юзэфа Столе не змагла хадзіць, яе вазіў у бібліятэку сабака, запрэжаны ў павозку. Сабака быў верны сваёй гаспадыні. Нават пасля таго, як яго не стала, у бібліятэцы пра яго напамінаў коўрык са шкуры сабакі. У 1939 годзе, напярэдадні Другой Сусветнай вайны, памерла Юзэфа Столе. На жаль, надпіс на магіле не паспелі зрабіць, пачалася вайна…

### 2.3. Браты і сёстры Юліюса Столе

**Ян Столе** - брат Юліюса Столе, памёр у Бярозаўцы ў веку 25-ці год.

**Іаанна Шаль (Столе)** (1853 - 1914 гг.) выйшла замуж за Караля Шаля. У сям'і нарадзілася 12 дзяцей. Караль працаваў майстрам аконнага шкла, Іаанна - спачатку мастаком па роспісу шкла на Дзяцькаўскім заводзе, затым на гуце "Нёман" у Бярозаўцы. Памерла Іаанна ў гады Першай Сусветнай вайны, пад час эвакуацыі ў Магілёве [ 12].

**Генрых Столе** (1860 - 1926 гг.) - уладальнік шкляных гут у Ганцавічах і Барысаве. У сям'і было шасцёра дзяцей. Пахаваны ў Ганцавічах. Лёс сям'і Генрыха Столе склаўся трагічна.

**Юлія Кадлец (Столе)** (1860 - 1922 гг.) пасля смерці мужа разам з дзвюма дочкамі прыехала да брата Юліюса ў Бярозаўку, дзе жыла і працавала мастаком па роспісу шкла. Пахавана на мясцовых могілках (месцазнаходжанне магілы не вядома) [12].

**Аўгустына Рокас (Столе)** - малодшая сястра Юліюса Столе. Выйшла замуж за Францішка Рокаса, працавала мастаком па роспісу шкла на Дзяцькаўскім заводзе. У 1886 годзе ў іх нарадзілася дачка Францішка. Пад час Першай Сусветнай вайны ў 1916 годзе ля Віцебска загінуў яе муж. Некаторы час жыла ў дачкі недалёка ад Мічурынска. Памерла Аўгустына ў 1919 годзе [ 12].

### 2.4. Дзеці, унукі і пляменнікі Юліюса Столе

**Юлія Лейтнекер** (Столе) (1880 - 1971 гг.) - старэйшая дачка Юліюса і Юзэфы Столе. У 1902 годзе выйшла замуж за Юзафа Лейтнекера, уладальніка фабрыкі кафлі для будаўніцтва печаў у Наваградку. У сям'і нарадзілася трое дзяцей: Ядвіга, Леапольд і Эдвард. Сям'я жыла ў "Старым дворыку" у Бярозаўцы. Юзаф Лейтнекер загінуў пад час Другой Сусветнай вайны. Пахавана ў Любліне на базыліянскіх могілках [ 12].

**Эдвард Лейтнекер** (1903 - 1991 гг.) - старэйшы сын Юліі і Юзафа, атрымаў вышэйшую адукацыю за мяжой, дыплом інжынера-хіміка. Да вайны працаваў на гуце "Нёман". Удзельнік Другой Сусветнай вайны, служыў у арміі генерала Андэрса, камандаваў батальёнам. З 1946 года ў Англіі. У гэтым жа годзе ажаніўся з **Марыяй Луізай Мугіні**. У 1948 годзе сям'я эмігравала ў Аргенціну. У іх сям'і нарадзілася пяцёра дзяцей, якія сёння жывуць у Аргенціне [12].

**Леапольд** (1904 - 1941 гг.) - сярэдні сын Юліі і Юзафа, атрымаў добрую адукацыю за мяжой, працаваў інжынерам-хімікам на заводзе. Ажаніўся з **Ганнай Краеўскай**, сям'я мела свой уласны дом у Бярозаўцы. У сям'і нарадзілася трое дзяцей. Пад час вайны быў падпаручнікам польскай арміі (29-ы полк лёгкай артылерыі), загінуў у Асвенцыме ў1941 годзе [12].

Пасля другой сусветнай вайны Ганна Лейтнекер змяніла прозвішча на Краеўскую, таму што Лейтнекер -прозвішча не польскага паходжання.

**Ядвіга** (1907 - 1971 гг.) - малодшая дачка Юліі і Юзафа, жыла ў "Старым дворыку" ў Бярозаўцы, пасля Другой Сусветнай вайны выехала ў Польшчу, жыла і працавала ў г. Лодзі. Пахавана ў Любліне [12].

**Эмілія Звяжынская** (1882 - 1948 гг.) - другая дачка Юліюса і Юзэфы Столе. У 1906 годзе быў заключаны шлюб Эміліі з палкоўнікам, доктарам медыцыны **Феліксам Звяжынскім**. Феліксу Звяжынскаму (1870 - 1938 гг.) належаў прыгожы мураваны палац каля Вільні. У 1908 годзе ў сям'і нарадзіўся сын Здзіслаў Звяжынскі. Ва ўзросце 67-мі год у 1938 годзе памёр Фелікс Звяжынскі. Эмілія пераджыла мужа на дзесяць год, памерла ва ўзросце 66-ці год. Пахаваныя каля маёнтка Гозіцэ, у сямейным склепе [12].

**Здзіслаў Звяжынскі** ( 1908 - 2003 гг.), атрымаў вышэйшую адукацыю ў Вільні. У 1934 годзе ажаніўся з **Янінай Буш**. Пасля Другой Сусветнай вайны сям'я пераехала жыць у Польшчу. У сям'і было чацвёра дзяцей, якія сёння жывуць і працуюць у Польшчы [12].

**Браніслаў Столе** (1881 - 1941гг.) - старэйшы сын Юліюса і Юзэфы Столе. У 1906 годзе ажаніўся з **Янінай Краеўскай**. У 1907 годзе ў сям'і нарадзіўся сын **Люцыян Столе**, памёр у 1913 годзе, пахаваны на могілках у Бярозаўцы. Немаўляткам памёр і другі сын, **Стэфан** (1910 - 1911 гг), пахаваны таксама ў Бярозаўцы, разам з братам. У 1911 годзе нарадзілася дачка **Яніна (Інка) Алмасі (Столе)**. З 1923 па 1939 год Браніслаў - камерцыйны дырэктар, займаўся пошукам рынкаў збыту, бываў у шматлікіх паездках, прывозіў неабходную інфармацыю і прапановы. Сям'я пражывала ў прыгожым асабняку "Белы дворык". 28 верасня 1939 года арыштаваны службай НКУС і абвінавачаны ў прапагадзе контррэвалюцыі супраць СССР і камуністычнай партыі. Згодна з рашэннем Спецыяльнай Камісіі пры НКУС СССР ад 29.11.1940 Браніслаў быў сасланы ў лагер ў Плецк пад Архангельск на 8 гадоў і ў 1941 годзе расстраляны [10, ВЕВ - 6051 - 99(4)108]. Згодна з апублікаванай працай С. Кальбарчыка "Спіс савецкіх лагераў - месцаў прымусовай працы грамадзян Польшчы ў 1939 - 1943 г. *"памёр у 1941 Столе, уладальнік гуты Нёман ў ваколіцах Ліды"* [5, с. 209 ]. 14 красавіка 1989 года быў рэабілітаваны [10, ВЕВ - 6051 - 99(4)108].

У ноч на 20 жніўня 1941 года разам з сям'ёй была арыштавана службай НКУС у Бярозаўцы і **Яніна Столе (Краеўская)**. Адбывала ссылку ў працоўным лагеры на ўсходнім беразе Енісея. Там яна працавала на лесанарыхтоўцы. 10 траўня 1946 года вярнулася ў Польшчу. Жыла і працавала ў Лодзі. Пражыла 97 год, памерла ў 1982 годзе, пахавана на могілках у Лодзі. Пакінула ўспаміны: *1939 - 1941 гады*, запісаныя пляменніцай Ганнай Міхальскай (Швыкоўскай) [Дадатак 4].

**Яніна Алмасі (Столе)** (1911- 2000 гг.) - дачка Браніслава і Яніны Столе. Нарадзілася ў Бярозаўцы каля Нёмана. У 1937 годзе выйшла замуж за Ёзафа Алмасі, а 8 кастрычніка 1938 года маладыя эмігруюць ў Венгрыю. У іх сям'і нарадзілася чацвёра дзяцей . У 1948 годзе сям'я эмігруе ў ЗША, жывуць у Нью-Ёрку. 18 жніўня 1989 года сям'ю спасцігае гора: памірае Ёзаф Алмасі ад інсульту. А Яніны Алмасі не стала 3 снежня 2000 года. Пахавана на могілках Святога Адкупіцеля ў Нью-Ёрку[12].

**Фелікс Столе** нарадзіўся 27 ліпеня 1888 года ў мястэчку Дзяцькава Бранскага павета Арлоўскай губерні ў сям'і Юліюса Столе і Юзэфы з роду Лібіхаў [9]. Вучыўся ў рэальнай школе ў Вільні, скончыў сем класаў у 1906 годзе. У школе наведваў гурток самавыхавання польскай моладзі, удзельнічаў у школьных забастоўках у 1904 годзе на свята Святога Казіміра і пад час рэвалюцыйных беспарадкаў у 1905 годзе. Затым чатыры семестры вучыўся ў політэхнічным універсітэце ў г. Анхальт у Нямеччыне. З 12 снежня 1909 года па 21 верасня 1910 года служыў у 28-ым Сібірскім стралковым палку ў Іркуцку. 1 чэрвеня 1910 года атрымаў званне капрала, 28 верасня 1910 года здаў экзамен на званне афіцэра ў 7-ай Сібірскай дывізіі. 14 жніўня 1913 года ў Кафедральным Рымска-каталіцкім парафіяльным касцёле ў Менску бярэ шлюб са **Станіславай Столе (Краеўскай)** [9] .

1 жніўня 1914 года быў прызваны ў рускую армію, дзе і служыў да 26 сакавіка 1916 года ў званні лейтэнанта, спачатку ў эвакуацыйнай камісіі ў Полацку, затым на 127-м эвакуацыйным пункце прыфрантавой тэрыторыі, пазней служыў у 20-ым стралковым палку ў 13-ай роце. Пад час службы ў рускай арміі належаў да Саюза польскіх ваенных 3-га армейскага рускага корпуса. 15 чэрвеня 1914 года нараджаецца ў іх сям'і дачка **Прыма** (прозвішча па мужу **Швыкоўская**). З 15 жніўня 1917 года па 1чэрвеня 1918 года займаў пасаду камандзіра ў аддзеле конных войск 2-га стралковага палка 1-га польскага корпуса на Усходзе [10, ф.3258]. Да 1920 года працаваў у Вільні ў Асацыяцыі самаадукацыі і ўзаемнай дапамогі польскай моладзі. У гэтым жа годзе звяртаецца да вышэйшых інстанцый з просьбай прызначыць дабраахвотнікам у польскую армію для ўдзелу ў абароне польскай мяжы. Служыў у польскай арміі з 1 ліпеня 1920 года па 26 студзеня 1921 года ў кавалерыйскім палку. Прайшоў курс карабінераў з адзнакай "вельмі добра" з кваліфікацыяй інструктара, потым служыў у якасці камандзіра звяза 3-га эскадрона 201-га палка добраахвотнікаў-кавалерыстаў. 31 студзеня 1921 года быў адпраўлены ў рэзерв па загаду Вярхоўнага камандавання аб афіцэрах добраахвотніках [ВЕВ - 6051 - 99(4)108].

Быў адзначаны:

- ордэнамі Св. Станіслава і Св. Ганны III ступені ў расейскім войску;
- муаравай стужкай Ганаровага Легіёна I Польскага корпуса на Ўсходзе;
- крыжам "Virtuti Militari" 5 класа, прысвоеным загадам L.9926/V 23 кастрычніка 1920 г. камандаваннем VI польскай арміі;
- крыжам "Walecznych", прысвоеным загадам № 9687/22 1 чэрвеня 1922 г. кіраўніцтвам Міністэрства вайсковых спраў [ВЕВ - 6051 - 99(4)108].

З лютага 1921 года да верасня 1939 года працаваў у шкляных гутах Юліюса Столе "Нёман" у Бярозавым гаі ў Лідскім павеце Навагр್адскага ваяводства. З 1923 года прызначаны тэхнічным дырэктарам гуты "Нёман". 31 студзеня 1927 года ў сям'і нараджаецца сын **Лех Пётр Столе**. У 1933 годзе Фелікс абраны старшынём пажарнай бяспекі на шклозаводзе "Нёман". 4 верасня 1937 года ў Рымска-каталіцкай парафіі ў Бярозаўцы бярэ шлюб яго дачка Прыма з Андрэем Швыкоўскім. Сям'я Фелікса Столе пжыла ў прыгожым доме "Новым дворыку" (сёння размешчана школа мастацтваў) [9] .

28 верасня 1939 года быў арыштаваны службай НКУС [Дадатак 3]. Спачатку знаходзіўся ў турме ў Лідзе, затым быў дастаўлены ў Баранавіцкую турму. Да чэрвеня 1941 года ў турме яго наведвала жонка, Станіслава Краеўская, 8 чэрвеня 1941 года яна прыбыла апошні раз у турму, Фелікса Столе тут ужо не было. 23 чэрвеня 1941 года Баранавічы былі абстраляны з паветра нямецкімі бамбардзіроўшчыкамі, магчыма, тады і загінуў Фелікс Столе. Савецкія ўлады эвакуацыі з Баранавіцкай турмы не праводзілі. Прычына, абставіны і месца смерці Фелікса Столе застаюцца невядомымі [9, R - VI/TZ/1570].

**Станіслава Столе (Краеўская)** - жонка Фелікса Столе, нарадзілася 12 студзеня 1891 года ва Ўстроні. У 1910-1913 гадах вучылася ў Кракаве, пасля закончыла гімназію ў Менску, а затым на падставе спецыяльнага іспыту атрымала патэнт настаўніка ў Маскве. 14 жніўня 1913 года ў Кафедральным Рымска-каталіцкім касцёле ўзяла шлюб з Феліксам Столе. У ноч на 20 жніўня 1941года разам з сям'ёй была арыштаваны службай НКУС у Бярозаўцы. Усю сям'ю змясцілі ў працоўным лагеры на ўсходнім беразе Енісея. Там яна працавала на лесанарыхтоўках. 10 траўня 1946 года вярнулася ў Польшчу. Пасля вяртання ў краіну працавала ў політэхнічным інстытуце ў Галоўнай бібліятэцы да 31 студзеня 1968 года, дзе займалася класіфікацыяй кніг на славянскіх мовах. Памерла 14 студзеня 1979 года, пахавана ў Лодзі, было ёй 88 гадоў [9].

Трагічна склаўся лёс ўсёй сям'і Фелікса Столе.

**Прыма Швыкоўская (Столе)** нарадзілася 15 чэрвеня 1914 года, прыблізна ў 1937 годзе абараніла ў Варшаве дысертацыю па тэме: "Структурныя змены ў прамысловасці шкляной вытворчасці, выкліканыя крызісам". Займалася рэкламай вырабаў шклозавода

"Нёман" Ю. Столе. 4 верасня 1937 года ў Рымска-каталіцкім касцёле ў Бярозаўцы ўзялала шлюб з **Андрэем Швыкоўскім**. 20 чэрвеня 1938 года нарадзілася дачка **Ганна Швыкоўская-Міхальская**. 20 чэрвеня 1941 года Прыма арыштавана службамі НКУС у Бярозаўцы. Працуе ў калгасе на заходнім беразе Енісея, каля Ачынска, пастухом, шафёрам, а затым пры дэзынфекцыі вагонаў на чыгунцы. Трагічна загінула 28 кастрычніка 1942 года ў Ачынску Краснадарскага краю, пакінуўшы сіратой трохгадовую дачку, якую выхоўвала бабуля Станіслава Столе [9] .

**Станіслаў Столе** - сярэдні сын Фелікса і Станіславы, нарадзіўся 16 лютага 1916 года ў Рагачове (пад час эвакуацыі ў Рагачове ў гады Першай Сусветнай вайны). У 1935 годзе скончыў гімназію імя Жыгімонта Аўгуста ў Вільні. Далей працягвае вучобу ў Берліне, дзе вучыцца на інжынера-хіміка па шкляной вытворчасці, працаваў на заводзе "Нёман". Пасля арышту бацькі, Станіслаў разам з малодшым братам Лехам, уступілі ў АК "Bohdanka" Наваградскага краю. Быў цяжка паранены ў часе бою каля Уселюба і вывезены ў Варшаву. Пад час Другой Сусветнай вайны перайшоў на бок амерыканцаў. Пасля вайны адшукаў свой Берлінскі дыплом, працаваў дырэктарам польскай тэхнічнай школы ў Англіі, пазней у Люксембургу. У пачатку 1950-ых гадоў выехаў у Аўстралію, дзе узяў шлюб з **Зінаідай Краеўскай (Арцюх)**, якая памерла ў 1963 годзе, і там заснаваў свой шкляны завод. Памёр Станіслаў Юзаф Столе па прычыне хваробы на бранхагенны рак у прыватнай бальніцы ў Квінсліндзе ў 1986 годзе. Там і пахаваны [9] .

**Лех Столе** нарадзіўся 31 студзеня 1927 года ў Бярозаўцы. Вучыўся ў гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста ў Вільні. У 1943-1944 гадах член АК "Багданка" на тэрыторыі Наваградчыны, спачатку на аб'екце ў горадзе Бярозаўка Лідскага павета. 8 верасня 1944 года арыштаваны службай НКУС у Бярозаўцы (у дакументах пазначана дата 23 верасня 1944 года). Выдаў яго ўладам працаўнік гуты "Нёман" - Васіль Брыль. Заключаны ў турму ў Лідзе, затым у Менску. У 1945 годзе асуджаны судом Асаблівай Нарады НКУС СССР з артыкула 64 і 76 Крымінальнага Кодэксу Беларускай ССР на 10 гадоў працоўнага лагера за прынадлежнасць да белапольскай арганізацыі. Пакаранне адбываў з 23 верасня 1944 года па 2 верасня 1954 года ў спецыяльным лагеры "Пясчаным" Карагандзінскай вобласці, прызначаным для палітычных зняволеных. 4 лістапада 1954 года ксёндз Уладзіслаў Букоўскі даў шлюб Леху Пятру і **Зузанне Рупета**. У снежні 1955 года быў рэпатрыяваны ў Польшчу. У іх сям'і нарадзілася пяцёра дзяцей. У 1961 годзе паступае на вячэрняе аддзяленне тэхнікума будаўнічых матэрыялаў для тых, хто працуе. У 1970 годзе заканчвае Варшаўскі Політэхнічны інстытут і атрымоўвае дыплом інжынера-будаўніка. У 1975-1977 гады, 1981-1989 гады працуе інспектарам будаўнічага нагляду і галоўны спецыялістам па вытворчасці на прадпрыемстве Сельскагаспадарчага Будаўніцтва ў Апочне.

**За працоўную дзейнасць быў узнагароджаны:**

- Бронзавым Крыжам Заслугі для будаўніцтва (17.XII.1975 г.);
- Залатой адзнакай Заслужаных для будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (20.VIII. 1985 г.).

**За патрыятычную дзейнасць у Арміі Краёвай узнагароджаны:**

- Ганаровай адзнакай жаўнера Арміі Краёвай Віленскай акругі"WIANO" і Наваградскай акругі "Now" (15.VIII.1984 г.);
- Партызанскім крыжам (19.VIII.1992 г.);
- Крыжам Арміі Краёвай (30.IX.1993г.);
- Ордэнам пакуты і перамогі для рэпрэсаваных ад 1939 г. да 1989 г. за барацьбу за Польшчу вольную і справядлівую (11.XI.1993 г.);
- Адзнакай ветэрана баёў за незалежнасць (1995 г.);
- Памятнай адзнакай "Акцыі Бура".

**А таксама адзначаны іншымі ўзнагародамі:**

- Залаты медаль апекуна месцаў нацыянальнай памяці (23.VIII.1993 г.);
- Ганаровай адзнакай сібірака (17.VI.1996 г.) [8].

12 жніўня 1996 года не стала Леха Столе. Пахаваны на могілках па вуліцы Паўстанцаў у Лодзі [9] .

**Зоф'я Гажэланская (Столе)** ( 1890 - 1943 гг.) - малодшая дачка ў сям'і Юліюса і Юзэфы Столе. У 1921 годзе выйшла замуж за Антона Гажэланскага. У сям'і было двое дзяцей. **Антон Гажэланскі** загінуў у 1942 годзе. Пахаваны ў сямейным склепе ў Варшаве. У 1943 годзе Зоф'я выйшла замуж за Яна Смалінскага з Бярозаўкі, памерла у гэтым жа годзе. **Ян Смалінскі** ў 1944 годзе быў арыштаваны і расстраляны. Сын Зоф'і, **Антон Мадэст Гажэланскі** і яго сям'я, ад першага шлюбу жыве ў рэспубліцы Тола, працаваў інжынерам - архітэктарам. Дачка Зоф'і, **Яніна Мацееўская (Гажэланская)** жыла ў Гданьску, вязень канцлагера, у 1980-ыя гады наведвала Бярозаўку. Працавала перакладчыкам французскай мовы. Пахавана ў Гданьску[12] .

**Герман Шаль** (1881 - 1980 гг.) - пляміннік Юліюса Столе, сын Караля Шаля і Іаанны Шаль (Столе). Менавіта да сястры Іаанны звярнуўся Юліюс Столе з просьбай пазычыць чатыры тысячы злотых на адкрыццё новай гуты, за што абяцаў за свой кошт выхоўваць яе сына Германа. Сястра згадзілася, бо ў яе было 12 дзяцей. Так Герман з 10-ці год жыў і вучыўся за кошт дзядзькі. З'яўляючыся пляміннікам Юліюса Столе, ён з малых гадоў далучаўся да шкляной вытворчасці [4, с. 15].

Асноўныя спазнанні ў вобласці гутніцтва Герман Шаль атрымаў, працуючы з 1906 года на працягу 6 гадоў памочнікам галоўнага інжынера заводаў "Нёман А" і "Нёман Б" чэха Іягана Халіка, стараючыся пераняць найбольш ведаў і доведу ад свайго настаўніка. У 1905 годзе ўзяў шлюб з **Геленай Вансовіч**, ураджэнкай Літвы. У 1912 годзе быў прызначаны галоўным інжынерам завода, займаў гэтую пасаду да канца 1930-х гадоў.

Прыродная дапытлівасць і працавітасць дазволілі яму ў дасканаласці авалодаць шырокім комп-

лексам пытанняў, звязаных з вытворчасцю вырабаў са шкла: склад гатункаў шкла, працэсы іх варэння, афарбоўванне і абясколерванне; канструкцыі шкловарных печаў, іх будаўніцтва і рамонт; праектаванне металаформаў і мастацкае канструяванне вырабаў; падрыхтоўка фарбаў для вонкавага дэкаравання і інш. Герман Шаль наладзіў вытворчасць ізалятараў па новай тэхналогіі. Завод атрымаў вялікі заказ на ізалятары ад Міністэрства пошт і тэлеграфаў і Польскай чыгункі (каля 1 млн. штук у год), што ў сваю чаргу выратавала прадпрыемства ад банкруцтва. У 1933 годзе Герман Шаль распрацаваў тэхналогію вытворчасці чарак на прасаванай ножцы. Ён таксама займаўся арганізацыяй і планаваннем вытворчасці, складам шкла, працэсам варкі і г. д. [4, с. 15].

З яго іменем звязаны амаль 50-гадовы перыяд працы завода. Побач з укараненнем шэрагу навінак у вобласці шкловарэння, ён распрацаваў і ўкараніў тэхналогію вырабу камбінаваных вырабаў кілішкавай групы з выдзіманай чаркай і прасаванай ножкай з бескаляровага і каляровага шкла. Працаваў Герман Шаль і пасля Другой Сусветнай вайны, аднаўляў завод. Галоўным інжынерам працаваў да 1952 года, затым кіраўнікам лабараторыі і майстрам каляровага шкла. Займаўся, у асноўным, варэннем, афарбоўваннем і абясколерваннем шкла, а таксама будаўніцтвам і рамонтам шкловарных і іншых печаў, з'яўляючыся бясспрэчным аўтарытэтам у гэтых пытаннях.

У 1956 годзе ідзе на заслужаны адпачынак. У 1957 годзе з жонкай едзе ў г. Лодзь (Польшча) да дачкі, дзе і жывуць некаторы час. Пасля смерці жонкі Герман Шаль жыве ў сына ў Познані. Памёр ва ўзросце 99 гадоў 28 чэрвеня 1980 года. Пахаваны ў Лодзі [12].

**Францішка Ціткова (Рокас)** (1886 - 1949 гг.) - плямянніца Юліюса Столе, дочка Аўгустыны Рокас (Столе). Выйшла замуж за **Яна Ціткова** ў 1906 годзе. У іх сям'і нарадзілася трое дзяцей, сярод іх і славуты мастак па роспісу шкла Міхай Ціткоў. У 1940 годзе памёр муж, Ян Ціткоў [12].

**Міхай Ціткоў** (1909 - 1979 гг) - сын Францішкі (Рокас) і Яна Ціткова. Скончыў тэхнічную школу імя маршала Юзафа Пілсудскага ў Вільні ў 1931 годзе. Працаваў галоўным мастаком па роспісу шкла на гуце "Нёман", аўтар Каталогу вырабаў фірмы "Столе і сыны" 1939 года. Па яго эскізах выраблялі урну для сэрца Ю. Пілсудскагаў 1935 годзе на гуце "Нёман", а таксама ён - аўтар настольнай лямпы, выкананай ў пяці колерах з выявай Варшаўскага замка для польскага прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага (траўленне "Гале") [4, с. 17].

У гэтым раздзеле я імкнулася расказаць пра лёс асобных прадстаўнікоў сям'і Столе. Пражываюць сёння прадстаўнікі знакамітага роду Столе ў Польшчы (67%), Ірландыі (11%), Аргенціне (6%), ЗША (6%), Брытанскіх астравах (6%), Аўстраліі (6%) [12].

Прадстаўнікі гэтага роду ўнеслі важкі ўклад у развіццё нашага шклозавода "Нёман" і горада. Яны не спыняліся ні перад ніякімі цяжкасцямі, дзеля дасягнення патрэбнага выніку. Не баяліся эксперыментаваць, укараняць навінкі, абменьвацца досведам. Развівалі інфраструктуру горада, жылі агульнай сямейнай справай, якая знаходзіць свой працяг і сёння.

### *ЗАКЛЮЧЭННЕ*

Спроба рэканструкцыі дрэва роду Столле дазволіла высветліць многія пытанні звязаныя з бліскучай кар'ерай гэтай сям'і на нашых землях. Аналіз літаратуры і крыніц, якія былі выкарыстаны пры напісанні работы дазваляе зрабіць вывад, што гісторыя гэтай сям'і хавае ў сабе яшчэ нямала сур'ёзных нявырашаных пытанняў.

Дакументы Варшаўскага архіва далі магчымасць больш шырока ахарактарызаць уклад сям'і Столе ў развіццё шкляной вытворчасці завода "Нёман" і нашага горада, удакладніць некаторыя гістарычныя факты.

Гэтае даследаванне было цікавае яшчэ і тым, што дазволіла ўбачыць, наколькі моцныя карані ў кожнага чалавека на гэтай зямлі. Генеалогія - карысная навука, якая дазваляе з'яднаць цэлыя сем'і, пакаленні людзей, прасачыць за іх лёсам, бо ўсе жывуць на гэтым свеце, каб перадаць часцінку сябе нашчадкам, каб захаваць сябе ў будучых пакаленнях.

Гісторыя гэтага роду цесна звязана з гісторыяй нашага завода. Са шкляной вытворчасцю было звязана жыццё не толькі Юліюса Столе, але і яго сясцёр, дзяцей і ўнукаў. Яны аддавалі ўсе сілы, стараючыся стварыць прадпрыемства, вядомае сваімі вырабамі далёка за межамі дадзенай мясцовасці. І гэта ім удалося. Любыя інавацыйныя тэхналогіі вельмі хутка ўкараняліся ў серыйную вытворчасць. Трэба адзначыць, што дзеці ў сям'і Столе атрымалі добрую адукацыю за мяжой, звязалі таксама сваё жыццё з гутнай вытворчасцю нашага краю, працягвалі справу бацькі.

У дадзенай працы, якая пабудаваны па праблемна-храналагічным прынцыпе, адлюстраваны радавод Столе. Але гэтая работа ні ў якім выпадку не вычэрпвае неабходнасці далейшага вывучэння радаводу гэтай сям'і. Мне ўдалося пабудаваць змешаны сыходны радавод сям'і Столе, які налічвае дзевяць пакаленняў [Дадатак 3]. У жылах прапраўнукаў Юліюса перамяшалася кроў не толькі Столе, але і продкаў з роду: Гедман, Лібіх, Лан, Шаль, Кадлец, Рокас, Вансовіч, Краеўскі, Дамакоўская, Лейтнекер, Звяжынскі, Гожэланскі, Алмасі, Швыкоўскі, Рупета, Фрайберг, Саленберг, Куява, Ханцка, Рачынскі, Гросфелд, Дзюбэк. Вывучаныя імёны, падзеі, лёсы маюць пэўную гістарычную каштоўнасць і цікавасць.

Гісторыя гэтай сям'і не знайшла адлюстравання ў навуковай літаратуры. Спецыяльнай манаграфічнай працы па гісторыі гэтага роду няма. У гэтым сэнсе даследчая праца з'яўляецца такой спробай. Хочацца зазначыць, што і сёння сувязь з прадстаўнікамі гэтага роду не згублена. Ганаровыя госці ў нашай школе - нашчадкі сям'і Столе, якія сёння пражываюць у Польшчы і іншых краінах свету. У 2011 годзе Ула-дзіслаў Столе, унук Фелікса Столе, наведаў горад, пабываў у нашай школе [Дадатак 2]. Мы захоўваем нашую гістарычную спадчыну: "Новы дворык", дом Фелікса Столе 1930-х гадоў, завадскую кантору фірмы "Столе

і сыны", "Стары дворык" - дом Ю. Столе. Вучні нашай школы даглядаюць магілы заснавальнікаў нашага горада - Юліюса Столе і іншых членаў іх сем'яў.

Спраўдзілася надзея нашых продкаў: Бярозаўка набыла сусветную вядомасць.

## ДАДАТАК 1. ВІДЫ РАДАВОДАЎ

*Табліца 1*

**Узыходны радавод**




*Табліца 2*

**Сыходны радавод**




*Табліца. 3*

**Кругавая табліца**




## ДАДАТАК 2. РАДАВОД СЯМ'І СТОЛЕ






**ДАДАТАК 3. СЯМЕЙНЫЯ ЗДЫМКІ**



***Сям'я Столе, 1913 год ( 1-ы рад злева: Эмілія, Станіслава Столе (Краеўская), Юзэфа, Яніна Столе (Краеўская), Юліюс Столе; 2-і рад злева: Ф. Звяжынскі ( муж Эміліі), Фэлікс, Юлія, Эдвард, Зоф'я, Браніслаў***



***Сустрэча з Уладзіславам Столе ( 1-ы рад справа) і яго сям'ёй, мастакамі У. Мурахверам і Л. Мягковай, 2011 год***



***Урачыстае адкрыццё маста цераз раку Нёман, 1931год***



*Кантора фірмы "Столе і сыны", збоку капліца, 1920-ыя гг.*




*"Новы дворык" - дом Фелікса Столе, 1930-ыя гг.*




*"Белы дворык" - дом Браніслава Столе, 1930-ыя гг.*



*Школа, вул. Касцельная, 1933 год*

### ДАДАТАК 4. УСПАМІНЫ ЯНІНЫ СТОЛЕ (КРАЕЎСКАЙ)

Гісторыя сям'і Столе гаспадара шклозавода "Нёман" у Бярозаўцы на тэрыторыі Беларусі ў 1939-1941 гадах, якая расказана Янінай Столе (Краеўскай) і запісана Ганнай Швыкоўскай - Міхальскай (Хмарка), унучкай Станіславы Столе.

**1939 год**

**24 жніўня** - Мабілізацыя. У войска прызваны Ян Стэгман і 60 працаўнікоў з гуты.

**27 жніўня** - У войска прызваны Эдвард Лейтнекер.

**30 жніўня** - Усеагульная мабілізацыя.

**1 верасня** - Вайна! Нямецкія самалёты праляцелі над Бярозаўкай. Сход з нагоды аказання дапамогі для сямей, прызваных рэзервістаў.

**11 верасня** - Прыма адвезла Леха (абое дзеці Фелікса) у Вільню да цёткі Эміліі Звяжынскай (сястра Фелікса).

**14 верасня** - Нейкія самалёты (нямецкія?) праляцелі над Бярозаўкай. Удзень быў чуваць на захадзе грукат гармат.

**16 верасня** - Прыбылі бежанцы з Варшавы (пяшком, цягнікамі). Ад першага дня вайны пастаянна праслухвалі паведамленні па радыё.

**17 верасня** - Сёння раніцай паведамілі, што савецкія войскі перайшлі ўсходнюю мяжу. Страшнае здзіўленне! Лех (Столе) выехаў у Вільню. Сабраны сход працаўнікоў і пасля прадстаўлення ім становішча было прапанавана выбраць Камітэт. У Камітэт уваходзілі бухгалтар, абодва Столе (Браніслаў і Фелікс) і працаўніцы.

**18 верасня** - Неспакойнае чаканне… Браніслаў і Фелікс у канторы (офіс гуты). Каля 16 гадзін пачалі цягнуцца па шашы аддзелы савецкіх войск, цяжка грукочучы. Нехта "ўслужлівы" адчыніў браму ў сад, і пасля нейкага часу пад'ехаў пад дом аддзел конніцы. Пачалася рэвізія, дапытваліся пра золата. Хацелі зала-

тыя талеркі і посуд, бо гаварылі ім, што такія рэчы ёсць у "польскіх паноў і буржуяў". Так нас наведала некалькі аддзелаў да самага вечара. Браніслаў і Фелікс вярнуліся дадому.

Першыя аддзелы (савецкія) доўга не затрымліваліся. Потым яшчэ з'явіліся вайсковыя ўлады і загадалі прадставіць працоўны Камітэт і сказалі, што Браніслаў і Фелікс будуць працаваць на заводзе кіраўнікамі.

**19 верасня** - Зменены Камітэт. Улада перайшла да чужынцаў з металургічнага завода. Загадалі, што нельга нам выходзіць за сад, толькі ў нядзелю да касцёла.

**21 і 22 верасня** - Палім усе дакументы і сувеніры, лістоўкі і г.д.

**23 верасня** - У доме рэвізія Камітэту. Забралі радыё, тэлефоны, алкаголь.

**7 кастрычніка** - Камітэт склаў прапанову Браніславу, каб стаў кіраўніком фабрыкі. Браніслаў зрабіў умову, што толькі з Феліксам.

**8 кастрычніка** - Раніцай забралі Фелікса. Выйшаў з дому на хвіліну ў пінжаку і лёгкіх туфлях.

**15 кастрычніка** - Працаўнікі хацелі выслаць петыцыю аб вызваленні Фелікса, але нічога не выйшла.

**17 кастрычніка** - Зноў рэвізія - аглядалі дом Браніслава.

**24 кастрычніка** - Прыйшлі з Камітэту і загадалі, каб на працягу 2 дзён пакінулі свае дамы.

**26 кастрычніка** - Раніцай прыехалі вазы і пачаўся пераезд у малую хату насупраць канторы. Прысутнічаў Камітэт і правяраў чамаданы.

**27 кастрычніка** - Пачаўся перанос хаты Фелікса.

**30 кастрычніка** - Сёння забралі дываны, посуд, тры ложкі, парцьеры, бялізну, канапы і шафы. НКУС падрыхтоўвае кватэру камісару.

**4 лістапада** - На фабрыку прыехаў камісар назаўсёды.

**5 лістапада** - Забралі Браніслава. Прывялі яго ў кантору. Узяў з сабой куртку і шапку. Праз хвіліну патухлі ліхтары, і вывезлі яго ў бок Ліды.

**13 лістапада** - Забралі халаты і гаршчкі.

**17 лістапада** - Яніна (жонка Браніслава) і Станіслава (жонка Фелікса) паехалі ў Ліду даведацца пра мужоў.

**23 лістапада** - Сёння Камітэт загадаў пакінуць гэты маленькі домік, у які перасяляюць сем'і з Новага Дворыка (дом Фелікса) і Белага Дворыка (дом Браніслава). Не сказана, куды мы павінны перасяліцца. Шалі прынялі нас у свой дом. Дазволілі пераехаць да іх.

**25 лістапада** - Жыхары Старога Дворыка (сястра Браніслава і Фелікса Юлія Лейтнекер з сям'ёю) атрымалі даручэнні, каб вызвалялі дамы без указанняў, дзе павінны дзецца. Да нас прыйшлі тры чалавекі. Астатнія паехалі ў Наваградак.

**2 снежня** - Яніна і Станіслава паехалі ў Ліду, былі ў пракурора. Потым стаялі з жанчынамі перад турмой. Малады чалавек, які выйшаў з турмы сказаў, што сядзеў з Браніславам у адной камеры.

**11 снежня** - Казя (сястра Яніны і Станіславы), Ян Стэгман, Уладзіслаў Рэмбальскі працуюць на гуце, Прыму (дачку Станіславы) не ўзялі.

**16 снежня** - Яніна і Станіслава паехалі ў Ліду.

**17 снежня** - Удалося перадаць пакеты ў турму.

**1940 год**

**5 студзеня** - Казя звольнена з магазіна.

**25 студзеня** - Яніна і Станіслава аддалі пакеты для мужоў (бялізна, бекон).

**3 лютага** - Паведамленне праз незнаёмага чалавека ад Браніслава.

**10 лютага** - Праз Бярозаўку едуць шэрагі саней з цэлымі сем'ямі, дзецьмі, старэйшымі.

**12 лютага** - Паведамленне аб вывазцы зняволеных з Ліды.

**15 лютага** - Звестка аб тым, што зняволеныя ўсё ж у Лідзе. Пакеты перадалі праз знаёмую. Цяпер лепей з фінансамі. Казя, Уладзіслаў і Ян працуюць і аддаюць усю зарплату на агульныя патрэбы. Прыму не бяруць на завод. Яна вяжа швэдры, наймаецца на розныя працы да розных людзей.

**29 сакавіка** - Здаецца, Браніслава і Фелікса перавялі ў Баранавічы.

**5 красавіка** - Яніна і Станіслава ў Лідзе.

**6 красавіка** - Паведамленне пра Браніслава праз жонку сукамерніка.

**10 красавіка** - Паведамленне з Ліды - пасылку не прынялі.

**25 красавіка** - Зноў не прынялі.

**10 траўня** - Яніна і Станіслава паехалі ў Ліду да пракурора. Сказалі, што ў Лідзе няма мужоў.

**15 траўня** - Зноў трывожныя весткі аб дэпартацыі.

**9 чэрвеня** - Яніна ў Лідзе. Жанчыны сталі перад турмой. Сказалі, што мужоў вывезлі ў Менск.

**16 чэрвеня** - Уладзіслаў Рэмбальскі быў у Лідзе. Але зняволеных вывезлі ў Баранавічы.

**19 верасня** - Знаёмая даведалася пра Браніслава і Фелікса - сказана, што іх вывезлі ў СССР.

**8 лістапада** - Адна з жыхарак Бярозаўкі атрымала ліст ад мужа з Архангельска. Пісаў, што бачыў Браніслава.

**18 лістапада** - Уладзіслаў прывёз паведамленне з Ліды, што абодва (Браніслаў і Фелікс) ў Лідзе.

**20 лістапада** - Яніна і Станіслава ў Лідзе.

**21 лістапада** - Знаёмая хацела аддаць пакет, але не прынялі.

**22 лістапада** - Прыма была ў пракурора ў Лідзе і ў НКУС - нічога не даведалася.

**29 лістапада** - Прыма ў Лідзе з лістом да пракурора - не прынялі.

**1941 год**

**7 студзеня** - Высланы лісты да пракурора "MW" Менска і ў НКУС у Баранавічах.

**28 студзеня** - Адказ пракурора з Менска, што адправіў нашыя лісты да пракурора ў Баранавічы.

**6 сакавіка** - Станіслава - у НКУС з пытаннямі пра Фелікса - нічога не сказана.

**12 сакавіка** - Станіслава ў Лідзе.

**21 сакавіка** - Прыйшло паведамленне ад зна-

ёмых з Наваградка, што Браніслаў просіць апавясціць, што жывы.

**9 траўня** - Чуткі, што Браніслаў працуе дзесьці на пошце за Масквой. Потым чуткі пра дэпартацыю.

**3 чэрвеня** - Прыйшоў незнаёмы і сказаў, што Браніслаў жыве ў Архангельску. Даў адрас, каб маглі да яго пісаць.

**16 чэрвеня** - Станіслава ў Лідзе хоча даведацца пра Фелікса, але яго там няма.

**20 чэрвеня** - ДЭПАРТАЦЫЯ! Ноччу ламаюцца ў дзверы. Увайшло 3 супрацоўнікі НКУС. Загадалі сабрацца і сесці ў адным пакоі. Яна Стэгмана і Ўлада Рэмбальскага забралі ў іхні пакой. За хвіліну вярнуліся гатовыя да выхаду. Маглі браць, што хацелі. Потым кіраўнік знярнуўся да астатніх і прачытаў з ліста, што ўсе павінны быць сасланы на 25 гадоў. Далі адну гадзіну, каб сабраць усе рэчы, але сачылі, глядзелі, што бяруць і выцягвалі што-небудзь. Не прайшло і гадзіны, як сказалі, што трэба рушыць. Ад'езд у 5 гадзін раніцы. Даехалі да пункта збору ў Наваградку. Сказалі па адным заходзіць у вагон. З намі засталіся Ян і Улад, калі пачалі аддзяляць мужчын ад сямей.

Гэта быў пачатак шляху ў Сібір.

## ДАДАТАК 5. УСПАМІНЫ ГАЛІНЫ ВІНІЦКАЙ

Я, Вініцкая Галіна Браніславаўна, 1932 года нараджэння, ураджэнка Бярозаўкі, пражываю сёння па адрасу РБ, Гардзенская вобласць, Лідскі раён, г. Бярозаўка, завулак Пушкіна, 9. Мой бацька, Гінц Браніслаў, працаваў да Другой сусветнай вайны на лесапілцы гуты "Нёман", маці да замужжа працавала таксама на гуце мастаком па роспісу шкла.

У верасні 1939 года мне было сем год, але я вельмі добра запомніла прыход Чырвоный арміі ў вёску "Шкляная гута "Нёман". Мы, дзеці, гулялі ля Дома Асветы, раптам з боку Наваградка мы заўважылі салдат Чырвонай Арміі (у незвычайных шапках, якіх раней ніколі не бачылі). Салдаты вялі сябе пахабна, пералазілі праз плот у сад "Новага дворыка", ламалі галінкі яблынь з яблыкамі, сядалі на коней і елі. Ля Дома Асветы іх сустракалі з хлебам і соллю, але яны не затрымаліся надоўга, накіраваліся ў бок Ліды. Сярод людзей панавалі страх, трывога і няўпэўненасць. Жанчыны плакалі пры размове. Кожны дзень бацька прыходзіў з працы і прыносіў навіны пра тое, што адбываецца на гуце "Нёман", у вёсцы і асабліва з сям'ёй Столе. З яго аповеду я даведалася, што ўжо на другі дзень пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Бярозаўцы, Фелікс і Браніслаў Столе былі адхілены ад кіраўніцтва гутай і знаходзіліся пад хатнім арыштам. Супрацоўнікі НКУС правялі ператрус у канторы гуты і дамах сем'яў Столе з канфіскацыяй маёмасці. Феліксу і Браніславу Столе было прадпісана не выходзіць з хаты за межы саду, толькі дазвалялася наведваць касцёл у нядзелю. У пачатку кастрычніка 1939 года мой тата прыйшоў дадому вельмі сумны і стомлены і сказаў, што раніцай арыштавалі Фелікса Столе, выйшаў з хаты на хвіліну лёгка апрануты і не вярнуўся. Пазней даведаліся, што ён знаходзіцца ў турме ў Лідзе. Працаўнікі гуты хацелі сабраць подпісы ў абарону Фелікса Столе, але,на жаль, многія баяліся падпісваць, і з гэтага нічога не выйшла. Праз два тыдні сем'ям Браніслава і Фелікса Столе было прапанавана пакінуць іх дамы. У доме Фелікса Столе пасяліўся камісар НКУС.

Жанчыны з дзецьмі хадзілі па хатах і прасіліся на начлег, але людзі баяліся іх прыняць, хоць і спачувалі. Я помню, таксама, як заходзілі да нас у пошуку жылля. Нарэшце сем'і Столе знайшлі прытулак у сваіх родзічаў - у Генрыха Шаля. Амаль усіх членаў сям'і Столе, якія заставаліся ў Бярозаўцы, звольнілі з працы на гуце. На працу ўладкаваліся толькі трое з іх сям'і, якія за свой заробак утрымлівалі некалькі сем'яў Столе. Жанчыны наймаліся на працу да мясцовых жыхароў. Прыму Швыкоўскую (Столе), дачку Фелікса, на працу не ўзялі, яна зарабляла тым, што дапамагала за кусок хлеба рабіць хатнюю працу людзям. Сям'я Столе была вельмі дружная і годна разам пераносіла ўсе цяжкасці і нязгоды.

У пачатку лістапада1939 года быў арыштаваны і Браніслаў Столе.

## ДАДАТАК 6. ЗВАРОТЫ Ў АРХІВЫ




ПРАКУРОР ГОРАДА МІНСКА

**КАМІТЭТ**
**ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ**
**РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
220623, г.Мінск, пр-т Незалежнасці, 17
тэл. 219-92-21, факс 226-00-38

15 .12.2010 № 10/ 3545нс

Директору
учреждения образования
«Берёзовская государственная
общеобразовательная
средняя школа № 3»
Кудию И.М.

ул. Новогрудская, д.38
231306, г. Берёзовка
Гродненской обл.

В отношении Столле Ф.Ю.

Сообщаем, что, к сожалению, сведений и документов в отношении Столле Феликса (Чеслава) Юлиусовича в Центральном архиве КГБ Республики Беларусь, архивах управлений КГБ Республики Беларусь по Брестской и Гродненской областям, информационных центрах МВД Республики Беларусь, УВД Брестского и Гродненского облисполкомов, а также в Главном информационно-аналитическом центре МВД Российской Федерации не имеется.

Начальник Центрального архива
Комитета В.К.Дорошевич

Фонд № 4 Опись № 21 [illegible] № 1683

Центральный Комитет КП(б) Белоруссии

Особый сектор

Оперативные сводки НКВД

Начато [illegible] октября 1939
Окончено [illegible] октября 1939
На 282 листах

14.- 220

8. Арестованный в г.Лиде фабрикант СТОЛЛЕ на следствии показал, что под его руководством были организованы к/р организации "ПОЛЬСКАЯ ПРАЦА" и союз " ХАРЦЕРСТВА". Те рабочие, которые не желали поступать в эти организации лишались работы на его заводе. После забастовки в 1935 г. им было уволено с завода и отдано под суд много рабочих. На его заводе за малейшие проступки рабочие подвергались штрафам, а деньги шли, якобы, на постройку костела.

9. Арестованный в г.Лиде ОСТРЕНКО Василий Данилович показал, что будучи членом ком.партии Западной Белоруссии, одновременно являлся с 1932 года членом сыскного отдела польполиции.

По заданию Нач. этого отдела МЕЧКОВСКОГО в 193[illegible] г. в целях выявления связей нелегально переходил границу Сов.союза из Польши и в течение 3-х недель находился в гор.Минске.

Следствием продолжаем, в направлении выявления связей ОСТРЕНКО на территории СССР и его деятельности в период нахождения в СССР.



Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Брэсцкага
абласнога выканаўчага камітэта
**Навукова-метадычная ўстанова**
**«Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці»**
вул. В. Харужай, 15 224030, г. Брэст
тэл/факс (0162) 21 61 29, тэл. 21 62 94;
e-mail: oblgosarhiv@brest.by
р/р 3604000000528 у філіяле № 100-
Брэсцкім абласным упраўленні ААТ
«ААБ «Беларусбанк», код МФА 246
УНП 200246423, ОКПО 03494959

Главное управление юстиции Брестского
областного исполнительного комитета
**Научно-методическое учреждение**
**«Государственный архив Брестской области»**
ул. В. Хоружей, 15 224030, г. Брест
тел/факс (0162) 21 61 29, тел. 21 62 94;
e-mail: oblgosarhiv@brest.by
р/с 3604000000528 в филиале № 100-
Брестском областном управлении ОАО
«АСБ «Беларусбанк», код МФО 246
УНП 200246423, ОКПО 03494959

09.11.2012 № 05-06/58
На № заявление ад 06.11.2012

Историко-краеведческий клуб
«Поиск» СШ № 3 г. Березовка
Лидского района Гродненской
области

ул. Новогрудская, 36
231306, г. Березовка
Лидский район
Гродненская область

Сообщаем, что архив хранит документы учреждений, организаций, предприятий, действовавших на территории Брестской области (в 1921-1939 гг. – Полесского воеводства и Барановичского повета Новогрудского воеводства), начиная с 1919 года.

Для подтверждения изложенных в Вашем запросе фактов за период 1921-1939 гг. рекомендуем обращаться в учреждение «Государственный архив Гродненской области» (ул. Дзержинского, 84, 230005, г. Гродно).

Одновременно сообщаем, что в документах архива за 1939-1941 гг. запрашиваемых сведений в отношении Столле Феликса (Чеслава) не имеется. С таким запросом рекомендуем обратиться ИЦ УВД Брестского облисполкома (ул. Коммунистическая, 28, 224030, г. Брест).

Директор архива А.Г.Карапузова



Галоўнае ўпраўленне юстыцыі
Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта
**УСТАНОВА "ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ"**
вул. Дзяржынскага, 84, 230005, г. Гродна
тэл./факс (0152) 72 24 43
эл. пошта: grodnooblarhiv@tut.by
Р/р 3604000000735 у філіяле № 400
Гродзенскага абласнога ўпраўлення
ААБ "Беларусбанк" код 752, УНП 500044112

Главное управление юстиции
Гродненского областного исполнительного комитета
**УЧРЕЖДЕНИЕ "ГОСУДАРСТВЕННЫЙ АРХИВ ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ"**
ул. Дзержинского, 84, 230005, г. Гродно
тел./факс (0152) 72 24 43
эл. почта: grodnooblarhiv@tut.by
Р/с 3604000000735 в филиале № 400
Гродненского областного управления
АСБ "Беларусбанк" код 752, УНП 500044112

05.01.2013 № 1-46/219а
На № 219а ад 21.12.2012

Березовская СШ №3
ул. Новогрудская, 38
231306, г. Березовка
Лидского района

Информируем Вас о том, что работа по выявлению сведений, содержащих многочисленные факты за продолжительный период времени, осуществляется архивом на договорной основе при наличии возможностей у обеих сторон. В соответствии с действующим законодательством, предлагаем Вам направить в архив специалистов

для работы в читальном зале в качестве пользователей документов Национального архивного фонда. Им будет оказана необходимая методическая помощь по выявлению необходимой информации.

Для работы в читальном зале необходимо предоставить официальное письмо соответствующего содержания, подписанное руководителем.

За консультациями по данному вопросу обращайтесь по телефону 8015-2-74-01-87 (отдел использования документов) и 74-26-14 (директор).

Директор архива Л.И.Юнина

**ДАДАТАК 7**




***Дыяграма складзена на аснове дакументаў Варшаўскага архіва***

## ДАДАТАК 8. ЗАРАДЖЭННЕ І РОСКВІТ НЁМАНА (БЯРОЗАЎКІ)

У 1920-ыя гады в. Нёман (Бярозавы гай) адносілася да Дакудаўскай гміны, Лідскага павету, Навагрудскага ваяводства (назва Бярозаўка ўзнікла ў пасляваенны час, да гэтага часу называлі - Нёман). Адрас тэлеграфічны: *Столе - Нёман*.

Галоўная славутасць - гута "Нёман", якая прынесла ў 1920 - 1930-ыя гады сусветную вядомасць нашаму гораду.

Менавіта ў гэты перыяд праводзіцца шэраг мерапрыемстваў па ўладкаванні нашага горада, што значна мяняе яго знешні воблік. Пачалося будаўніцтва шашэйнай дарогі Ліда - Ганчары - Агароднікі - Нёман - Оркавічы - Макрэц - Пятрэвічы - Наваградак. 50% сродкаў на будаўніцтва шашэйнай дарогі выдзеліла дзяржава. Фірма "Столе і сыны" працягвае традыцыі па ўкладанні сродкаў у перспектыўныя праекты. Фірма ўдзельнічае ў будаўніцтве драўлянага маста цераз раку Нёман, якое пачалося ў 1929 годзе, лес для будаўніцтва маста рыхтавалі ў Белавежскай пушчы з 1928 па 1931 год. Фірма "Столе і сыны" фінансуе 50% яго кошту за дазвол пракласці па мосце вузкакалейную чыгунку і тым самым пазбавіцца ад паромнай пераправы і зва-

заных з гэтым перагрузак прадукцыі і іншых матэрыялаў. Гэта было добрае рашэнне па ўдасканаленні вытворчай інфраструктуры. Работы па будаўніцтву былі завершаны ў 1931 годзе. Адбылося ўрачыстае адкрыццё маста цераз Нёман.

У 1925 годзе было скончана будаўніцтва двухпавярховага будынка заводскай канторы, які з'яўляўся вонкавым прадстаўніцтвам фірмы і сваім знешнім выглядам павінен быў выклікаць давер і павагу да яе. Гэта тым больш было неабходна, бо ён размяшчаўся непасрэдна каля ажыўленага гасцінца Наваградак - Ліда, і кожны, хто праязджаў міма, міжвольна звяртаў на яго ўвагу, незалежна ад таго, знаходзіўся ён з фірмай у дзелавых адносінах або не. У памяшканні канторы размяшчалася выставачная зала, была нават невялікая каплічка.

У час эканамічнай стабілізацыі мяняецца і жыццё работнікаў гуты "Нёман". Гаспадары гуты і заможныя працаўнікі пабудавалі ўласныя дамы: Браніслаў Столе жыў у прыгожым, акружаным паркам доме ("Белы дворык"). Фелікс Столе пабудаваў дом недалёка ад канторы ("Новы дворык").

Старыя забудовы былі заменены новымі дамамі: 8-мі і 4-х кватэрнымі. Былі пабудаваны дзіцячы садок, Дом асветы, дзе знаходзілася багатая бібліятэка і кавярня. Акрамя гэтага пачалі працаваць Дом апекі маці і дзіцяці, шпіталь, магазін спажывецкай кааперацыі для работнікаў, пажарная ахова, нават спартыўны стадыён. Дзейнічалі дзіцячая скаўцкая арганізацыя, аматарскі аркестр і хор "Лютня".

У 1923 годзе была адкрыта першая школа. Гэта была пачатковая польская школа. Знаходзілася яна ў невялікім доме № 7 па вуліцы Шпацыровай (Леніна). Займалася тут 30 вучняў. Першай настаўніцай была Люцына Краеўская. Навучанне было платным. У 1933 годзе было пабудавана новае памяшканне школы на 175 месц. Навучанне было сямігадовае. Школа была пабудавана на сродкі фірмы "Столе і сыны".

Ішла актыўная забудова вуліц пасёлка. Ужо вызначыліся такія вуліцы як Уяздовая, Маставая, Шпацыровая, Спартовая, Спакойная, Прага, Новая, Фабрычная, Ясная, Дакудаўская, плошча 3 Мая і іншыя.

У 1905 годзе былі асвечаны могілкі і пабудавана невялікая капліčка. У 1920-ыя гады згарэла. Спадары Столе выдзелілі месца для капліцы ў завадской канторы. З 1923 года бярэ свае вытокі парафія Нёман (сёння - Бярозаўка). З 1924 года першым ксендзам быў прызначаны Пётр Байкевіч.

У 1928 годзе ўладальнікі гуты "Нёман" выдзелілі 1 гектар зямлі для будаўніцтва касцёла і плябані. 50% сродкаў вылучыла фірма "Столе і сыны", усе працаўнікі гуты аддалі 1% свайго заробку.

На аснове дэкрэту віленскага біскупа з 29 лютага 1928 года была створана новая парафія імя Спаслання Святога Духа. Яна налічвала каля 1099 вернікаў. Перад касцёлам у 1934 годзе была ўстаноўлена фігура Хрыста, які нясе крыж.

Сёння ў касцёле захаваліся абраз Спаслання Святога Духа, набыты для касцёла Юзэфай Столе, выкананы віленскім мастаком Браніславам Вішнеўскім (галоўны алтар), манстрацыя, падараваная Янінай Столе і пазалочаны келіх, падараваны Браніславам Столе, фігура Маці Божай і інш.

Любімае месца адпачынку жыхароў Нёмана - Рэксцеў парк. Сюды былі завезены прыгожыя дэкаратыўныя дрэвы і кусты з розных куткоў свету.

Найбольш важныя падзеі Нёмана 1920-1930-ых гадоў - гэта ўрачыстае святкаванне 35-ці годдзя гутнай вытворчасці ў нашым краі і візіт прэзідэнта Польшчы, Ігнацыя Масціцкага.

У 1926 годзе споўнілася 35 гадоў з дня пачатку працы Юліюса Столе ў нашай мясцовасці. Было прынята рашэнне ўрачыста адзначыць гэты 35-гадовы юбілей. Гэта было неабходна, каб паказаць, што і ў новым становішчы завод паспяхова працягвае свае традыцыі, пашырае вытворчасць, заваёўвае новыя рынкі збыту.

Былі замоўленыя і выраблены памятныя юбілейныя знакі і каштоўныя падарункі, якімі былі адзначаныя лепшыя працаўнікі і ветэраны завода. Сцэна ўручэння ўзнагарод захавалася, дзякуючы невядомым фатографам. На здымках відаць, што гэта было цёплым сонечным днём. Да юбілейнай даты быў выпушчаны буклет, на якім былі здымкі ш/з "Нёман", кіраўніцтва і лепшых працаўнікоў завода. Гэтым фактам фірма як бы падводзіла вынікі сваёй працы па аднаўленні завода пасля вайны і выхад на новы ўзровень развіцця.

У 1935 годзе гута "Нёман" атрымала заказ на выраб урны для сэрца маршалка Ю. Пілсудскага, якая была ганарова ўручана пад час візітацыі польскага прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага. Праца над урнай была даручана лепшаму майстару Мяткоўскаму.

**СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ**

1. Акаловіч, Л. Мой род - мая Радзіма/ Л. Акаловіч//Полымя. - 2010. - № 8. - С.5

2. Ліпскі, У. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод / У. Ліпскі. - Мінск, 1998. - 112с.

3. Насевіч, В. Як "вырасціць" генеалагічнае дрэва?/ В. Насевіч// Звязда. - 1993. - 12 ліст. - С.3

4. Banas, P. Sklo huty "Neman"/ P. Banas // Plock. - 1984. - 146 с.

5. Kalbarczyk S. Wykaz lagrow sowieckich-miejsc przymusowej pracy obywateli polskich w latach 1939 - 1943/ S. Kalbarczyk// - Ч.1, С. 209

6. Калистратова, Э. Родословное древо и типы родословий/ Э. Калистратова // Праздник в школе. - Минск: ИООО "Красико - Принт", 2003. - 128с.

7. Можаров, Н. Как составить свою родословную/ Н. Можаров//Воспитание школьников. - 1992. - №4. - С. 21-25

8. Федорук, А. Древо рода/ А.Федорук//Родина. - 1991. - №3. - С.12

9. Гросфелд - Столле Д. Пісьмы. -2010-2011 гг.

10. Інстытут памяці народнай. - Варшава, BEB - 6051 - 99(4)108

11. Цэнтральны архіў г. Варшавы/ ф. 3258, ф.9368

12. http://www.myheritage.com/member-264054114_1/wladyslaw-stolle.

*Аўтар:* ***Кацярына Бухцінава***
*вучаніца 10 "А" класа.*
*Кіраўнік:* ***Матусевіч Тарэса Ўладзіславаўна,***
*настаўніца гісторыі,*
*СШ № 3, г. Бярозаўка.*

***Іван Грос***

# ЛЁС ПАКАЛЕННЯ

Я нарадзіўся ў тым страшным годзе, калі на ўсходзе лютавала бальшавіцкая рэакцыя, калі ночы для людзей станавіліся сапраўдным кашмарам. Па гарадах і вёсках, як жахлівая цень пекла, шасталі "варанкі" і праглыналі людзей, многіх назаўсёды. Нездарма ў той час па Маскве хадзіў такі анекдот: *"У камунальнай кватэры пачуўся настойлівы стук у дзверы. Усе жыхары сабраліся ў кучку на калідоры, але ніхто не наважваўся пайсці адчыніць. Нарэшце нейкі мужчына зрабіў гэта, і ўсе ўбачылі, што з ніжняга паверха прабіваецца агонь і дым.*

*- Браткі, усё ў парадку: гарым! - радасна крыкнуў нехта. Не так быў страшны пажар, як чэкіст..."*

На Захадзе, у Нямеччыне, па прыкладзе бальшавікоў таксама ўсталёўваўся "новы парадак"- Там фашысты будуюць свой, так званы нацыял-сацыялізм. Як і на ўсходзе, і тут паспешна ствараюць канцлагеры, хапаюць па начах людзей.

Дзве падобныя сістэмы, прычым другая вельмі многа запазычала ў першай. Па прыкладу бальшавіцкай ВКП(б) была заснавана структура адзінай кіраўнічай нацыянал-сацыялістычная партыі. Праўда, першая заяўляла, што яна абапіраецца на рабочы клас, у той час як нацысты - на дробных уласнікаў. Але абедзве ўзялі на ўзбраенне масавы тэрор і адразу пасля захопу ўлады ажыццявілі гэта на практыцы, пралілі рэкі крыві сваіх народаў.

Думка аб блізкасці, роднасці бальшавізму і фашызму даўно ўжо не давала мне спакою. Апошнія гады ўнеслі наконт гэтага поўную яснасць. І там, і тут уладу захапілі людзі з нізкім узроўнем маралі, што аказалася трагедыяй для народаў. Немцам яшчэ пашанцавала, бо панаванне фашызму цягнулася ўсяго 12 гадоў (1933- 45), а бальшавікі здзекваліся над вялікай краінай 74 гады (1917-1991). Ды і цяпер іх уплыву мы яшчэ не пазбавіліся. Што датычыць былой ГДР, то там рэжым быў усё ж не такі жорсткі, як у нас.



***Іван Уладзіміравіч Грос*** *- падпалкоўнік у адстаўцы, служыў у ГДР, ветэран вайны ў Афганістане, сын сябра БСРГ, сябар БСДГ (1990-я гг.), удзельнік беларускага вайсковага руху найноўшага часу, сябар БЗВ (1990-я гады). Нарадзіўся ў вёсцы Істакі Лідскага павета. Жыве ў вёсцы Ёдкі Лідскага раёна.*

* * *

Вайну я памятаю адносна нядрэнна. Яна глыбокай баразной прайшлася па маім дзяцінстве і юнацтве. Адступленне Чырвонай Арміі адбылося неяк непрыкметна, хоць наш дом знаходзіўся за сотню метраў ад шашэйнай дарогі Ліда-Беліца. Мабыць, гэта і не дзіўна, бо дарога ідзе на поўнач і поўдзень, а вайна ішла з захаду на ўсход. Помню толькі, як у бок Ліды ехалі невялікія зялёныя фурманкі, замаскаваныя ліпавымі ды бярозавымі галінкамі.

Затое наступленне немцаў уразіла. З самага ранку да позняга вечара некалькі дзён на Ліду рухаліся вайсковыя калоны, у асноўным на гужавым транспарце. Запрэжаныя двума-трыма здаравеннымі коньмі, вялізныя фуры з тэнтамі былі запоўнены розным вайсковым скарбам. Салдаты ў незнаёмай форме з цікавасцю паглядалі на нас, хлапчукоў, а мы на іх. Адзін фрыц заліхвацкі граў на губным гармоніку. Чамусьці яшчэ ўрэзалася ў галаву, што з правага боку кожнай фурманкі была прымацавана пуга з жоўтай ручкай...

Шмат было коннікаў. Зрэдку па бруку праносіліся матацыклісты, відавочна, сувязныя. Першы час нямецкія салдаты адносіліся да мясцовага насельніцтва досыць памяркоўна. Яны хадзілі па хатах і прасілі малака, яек і за гэта частавалі дзяцей цукеркамі. Абмен, канешне, быў не роўны, але спрачацца не выпадала, хто яго ведае, што мог учыніць чужы

ўзброены чалавек.

У нас у хаце ляжаў паранены ў нагу лейтэнант Чырвонай Арміі. Суседка - яна чагосьці пасварылася з маімі бацькамі - данесла новым уладам. І вось аднойчы некалькі немцаў на раварах пад'ехалі да хаты, зайшлі ў пакой. Паказваючы на раненага, спыталі, хто гэта. Маці сказала: "Салдат". Немец не пагадзіўся і заўважыў, што доўгія валасы носяць толькі афіцэры. Потым дадаў: каб гэтак бальшавікі знайшлі нямецкага афіцэра, то забілі б, а мы не будзем яго расстрэльваць. Маці асмелілася запярэчыць, што не ўсе бальшавікі такія. Немец нічога не адказаў, пакінуў раненаму папярос і выйшаў разам з астатнімі вайскоўцамі з хаты.

* * *

Прайшлі нямецкія войскі, шаша апусцела, і жыццё ў вёсцы Істакі пацякло сваім парадкам, спакой сялян ніхто не парушаў. Але аднаго разу, прачнуўшыся раніцай, па ўсхваляваных тварах бацькоў зразумеў: нешта здарылася надзвычайнае. Калі пабег на двор, не ўбачыў на месцы сядзібы суседа, хата, хлеў, гумно - усё згарэла. Застаўся некрануты агнём толькі зруб новага дома, даведзены да вокнаў. Што такое, у чым справа? Я стаяў, як укапаны, і не мог здагадацца, што адбылося. Падышла маці і растлумачыла, што ноччу дзядзьку Ёдчыка Юліка спалілі, добра, што я спаў, а то напалохаўся б.

Наступнай ноччу я прачнуўся ад нейкага шуму ў хаце. Працёр вочы і ўбачыў двух незнаёмцаў, яны стаялі побач і патрабавалі ў маці адкрыць куфар, на якім я спаў. У другім пакоі таксама гучна размаўлялі, відаць, там было шмат чужых людзей. Пазней маці сказала, што гэта былі чырноныя партызаны, якія забілі дзядзьку Юліка і спалілі яго сядзібу за тое, што ён быццам супрацоўнічаў з немцамі, а сёння правяралі ўсіх суседзяў. Пасля таго да нас часта начамі прыходзілі нартызаны, і я ўжо ведаў, што камандаваў імі Шыбадаёраў.

Гэтыя падзеі мелі месца летам 1942 г. А восенню пайшлі чуткі, што ў ваколіцы з'явіліся новыя партызаны, іх называлі белымі. Пазней даведаліся, што яны ваююць з чырвонымі і распраўляюцца з тымі, хто з імі супрацоўнічае.

Неяк бацька вазіў у аддаленую вёску валяць сукно, па дарозе савецкія партызаны забралі ў яго воз. Праз колькі дзён на двары завішчэў сабака. Бацька выйшаў і адразу ж вярнуўся з чужымі мужчынамі, якія размаўлялі так, як і ў нашай вёсцы, пабеларуску. Адзін нават заглянуў на кухню, дзе я ляжаў на печы, пасвяціў ліхтарыкам, нічога падазронага не адшукаў і пайшоў у другі пакой да сваіх.

У бацькі спыталі, куды ездзіў. Ён растлумачыў, што ў яго забралі воз, і ён хадзіў прасіць, каб аддалі.

- Ладна, - сказаў адзін з мужчын, відаць, старэйшы, - пойдзем да суседа, паможаш "раскалоць" яго на бутэльку...

Але бацьку чамусьці ўзялі пад рукі. Маці ўмяшалася, спытала, што ім згатаваць для закускі.

- Падсмаж чаго-небудзь, - кінуў старэйшы.

Пасля яна расказвала, што яе далей сяней не пусцілі, а бацьку акружылі з усіх бакоў - іх было чалавек восем - і павялі. Яна зразумела - страляць. І сапраўды, праз некалькі хвілін разоў тры-чатыры бабахнула, потым засвяцілася ракета, і ўсё сціхла.

Мы доўга сядзелі адзетыя і чакалі, думалі: вернуцца, але ніхто не ішоў. Праз гадзіну ці болей маці павяла нас да бацькавага брата, які жыў метраў за 400. Нас паклалі на печы, але нікому не спалася. Прыслухоўваліся да размовы старэйшых. Маці казала, што трэба ісці шукаць, можа ён паранены, а калі загінуў, дык унесці ў хату...

Раніцай нас абрадавалі: бацька жывы. Я хутчэй пабег дахаты. Бацька нетаропка расказаў, як усё адбывалася. Калі зайшлі за агарожу, яго ўзялі пад рукі. Ён рэзка крутануўся і паддаў бандытам локцямі, потым што сілы рвануўся наперад. Блізкія стрэлы аглушылі, адчуў удар у галаву і ўпаў. Потым зноў схапіўся і кінуўся ў бок. Зноў затрашчалі стрэлы; але светлячкі прашылі паветра ўжо далёка. Ён бег без супынку, каб як мага хутчэй аддаліцца ад бандытаў. І толькі, калі запусцілі асвятляльную ракету, упаў у канаву. Як патухла, зноў схапіўся і памчаўся.

Яго шукалі мо з гадзіну, раз за разам уключаючы ліхтарыкі. Ракетаў не запускалі, мусіць, болей не было. На тым усё скончылася. Хутка бацька адчуў, што паранены. Адна куля прабіла правую шчаку, другая левую руку, але косці, на шчасце, не зачапіла.

Пасля гэтага здарэння бацькі я не бачыў цэлы год. Недзе пасля Каляд з'явіўся днём, але пабыў з гадзіну і зноў пакінуў нас. Правільна зрабіў, бо ноччу аднавясковец Строк прывёў двух бандытаў. Я не віню яго, чалавека прымусілі. Толькі нехта ж данёс ім. Пілсудчыкі часта аддавалі нам "візіты", усё шукалі бацьку, але да канца вайны ён дома не паказваўся.

Сапраўдная гісторыя Беларусі ў гады нямецкай акупацыі яшчэ не напісана. Афіцыйная савецкая навука тлумачыла падзеі і факты аднабакова, апраўдвала ўсе дзеянні партызан. Польскія "летапісцы" ў сваю чаргу выдаюць за вялікіх патрыётаў акаўцаў, якія для беларусаў былі нічым не лепшыя за нямецкіх акупантаў...

Тры ўзброеныя да зубоў групоўкі: партызаны чырвоныя, белыя і гітлераўцы. Народ жыў паміж трох агнёў. Да чаго гэта прыводзіла, добра бачна на прыкладзе невялічкага куточка Лідчыны, дзе знаходзяцца мае Істакі, а таксама Беліца, Яманты, Дроздава, Ганчары і іншыя вёскі.

Першая "баявая" аперацыя акаўцаў у нашай мясцовасці, дакладней крывавае злачынства, мела месца восенню 1942 г. У суседняй вёсцы Восава яны расстралялі дэпутата сельсавета і яго сям'ю, спалілі хату. Тады ж ледзь не загінуў ад кулі белапалякаў

мой бацька, пра што ўжо гаварылася.

Савецкія партызаны забілі Юліка Ёдчыка, па даносу якога немцы знішчылі двух чырвонаармейцаў (іх звалі Мішка і Грышка). Больш ахвяр у тую восень наша вёска не панесла. Затое ў іншых адбывалася сапраўдная крывавая вакханалія.

Асабліва вялікія страты ў гады ваеннай навалы выпалі на вёску Дроздава, якая таксама размешчана на шашы Ліда-Беліца. На жаль, распачалі гэтую крывавую бойню чырвоныя партызаны, у складзе якіх было шмат аднавяскоўцаў.

Захапіўшы тэрыторыю, акупанты адразу ўсталёўвалі сваю ўладу, кожнай вёсцы прызначалі солтыса. У Дроздаве на гэтую небяспечную пасаду трапіў Аляксандр Кумпяк. Чалавек, бадай, самы бедны ў ваколіцы, ён меў невялічкі кавалак зямлі, маленькую хатку. Затое Бог не пакрыўдзіў дзеткамі - іх было пяцёра. Зусім зразумела, што хлеб на стале ў гэтай хатцы быў далёка не кожны дзень.

Аляксандр лічыўся ў вяскоўцаў простым і бяскрыўдным чалавекам, да таго ж быў непісьменны. Вось усе дружна і вырашылі прапанаваць яго ў начальства, бо верылі, што лішняй шкоды людзям не зробіць. Так яно і было на самай справе. Па загаду немцаў Аляксандр пасылаў сялян на рамонт шашы, чыгуначнага пераезду, іншыя работы - а куды дзенешся, паспрабуй адмовіцца, паставяць да сценкі. Але ні да кога не прыдзіраўся, не скардзіўся, што нехта не выканаў яго патрабаванняў - нічога падобнага не было, жыў з людзьмі па-людску. Вяскоўцы не мелі на яго крыўды.

Становішча солтыса значна ўскладнілася, калі сын Фёдар пайшоў у паліцыю. Яны, праўда, упіраліся абодва, ды немцы прыстрашылі, сказалі, што раз бацька з'яўляецца мясцовай уладай, то сын павінен яму памагаць. Такія вось "аргументы" падзейнічалі. Вяскоўцы гавораць, што Фёдар таксама, як і бацька, не выслугоўваўся ў немцаў, нават шукаў сувязі з партызанамі, хацеў супрацоўнічаць з імі.

Але ўрэшце здарылася тое, што ў той час адбывалася нярэдка. Думаю, чытач мяне зразумее правільна: я далёкі ад таго, каб абяляць солтысаў і тым больш паліцаяў. Я толькі хачу ведаць праўду і не збіраюся хаваць яе. Вось як расправіліся савецкія партызаны з сям'ёй Кумпяка: яны забілі ўсіх: і мужчын, і жанчын, і дзяцей...

Цывілізаваныя людзі не ваююць з жанчынамі, не забіваюць нявінных дзетак, бо гэта заўсёды лічылася ганебным учынкам, больш таго - злачынствам. Такое маглі зрабіць толькі бандыты - "не важна якую форму яны насілі, як называліся: чырвонымі, белымі ці эсэсаўцамі. Яшчэ больш ганебна тое, што ў расправе ўдзельнічалі мясцовыя людзі...

Быў выхадны дзень. У Дроздаве шумела вяселле: вайна вайной, а жыццё брала сваё, юнакі жаніліся, дзяўчаты выходзілі замуж, нараджаліся дзеці. На вяселлі, як на вяселлі: сталы застаўлены талеркамі з няхітрай сялянскай ежай, графіны і бутэлькі пад корак запоўнены мутнаватай самагонкай, балазе ніхто за гэта не караў, ні немцы, ні тым больш партызаны. Апошнія, дарэчы, таксама прынялі ўдзел у застоллі. Але крыху пазней стала ясна, што яны прыйшлі сюды дзеля іншай справы, у камандзіраў быў прадуманы план ліквідацыі сям'і Кумпякоў, быццам бы тыя ўяўлялі сабой вялікую небяспеку для лясных насельнікаў. Усе ведалі, што ні ў самога солтыса, ні ў сына, які прыехаў з Ліды дамоў, зброі не было. Тым не менш заданне на тое даецца, каб яго выконваць.

Дык вось, ноччу да Кумпяка, які ўжо паспеў укласціся спаць, прыбег пасыльны і паведаміў, што на гулянцы нібыта завялі бойку, і яму, як прадстаўніку ўлады, трэба ўціхамірыць людзей. Солтыс, пакрахтаўшы трохі, злез з ложка, апрануўся і паволі пасунуўся па вуліцы, нічога не думаючы благога. Дайсці да месца яму не давялося. Солтыса перапынілі на паўдарозе партызаны-аднавяскоўцы і, не выказаўшы ніякіх прэтэнзій, расстралялі. Неўзабаве вывелі з танцаў Фёдара, з якім хвілін колькі таму назад пілі пяршак і закусвалі каўбасой, дамаўляліся аб супрацоўніцтве. Зрэшты Фёдар гатоў быў неадкладна ісці з партызанамі ў лес - аднак быў забіты ўслед за бацькам.

Але і гэтага аказалася мала. Забралі з гульняў і дачку Кумпяка Ганну, якая не мела ніякага дачынення да спраў бацькі і брата. Тым не менш не гледзячы на мольбы: "Хлопчыкі! Я ж з вамі толькі што танцавала. Пабойцеся бога, завошта мяне - забіваць?!", - яе тут жа прыкончылі.

Затым партызаны - ці можна іх так называць - уварваліся ў хату Кумпяка і застрэлілі яго жонку і 12-гадовую дачку Зіну прама на печы, дзе яны ўклаліся спаць. І адразу ж пабеглі да суседа Віктара Быстрыцкага, у якога працацала наймічкай дачка солтыса Надзя. Выратаваў яе гаспадар, упаўшы на калені, ён упрасіў партызан-забойцаў не чапаць дзяўчыну. Аднак яны сваё "дабралі" ў іншым месцы. У канцы вёскі жыў сын Кумпяка Іван, яго застрэлілі разам з жонкаю, а хату спалілі.

За адну ноч чырвоныя партызаны знішчылі сем чалавек, у тым ліку трох дарослых жанчын і адну дзяўчынку. Хіба можна апраўдаць падобнае варварства? Нават немцы не заўсёды расстрэльвалі партызанскія сем'і, а тут быццам бы свае, славяне, нікога не пашкадавалі...

Відавочна, што "акцыі" такога роду, - а яны былі тыповай з'явай - ажыццяўляліся не выпадкова. Напэўна, гэта была "вялікая палітыка" "органаў", якую яны праводзілі да вайны ўнутры краіны, а зараз і на акупаванай тэрыторыі. Мэта - застрашыць насельніцтва і дабіцца яго поўнай паслухмянасці.

Магчыма, вышэй надрукаванае прачытае чалавек, які быў сведкам забойства сям'і Кумпякоў, цікава было б пачуць яго думку пра тое, што тварылася ў акупаваных вёсках у часы вайны. Магчыма,

захоча прыняць удзел у спрэчках, яны дапамаглі б у пошуках ісціны.

На тым, што здзейснілі чырвоныя партызаны, не скончылася трагедыя Дроздава. Наперадзе былі амаль два гады акупацыі і сапраўднага бязмежжа трох узброеных груповак на Беларусі.

Цёплая чэрвеньская ноч 1943 года. Я толькі што прахапіўся пад штурхалі маёй бабулі і пачаў уважліва прыглядацца да дарогі, куды яна паказвала рукой:

- Вунь, унучак, бандыты вядуць людзей дроздаўскіх. Там, пэўна, і мой Іванка едзе з абозам.

Чуцён быў плач жанчын. Я налічыў каля дзесяці фурманан, сярод якіх ішла група арыштаваных, акружаная ўзброенымі мужчынамі ў польскай форме. І бабуля пабегла да шашы, але яе не дапусцілі і блізка. Яна так і не даведалася пра сына.

А здарылася наступнае. Дзесьці ў 5 гадзін раніцы белапалякі акружылі Дроздава (дакладна так, як рабілі гітлераўцы), сагналі арыштаваных у цэнтр вёскі, астатнім мужчынам загадалі запрагаць коней і станавіцца калонай уздоўж вуліцы. На фурманкі пагрузілі маёмасць арыштаваных, пасадзілі старых і дзяцей, а маладых, у асноўным жанчын, пад узмоцненай аховай павялі пешшу. Усяго было арыштавана каля 30 чалавек, у тым ліку некалькі сем'яў. Абоз накіраваўся ў Беліцу, дзе была турма, збудаваная акаўцамі.

Цікава, што ўсё гэта адбывалася сярод белага дня, адкрыта. Канешне, са згоды немцаў. Дарэчы, у нас тады гаварылі, што акупанты плацілі акаўцам за кожнага забітага. І "героі" стараліся, уключалі ў спіс ахвяр нават знішчаных імі старых і дзяцей. Пра нейкую там барацьбу з фашыстамі і мовы не ішло. Атрад Рагнера, які апекаваўся над гэтай тэрыторыяй, стала атабарыўся ў Беліцы і бліжэйшых вёсках. Немцы ездзілі сюды на легкавушках ў госці да рагнераўцаў, пілі разам гарэлку і складалі планы барацьбы з чырвонымі партызанамі. А на самай справе часцей за ўсё расстрэльвалі старых і дзяцей з тых сем'яў, з якіх хто-небудзь быў звязаны з бальшавікамі.

У тую цёплую чэрвеньскую раніцу 1943 г. вёска Дроздава не далічылася многіх сваіх жыхароў. Белапалякамі былі арыштаваны Сымон Шут, яго жонка і нявестка - за тое, што ўнук і сын пайшлі да чырвоных партызан. Усіх траіх расстралялі. Міхаіл Данейка ўхітрыўся праз лаз перабрацца са свайго гумна і схавацца пад свірнам суседа Ашмяны. Яго старанна і доўга шукалі, заглядвалі і пад свіран, але так і не знайшлі. Маці ж і жонку, а таксама дачку арыштавалі, апошнюю, праўда, адпусцілі, дзяўчынцы было толькі 11 гадкоў. А жанчын расстралялі. Піліпу Курылу было за 70, здавалася б, што ўзяць ад старога. Ды не, таксама забілі, ён, бачыце, малоў муку для паргызан.

Гэткі ж лёс напаткаў Вікенція Кумпяка, Віктара Кудлу і нават мужчыну з далёкага Дакудава, які на той час жыў у сястры. Усяго ў той дзень акаўцы арыштавалі 30 чалавек, 10 з іх расстралялі, у асноўным жанчын і старых.

З той чорнай раніцы дроздаўскія мужчыны асцерагаліся начаваць дома, пачалі хадзіць на хутары, што знаходзіліся непадалёк ад нямецкага паста, які ахоўваў чыгунку. Немцы добра ведалі пра гэта і не перашкаджалі мужчынам з Дроздава і Жучкоў збірацца ў хутаран. Пэўна хацелі паказаць свой нейтралітэт. Толькі працягваўся ён нядоўга. Восенню на хутар Васіля Кудлы, дзе якраз начаваў Іосіф Лукашэвіч з Жучкоў, з'явіліся акаўцы. Бандыты бязлітасна збілі яго і тут жа застрэлілі, таму што брат быў у партызанах. Гаспадара хаты не білі, адразу застрэлілі. Перад тым патлумачылі: "Ты добры чалавек, але хаваў бандыта, станавіся да сценкі..." Да сказанага варта дадаць, што трагедыя разыгралася ў хаце, якая знаходзілася літаральна за некалькі дзесяткаў метраў ад нямецкага паста. Стала ясна, што аперацыя была ўзгоднена з фашыстамі. Пасля гэтага мужчыны больш не пайшлі на хутары.

Але зараз зноў вярнуся да трагічнай чэрвеньскай раніцы. У абоз па дастаўцы арыштаваных быў мабілізаваны разам з іншымі вяскоўцамі і мой дзядзька Іван Кудла. Хоць ад Дроздава да Беліцы адлегласць невялікая, каля 12 км, акаўцы - чамусьці зрабілі прывал зблізу вёскі Баровічы. У той час побач з дарогай стаяў вялікі і багаты хутар Качаноўскага Тут белякі і рашылі адпачыць. Фурманам загадалі стаяць ля сваіх вазоў, арыштаваных адвялі ў бок, пасадзілі на зямлю пад узмоцненай аховай. Як апавядае мой дзядзька, *"хутка да іх лагера пад'ехалі двое верхавых. Адзін з іх паўглядаўся і затым паказвае на мяне: "Злапалі і гэтага бандыта, то чаму ён не разам з арыштантамі?" Мяне хацелі тут жа далучыць да іх, але тут умяшаўся Качаноўскі. Ён сказаў, што гэта добры чалавек, усе яго ведаюць, ён нікому не зрабіў зла, усе могуць пацвердзіць гэта. Калі яго арыштоўваць, то тады трэба браць усіх праваслаўных. Акавец пасля гэтага адступіўся ад мяне, але са злосцю буркнуў: "Усе яны бандыты...".*

Мой дзядзька пазнаў акаўца, ён быў з недалёкай вёскі, яшчэ да вайны яны неяк паспрачаліся каля млына, нахабнік хацеў без чаргі змалоць збожжа, яму аднак не далі. Той даўнейшы, нязначны выпадак, але дзядзька ледзь не расквітаўся з жыццём. Зласлівы вырадак хацеў адпомсціць за нанесеную яму "крыўду".

Такія вось "парадкі" ўстанаўлівалі ў нашай мясцовасці партызаны - чырвоныя і белыя.

Такі быў лёс гэтага пакалення.

*(Працяг будзе.)*

*Тэкст паводле лідскай газеты "Народная трыбуна" № 11, 12 і 13 за 1992 г. Падрыхтаваў да друку Фёдар Кардаш.*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Выбары і Заолзе**

Цяжкая, панурая восень. І гэта яшчэ не ўсё. Недзе летам прыйшла вестка пра роспуск КПП і яе філій. Хоць мы фармальна да іх не належалі, удар быў цяжкі. Абрываў неабходныя для нас палітычныя кантакты, пакідаў на блуканне ў цемнаце, якая так згусцілася. Гэта ўласна ў сувязі з тым роспускам узніклі праекты з ППС (Польская сацыялістычная партыя).

Гэтай восенню найбліжэй мы былі да найстрашнейшай мажлівасці: супольнага маршу з Гітлерам на ўсход. Паралельныя дзеянні ў ганебнай акцыі з Чэхаславакіяй дазвалялі баяцца найгоршага. Не адразу я спахапіўся, што Мюнхен - не гледзячы на недвухзначную антысавецкую скіраванасць - ёсць перш за ўсё ў сваім змесце найбольш антыпольскі. Абазначае перш за ўсё пакіданне Гітлнеру вольных рук на ўсходзе.

Мы не ўбачылі першых праяваў таго, чаго амаль кожны паляк апасаўся пасля гвалтам накінутага нам прыяцеля Гітлера, гэта зн. першых прэтэнзій да Польшчы. Былі яны, як вядома сёння, высунуты ўжо той восенню. Але санацыйны ўрад вельмі старанна іх замаскаваў.

Мы яшчэ збіраліся, нават пару падвіленскіх вылазак удалося зарганізаваць.

Адну з іх перажыў асабліва і прыкра.

Часам на вылазках мы імправізавалі лёгкаатлетычныя спаборніцтвы. Арганізоўвалі бег на кароткія дыстанцыі, бег на доўгія дыстанцыі, скачкі ў даўжыню, штурханне каменя. Звычайна першыя тры дысцыпліны я выйграваў, дзякуючы банеўскай запраўцы. Штурханне каменя было канько магутнага літоўца Друты.

А тым разам бег на кароткую дыстанцыю я прайграў. Хоць я з усёй сілы малаціў нагамі, выскачыў перада мной Данак Скаржынскі, і я ніяк не мог яго дагнаць.

Вяртаўся, не ўмеючы адагнаць паскуднага пачуцця: вяршыня маладосці ўжо прайшла. Я меў няпоўныя дваццаць восем гадоў. Такое самаадчуванне ў тым узросце асабліва ўпартае.

Нарэшце прыйшла зіма. Яшчэ прыязджалі гітлераўскія саноўнікі: Рыбентроп, Гімлер. Быў таксама Цяна. Хадзілі плёткі, што ў сувязі з яго побытам дайшло нават да нейкіх дэманстрацый. Адным з герояў такога заходу меў быць вядомы сёння лекар-псіхіятр, тады бадай студэнт, Ананій.

Зіма была трохі лепшая. Ілжывы і ялавы рэжым пачаў нейкую таямнічую эвалюцыю. М. ін. адбываліся выбары самакіравання ў большых гарадах. Зрабілі іх на аснове досыць дэмакратычнага выбарчага палажэння. Ва ўсёй Польшчы гэта дазволіла канфрантацыю істотнай пробы сілаў паміж афіцыйнымі палітычнымі партыямі.

Не памятаю дэталяў. Ведаю, што ў шэрагу гарадоў някепска выступіла ППС, якая ў той час падмяла ўсю польскую левіцу. Санацыя ў цэлым не мела той манаполіі на палітыку, як бы вынікала з яе прадстаўніцтва ў сейме.

У Вільні ППС утварыла блок з Дэмакратычным клубам. Уся група актыўна ўключылася ў працу. Памятаю захапляльнае чаканне вынікаў. Не гледзячы на вялікую слабасць тутэйшай ППС левы блок правёў некалькі радных.

Мы мелі ўражанне, што зноў на нешта прыдатныя.

Пачалася павольная змена тону прэсы. Выпады супраць Гітлера, перад тым ледзве цярпімыя, набіралі сілу. Але таксама і мешаніна паняццяў была яшчэ моцнай. Некаторыя з публіцыстаў, напрыклад, адчуваючы нарастаўшы крызіс, голасна дамагаліся супольнай польска-венгерскай мяжы. Як бы гэта магло штонебудзь залатвіць.

У той час ужо прыйшлі першыя весткі пра польска-нямецкія звады. Дадавала гэта нам надзеі, здавалася, што найгоршае прайшло, што цяпер удасца аб'яднаць усіх супраціўнікаў Гітлера, і, здавалася, таго б хапіла, каб перашкодзіць вайне.

Відаць, што мы былі вельмі наіўныя. Гэтаму нагляднаму аптымізму пярэчыла рэчаіснасць. Уласна я меў нагоду з ёй не сутыкацца.

Недзе ў палове сакавіка (першай) адбыўся чарговы агульнапольскі з'езд Саюза літаратараў. Тагачаснае кіраўніцтва, са зразумелых повадаў хочучы падкрэсліць сваю салідарнасць з санацыйным урадам, арганізавала яго ў Заолзі.

Былі фінансавыя палёгкі для гасцей. Віленскі аддзел запрапанаваў нам некалькім выезд. Мы вельмі ахвотна пагадзіліся, было цікава, што гэта за Заолзе. І канешне свайго ўдзелу ў з'ездзе не разглядалі як падтрымку для Бека.

Мы прыехалі групкай ў Цешын. З'езд быў вельмі добра арганізаваны, усё адбывалася згодна з планам,

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

усе мелі свае кватэры, месцы за сталом і ў аўтобусах.

Мы, віленцы, пазнаёміліся ў Цешыне з прыгожай паняй, якая стала для нас правадніцай у тым чужым, экзатычным асяроддзі. Гэта была не толькі жонка нашага, адсутнага ў той час (быў у Парыжы), майстра Пшыбася, але наогул была прыгожая, з буйнымі попельнымі валасамі, з прыгожым прафілем, мілай усмешкай.

Яна першай дала нам адчуць падскурную плынь падзей, якія там якраз рыхтаваліся.

Бо знешне ўсё было гладка. Бурмістры абвяшчалі дзяржаватворныя прывітанні, дзеці ўручалі кветкі, на сталах стаялі чароды канапак з рознакаляровай брынзай і венгерскімі салямі. Гаварылі пра адвечныя правы Польшчы на тыя тэрыторыі, усміхаліся, паказвалі цукеркавую прыязнасць.

Паміж сабой мы размаўлялі трохі шырэй. Кружылі антынямецкія, вельмі ганарыстыя плёткі. Пастаянна пра стратэгічныя заслугі Бартноўскага ў час займання Заолзя. Таксама пра перавагі Польшчы над Германіяй, напрыклад, пра бітву пад Багумінам, дзе быццам бы польская пяхота паказала сваю знішчальную перавагу над немцамі.

А нашая праваднічка гаварыла нешта цалкам іншае. Што нешта рыхтуецца. Што людзі змяніліся да непазнання. Што на той змешанай тэрыторыі зналіся між сабой дзесяцігоддзямі, прызнавалі за сваіх. А цяпер знянацку то тая, то іншая сям'я зрывае стасункі з атачэннем, пачынае ўважаць сябе за вышэйшую. Аказваецца раптам, што гэта немцы. Апавядала, што то той, то гэты ўцякае ў ... Польшчу, не пачуваючыся тут ужо надзейна.

Раптам павеяла марозам з той цукеркавай гасціннасці з'езду. Мы ў Вільні, былі яшчэ ў "пазаўчора". Тут адчувалася, чым будзе "паслязаўтра"...

З'езд недзе там працаваў, а нас, гасцей, вазілі па Заолзі. Мы выбралі групу, якая наведвала Ябланкоў і Тшынец. Палогія пагоркі, шмат лесу, чыстыя мястэчкі. У Ябланкове прымалі нас у школе. Шмат гаварыльні. У Тшынцы мы былі вечарам. Першы раз у жыцці бачылі металургічны завод. Ён зрабіў на мяне магутнае ўражанне: цемра, чырвонае зарыва, велізарная зала, скрыгат, галас. Але і атмасфера была тут іншая. Тут далёка было да вёскі.

Распавядалі нам, напрыклад, што польскія ўлады, пасля ўваходу забілі аднаго з работнікаў завода, чэха, толькі таму, што быў камуністам. Распавядалі, як адразу пасля ўступлення афіцэры, і асабліва афіцэры, павыкуплялі ўсё ў крамах, выкарыстоўваючы спецыяльна, выгадны для прыбылых і нявыгадны для мясцовых курс злотага і кроны.

Было гэта першае (але не апошняе...) маё сутыкненне з тым пабочным, але маляўнічым аспектам Другой Сусветнай вайны, якая ўласна пачалася...

Нават на ўрачыстым сходзе не забракла нейкіх дзіўных, зусім не ўрачыстых таноў у прамове аднаго з найактыўнейшых польскіх дзеячаў на Цешынскім Шлёнску Паўла Кібуша. Той, які ў той час мог усправацца за трыумфатара, гаварыў зусім не з трыумфам, але з нечым, што мне падалося трохі жалем і дакладна неспакоем.

У прыдачу дадам, што калі я з сімпатыяй запісаў тыя мае ўражанні, Кубіш зразумеў гэта як атаку, усю вайну перажываў нейкія помслівыя пачуцці, ажно нарэшце даў ім выхад у непрытомным нападзе на "Рэчаіснасць" за тое толькі, што яе пераклалі на чэшскую мову.

З'езд закончыўся ў Катавіцах. Усе тры групы гасцей злучыліся. Зачаравалі нас некалькімі выступамі. У т.л. Астэрва дэкламаваў "Оду да маладосці". Удаўся яму пры тым міма волі кавалак.

З пафасам крыкнуў:

*Далоў, кучы, з пасад свету!*

Гучала гэта, як жаданне, каб нехта камякаваты вызваліў залішне важныя свае пасады.

На з'ездзе я пазнаёміўся з кучай людзей. У т.л. са Станіславам Рышардам Дабравольскім і з неадлучным яго спадарожнікам, архімілым Эдвардам Шыманскім. Таксама чароўная панна Ваньковіч з мілым падлеткам. Паказвалі мне здалёк усіх важных шышак саюза, напэўна таксама і Готла. Характэрна, што ў з'ездзе не браў удзелу ніхто з "Літаратурных ведамасцяў". Затое было вельмі шмат з "Проста з моста".

Я напісаў з'едлівы рэпартаж і даў яго ў "Сігналы". Нехта мяне за тое, канешне, абвінаваціў у адным з урадавых выданняў у абразе нацыянальных святынь і амаль у здрадзе дзяржаве. Я адказаў (з вялікай неахвотай) у "Слове".

**Вясна, апеляцыя**

Ішла вясна. Здавалася, нешта мяняецца ў краі. Пра флюктуакцыі ўнутранай палітыкі можна было больш заўважыць з таго, каго ўлады высылаюць у Бярозу, чым з іхніх палітычных заяў. Тым разам, напрыклад, перасталі высылаць камуністаў, за тое ні з таго, ні з сяго трапіў туды Цат-Мацкевіч. За... жаданне павелічэння ў войску частак танкава-механізаваных ці за нешта ў тым родзе.

Быў гэта адзін з эпізодаў падкавёрнай барацьбы ў санацыйных сферах. У папярэднія гады было таго больш і праяўлялася яно ў больш брутальнай форме. Такі, напрыклад, Славік, які раптам здзейсніў самазабойства, хоць, здаваўся, найбольш уплывовым найбліжэйшым, най..., най... Альбо гісторыя канфіскату "Польскай газеты", увекавечаная знакамітымі радкамі Леца:

*Так польскую прэсу цэнзар грыз,*
*што ўласны язык адгрыз.*

Альбо знакаміты бомбавы замах на Коца. Хто гэта сёння памятае? А тым не менш быў той замах, які закончыўся смерцю замахоўца.

Дзіўнае маўчанне, якое апусцілася на тыя справы. Яно было вельмі на руку санацыі.

Недзе ў красавіку адбыўся апеляцыйны разгляд справы Генрыка і Стэфана. У адносінах да нас абвінаваўца пачаў з водкліку. Нашая невінаватасць стала правамоцнай.




***Недзе незадоўга перад вайной - глядзі рэкламу LOPP. Мы з Ежым Загорскім ідзём па Ерку.***

Канешне, атмасфера цалкам змянілася ў параўнанні са снежнем 37 года. Тады, м.ін. абвінавачвалі Генрыка і Стэфана ў дзейнасці на шкоду польска-нямецкай дружбы. Сёння адвакатам дастаткова было зацытаваць пару інкрымінаваных фрагментаў, каб разваліць абвінавачванне. Абодва былі апраўданы.

Не паўплывала гэта ўжо аднак на адраджэнне групы, Генрык перабраўся ў Варшаву. Муха - у Кракаў. Мы збіраліся досыць часта, але нічым сталым не займаліся. Што праўда, у нашай арбіце аказалася пару маладых. Такі, напрыклад, брат сясцёр Дзявіцкіх доўга блытаўся на перыферыі групы як хлопчык у кароткіх портачках, аж аказалася, што ён ужо атрымаў атэстат сталасці. Пачалі на выхады на прыроду прыходзіць пару яго таварышаў. Таксама два маладыя работнікі.

Данак у той час вярстаў віленскую мутацыю "Работніка". Не ведаў, чаго яму гэта будзе каштаваць...

Вясной пачалі ўзнікаць нейкія напружанні ў мяне, у маёй сям'і. Ірка якраз закончыла юрфак. Неакрэсленасць майго становішча і адутнасць перспектыў пачыналі настройваць яе адносна мяне цалкам іранічна. Я тым мацней рэагаваў на такія акцэнты, што звычайна пачуваўся ў жыцці неяк на ўзбочыне.

Блытаўся, што тут многа гаварыць. Пры літаратуры, пры палітыцы. Не выглядала гэта сур'ёзна.

Меў свае дробныя поспехі, гэта праўда. Якраз цяпер забрала Варшава ваяводу Бацянскага, страшнага дзяржымрду, тапіцеля ўсяго, што літоўскае і беларускае, фараона з цяжкай лапай і без лішніх унутранных сумненняў на тэму ўлады. Чыноўнікі ваяводства, праводзячы начальніка, уручылі яму прыгожа апраўлены асобнік Літоўскага статута.

Я напісаў на тую тэму фельетон і змясціў у "Слове". Хадзіў ганаровы: прыпомніў таму ж Бацянскаму, які задушыў "Па-просту". Бацянскага паслалі ў Торунь: уласна, каб яго цяжкую лапу адчулі немцы. Здаецца, застрэліўся, калі гітлераўцы туды ўвайшлі.

**Апошняе лета**

Прыйшло лета. Як звычайна, каб не плаціць за кватэру ў летнія месяцы, мы кінулі жыллё на Звярынцы, рэчы параспіхалі паміж сваякоў. Але ў Банева я паехаў адзін з Евай. Ірка сарвалася ізноў у лагер у Ястрань.

Тое апошняе лета было цудоўнае. Салодкі пах жоўтага лубіну цягнуў з палёў на лугі. Першы раз зарадзілі грушкі, пасаджаныя дзесяць гадоў таму назад. Было поўна ягад і грыбоў.

Бадзяўся на тым сонечным лесе, як тапелец. Быў злы на Ірку, раўнівы, нецерпялівы. Пасылала мне адчэпныя лісты. Адчуваў, што ніколькі яе не кранае мая самотнасць, рэўнасць, каханне. Сам не ведаючы, як яе зачапіць, схапіўся за апошні сродак: пачаў ёй пісаць, што ведаю, быццам у яе ёсць нехта іншы, што мяне ўжо не кахае. У грунце рэчаў сам у тое не верыў, хацеў толькі справакаваць яе пярэчанні і ў іх прынамсі трохі цяпла.

Вынік быў аднак цалкам іншы, найбольш нечаканы. У адказе на чарговую атаку абвінавачванняў, што мае некага іншага, адпісала мне, што так, што маю рацыю. Што ёсць той нехта іншы...

Як бы ў мяне пярун трэснуў. Непрытомны сабраў трохі грошай. Сеў ў цягнік. Нешта там буркнуў бацькам, што павінен, што на пару дзён. Непрытомны праехаў усю Польшчу. Быў канец ліпеня, у Польшчы нарастала перадваенная гарачка. Нічога з яе не бачыў. Цягнік ішоў цераз Гданьск. Не глядзеў на Гданьск. Выглядаў чырвоныя домікі Ястрані.

З заміраннем сэрца, з высілкамі глытаючы сліну брыў я цераз пясок і сухія кусты да лагерных баракаў. Не цярпелася мне ўбачыць белую чупрыну Іркі, і адначасова пякельна таго баяўся. Баяўся незваротнасці таго, што мне скажа. Баяўся, што наткнуся на яе з тым некім іншым. Хто гэта быў? Канешне падумаў перш за ўсё пра лагерную “арыстакратыю", пра ўсіх тых стырнавых і марскіх капітанаў. Намагаўся сабе ўявіць таго "некага". Былі два варыянты: нехта лепшы, але вельмі лепшы за мяне - або зусім наадварот, абы які, можа толькі ўнутры больш самавіты. Сам не ведаў, які варыянт горшы. У тым другім выпадку я меў шансы помсты - напружыцца, паказаць, каго страціла. У першым было нейкае суцяшэнне, досыць евангелічнае - што, прынамсі, яна шчаслівая. Прызнаюся, лішне моцна тым варыянтам не праймаўся. А ў суме абодва былі агідныя.

Дабраўся да жаночага барака, папрасіў, каб паклікалі. Выскачыла смеючыся і - скамянела. Я нічога ёй не пісаў, што прыеду. Не паспела падрыхтаваць тактыку, вочы, міны. Адразу мог пераканацца, што ўсё

горш, чым было ў лісце.

Цягаўся па Ястрані цэлы дзень, да вячэрняга цягніка. Пасля абеду Ірка ўдзяліла мне аўдыенцыю. Мы сядзелі на выдмах з боку затокі. Можа трохі паплакала, але гэта быў максімум яе ўступак. Гаварыла, што закахалася, што гэта вялікае, на ўсё жыццё. Парашылі на тым, што да канца жніўня застаёмся ў Баневе, а потым едзем у Вільню, і кожны ўладкоўваецца асобна. Ева застанецца пакуль у маіх бацькоў.

Кім быў той "нехта"? З двух варыянтаў выйграў першы. Быў гэта вельмі ладны хлопец, чорны, высокі, вышэйшы за мяне на паўгалавы, малодшы на пару гадоў, родам с Сядлец, студэнт нечага ў Варшаве. Рабіў ураджанне вельмі інтэлігентнага, быў акрамя таго нейкі парадалы, чысты і гэта ў сэнсе псіхічным. Сыйшоў бы за харцэра, калі б не тое, што пры тым быў цікавы, прыгожы, сказаў бы.

Усякія зласлівасці, якія я сабе нарыхтаваў на тую латвую тэму ў дарозе да Ястрані, неяк самі адпалі, калі ўбачыў яго. Што я быў перад ім? Нейкі жыццёвы няўдачнік, без прафесіі, без месца ў жыцці, без будучыні, нікчэмны паэт, якога ніхто не чытае, ублытаны ў палітычную справу, якая прайграе на ўсіх франтах ужо пяць гадоў з гакам. Так сабе мог я тлумачыць адносіны Ірэны да мяне. Было гэтае тлумачэнне для мяне карыснае, бо па-першае высоўвала на першы план у Ірэны моманты карыслівасці, па-другое мінала ў маёй ацэнцы шэраг важных у жыцці штодзённых рыс характару...

Бачыў таго госця. Бадай што ведаў яго перад тым. Тым разам ён таксама круціўся каля Ірэны, аж мусіла яго адправіць на час размовы са мной.

Паддаючыся той звышмоцы лёсу, я спрабаваў дабіцца хоць бы дробнага поспеху дзеля прэстыжу, каб вярнулася ў Банева са мной разам. Канешне, ані хацела пра тое чуць.

Вяртаўся туды адзін цераз ужо замёрлы, прытоены Гданьск. У Варшаве - гэта, мабыць тым разам зайшоў да Чаховіча, недзе на Фільтровай - чакаў да вечара на цягнік. Быў залішне паглынуты сваім няшчасцем, каб заўважыць нарастаўшую катастрофу. Варшава падавалася мне зусім нармальнай. Я быў перакананы, што вайны не будзе. Тое перакананне, зрэшты, толькі ўзмацняла маю роспач. Баяўся, што санацыя да вайны не дапусціць, капітулюе перад Гітлерам. І потым з ім разам рушыць на пакарэнне свету...

Дзіўны гэта быў жнівень. Вайна наспявала. Лета было выдатнае, гарачае сонечнае. Вечарам не вядома адкуль наплывалі пахі гары, той чыстай, пахучай лясной гары. Недзе вельмі далёка гарэлі нейкія тарфянішчы. Гэта Ахматава пісала роўна чвэрць стагоддзя таму назад:

*Салодкі пах ядлоўцу*
*Ляціць з палымяных лясоў...*

Маці казала, што якраз так было ў чатырнаццатым.

А я не верыў. Калі пачаўся жнівень, я лічыў, што ў гэтым годзе на вайну ўжо запозна..

Недзе праз тыдзень пасля мяне вярнулася Ірэна. Мы швэндаліся па карлікавых лясах, бляшана шалясцелі густыя дываны блішчастых бруснічных лісцяў. Я нават не спрабаваў яе пераконваць. Я пагадзіўся, а хутчэй прызнаў яе адход за непазбежны.

Яна пісала лісты, атрымлівала лісты. Сказалі бацькам, што сталася. Маці з той нагоды не перажывала.

Нарэшце недзе ў канцы жніўня мы паехалі ў Вільню, ужо, здаецца, кожны асобна. Ірка свяцілася - як найменш мне так падавалася - што будзе бліжай да свайго Юрка. Бо той таксама меў імя Ежы, а прозвішча J.

Праз дзесяць гадоў пазваніла мне ў кабінет тэлефаністка амбасады ў Парыжы. Сказала, што з горада нехта тэлефануе да пані жонкі амбасадара, але што яе няма дома, ці не захацеў бы я...

- А хто звоніць? - спытаў
- Гаворыць, што звоніць J.
- Давай мне яго!

У слухаўцы буркнула, скрыгатнула, і аксамітны голас адазваўся:

- Алё, тут Ежы J., ці гэта ты...
- Не абавязкова, - сказаў. - Тут Путрамант.

J вельмі змяшаўся.

- Хацеў бы пагаварыць з паняй Путрамант.
- Бачыш, пан, гэта зусім не тая самая пані Путрамант...
- А, то выбачайце...

**Дваццаць першага жніўня**

Не, напэўна Ірэна выехала ў Вільню адна. Таму што я быў яшчэ ў Баневе да 21 жніўня.

Усё лета ў Маскве цягнуліся перамовы штабоў. Нават для нас, трохі падрыхтаваных палітычна, размовы гэтыя былі абсалютна незразумелыя. Чаму зацягваюцца, хто іх зацягвае?

Мы не звярнулі належнай увагі на дзве незвычайна важныя падзеі.

На адно выказванне Сталіна ў яго дакладзе на XVIII з'ездзе ВКП(б) ў сакавіку гэтага года. Там дзе гаворыцца пра аматараў выцягвання каштанаў з агню чужымі рукамі. Не прыпамінаю сабе, каб тагачасныя спецыялісты тое выказванне належна ацанілі. Нават тыя, якія пра яго пісалі, не мелі паняцця, які сур'ёзны змест у той фразе.

Ну і на адзін з першых вынікаў таго выказвання, на замену Літвінава на Молатава.

Нашы радзімыя мудрацы - а і палітыканы Захаду - так прызвычаіліся да ролі Савецкага Саюза, як апоры Лігі Нацый, першага ініцыятара ўсякіх блокаў супраць агрэсіі, аўтара лозуну: "Мір непарушны!" і т.д. і да т.п., што па-просту ў сваіх камбінацыях і інтрыгах разлічвалі на абсалютную нязменнасць, стройнасць, пастаяннасць савецкай замежнай палітыкі.

Мы не адрозніваліся ад іх, хоць сыходзілі з дыяметральна адрозных пазіцый. Мы не маглі і падумаць пра хоць бы часовую, тактычную, кан'юктурную дамову з гітлераўскай Германіяй. Пякельна баючыся супольнага фронту капіталістычных дзяржаў супраць адзінокага Савецкага Саюза, мы не бралі пад увагу

магчымасць унутрыкапіталістычнага канфлікту - пры часовай хоць бы нейтральнасці СССР.

Смешна: штогод восенню ўсе нашыя К.І. Франты, і як там яшчэ называліся тыя арганізацыйныя эфімеры "групы Дамбінскага", арганізоўвалі "ідэалагічную вучобу". Звычайна газу хапала на дзве - тры лекцыі, потым надыходзілі справы больш пільныя, і на наступны год трэба было пачынаць нанава.

І вось заўсёды, што год, на першай лекцыі была мова пра герархію супярэчнасцяў паміж дзяржавамі зямнога шара. Галоўная: сацыялізм-капіталізм. А потым на чарзе: дзяржава імперыялістычныя - каланіяльныя, дзяржавы пераможцы-дзяржавы пераможаныя, Амерыка-Англія, Аглія-Германія і т.д. і да т.п.

А як прыйшло да праверкі тэорыі на рэальнай практыцы, мы за тую першую супярэчнасць сягнуць не патрафілі, яна засланіла ўсе астатнія.

Я быў у Дакудаве. Гарачы спякотны дзень. У гміне забіраю пошту. Рыбентроп ляціць ў Маскву!

Як бы ў мяне пярун стрэліў. Рэакцыя падвойная: па-першае - страх, што нешта ўзрушальнае наблізілася, стаіць за дзвярыма. Па-другое - палёгка, што цяпер Польшча не капітулюе, не пойдзе разам з Германіяй. Ведаў, што цяпер ужо сітуацыя неабарачальная.

Сядаю на ровар, лячу галопам па страшных камянюках вёскі Дакудава. У гарачцы думаю: нават, каб была вайна, то Польшча, Англія, Францыя супраць Германіі - гэта не так кепска. Насельніцтва маюць у дзесяць раз больш. Расіі з намі не будзе, але і Германія будзе без Аўстра-Венгрыі...

А зрэшты, вайны быць не можа, бо ўжо канец жніўня. Як бы Гітлер звар'яцеў і пачаў, то зараз пачнецца бездараж, фронт стане, да вясны Францыя з Англіяй падрыхтуюць удар...

Добра ведаю гісторыю першай вайны. Падсвядома прыпамінаю сабе тэмп пасоўвання немцаў у Шампані ці Фландрыі: 10 кіламетраў за дзень - гэта ўжо вялікі поспех. А ад Чанстахова да Варшавы...

Так сабе лічу, раптам ззаду брэх, мая лытка ў агні. Дварняк з суседняй хаты такім практычным спосабам сцягвае мяне на зямлю з аблокаў. Аглядаю лытку: крывавыя ранкі. Можа кручаны?

Ганю далей, адразу пра яго забываю. Хутчэй, хутчэй. Шведскі курган, на бегавая траса, агароджа. Ускакваю ў кухню, разгарачаны абвяшчаю навіны. Бацька падымае галаву, раптам пастарэлы, кідае:

- Дурань, цяпер праз два тыдні будзе скончана!

Не адразу разумею, што гэта значыць. Потым пачынаю тлумачыць: сакавіцкае наступленне ў Пікардыі... Бацька махае рукой, са злосцю бярэцца за чытанне газет. Ён то ведае немцаў! Не займаецца палітыкай, таму ўжо некалькі гадоў глядзіць на яе зверху. І таму таксама тое абліванне халоднай вадой не пакідае на мне слядоў. Папросту не ўспрымаю гэта ўсур'ёз.

Праз пару дзён еду зноў роварам у Ліду. Недзе за Мінойтамі, ужо на шашы, разбітай, вельмі кепскай бачу караваны фурманак. Неўзабаве ўцямліваю, што вазы вайсковыя. Але што ж, да д'ябла, яны вязуць? Зусім гэта неяк не падобна да нармальных вайсковых пакункаў, здалёк ніто сеялкі, ніто нейкія часткі малатарань.

Пад'язджаю, і скура мне свярбіць. Вязуць самалёты. Зялёныя з бурымі плямамі крылы, чырвона-белая шахматная дошка разпазнавальных знакаў польскай авіяцыі. Гэта тыя знакамітыя, тыя цудоўныя RWД, вакол якіх столькі гаварылася ў часы Жвіркі, Вігуры, Баяна! Тыя RWД, якія гаварылі прафанам верыць ў прынцыповую роўнасць нашай авіяцыі з найлепшымі паветранымі флатамі свету.

Цяпер, разабаныя на кавалкі дзіўна безабаронныя, падскакваюць на жудасных выбоінах шашы, паволі сунуцца да нейкіх сховішчаў у той лясістай, кусцістай, поўнай балот ваколіцы.

Вельмі хутка ўсё разумею. За пару кіламетраў ад Ліды, якраз каля гэтай шашы знайходзіцца аэрадром 5 лётнага палка. Гэта адтуль іх вывозяць. Што самалёты на конных фурах, зусім мяне не здзіўляе. Іншай арміі, не на вазах, мы яшчэ не ведалі.

Скрыпучы пацягнуліся далей. Вярнуўся дадому, расказваю. Яшчэ не хацелася мне верыць, што вайна за парогам.

**Трыццатага...**

Так далёка, што недзе 26 ці 27 жніўня я выехаў з Банева ў Вільню. Як бы нічога, як бы меў быць нармальны год, і пара была заканчваць задоўгія канікулы, збірацца да нармальнай працы.

Адзінае, што здавалася мне ненармальным - гэта развод з Ірэнай. Прыехаў у Вільню. Жыллё зліквідавалі мы яшчэ ў чэрвені, я скарыстаўся з гасціннасці кузіны мацеры, пасяліўся таксама на Звярынцы. Ірэна спынілася паблізу, таксама ў нейкай сваёй сваячкі. Пару ламачын, якія мы набылі год назад, засталіся ў нашай даўняй гаспадыні ажно да часу, калі мы знойдзем сабе нейкія ўласныя прытулкі.

У літаратурным свеце Вільні я не адчуваў спецыяльных устрэсак. Вялікія катастрафісты сем гадоў назад неяк незвычайна супакоіліся. Маслінскі можа ўжо з год выдаваў досыць гармафрадытнае выданне "Камедыя". І там ад часу да часу траплялася мне пару злотых. Цяпер я прывёз з Банева апавяданечка на вельмі радыкальную тэму, замаскаваную каскадам досыць дакладных метафар. Маслінскі узяў, амаль пахваліў. Абяцаў даць у кастрычніцкі нумар. Ці ж някепскі абяцаўся сезон. Таксама і ў універсітэце, здаецца, былі нейкія магчымасці бадай што асістэнцкага замяшчэння.

Якраз вяртаўся адтуль, была серада, 30 жніўня. Пляцык Напалеона, смешная вежачка даўняй Абсерваторыі, яшчэ з часоў Снядэцкіх.

Расклейшчык аб'яў і групка як бы з-пад зямлі выраслых зявак. Прыткнуў цёмна-ружовы скрутак паперы, мазнуў пару разоў пэндзлем, пачаў разгортваць.

Адкуль зявакі ведалі? З-пад яго рукі выскачылі чорныя літары

***Мабілізацыя***

Стаялі анямелыя. Нават не прачытаў таго, што было ніжэй. Праз некалькі секунд скамянення я кінуўся назад ва ўніверсітэт.

Ускочыў у семінарыю. Гена грэбалася ў кні-

жках.

- Але ж гэта вайна, - крыкнула, калі ёй паўтарыў.

Я пачаў яе супакойваць. Як распавесці пра свой душэўны стан у тыя дні? Пякельна баяўся пастаянна баяўся таго самага: дамовы Бека з Германіяй, нейкай яго капітуляцыі. Прыгадаў сабе Чэхаславакію. Тая таксама абвяшчала мабілізацыю, а потым здалася. Неяк здавалася мне, што лёс будзе рабіць мне на злосць. Што залішне гучнае прадказанне будучыні можа перашкодзіць ёй набыць тыя рысы, якія цяпер прадказваў.

Тлумачыў яшчэ Гене, што зусім не абавязкова мусіць быць вайна. Што можа паўтарыцца штука гадавой даўніны. Быў досыць агрэсіўны. Гене не хапіла аргументаў.

- На заклад! - крыклула ў роспачы - На заклад, што будзе вайна!

Я прыняў заклад. Яна ставіла мне вячэру ў найдарожшым рэстаране Вільні, калі вайны не будзе. Я дастаўляў ёй мяшок мукі, калі вайна выбухне.

Хачу адразу зазначыць: не даставіў. У час, калі тое было патрэбна, я не меў той мукі. А калі мог мець, ужо ёй не было патрэбна...

**Пятніца**

Не памятаю з тых дзён нікога з групы. Напэўна, яшчэ не паз'язджаліся ці не прыйшлі да сябе ў што раз больш гвалтоўных хістаннях таго нерэальнага часу.

Не памятаю нічога з чацвярга. У пятніцу я паснедаў адзін, цётка некуды вышла. Сядзеў у маленькай, чысцюткай кухні, еў хлеб з маслам, запіваючы кавай.

На стале стаяла звычайнае, дэтэктарнае радыё. Раптам яно загаварыла. Дзіўна, бо па-англійску. Я слухаў яго, не разумеючы ані слова. Але занепакоены быў інтанацыяй. Уцяміў у плыні белькату пару ясных слоў, уражліва зразумелых: Варшава, Кракаў, Хойніца, Гдыня, Беласток, Гародня... І зноў бэлькат.

Хлеб мне стаў косткай у горле. Я выскачыў з дому, пабег шукаць каго-небудзь знаёмага. Нікога паблізу не было. Але вуліца выглядала нармальна, у агародах цвілі кветкі, аўтобусы хісталіся на паваротах.

Ускочыў у аўтобус. Людзі стаялі спакойныя, маўклівыя. Ніхто ні з кім словам не абмяняўся. Улез, увесь разнерваваны ад таго бэлькату. І той спакой мяне астудзіў, абнясмеліў, я баяўся спытаць першага лепшага, падзяліцца з ім той незразумелай навіной. Баяўся. Пэўна таго, каб не заслужыць сабе абвінавачванне ў панікёрстве. Але таксама нечага іншага.

Якраз у тую хвілю, я амаль пэўны, што распачалася вайна, ці ўжо вызвалены ад кашмару капітуляцыі перад Гітлерам, усвядоміў сабе, што той другі кашмар не меншы. Стаяў у аўтобусе і ўжо ў тую першую гадзіну без голасу паўтараў сам сабе: а можа яшчэ нічога? А можа...

Ад прыпынка бег да рэдакцыі "Курвеля". Мабыць, недзе па дарозе ўбачыў расклеены на мурах зварот, падпісаны Масціцкім.

Наступілі два дзіўныя тыдні. Вайна адразу не зачапіла Вільню. Ішла недзе далёка, і мы мусілі аж напружваць усю нашую энергію, каб яе, тую вайну, пачуць.

Бо гэта было першае яе праяўленне: край страціў сваю нармальную акустыку. Недзе там гучалі бітвы, палалі пажары, людзі падалі покатам - а тут было ціха, асенняе сонца, буйныя кветкі і амаль нічога адтуль.

Сядзелі пры радыёпрыёмніках. Але ў першы дзень толькі фанабэрыстыя дэкларацыі і музыка. У некалькіх асяродках - у Рудніцкага, у "Курвелі" - прабаваў папоўніць адсутнасць ваеннай інфармацыі, пускаўся ў аналізы, абапёртыя на прачытанныя ўспаміны Жафрэя, Фоха, Лойд Джорджа. Сябры слухалі, нават маё гледжанне падавалася ім лепшым за афіцыйнае маўчанне.

Акрамя гаварыльні хацеў рабіць. Не прызвалі ў войска: меў катэгорыю "с" і ніякіх ілюзій, што мяне паклічуць пад зброю. Вырашыў змабілізавацца як пісьменнік. Пайшоў у "Слова". Прынялі мяне там адразу. Нагадаў ім, што 6 верасня - гэта чвэрць стагоддзя Марны, ахвяраваў артыкульчык.

Вечарам - а можа наступнай раніцай? - было першае штабное камюнікэ. Кінуліся на яго, сядзелі, ківалі галовамі. Акруглыя фразы, спецыфічны "эвазійны" - сказалі б сёння - стыль.

Можна яго было чытаць так і гэтак, на карысць і не на карысць, у залежнасці ад тэмпераменту. Намагаўся рабіць да яго "стратэгічны" каментар, але за разважанні над вялікай лічбай знішчаных пад Чанстаховым танкаў не выйшаў.

Як выкласці, як падзяліць на этапы сыход на дно Дваццацігоддзя, бачанне з боку Вільні? Можа ўдасца адрозніць у ім тры фазы.

Фаза першая: прыйманне вайны праз тое, што мы ведалі пра папярэднія войны. У той час у разважаннях разлічвалі на "польскія дарогі", на разводдзі, на "абы да вясны". Песімісты гаварылі: каб Віслы і Нарвы не аддаць. Аптымісты абураліся: як гэта, хочаце аддаць усю Польшчу? А?

Першая трывога, сенсацыя: падобна недзе на Закруцці ўпалі бомбы! Памятаю, што пабеглі ў ваколіцу Белага Завулка, паміж Антоклем і Зарэччам, бо і там упала бомба. Шэрыя пабудовы, паламаныя дошкі, яма ў агародзе. Тлум зявак. Нейкая сцяна, зачэпненая ў пралёце. Людзі маўчаць.

У той час я гвалтам пладзіў "ваенныя", "падмацавальныя" кавалкі ў "Слове". Нейкі вершык, вельмі абразлівы для Гітлера, бо абгаворваў яго ў адсутнасці пятай клёпкі. Той жа артыкул пра Марну, у якім намагаўся давесць, наколькі сітуацыя ў антынямецкай кааліцыі сёння лепшая, чым чвэрць стагоддзя назад. З гэтага апошняга быў вельмі задаволены. Асабліва падабалася мне ўпляценне ў артыкул знакамітай дэпешы Жафрэя ў парламент: "*Маё правае крыло разбітае. Цэнтр адступае. Сітуацыя выдатная. Атакую левым крылом*".

Што ж, калі пры першай аказіі Мацкевіч моцна мне выгаварыў:

- Пане, што пан панапісваў? Па-першае. Гэта ніякі не Жафрэй, а Фох, і ніякаму парламенту, толькі Жафрэю. А па-другое... - спыніўся, маўчаў.

- То чаму ж пан рэдактар гэта змясціў?

Мацкевіч махнуў рукой, вельмі безнадзейна.

Другая фаза якраз з таго пачыналася. Камюніке былі яшчэ больш адрывачныя і маламоўныя. Сталі дарэмнымі стратэгічныя разважанні. "Акустыка" знікла цалкам. Вільня жыла на ўзбочыне без ніякай нармальнай сувязі з рэштай краю.

Недзе сёмага ці восьмага нехта мяне гвалтам зацягнуў у "Курвель". Сабралася нас там некалькі; маладых журналістаў, літаратараў. Ускочыла высокая, моцная, прыстойная кабета. Ведаў яе, бадай ці не была сведкам на працэсе, можа толькі бачыў: Ванда Пяльчынская, жонка аднаго з фігур рэжыму, шэфа "двойкі", палкоўніка Пяльчынскага.

Я не адразу яе пазнаў, такая была ўсхваляваная, заклікала нас, каб мы не падалі духам. Што не ўсё страчана, што ўрад змагаецца, што краіна не здаецца, што трэба нешта рабіць, неадкладна, любой цаной...

Аказалася, што прыйшлі весткі пра ўступленне немцаў у Варшаву. Мы скамянелі. Усе мае разважанні пра вайну трэснулі.

І хоць вестка не пацвердзілася, неспакою, страшнага неспакою нельга было ўжо пазбыцца. Дваццацігоддзе танула. Усе вакол хісталася, чалавек не меў ані ахвоты, ані мажлівасці што-небудзь рабіць.

**Уцёкі**

На тым, другім тыдні спаткаўся з Іркай. Была вельмі ўсхваляваная. Вайна перакрэсліваючы ўсё, чым мы жылі, неяк асабліва яскрава выцяла ў самотных. Пра свайго J. яна не мела ніякіх вестак. Плакала.

Сустракаліся яшчэ і яшчэ. Усё між намі распалася, за выключэннем Евы - і гэта была фармальная рацыя нашых спатканняў. Што з ёй рабіць? Паступова пытанне гэта пачало распаўсюджвацца і на нас. Што рабіць з намі? Што маем рабіць з сабой?

Вось трэцяя і апошняя фаза: ужо не нейкі там, хоць бы сімвалічны ўдзел у вайне, ужо што раз больш настойлівае пытанне: як быць з сабой?

Пачалі прыбываць першыя бежанцы аднекуль "адтуль", з краю затопленага. Іхнія аповесці змылі апошнія надзеі на "лінію Віслы" і "абы да вясны".

Зноў Ірэна. У гарачцы абгаворваем, што маем рабіць? Рашэнне, смутнае пяць дзён таму назад, вымалёўваецца цяпер хутка: уцякаць у Банева. Там Ірка застанецца з Евай, я рушу далей, да савецкай мяжы. Ведаю адно: ані дня пад гітлераўскай акупацыяй..!

Ліквідуем сваю і так ужо зліквідаваную гаспадарку. Шаснаццатага верасня вечарам рушым з адным, але цяжкім чамаданам на вакзал.

Цяпер тут новая хваля ваеннай праўды: пачакальня, калідоры, сходы, тунэлі запханыя людзьмі. Паўзмрок, інакшы, чым цёплыя вераснёвыя вечары на Звярынцы, дзе незвычайная ў горадзе цемра пахла ў садках мацейкай і рэзядой. Водар неспакою. Заміж велізарных пано з раскладамі руху адзін канцылярскі аркушык, прыклееespecially да нейккіх дзвярэй, на ім фіялетавым чарнілам выпісаны гадзіны ад'езду некалькіх цягнікоў, яшчэ хадзіўшых. Шматкі ПДЧ (Польскай дзяржаўнай чыгункі) - у кірунку на Дынабург, на Маладзечна, шчасліва, таксама на Ліду.

Позняй ноччу ўлазім у вагон. Каляя цёмная, тут і там блакітныя агеньчыкі. Першы раз бачу той пейзаж, з якім столькі давядзецца мне сутыкацца праз пяць найбліжэйшых гадоў.

Цягнік рушыць. Імчыць, потым запавольваецца. Адно і другое без відочнай сувязі з прыстанкамі. Сядзім у напханым тамбуры. Цёмна, не бачым нічыйго твару. Людзі маўчаць.

Нармальнай язды да Ліды дзве гадзіны, цяпер гэта цягнулася цэлую ноч. Вылазім на станцыі пад раніцу. Яшчэ цёмна. Валаку той свой чамадан цераз Ферму, спыняюся праз кожныя некалькі крокаў, выціраю пот. Доўга грукаемся ў начлежку, дзе ў апошні час спыняўся бацька, прыязджаючы ў Ліду. Нарэшце адчыняе стары яўрэй. Просім папільнаваць чамадан. Прапануе, каб пераначавалі. Дзякуем, спяшаемся. Не затрымлівае, кідае нешта пра налёты.

Дваццаць кіламетраў начнога маршу. Мінаем ў змроку ваколіцы блізкага аэрадрома. Шаша пустая, аж да Мінойтаў ні жывой душы.

Паволі пачынае світаць. Мінаем вёску. Кіламетр высокага сасновага лесу. Ужо знаходзімся на краі, калі нешта кажа мне затрымацца. Хапаю Ірэну за руку, прыціскаемся да вялікай сасны.

Хвіліна поўнай цішыні. І раптам ні адтуль, ні адсюль роў самалёта. Тут жа пры зямлі, можа на вышыні дваццаці метраў выскаквае перад намі, гоніць над шашой. Хвіліну раве жудасна, потым ужо толькі стрэкат у кірунку Ліды. Мы ледзь зыркнулі на яго. Малы, здаецца біплан.

Можа праз паўхвіліны з там тога кірунку пару не вельмі гучных выбухаў.

Яшчэ хвіліну стаім. Ціха. Нарэшце рушым цераз вераснёвы, замглёны ранак. Брыдом пад гару насустрач вырастаўшаму на небе грэбеню самотнага ельніку над вёскай Пескі.

Ужо ясны ранак, калі дабіраемся да Банева. Маці дае нам снеданне.

Ева яшчэ спіць. Толькі цяпер нападае на мяне страшная стома. П'ю свежае малако, заядаю чорным хлебам. Перакідваюся адрывістымі фразамі з маці і бацькам.

Гавару, што цяпер пасплю, а пад вечар вазьму ровар і рушу пад граніцу, куды-небудзь на Налібоцкую пушчу, на Стоўбцы. Не пратэстуюць. Ведаюць пра ход вайны больш, чым у Вільні. У ваколіцы кружаць плёткі, што немцы ўжо недзе ў раёне Скідзеля. Гэта ў бок Гародні, можа пяцьдзесят кіламетраў.

Валюся нарэшце ў сваім пакоі на цвердаваты тапчан. Трохі прыемнасці для скуры: халодная, свежая пасцель. Шмат неспакою: тыя вячэрнія ўцёкі ў невядомае. Але стома мацнейшая. Адразу засыпаю.

Ніякіх сноў. Толькі маці. Тузае мяне за плечы. Усхваляваная:

- Уставай, уставай! Толькі што чулі па радыё. Чырвоная Армія выступіла!

*Варшава, 14.XI.1960 г.*

*(Пераклад кнігі скончаны ў Лідзе 3.06.2014 г.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску рэдакцыя газеты “Звязда” выдала раман Людмілы Рублеўскай “Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега”, 272 ст. Наклад 1600 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве Віктара Хурсіка выйшаў трэці том выбранага Эрнеста Ялугіна “Перад патопам”, 460 ст. Наклад 99 асобнікаў.**




**На Менскай фабрыцы каляровага друку выйшла кніга Эндру Олвіка “Следы апостолов. Секретная миссия”, 350 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Генрыка Віснера “Лісоўчыкі. Рабаўнікі Еўропы”, 304 ст.**




**У Вільні ў выдавецтве “Santara” выйшла “Гісторыя Літвы” ў перакладзе на беларускую мову Вінцука Вячоркі, 280 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская навука”, г. Менск, выйшла кніга А.А. Мяцельскага “Забытая Альба. Очерк загородной резиденции Радзивиллов пол Несвижем”, 128 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Lomianki” перавыдадзены 13 кніг Сяргея Пясецкага, сярод іх “Каханак Вялікай Мядзведзіцы”, 328 ст.**



***Рычард Груша.*** **Кампазіцыя “Гонар Лідчыны”.** Палявы граніт.
Ліда, праспект Перамогі. *Здымак С. Судніка.*